## Пупышка

Чаму хвалюеш ты, пупышка,
На тоненькай галінцы,
Як непрачытаная кніжка,
Як сонейка ў ільдзінцы?

О свет пупышкі, дзіва поўны,
Прыдуманы прыродай!
Прачнецца гэты свет чароўны
Лісточкам, кветкай, плодам.

О свет маленькі, таямнічы —
Загадка, кропля-казка!
Вясенні ранак маляўнічы
Пад гэтай сціплай маскай!

Не хваляваецца немагчыма
Ля кропелькі прыроды.
Ты, як цяжарная жанчына,
Што беражэ зародак.

## Падзялюся, як з радней

Працавітасцю Лагойшчыны
І руплівасцю яе
Я пахрышчаны, узрошчаны —
Гэта сілы надае.

Беларускасцю Лагойшчыны,
Самабытнасцю яе
Я пасвенчаны, узрошчаны —
Гэта крылы надае.

Што здабыў і чым узрошчаны,
Падзялюся, як з раднёй,
З краявідамі Лагойшчыны,
З чалавечай дабрыней.

## Філасофія жыцця

Філасофія жыцця —
Зачараваная багна,
Шлях адвечны адкрыцця,
Да цябе цягнуўся прагна.

Лез у існасць белых плям,
Таямніц выламваў дзверы —
І жыцця ружовы храм
Набываў адбітак шэры.

Праўда — горкая. Яна
Выядае многім вочы.
І ліслівая мана
Зноў з уладай побач крочыць.

Дабрыня — усё танней,
Жорсткасць — вокладка штодзёння,
Бедны — з кожным днём бядней,
Злодзей — норма міжзаконня.

Чалавек — пылінка, нуль,
Старасць — у нагах ануча.
Хто мы? Для каго? Адкуль?
Мы не ведаем. Зноў — нуль.
Крыўдна, сорамна, балюча.

У жыццё ідзе дзіця —
У ружовы храм без стуку...
Філасофія жыцця —
Вельмі жорсткая навука.

## Усё, што змагу

Я гэты свет пакіну смела,
Адну мне дробязь абяцайце —
Не везці ў крэматорый цела,
Вы лепш яго зямлі аддайце.

Калі ад Беларусі мілай
Адхлыне чорны боль і ліха,
Не варухнуся — і ў магіле
Ляжаць я буду ціха-ціха.

Калі ж драпежныя маланкі
Абпаляць сэрца Беларусі,
Напружу я свае астанкі
І... у труне перавярнуся.

## Стол

Ах, мой стол, драўляны стол,
Стол мой самаробны,
І цябе знявечыў дол —
Стаў ты, стол, жалобны.

За табой сядзелі ўсе,
З намі — мама, тата...

Ведаў я, што прынясе
Лёс жалобу ў хату.

Але думкі тыя гнаў,
Зберагаў пяшчоту...
Час настаў, і я спазнаў
Страту, адзіноту.

Да мінулага — сцяна,
Стол не ў радасць болей.
Чарку п’ю, але яна
Горкая ад болю.

## Адзін напрамак

У грудзі вецер і пыл у вочы,
Сярод калдобін лягла дарога.
Адзін напрамак — ужо не збочыць,
Хоць з ног збіваюць — сустрэчных многа.

Я свой напрамак лічу бясспрэчным,
Не хутка будзе лічыць так кожны,
Бо бачу многа людзей сустрэчных,
І вельмі мала ёсць падарожных.

Ісці па ветры лягчэй — паблажка,
Ды толькі вецер і смецце гоніць.
Плысці па плыні зусім не цяжка,
А супраць — плынь мне не забароніць.

## Я браў ружжо...

Я браў ружжо і ў лес —
на цэлы дзень,
Я браў ружжо і ў лес —
хоць кожны дзень.
О, як я трапятаў і хваляваўся!
І вось адклаў ружжо — напаляваўся.

Ляжыць ружжо —
з’ядае сталь іржа,
Туга — для паляўнічага нажа.
І лес застаўся той жа,
і дзічына,
А нейкі я не той...
У чым прычына?

Іду па лесе, падніму глушца,
Лася, лісу сустрэну ці зайца —
Заб’ецца сэрца, страпянецца звыкла,
Хвалюецца... каб гэта ўсё не знікла.

## Ратавальнае імгненне

Далёка... як далёка да світання...
Пануе ноч у душах, у вачах...
Аслеплым людзям неабходны Данка,
Каб асвятліць у чорнай цемры шлях.

І я збіваю ногі аб каменне,
Я сам святло шукаю і агонь.
І раптам — ратавальнае імгненне!
Кладу адчайна сэрца на далонь.

І час, што праляцеў у цемры марна,
Балюча ўвасабляецца... Але
Мяне не спыніць болей змрок пачварны —
Знікае, гіне цемра пры святле!

## Чароўны сум

У восені сваё аблічча,
Ад восені не адмахнуцца.
Яна кудысьці вабіць, кліча —
Ці прамаўчаць? Ці адгукнуцца?

Іду, а думкамі далёка,
Брыду, пачуццяў светлых поўны.
І непрыкметна, крок за крокам
Заходжу ў гэты сум чароўны.

І сэрца ўсхвалявана б’ецца —
Не наглядзецца, не нажыцца!..
Другога мне не застаецца,
Як з гэтай прыгажосцю зліцца!

## Лічылачка

Не кукуй, зязюля, не мані,
Не лічы гады мае і дні.
Каб тваё прароцтва мела сілу,
Я б даўно ўжо...
Божа барані!

Я пад твой, зязюля, сумны спеў
Пасівець і пастарэць паспеў.

Не злічыць табе, хоць разкукуйся,
Што я перажыў, перацярпеў.

Вечар цішынёй накрыў зямлю.
Раптам... ледзьве чутнае лаўлю —
Раз... два... тры... І ціха.
Ну, зязюля!..
Я тваю лічылачку люблю!

## Я – зэк

Я — зняволены, я — зэк,
Я з маленства б'юся ў путах.
Горкі мой, кароткі век
Скарачаецца ў пакутах.

Вальнадумства — не ў цане,
Крылам — не пазбегчы кары.
Вы адны заўжды пры мне,
Думкі вольныя і мары!

Я — галеча, я — жабрак.
Чым і як уратавацца?
Як па сметніку той грак
Мішу па жыцці туляцца.

Дзе капейчыну ўварву,
І скарынчына — каштоўнасць...
Ды не гэтым я жыву,
Дзякуй Богу — ёсць духоўнасць.

Не жабрак я, хоць і зэк,
Калі думкі ёсць і мары.
Скончыцца калісьці здзек,
Гляне сонейка з-за хмары.

## Пазнанне

Пазнаў жанчыну целам —
і мужчына!
Што і казаць —
тут кожны з нас «герой».
Складней — сэрцам,
многім — немагчыма
Спасцігнуць таямнічы свет у ёй.

Як мала трэба сэрцу
лля пазнання
Душы жаночай —
што без берагоў:
Прынесці ў гэты
вечны храм кахання
Адзінае — любоў.

## Эвалюцыя

Ад усё і ўся — незалежная,
Скрозь вякі ідзе і скрозь нас,
Эвалюцыя — непазбежная
І няспынная, нібы час.

Эвалюцыя не спяшаецца,
Шлях яе не заўжды прамы.
След за ёй — усё паляпшаецца,
Пагаршаемся толькі мы.

## Асіна

На нашай дрывотні, ля хаты,
Асіна цішком завялася.
Я ў мамы пытаўся, у таты:
— Адкуль яна тут узялася?

Няўжо пасадзілі? Навошта?
— Ды не! — мне бацькі адказалі.
Яна тут — з малога ўзросту,
А ссекчы яе шкадавалі...

Ніхто ей расці не пярэчыў.
І жыў гэты «госць» выпадковы,
Магчыма, таму, што для печы
Асіна — халодныя дровы.

Магчыма, таму, што ў гаворках,
У прымаўках трапных, кароткіх,
Асіна названая горкай —
І лёс быў бацькоў — не салодкі.

## Паклонніца

Нежаданая паклонніца
Зноў змяшала ноч і дзень —
Зноў са мной мая бяссонніца,
Неадступная, як цень.

Пастаянства гэта змучала —
З ночы ў ноч і з году ў год.
За жыццё мне надакучыла,
Я б хацеў — наадварот.

А калі аднойчы з вечара
Я да раніцы праспаў,
Не хапала быццам нечага,
Нібы сам з жыцця прапаў.

Час праспаны — не дагоніцца,
Думак згаслых — не вярнуць.
Будзь са мной, мая бяссонніца,
Я паспею «прыкурнуць».

## Учора... сёння... заўтра

Што пабольшылі мы на зямлі?
Што забралі ў яе назаўсёды?
Кім мы будзем, і ёсць, і былі?
Хто мы — ветразі ці перашкоды?

Што пабольшылі?..
О-о! Не злічыць
Брудных плям і бяздумнай дурноты —
Асяроддзе ў пакутах крычыць,
Стогнуць нетры ад нашай «пяшчоты».

Што забралі?..
Ачнемся пасля —
Пакаранне-расплата чакае.
З году ў год сірацее зямля,
Кожны год нехта, нешта знікае.
Хто мы ёсць?..
Будзем кім праз гады?..
Сёння круцяць віры нашу лодку,
Заўтра мы — за глыточак вады,
За скарыначку — ікламі ў глотку.

## Радавое памесце

Радавое памесце —
Мой палац успамінаў.
На святым гэтым месцы
Сэрца колісь пакінуў.

Сум — маёнтак мой кроўны,
А над ім развысока
Дах узнёсся шыкоўны —
Дах з нябёс і аблокаў.

Туманы над лугамі —
Нібы ветразь парчовы,
Дываны пад нагамі —
Пах атавы шаўковай.

Бор — мой сад ля палаца,
Мой квятнік — краскі ў полі.
Хіба мог я расстацца
З гэтым скарбам? Ніколі!

Я магу вас прывесці
Да калыскі адзінай...
Радавое памесце —
Боль маіх успамінаў.

## Я тату апранаў

Я тату апранаў апошні раз,
Хаця раней не апранаў ніколі.
Ён ціха адышоў у іншы час,
У іншы свет пайшоў з жыцця-няволі.

Калісьці — дужы, спрытны, малады,
Цяпер ляжаў — сухенькі і зжаўцелы...
Калгасы, войны, бедната, гады
Жыццё да кроплі высмакталі з цела.

...Ёсць неўміручасць — можа, й не мана,
Душа на неба, кажуць, адлятае.
Дык дай жа Бог, каб бачыла яна,
Як горка мне, як таты не хапае.

## Дажыўся

Пачатак апошняй дарогі —
Выносяць нябожчыка з хаты
І кідаюць кветкі пад ногі —
Плыве ён, з труною узняты.

Па кветках выносяць — пашана!
Нарэшце «дажыўся», нябога.
Жабрак, а выносяць, як пана,
Шкада, што не бачыць нічога.
Капейкі апошнія стрэслі,
Залезлі ў пазыкі па вушы —
Затое нябожчыка неслі —
Таптаі цюльпаны і ружы.

## Калі памірае памяць

Страты балюча раняць,
Сэрца крывавіць імі.
Калі ж памірае памяць —
Жывых не лічу жывымі.

Калі памірае памяць,
Жахлівасць душу нявечыць.
Заплямяць сабой, захламяць
Тканіну жыцця пустэчы.

Калі памірае памяць,
Тады не Сусвет — ашмёткі.
І многім складана ўцяміць:
— На чорта бываюць продкі?..

## Чорны год

Год майго нараджэння...
Ты — мая калыханка!
Запаліў ты праменне
Майго ціхага ранка.

Цэлы свет каляровы
На мяне ты абрынуў,
Але ранак ружовы
Нечакана загінуў.

Страціў год каляровасць,
Як ад жорсткай хваробы.
Цень упаў на ружовасць,
Цень бясконцай жалобы.

Год майго нараджэння —
Год і смутку-навалы...
Падышоў да сканчэння
Шлях жыццёвы Купалы.

## Восень на носе

Пахне бульбоўнікам — восень на носе,
Выскачка кроп запалоніў гарод.
Лета прыцішыла рознагалоссе
І адыходзіць надоўга — на год.

Быццам нябачны, нячутны гадзіннік
Круціць і дні, і надвор'е, і нас.
Восень на носе — падводзіцца вынік:
Плённа ці марна патрачаны час.
Восень — вяселлі, дакопкі, дажынкі,
Пот хлебароба на цёплай раллі...
Падае выспелы яблык з галінкі —
Цяжка і глуха ў далоні зямлі.

## Я з дарогі збіўся

Месяц, быццам у падушку,
Ў хмару заваліўся.
Я згубіў сцяжынку-стужку,
Я з дарогі збіўся.

Хоць бы разбудзіў абшары
Ветрык на хвіліну,
Можа б, выглянуў з-за хмары
Месяц-гультаіна.

Але ціха. На падмогу
Не імчыцца вецер...
Я і сам знайду дарогу
Да адзінай (дзякуй Богу)
Прыгажуні ў свеце.

## Летуценне-казка

З летуценнай казкай
Час юнацкі ладзіў...
Як дзяўчыну-краску,
Я бярозку гладзіў.

На Вялікім Полі
Ціха падрастала.
Я яе ніколі
Не мінаў, бывала.

Дрэўца прыгажосцю
Лашчыла мне вока
І чакала штосьці
Сумна, адзінока.

Абдымаў я белы
Ствол, нібыта цела,
А яна нясмела
Лісцем шапацела.

Аб'ядналі лёс мы,
Нібы сэрца з мэтай.
Сустракалі вёсны
Мы з бярозкай гэтай.

Раптам паміж намі
Пралягла нядоля —

Роўнымі шнурамі
Узаралі поле.

А яе — з карэннем...
І — упала цяжка.
Вось і летуценне,
Вось і знікла казка...

І не дапаможа
Ёй ніхто падняцца.
А было ёй, можа,
Як і мне — шаснаццаць...

## Доля праўды

«Грэх — у мех, а сам — наверх...» —
Гэта жарты, гэта смех.
Ёсць у жартах доля праўды —
Гіне час сярод уцех.

Груз цяжкі — мае грахі,
Вось ён — поўныя мяхі.
Каб падняць брыду таку,
Пэўна, лопнуць трыбухі.

Відавочная віна —
Кубак грэшны піў да дна...
Мац! А вось і дабрадзейнасць —
Толькі торбачка адна!

## Вясна

Вясна, вясна! Чаму з гадамі
Ты прыгажэй і даражэй?
Ці не таму, што побач з намі
Зіма?..
Яна бліжэй, бліжэй...

Ці не таму, што за плячыма
Жыццё ў пакутах, з сівізной,
Што нам расстацца немагчыма
З юнацтвам — са сваёй вясной?

Вясна, вясна! Душы квітненне!
І ўсё ж зіму — не абміну...
О, колькі розных пакаленняў
Прайшло ў нябыт цераз вясну...

## Пустыня

Пустыня... пустыня... пустыня...
Патрачаны сілы дарма.
І кроў закіпелая стыне
Ад жаху — канца ёй няма!..

Калі гэты жах не адкінуць,
Пустыня зламае, сагне.
Ці выйсці з яе, ці загінуць —
Другога не дадзена мне.

Я ледзь не здаюся часамі,
Прыпынкі — часцей і часцей.
Пачвары з хвастамі, з клыкамі
За ногі грызуць да касцей.

А выстаяць трэба, адбіцца,
За крокам павінен быць крок.
Гарачую кроў, як вадзіцу,
Глытае гарачы пясок.

Здаецца — радзіўся б нанова,
Каб тут, сярод гэтай брыды,
Пачуць бы мне роднае слова —
Радней, чым глыточак вады.

Яно — як туга па Радзіме,
Яго тут — спаўна ацаніў...
Пустыня... пустыня... пустыня...
Няўжо я ўсё гэта прысніў?

## Правакацыйныя думкі

Чаму ты, верш мой, не каўбаска,
Не парасячая нага?
Зрабілася б жыццё як казка —
Стаяла б да цябе чарга.

Калі ж паддацца думкам гэтым,
Што ў верш кракраліся тайком,
Павінен быць я не паэтам,
А ў скуралупні — мясніком...

Не! Лепей паміраць без хлеба,
Але такой чаргі не трэба!

## Плач кнігаўкі

Плача, мітусіцца
Кнігаўка над лугам —
Будзе луг касіцца,
Узарэцца плугам.

А між купін сонных,
Лазнічок дзе рэдкі —
Дом безабаронны —
У гняздочку дзеткі.

Ад бяды-суседкі
Як абараняцца?
Мо паспеюць дзеткі
На крыло падняцца?..

## Я жонцы здрадзіў

Я жонцы здрадзіў — і не раз...
Не! Не адну яе кахаю!
Я ў Мінску з ёй апошні час,
А па Карпілаўцы ўздыхаю.

Пакляўся я кахаць адну,
А клятву шмат разоў парушыў,
Бо закаханы і ў вясну
На ўсё жыцце сваё — па вушы.
Не хопіць пальцаў — сколькі ёсць
У сэрца палкага «каханак»:
Гэта — і лета прыгажосць,
І спеў птушыных калыханак.

І восеньскі мой родны кут,
І далягляд, зімой прыбраны...
Я ў родны край — у гэты цуд,
Даўно, з маленства закаханы.

## Песімізм

Здаюся нейкім непатрэбным,
А часам — лішнім у жыцці...
Ці не пара ў нябыт сысці?

Усё сшарэла і панікла,
Вакол — свядомасці клады...
Надоўга гэта — на гады.

У паміраючай надзеі
Дыханне, пульс — каля нуля...
Замёрлі неба і зямля.

О, гэты песімізм незваны...
Дзень не прыходзіцца на дзень —
Вунь, бліснуў сонечны прамень.

## Чэрвеньская ноч

Чэрвень...
Цемра...
Ноч настала...
Дзесь салоўка засвістаў...
Лес растаў.
Зямля растала.
Ты растала.
Я растаў.

Ў цёмным небе — вочкі зорак,
Там і нашых душ святло.
Нам з табою разам — сорак,
Ты — крыло.
І я — крыло.

Ноч — у казачнай карэце
Нас імчыць далей, далей...
І няма нікога ў свеце,
Толькі мы і салавей.

## Змалку я вучоны

«Атэстат» мой у цане,
Змалку я вучоны —
Адукоўвалі мяне
Плуг, каса, бароны.

Да складаных тых навук
Не слабела цяга,
Бо не раз з бацькоўскіх рук
Розум несла дзяга.

Са спіны я пот страсаў
І... «вучоным словам»
Без памылак ліст пісаў
Пугаю — каровам.

Плуг раллі пісаў лісты,
А каса — пракосам...
Я даўно з канём на «ты»
І з уласным лёсам.

## Дзевяты вал

Узнікнуць надзеі раптоўна — і таюць...
То сам сабе Бог, то — зняволены нечы,
То чуеш, як крылы ў цябе адрастаюць,
То іх абсякаюць па самыя плечы.

То ўверсе, то ўнізе — па хвалях жыццёвых,
То неба ўздымала, то бездань глынала...
Бязглуздзіцца розных людзей выпадковых
Намнога жахлівей дзевятага вала.

## Плач душы

Дай мне веру, дай мне сілы,
Божа ўсемагутны!
Над табой раскрыю крылы,
Родны край пакутны.
З вышыні, дзе сонца, зоры,
Буду я маліцца
За твае лясы, азёры,
Родная зямліца.

За тваіх дзяцей, што ціха
Ад Чарнобля гінуць.
Хай бяда, пакуты, ліха
Ад цябе адхлынуць.

Зазірні, надзея, ў вочы,
Выратуй нас, Божа!
Як нам выйсці з гэтай ночы?
Хто нам дапаможа?

## Чароўнае кола

Я вазьму твае рукі
у рукі свае,
Хай самкнецца кахання
чароўнае кола,
Хай убачыць Сусвет,
што любоў існуе,
Што яна нараджае
надзею наўкола.

Нас ламалі падзеі,
стагоддзі гулі,
Мы і самі не раз
на касцях балявалі.
Мо таму мы дагэтуль
не зніклі з зямлі,
Што, усё растаптаўшы —
любоў захавалі?

## Давайце!..

Давайце збіраць каменне
І сеяць дабра насенне!
Давайце!

Сучаснікі! Продкі! Нашчадкі!
Збірайма! Пачнем! Завершым!..
— Дык што ж стаіцё вы, браткі?!
— А хто з нас сагнецца першым?..
І хтосьці, як кажуць, выдаў:
— Той першы, хто іх раскідаў!
...І сеецца зноў насенне
Не ў глебу, а на каменне...

## Здзяцініўся я

На самае дно
Спускаюся... маць!
Памёр бы даўно —
За што пахаваць?

Зноў гол як сакол —
Пытанняў праз край:
І жонка — як вол,
І сам — не гультай.

Скарбонка мая —
Ні ўзняць і не даць.
«Здзяцініўся» я —
Пачаў галадаць.

## Вечная жалоба

Я па «зоне» шастаў
з пэндзлем, сумам, болем —
Сустракаўся з лесам,
сустракаўся з полем,
З цішынёй пякучай,
з плачам навальніцы,
З горам — на гаротнай,
кінутай зямліцы...
Ні дзяцей, ні песняў,
ні руплівых ранкаў —
Мёртвае зацішша
каля мёртвых ганкаў,
Мёртвае бязлюддзе
ля дзвярэй распятых —
Кнігаўка галосіць

па забітых святах.
Не злічыць усмешак —
тут закатаваных,
Паламаных лёсаў,
сэрцаў адарваных.
У крыві — хвароба,
у душы — хвароба...
І над Беларуссю —
вечная жалоба.

## Люблю цябе, мой родны край

Люблю цябе, мой родны край,
Такім, як ёсць.
Твой сум і гора цераз край,
І прыгажосць.

Люблю цябе, мой родны край,
Хоць цэзій гне.
Не адцвітай, не адмірай —
Усё міне.
Люблю цябе, мой родны край —
Неа-Садом...
Магчыма, за мяжою рай,
А тут — мой дом.

## Не чытайце мяне...

Мне, чытач, твой прысуд
Будзе бачыцца ў сне...
Не, не здзейсніўся цуд —
Я адстаўлены ў кут...
Не чытайце мяне.

Засмучае душу —
Пошласць, кроў у цане.
Я ж — пра мову пішу,
Боль у сэрцы нашу...
Не чытайце мяне.

Я пішу пра зямлю
І пра пот на спіне.
Я Радзіму люблю,
Я ў пакутах не сплю...
Не чытайце мяне.

Можа, ўнукаў — Пегас
На ляту не міне?..
Пройдзе эра каўбас,
Прыйдзе творчасці час —
Прачытаюць мяне.

## Займаюся не тым

Займаюся не тым,
што хочацца душы,—
Стаў з памяці губляць
сваёй матулі слоўцы,
Бо езджу на метро,
хаджу ў капелюшы,
А ездзіў на кані
і вырас у ватоўцы.

Абставіны жыцця
ад мэты адвялі,
Нявечыла душу
сячкарня гарадская.
А хочацца назад —
так цягне да зямлі,
Лагойшчына мая
мяне не адпускае.

Займаюся не тым —
і вельмі шмат згубіў,
Насіў усё жыццё
сваёй нядолі клункі.
У чэргах, мітусні
шмат вершаў загубіў,
У пошуках яды
мае згасалі думкі.

Я кропельку цішком
сціраю са шчакі,
Няпрошаны камок
каторы раз глытаю...
Нялёгка сёння ўсім.
Ці ж я адзін такі?
І не дапішам мы,
і шмат не дачытаем.

## Назаўсёды, назаўжды

Боль і плач, а мне — Радзіма,
Змрок — усе мае гады,
Але я з табой адзінай —
Назаўсёды, назаўжды.

Нешта чаднае ўдыхаю,
Штось атручанае п’ю...
Родны край, я адчуваю
Боль і сум, бяду тваю.

Гэты чад, атруту-долю
Мне да кропелькі пакінь,
Толькі ты ляці на волю
У бязвоблачную сінь.

## Сняжыць

Ужо папахвае зімой,
Сняжыць, паветра халаднее...
Куды прывёў жыццёвы мой,
Такі складаны шлях мой? Дзе я?

Навокал людзі — я між іх,
Ніяк не разбяруся з імі:
Ці я — чужы сярод сваіх,
Ці сталі многія чужымі?

Ці так і будуць дні сняжыць?
Ці прыйдзе сонца з цёплым маем?
Ці выжывем і будзем жыць?
Ці глухнем, слепнем, дажываем?..

## Прымаць ці не прымаць?

Прымі — усё, што ёсць,
Прымі — якое ёсць —
І згіне маладосць,
І звяне прыгажосць.
І будзе чуцца: «...маць!»,
І будуць лёс ламаць.
Наломяць столькі дроў,
Што — паспявай прымаць.

## Крыніцы мовы

У кніжнай краме — выданняў мора
(А мне казалі — няма паперы...),
Вось тут для слоўца —абсяг-прастора!
Адчынім разам у краму дзверы.

О кнігі, кнігі! Здабытак-святасць!
Прылаўкі вабяць — на іх духоўнасць.
Аж рэжа вочы тамоў стракатасць,
Аж ззяе глянец, крычыць шыкоўнасць.

Пабеглі вочы, нібы па красках,
Па розных вокладках, па глянцы...
А з іх страляюць забоцы ў масках,
На іх шкілеты выводзяць танцы.

На іх — дэбілы, на і — анёлы,
І кроў сцякае з дзіцячых твараў.
І не злічыць тут кабецін голых
У розных позах сярод пачвараў...

І раздзіралі душу пытанні,
І цесна думкам на сцежцы вузкай.
Хацеў я крыкнуць: — А дзе выданні
На нашай мове, на беларускай?..

Хацеў я крыкнуць, ды хто пачуе?
З кім падзяліцца балючым жахам?
Свядомасць наша яшчэ начуе
Пад спарахнелым, аджыўшым дахам.

І нашых продкаў святыя словы
Піхае ў цемру сляпая мода...
А ёсць жа кнігі — крыніцы мовы,
А ёсць жа кнігі — душа народа.

Я ў тыя кнігі ўчытаўся рана,
Я іх у сэрцы нашу з маленства.
І перажыць ім наканавана
Ўсіх камерцыйных часоў шаленства.

## А вяртаемся...

— Ці сустрэнем дзень мінулы?
— Немагчыма!
— Ну а век мінулы?
— Скулу! Немагчыма!
— А ці вернемся ў пячору?
— Немагчыма!
— А ў зародкавае ўчора?
— Немагчыма!
Што прыстаў ты з «ці магчыма»?,
Што пытаешся:
Ці ж глухі ты: не-маг-чы-ма!
— А вяртаемся...

## Зварот да праціўнікаў беларускай мовы

Найміце перакладчыка, панове,
Каб не ламаць дарэмна галавы,
Бо я пішу на незнаёмай мове —
На той пакутнай беларускай мове,
Пераступілі праз якую вы.

Найміце з перакладчыкам і ката
(Было не раз такое на вяку),
Бо тое ўсё, пра што пішу я свята,
Вы сэрцам ненавідзіце заклята —
Вось кат маю і адсячэ руку.

А думкі? А язык? Ён будзе мовіць —
І думкі пацякуць ракою слоў!
А каб спыніць на роднай мове споведзь,
Вам прыйдзецца мяне абезгаловіць...
Але не ссекчы вам усіх галоў!

## Безгаловіца

Мацюком хачу накрыцца,
Слоўмі некультурнымі:
— Век вучыліся, як быццам —
Паміраем дурнямі.

Калі дорым чорту душы,
Што ж за нас памоліцца?..
Што за вочы? Што за вушы?
Што за безгаловіца?

На другіх ківаць навошта?
Мы — жыцця аратыя.
Наша «я» такога кошту —
Самі вінаватыя.

## Любоў

Што такое любоў?..
Адказаць ці магчыма?
Нешта значна шырэй,
чым «жанчына — мужчына»,
І глыбей гэта нават,
чым «маці і дзеці»,
І вышэй, чым адзінае
сонца у свеце.

Што такое любоў?
Адказаць не бяруся.
Можа, плач Беларусі
за лёс Беларусі?
Немагчыма любіць,
не любіўшы Айчыну,
Мову гэтай Айчыны,
дзіця і жанчыну.

## Не магу не плакаць

*Светлай памяці*
*Кардаш Тамары Сцяпанаўны*

Пінск і Піна не пачуюць болей
Срэбра смеху, цеплыню гаворкі...
Над тваёю доляй і нядоляй
Сёння крыж стаіць, як гора, горкі.

Сэрца успамінамі нявечу,
Думкі б’юцца птахамі аб вечнасць.

І я ўдзячны лёсу за сустрэчу,
Я кляну яго за недарэчнасць.

Ах, як рана, як неспадзявана
Шлях жыццёвы робіцца мінулым...
Вось яшчэ адна крывавіць рана —
Не магу не плакаць сэрцам чулым.

*1997*

## Дальняя дарога

Незалежнасць на паперы —
Радасці не многа,
Мала крок зрабіць за дзверы —
Мае быць дарога.

Хоць на ёй заўжды былі
Хібы, перашкоды,
Па дарозе той прайшлі
Многія народы.

І рабіўся вольным той,
Хто ішоў да мэты
З незалежнаю душой,
Верай абагрэты.

## Хачу пакінуць на зямлі

Пра ўсё — як цяжка мы жылі
Сярод смугі,
Хачу пакінуць на зямлі
Радок-другі.

Пра наш такі няўдалы ўзлёт,
Зламаны лёс,
Пра крык душы, пра сцяты рот,
Пра плач без слёз.

Як абудзіць мы не змаглі
Свае мазгі —
Хачу пакінуць на зямлі
Радок-другі.

## Храналогія пакутаў

Расштукавалася наша стагоддзе —
За рэвалюцыяй — смута, вайна...
Коціць і коціць па нашым народзе
Голад, галеча, злачынствы, мана,

Здзекі, калгасы, падаткі, бяспраўе,
Лютасць жахлівая новай вайны.
Партыі — слава, астатнім — бясслаўе,
Многіх за краты — віна без віны.

Лепшае дзецям!.. А дзеці марнелі.
Моладзі крылы!... А моладзь паўзла.
Бедная большасць — няўмольна бяднела,
Меншасць — у сытым багацці жыла.

Костка — працоўным, уладзе — шыкоўнасць...
Праўда, ў адным раўнапраўе было:
Роўна дзялілі на ўсіх бездухоўнасць,
Гэтае зелле буяла, цвіло.

Потым Чарнобыль... І чорная доля
Стала чарней, чым начэй карагод.
Край наш знямогся ад смутку і болю,
Край наш канае, згасае штогод.

Век адыходзячы, страшны, дваццаты...
Вось і яшчэ падарунак для нас —
Бездань між душамі... Хто вінаваты?
Мы, што стварылі ўсё гэта? Ці час?

Не! Непрыстойна ківаць на стагоддзе!
Мы вінаватыя — творцы бяды.
Пусткі «садзілі» на ўласным гародзе,
Нішчылі душы, ішлі ў нікуды.

Самі згубіліся, моладзь губляем,
Вернем упарта на пройдзены шлях,
З палітыканствам у гульні гуляем,
Вынік адзін — на бабах, на нулях.

Зноў бездухоўнасці зелле буяе,
Беднасць — да бедных, сядзіць на гарбе.
Моладзь — без крылаў, маленства — канае,
Кожны ратуецца — сам па сабе.

## Запавет

Ёсць запавет для кожнага спрадвеку:
Хоць дрэўца пасадзі за доўгі век,
Дом пабудуй, жыццё дай чалавеку —
Тады і сам ты — жыў як чалавек...

Пасерабрыў мне скроні час няспынны,
Усё цяжэй-цяжэй мой скарб — гады...
Расце дачка, стаіць мой дом гасцінны,
Ужо даўно дае мой сад плады.

Але без угнаення, палівання
Здзічэў бы сад, пачаў бы высыхаць.
Так і дзіця — яно без выхавання
Пачне, як кажуць, на сабак брахаць.

І дом не абагрэе аніводны
Без чуласці, сямейнай цеплыні,
Ён, як нябожчык, жудасны, халодны,
Ён і не вабіць — Божа барані...

О-о! Гэта проста — дрэўца ткнуць у глебу
Звязаць бярвенцы, нарадзіць дзіця.
А потым — сэрца аддаваць ім трэба,
Любіць і песціць — да канца жыцця.

## Лагойшчына – бліжэй да Бога

Мясцін у нас прыгожых многа,
З маленства сэрцам іх люблю.
Лагойшчына — бліжэй да Бога
За ўсю раўнінную зямлю.

Мой край — пагоркамі багаты,
Чаруе кожны закуток.
Аблокі лашчыць лес кашлаты,
Яліны поруць Богу ў бок.

Малым — свядома і даросла
З’яднаўся з гэтаю зямлёй.
Дагэтуль мару тут узнёсла
І плачу сэрца глыбінёй.

## Зрывацца сэрца пачало

Зрывацца сэрца пачало
З сваёй арбіты —
Адгаравала, аджыло
Гады-ліміты...

Няўжо — у вечную турму
На радасць «шобле»?
Няўжо ж у рукі не вазьму
Я «Горкай кроплі»?

## Судны дзень

Выток жыцця... Зародкавасць, радзіны...
І вось рака майго жыцця цячэ!
Мой судны дзень і судная гадзіна
Нябачнаыя — наперадзе яшчэ.

Жыву-брыду... то плённа, то марудна,
То мары ў сэрцы, то падзей асцё...
Знянацку, раптам дзень прыходзіць судны,
Бо, як маланка, грэшнае жыццё.

## Натхненне

Сёння — чысты ліст паперы,
Ані слоўка, ні радка...
Зачыніла шчыльна дзверы
Асцярожная рука.

Ад парога да пасцелі —
Шлях сумненняў і надзей.
Сэрца б’ецца звар’яцела,
Вырываецца з грудзей.

Раптам — апякло дыханне,
Захапіў вулкан жыцця:
На дваіх — адно каханне,
Высь і бездань пачуцця!

Ноч — кароткае імгненне,
А каханне — на вякі...
Заўтра выльецца натхненне
У гарачыя радкі.

## «Новыя беларусы»

«Новыя беларусы» —
нешта небеларускае:
Сала не любяць з цыбуляй —
ім падавай крэветкі,
Бульбу ў лушпінах не вараць —
«мыла» ядуць — бананы.
Каню пад хвост не глядзелі —
затое на «мерсах» гойсаюць.
За «дзякуй» не дапамогуць —
крый Бог,— за долар задушацца...

Добра ўсё гэта, сучасна.
Ешце крэветкі з бананамі,
За працу бярыце грошы,
фарсіце ў шыкоўных машынах.
Але... назавіце мне зараз
вашу Радзіму адзіную...
Ціха... Не чую адказу.
Скажыце тады, калі ласка,
Хоць слова па-беларуску...
Зноў не пачуў я ні гуку...
«Новыя беларусы», дзе беларускасць ваша?

## Розныя погляды

Хоць дарогі канец, не пачатак,
І гады не ў цане,
Заглядаюся я на дзяўчатак,—
І яны на мяне.

Калі так — не ў узросце прычына,
Ні пры чым тут гады.
Што казаць — перад вамі мужчына —
Прыгажун, хоць куды!

Я за гэтую думку чапляўся
Аж да гэтага дня.
Аказалася, што памыляўся,
Думка — самахлусня.

Я гляджу на дзяўчатак запальна,
Як прамень з-за гары,
А яны на мяне — спачувальна:
Вунь... ідзе пень стары.

## Процістаянне

Душа і цела... дух і плоць...
Змаганне і процістаянне...
Каб грэшнасць цела пабароць,
Трымае плоць душа-аброць —
У паслушэнстве, пакаянні.

А я, як перабежчык той,
Кручуся між душой і целам.
То памагу душы святой,
То з бессаромнай слепатой
Мяшаю чорны колер з белым.

## Усе мы – землякі

Як плынь адной ракі —
Пад сонцам людзі.
Усе мы — землякі
Былі і будзем.

Цяжкі нам выпаў час —
Да грэху прагнасць.
Таму ляжыць на нас
За ўсё адказнасць.

Мы — ад адной Зямлі,
Усе — зямляне:
Лакеі, каралі
І лагайчане.

Адна бяжыць праз час
Жыцця дарога.
І Бог адзін у нас,
Хоць вераў многа.

## Не веру ў выпадковасць

Рэальнасці суровасць
Змагацца прымушае.
Не веру ў выпадковасць,
Што лёсы пагаршае.

Заўчасна паміраем,
Пакутуем і плачам.
Мы самі лёс ствараем
Такі, што век батрачым.

Вось і жывём мы зрэбна,
На шыі з абцугамі.
А працаваць патрэбна,
Апрача рук — мазгамі.

## Зборы

З дзіцячых год збіраемся кудысьці,
Спяшаемся, спазняемся заўжды —
То ў школу, каб азы навукі грызці,
То на гулянкі — час жа малады.

А потым — падганяе нас работа,
І зноўку зборы, калаўрот жыцця:
То ледзь хапае часу да адлёту,
То да ад’езду, то да адплыцця.

І толькі як зірнём у вочы Богу —
Пры развітанні робім адкрыццё:
Дык гэта ж мы ў апошнюю дарогу
Збіраліся з маленства — ўсё жыццё.

## Прыплюсуйце

На якім рубяжы
Я памёр? Не гадайце!
На магільным крыжы
Пра мяне прачытайце.

Нарадзіўся — тады,
Раз і — лапці адкінуў...
Вось і ўсе вам гады —
Жыў — памёр. Ці загінуў.

Але й гэта — хлусня!
Дзе той час, першы самы?!
Дзевяць месяцаў я
Жыў у чэраве мамы.

Жыў сусветам сваім,
Бо зародак, як завязь,—
Зараджаецца ў ім
І любоў, і нянавісць.

Зараджаецца злосць,
Дабрыні свет нябачны...
Можа, гэта і ёсць
Час жыцця — самы значны?

Вось — і вынік прамы:
У віры дзён-паводак
Карыстаемся мы
Тым, што ўцяміў зародак.

І таму — у труне
Сон-спакой не сапсуйце:
Дзевяць месяцаў мне
Да жыцця прыплюсуйце.

## Крывое люстэрка

Едрыт тваю качалку! —
Эх, расхвашчу цяперка
На дробныя кавалкі
Хлуслівае люстэрка!

Калі яно скрывела?!
У ім я — незнаёмы:
І галава ссівела,
І вочы — студні стомы.

Не! Я не згодзен цалкам
З адлюстраваннем-бракам!
Люстэрка — вон, на звалку,
Навошта мне крыўляка!

## Я так мала хацеў

Мне бы з лаўкі зваліцца —
і ... не ўдарыць,
Мне б ісці па жыцці
без пакутаў і смутку,
Мне б жар-птушку злавіць,
не спаліўшы далоні...
Я ж так мала хачу —
нешта збыцца павінна.

* * *

Як я з лаўкі зваліўся —
адбіў адно месца.
У штодзённым жыцці —
і пакуты, і смутак.

На далонях маіх —
                    ні слядочку апёку,
Бо цямнутка вакол —
                    не злавіў я жар-птушку...
Як я многа хацеў —
                    не збылося нічога.

## Вечарынка

Жыло такое слова — «вечарынка»,
Не сурагат сучасны — «дыскатэка».
Яна дарыла водар адпачынку,
Не нішчыла — стварала чалавека.

Збіралася заўжды з усёй акругі
Натоўпам моладзь, хто — і ў адзіночку,
Каб танцаваць, але не «бугі-вугі»,
А вальсы, полькі, кракавяк і «ночку».

Чуваць здалёк — спявалі галасіста,
Сцякаліся, нібыта з песняў рэчкі.
Старыя бабы чынна і ўрачыста
Займалі лавы, кінуўшы запечкі.

Хто з кім? Хто ў чым?..
Усе пад іхнім вокам,
Ці так, ці не выдрыгваеш нагамі?..
І гэтак аж да раніцы, з падскокам,
У іх пад носам круцішся кругамі.

Каб не падацца недарэчным, слабым,
Да ста патоў выкладваешся ў танцы,
Бо кожны хоча спадабацца й бабам,
А не адным каханым і каханкам.

Назаўтра ж бабы — што за кожным сочаць,
Па вёсках пусцяць слых пра вечарынцаў.
Тады бацькам ці сорам выесць вочы,
Ці можна будзе дзіцем ганарыцца.

...Над лесам ранак раздзімаў вуголлі,
Бабуль сустрэлі іх куткі-запечкі.
І паплылі назад па наваколлі —
Па ўсіх напрамках спевы, нібы рэчкі.

## Непазбежнае

*Б. І. Сачанку*

Ці думала, мохам паросшая глыба,
Што парастак — той, што цягнуўся да промняў,
Скрануць яе здольны, да сонца прабіцца,
Да неба блакітнага, велічных зорак?

І трэснула мёртвая, чорная глыба
Ад парастка кволага — сілы магутнай,
Бо глыбе спрыяла аджыўшая цемра,
А парастак браў свае сілы — у сонца.

## Сведкі трагічных падзей

Быццам асколачкі ночы,
Цьмяна блішчаць у людзей
Згаслыя, сумныя вочы —
Сведкі трагічных падзей.

Сведкі зняваг незлічоных,
Здзекаў, пакутаў, маны...

Цьмяных асколкаў — мільёны,
Толькі не грэюць яны.

Кволай надзеі праменьчык
Малаўцяшальны для нас...
Як ажывіць той агеньчык,
Што непрыкметна пагас?

## Коні

Нібы ў моры
кавалачкі сушы,
Вы знікаеце —
вас не стае.
Нам за гэта
жалезныя душы
Час-прагрэс,
час-кузнец адкуе.

Час куе нам
жалезныя путы,
З кузні часу —
і грукат, і чад.
Але сам час —
як конь той раскуты —

Прыстае, асабліва ля хат.
Прыстае ля вясковых падворкаў,
Дзе сялянскага лёсу дуга,
Дзе стаіць, уздыхаючы горка,
Па каня — састарэлых чарга.

Без каня — ні пасеў, ані ўборка
На сялянскіх надзелах-шматках...

Вось чаму сёння —
крыўдна і горка
Тым, хто выжылі з коньмі ў руках.

Коні, коні!
Разбег чалавецтва...
Вы цягнулі нас
з багны вякоў,
Нас выносілі
з войнаў і бедстваў
Да ракет, да машын, цягнікоў.

Непатрэбныя вы...
Гэта — здрада!
Мы «аддзячылі» вам —
нішчым вас.
Сярод грукату,
ляскату,
чаду —
Помнік ставім вам...
з вашых каўбас.

Заглынула нас чэрствасць —
па вушы,
Багна часу —
глыбей з кожным днём,
Але нашы падстылыя душы
Адтаюць пры сустрэчы з канём.

## А сэрца не рада

Пусціў мяне Бог у жыццё —
а сэрца не рада,
Хоць ёсць тут святло і цяпло,
любоў і спагада.
Але сярод мора святла
ёсць брудныя плямы,
Якія стварае не Бог,
не д’ябал — а самі.
Яны — упіваюцца ў сэрца
шалёна і люта,
Яны — раз’ядаюць душу,
нібыта атрута...
Пусціў мяне Бог і ў паэзію —
з крыламі буду!..
І тут — мафіёзнасць
і плямы нятворчага бруду.

## Сэрца адтае

Сінь нябёсаў веснавая,
Дні цяплеюць спакваля.
Лес паціху ажывае,
Прачынаецца зямля.

Шпак пяе — не напяецца,
І жаўрук звініць, пяе.
У такія дні, здаецца,
Нават сэрца адтае.

Кожны будавацць азвочы
Да каханых з промняў мост.
І, зірнуўшы вочы ў вочы,
Забываецца узрост.

## Намі плоцяць за грахі

Чарнобыль дзе? За сотні вёрстаў —
Жыві спакойна, родны кут!..
А ўсё — да жудаснага проста:
Чарнобыль — там. Чарнобыль — тут.

І не забыцца, не схавацца,
І не святлее небасхіл...
Паспелі й мы нагаравацца
І напладзіць крыжоў, магіл.

Паспелі мы...
А гэта ж — кропля...
А гора — мора, на вякі.
Мы — цені выбуху Чарнобля —
І намі плоцяць за грахі.

## Хто з нас безгалосы?

Беларусь — мой вечны боль...
Хто з нас безгалосы?
Скінь ты путы, разняволь
Свой і нашы лёсы.

Сонца ўніз — бліжэй, шыбчэй
Да гвалтоўнай ночы.
Чорны сум — з адных вачэй
У другія вочы.

Беларусь — туга і плач,
І нямых — без ліку.
Ой прабач ты нас, прабач,
Збітых з панталыку.

Ці ў бацькоў мазгоў няма?
Ці здурнелі дзеці?
Ты не ведаеш сама —
На якім ты свеце.

## Сцяна

Як хацелася, людзі,
аблегчыць ваш лёс,
Каб не бачыць вас болей
з сагнутай спіной,
Але праўды сваёй
да вас не данёс,
Бо няпраўда паўстала
між намі сцяной.

Вы маліліся шчыра
на гэту сцяну,
Вы ўспрымалі чужынцаў,
нібыта радню,
Вы да самага сэрца
прымалі ману —
І таўсцела сцяна,
і расла ўвышыню.

Горка, крыўдна, балюча,
тужліва за вас...
Вы да скону жыцця
не адчулі віны,
Што адпушчаны Богам
патрацілі час
На падтрымку стваральнікаў
гэтай сцяны.

## Сны

Што ні ноч — то новы сон,
Што ні сон — пакуты:
То ў душы наводзяць «шмон»,
То на думкі путы.

То піхаюць у дрыгву
Словы іншаверца,
То ссякаюць галаву,
То з’ядаюць сэрца.

Родны край — то «ох», то «ах» —
Стыне кроў у жылах...
А чаму ў дзіцячых снах
Лётаў я на крылах?..

## Сувязь часоў

Ва ўсе часы знаходзіліся каты,
Якіх п’яніў і вабіў пах крыві.
Ішлі невінаватыя за краты,
Стралялі рэвалюцыі салдаты
Пад лозунгам аб дружбе і любві.

У памяці чамусьці век кароткі...
Жывём мы сёння без агню ў вачах.
І нематой хварэюць нашы глоткі,
І ходзім па касцях забітых продкаў,
Гаворым шэптам, галава — ў плячах.

## Скажы, чытач...

Прабач мяне, чытач, прабач,
Што сустракаю сумным словам,
Што ў творах смех — радзей, чым плач,
Што ў думках ёсць цяжар свінцовы.

Я сам усё жыццё хацеў
Да чыстых зор — і сёння прагну.
Няхай бы родны край ляцеў
У вышыню... Дык не — у багну.

Цяпер, калі ў тупік зайшлі,
Прызнайся мне, чытач мой мілы:
А мы з табой ці памаглі
Сваёй зямлі расправіць крылы?..

## Месца ў жыцці

Купіў білет кудысьці — і сядзі,
Бо ёсць і рад, і месца на білеце.
Зусім інакш бывае у жыцці —
Вялікі свет — дзе наша месца ў свеце?

Купляе нехта «крэсла», як білет,
Але пасада розум не стварае.
Другі і пры пасадзе — пустацвет,
Не апыляецца і адмірае.

І дні лятуць пад ногі, як смяццё,
І год, і цэлы век перапсуецца...
Бывае так, што пройдзе ўсё жыццё,
А месца ў ім знайсці — не давядзецца.

## А прыйдзецца...

Жыццё, напоўненае злосцю,
З вачэй ружовасць хутка скіне.
У кожным чалавеку штосьці
З гадамі непазбежна гіне.

З гадамі не ружова — шэра
У сэрцы, у жыцці штодзённа.
І ў светлы ранак гіне вера,
Як матылёк безабаронны.

З гадамі нішчыцца надзея,
Пятля адчаю душыць хмары,
Паўзуць у сэрца дабрадзея
Хлуснёй атручаныя мары.

Мяркуе хтосьці: — Што б драпежна
Схапіць, урваць любой цаною...
А прыйдзецца — і непазбежна
Жыццё напоўніць дабрынёю.

## Свячы агарак

Нібыта кола абруча,
Сціскае цемра мой пакойчык.
Прашу, гары цішэй, свяча,
Бо ты гарэць не можаш двойчы.

Тваё святло — мой сквапны зрок,
Мая адзіная апора.
Патухнеш ты — і чорны змрок
Глыне мяне — настане ўчора...

Пакуль бруяцца слоў віры
І думкам цесна на паперы,
Прашу цябе, свяча, гары,
Ахоўвай мой пакойчык шэры.

Я вусны да крыві скусаў,
Кульнуў не мала горкіх чарак,
Я шмат яшчэ недапісаў —
Адпугваў ноч, свячы агарак.

## У маёй душы

У маёй душы — неспакой,
У маёй душы — мешаніна,
Розных вестак — за роем рой,
І падзей — за лавінай лавіна.

Розных вестак –— хлусні, маны,
Ад прадажнасці і да здрады.
І загнанае ў кут без віны,
Непачутае слова праўды.

Вар’яцее сцяна людзей,
На сцяну сцяна — ашалела.
І крывавіць душа ад падзей,
І ад смутку яна пачарнела.

І ўварваўся ў душу бедлам —
Неразумнасці нашай здабытак.
Крыўда з горыччу — напалам,
Не душа, а жыцця адбітак.

## Глянуць бы хоць вокам

Праз сто гадоў, праз дзвесце год
(Эх, глянуць бы хоць вокам!)
Няўжо не выспее наш плод
На вашым санцапёку?

У нас — завеі, халады,
У нас — дажджы і чадзіць.
І бруду на нагах — пуды,
І на душу хтось гадзіць.

Ляцець бы нам, ды не нясуць
Надломлены крылы.
Без крылаў — волі не адчуць,
Без волі — змрок магілы.

Жыццё абрынула на нас
Гадоў сляпых удары.
Няўжо і вы праз доўгі час
Не разагналі хмары?

## О кніга!

Выдадзеная кніга
Доўжыць жыццё аўтара
Пасля ягонай смерці —
О кніга!
Выданне кнігі
Скарачае жыццё аўтара
Пры ягоным жыцці,
Скарачае — значна...
О кніга!

## Дачакаюся спаткання

Прыкладу звышнамаганні,
А пад сонцам застануся —
Дачакаюся спаткання
З незалежнай Беларуссю.

З беларуссю незалежнай
Ад бязглудзіцы уласнай,
І ад «літасці» замежнай,
І ад квапт асці драпежнай.
...Не сыду ў нябыт заўчасна —
Дачакаюся спаткання...

## Адміраюць паэты

Вінавацяць сурова,
Шлюць нямы свой дакор,
Непачутае слова,
Непрачытаны твор.

Мове матчынай — кпіны,
Вальнадумству — вайна,
Да паэзіі — спіны
І патыліц сцяна.

Быццам цягнуць адкрыта
Па душы барану,
Засыпаюць нібыта
З летуценнем труну.

У дзяржавы без мэты —
Рэжа слых маналог,
Адміраюць паэты,
Прарастае быльнёг.

## Воля – крылы твае

Як цябе абудзіць, несвядомы народ?
Колькі ж будзеш ты год
Спаць, маўчаць, сцяўшы рот?

Годнасць, мову бацькоў,
ты ж пад ногі кладзеш...
Разагніся, зірні —
Ці туды ты ідзеш?

Зразумей, усвядом: воля — крылы твае!
Воля — сонца тваё!
Цемра-ноч без яе.

## Адвечная мудрасць

Каб убачыць спераду святло,
Кажуць, глянь назад — паразумнееш,
Там убачыш і дабро, і зло,
Можа, болей сам дабра пасееш.

Мудрасць гэта многа год жыве
І стагоддзі будзе жыць, здаецца.
Ды яна не кожнай галаве,
Як падзеі сведчаць, паддаецца.

Не, я думку-рану не салю,
Кожны мае погляд свой уласны...
Спусцімся давайце на зямлю,
Прэч прагонім гэты сон каўбасны!

## Козыр – хрэсці

Глядзім — але не баычм,
Гаворым — а не чуем.
У роднай сваёй хаце
Чужынцамі начуем.

Ідзём — але на месцы,
І нават — адступаем.
Крыжы — наш козыр хрэсці —
Для ранку дол капаем.

Працягваем супольна
Далей назад каціцца...
Дало ж нам так бязвольна
Сагнуцца, папусціцца.

## Сямейны ачаг

Сумесную зорку
запальваюць двое,
Яна на сямейным
гарыць небасхіле.
Сямейны ачаг —
гэта нешта жывое,
Яго, як і зорку,—
два сэрцы стварылі.

Вякамі цяпло
гэтых палкіх стварэнняў
Святлу дазваляла
ноч-цемру адолець,
Давала жыццё —
як працяг пакаленняў,

І сілы вяртала,
                    як тайная споведзь.

Сямейны агмень —
                    неадольная сіла,
Ён сэрцам і лёсам
                    навек дараваўся...
А як жа іх многа
                    патухла, астыла,
Бо нехта раптоўна
                    адзін заставаўся.

## На печы

У хаце сялянскай, на печы,
Вядуцца ва ўсіх з даўніны
Сялянскія простыя рэчы —
Не могуць без печы яны:

Ватоўка — з дажджу-аблівакі,
Прамоклая многа разоў.
Залазяць сюды й небаракі
Валёнкі — з завей, маразоў,

Змакрэлыя ўшчэнт рукавіцы,
Анучы падпрэлыя — з ног
І дрэўка ў слязінках жывіцы —
Чаго тут няма — мой ты Бог!

Вісяць тут прысмакаў запасы:
Цыбуля зімуе ў вянках,
Шасток абвіваюць каўбасы
І спеюць сыры — у клінках.

І ўсё ж гаспадарыць на печы
Пасцілка — не згоніш з цяпла,—
Шануе замерзлыя плечы,
Каб цэгла не дужа пякла.

## Зноў заехаў «не туды»

Па адным і тым імчуся
Небяспечным віражы.
На памылках хоць вучуся,
Ды, на жаль, не на чужых.

Мне б астынуць!
Хуткасць збавіць —
Зноў заехаў «не туды»,
Зноў мне нехта двойку ставіць...
Эх, не прамінуць бяды!

## Во, долечка...

Во, долечка... Вярці яе, круці —
Адны і тыя ж дробязі-рахункі...
Нікому не патрэбен у жыцці
Ні ты, ні вершы, ні твае малюнкі.

І зноў сціскаеш зубы, душыш злосць,
Начэй не спіш, каб выплакацца сэрцам.
Але сляпым не трэба прыгажосць —
І крыўду п’еш, нібыта воцат з перцам.

Я горкай думкаю душу спаўю:
— Мы так і не сустрэліся, сучаснік...
Дасць Бог, я споведзь дапішу сваю —
Прымі яе да лепшых дзён, запаснік.

## Бераг жыцця дарагі

Я тут, на Лагойшчыне, дыхаю вольна,
Тут бераг жыцця дарагі —
Зямля мая родная, лес навакольны,
Крынічкі, палі і лугі.

Трымаеце вы маё сэрца ў палоне,
Таму не разлучыць нас час.
І хоць пабялілі гады мне ўжо скроні,
Я й сёння цягнуся да вас.

Без вас я змарнею, без вас я не здольны
Душу ўратаваць ад тугі,
Зямля мая родная, лес навакольны,
Крынічкі, палі і лугі.

## Хто ты, брат беларус?

Хто ты, брат беларус? Дзе твае карані?
Дзе яны, твайго роду крыніцы?
У мінулае глянь, у душу зазірні —
Ці ж не сын ты матулі-зямліцы?

Хто ты, брат беларус? Калі можаш — скажы!
Адкажы ў гэты час наш суровы,
Як дазволіў ты сэрца распяць на крыжы,
На крыжы іншых поглядаў, мовы?

Хто ты, брат беларус? Як назваць цябе, брат,
Сярод іншых краін і народаў?
Несвядомасці нашай бязлітасны град
Пакалечыў дзяржаўнасці ўсходы.

Хто ты, брат беларус?
...А на гэтай зямлі
Беларусамі нашы продкі былі.

* * *

*Таццяне Д.*

З якіх нябёс сышла ты на зямлю,
Каб несці мне і боль, і святкаванне?
І я цяпер пакутую, люблю,
Жыву каханнем, гіну ад кахання.

Як цягнецца да сонца свет жывы,
Цягнуся да цябе ўвесь час міжволі.
Не выкінуць твой вобраз з галавы,
Ні з сэрца, ні з жыцця майго — ніколі.

## Мой ранак залаты

Пазараслі мінулым
Руплівыя гады...
Я плачу сэрцам чулым:
— Ці быў я малады?..

Як і не цвіў калісьці
Майго юнацтва сад,
А ўжо зрывае лісце
Халодны лістапад.

Вакол — туга сляпая,
Мінулае, як сон.
А сэрцу не хапае
Тых непаўторных дзён.

Жыццё — да дзён тых дзіўных
Спаліла ўсе масты...
Бывай, мой незабыўны,
Мой ранак залаты!

## Сучаснае

У віры гісторыі, быццам у палоне,
Беларусь змагаецца, стогне, ледзь не тоне,
Беларусь пакутуе, Беларусь канае,
Ды не ўсіх, не кожнага гэта закранае.
Корпаемся ў дробязях, мітусімся, плачам,
А ў жыцці галоўнага — сорамна — не бачым.
Здзіўлены, збянтэжаны людзі ва ўсім свеце:
— Як жа маці родную не шануюць дзеці!

## Беларусы-братачкі

Беларусы-братачкі! Куды ж мы падзеліся?
Словам рускамоўным за жыццё аб'еліся.
Песня-калыханачка — залацінка матчына
Згублена-разгублена, як выснова-спадчына.
Ад смуродных заклікаў многа нас учадзела,
Частка — можа, й верыла,
частка — проста здрадзіла.
А надвор'е зноў у нас змрочнае, халоднае
Над табой, адзіная Бацькаўшчына родная.

Доўга зневажалася годнасць чалавечая,
І душа забруджана наша, а не нечая.
Мы для ўзлёту новага суння нарадзіліся:
Хопіць — насхіляліся!
Хопіць — нагадзіліся!

## Маме

Жыве на зямлі мая маці
У самым прасторным палацы —
У сэрцы удзячным маім.
Пакуль яму суджана біцца,
Яму пра цябе не забыцца,
Ты будзеш, матуля, у ім.

Мы, сталыя,— дзеці таксама,
Ты вельмі патрэбна нам, мама,
Хоць нас замяла сівізна.
Ніхто так чакаць не умее,
І хто так, як ты зразумее,
Як ты, ва ўсім свеце адна?

Прыходзіш у сны ты начамі,
Жывая стаіш прад вачамі,
І сэрца трапеча хутчэй.
З любоўю схіляюся нізка,
Як ты над маёю калыскай
Калісьці, не спаўшы начэй.

## Я ваўку спачуваю

Туляецца воўк і зімой, і ў спякоту,
Заўсёды галодны, заўжды асцярожны.
Не лёгка пазбегчы смяротнага шроту,
Воўк — кожнаму вораг. Яму — вораг кожны.

Нясе воўчы лёс ён, як Боскую кару,
Яго перадасць маладому нашчадку.
Бязлітаснаваліць і душыць ахвяру,
У горла клыкі... Заўтра — гэта ж спачатку.

А кажуць, што воўк — адзічэлы сабака,
Благім чалавекам прагнаны ад хаты.
І мусіць драпежнічаць ён, небарака,
Быў сябрам надзейным, стаў ворагам клятым.

І горка, што лёс мой на воўчы падобны.
— Як выжыць? — зняволіла думка-патрэба.
Жыццёвы, жабрацкі мой шлях валачобны
З дзяцінства туляецца ў пошуках хлеба.

А нас жа вучылі: — Не хлебам адзіным!..
А нам абяцалі: — наперадзе свяniты!..
Я стаў... Я і быў непатрэбны Радзіме,
Як гэны сабака, прагнаны ад хаты.

Жыццё, як ні дбай, не бывае паўторным,
Ці ў шчасце жывеш, ці бадзяешся ў горы.
Я стаў маляваць яго колерам чорным,
Няўжо не напішуцца лепшыя творы?

Жыццё — павуцінкай павісла на бэльцы,
Імгненне — і дзьмухнуць сляпыя падзеі.
Нябесныя мары, як тонкія шкельцы,
Раструшчылі, сцёрлі гады-ліхадзеі.

Адкуль гэта гора? За што пакаранне?
Каб мне аднаму, яшчэ й роднаму краю...
Я выкінуў стрэльбу — прабач, паляванне,
Я — жорсткасць сама. Я — ваўку спачуваю.

## Мой тата

Я вельмі шмат табе недасказаў,
Мой родны чалавек, мой добры тата...
Ты з маладосці лёс свой закілзаў,
Жыў для сям'і самаахвярна, свята.

Што я кажу? Ці ж толькі для сям'і?
Ты да касцей быў змучаны калгасам.
Ліліся слёз па сэрцы ручаі,
А то і кроў яго паіла часам.

Было — ў цябе стралялі тры вайны,
Былі не раз пакуты, перамогі,
Пасля чаго насіў ты лахманы,
З якіх так і не вылез да труны,
І абуваў у лапці свае ногі.

Ты ў неабходным адмаўляў сабе,
Душой узнёслы, сціплы і руплівы.
Я так хацеў хоць раз абняць цябе,
Ды стрымліваў пачуцці сарамліва.

Каму цяпер аддаць мне пачуццё,
Што для цябе нашу я ў сэрцы, тата?
Мой дарагі! Пакінуў ты жыццё,
Як жыў заўсёды — сціпла, ціха, свята...

## Спёка

Такой спякоты не было даўно,
Пот раз'ядаў і вопратку, і цела.
У студнях вёдры біліся аб дно,
Зямля асмягла і акамянела.

Сяляне зноў малілі неба-шкло:
— Пашлі нам, Божа, дождж ці хоць аблокі!..
Але штодзень пякло, пякло, пякло,
І гінуў ураджай ад санцаспёкі.

А горад хлынуў да азёр і рэк,
Да пляжаў і да халадка жывога.
Тут, ля вады, быў іншы чалавек,
Ён ўхваляў за гэту спёку Бога.

## Надзея

Ці не губляеш
ты, мой народзе,
Радзімы-маці?
Ці будзе месца
пад родным дахам,
у роднай хаце?
Ці будуць бачыць
блакіт і сонца
палі-абшары?
Ці назаўсёды
світанак-ранак
закрыюць хмары?
Народ мой хворы,
ты ж адцураўся
ад роднай мовы.
Народ глухі мой,
чаму ж ты чуеш
чужыя словы?
А тая песня,
што над калыскай
спявала маці,

Амаль у кожным
памерла сэрцы,
у кожнай хаце.
Чаму ж дало нам
сысці з дарогі,
з дарогі збіцца?
Ад праху продкаў
і адвярнуцца,
і адступіцца?
І ўсё ж узыдзе
запалымнее
зара над гаем —
І загаворым
на роднай мове,
і заспяваем.

## Суседзі

Вы да мяне не можаце прыйсці,
Дарэмна я чакаю вас, суседзі...
Так лёгка вам было б мяне знайсці,
Я — сын малодшы Рубяжскога Федзі.

Тут вам знаёма ўсё — любы куток,
Так, як і мне ўсё — роднае да болю.
Мне плён дае мінулага глыток,
Ён неабходны, нібы ветрык полю.

Шкада, што нам сустрэцца не дало,
Шкада, што я спазніўся нарадзіцца.
Але пра ўсё, што сэрцы вам пякло,
Што болем вашым, радасцю было,
Мне расказала родная зямліца.

Натхнёнасць ваша — спадчына мая,
Ці не таму я стаў паэтам сталым?..
З Карпілаўкі іду ў Акопы я
І гутару з Лявіцкім і Купалам...

## Апошняе жаданне

*Заіру Азугуру*

Ён ляжаў, паміраў, дажываў доўгі век,
Быў амаль непрытомным стары чалавек.
Да падлогі абвіслі зжаўцелыя рукі,
І над ім ціха плакалі дзеці і ўнукі.
— Дзед! Дзядулька! Жыві, не спяшайся ад нас!..
Але погляд старога, здавалася, згас.
— Тата! Татка! Шапні хоць апошнюю волю! —
Не ўспрымаліся ім словы, поўныя болю.
Доўгі век, нібы дзень пралятаў, дагараў,
Адыходзіў з жыцця чалавек, паміраў.
Чорнай хмарай бяды навалілася страта...
— Можа, ёсць пажаданне апошняе, тата? —
І стары, што, здавалася, жыць перастаў,
Ледзь прыкметна паветра ўдыхнуў, прашаптаў:
— Я хачу перад тым, як зачыніцца яма,
Каб у гэты пакой увайшла мая мама,
Каб схілілася ціха яна нада мной
І запела, як пела далёкай вясной,
Як ляжаў я малым дзіцянём у пасцелі...
І спыніліся вусны старога, здранцвелі.
...Я і сам адчуваю на схіле жыцця —
Прытуліцца да мамы хачу, як дзіця.

## Выснова

А я жыву з нястачай палюбоўна
За тое, што спіну трымаю роўна,
Што нават і ў крытычныя імгненні
Не апускаў сумлення на калені;

Што расчыняў нагой любыя дзверы,
Што вальнадумства давяраў паперы,
Што змог адрозніць дзень ад смуты-ночы,
За тое, што не ў бок глядзеў, а ў вочы.

І ў гэты час, як клічуць яго — новы,
Прыйшоў я да старой сваёй высновы:
— Чым нешаноўных усхваляць шаноўна,
Я згодзен жыць з нястачай палюбоўна.

## Працяг жыцця

*Сяргею Грахоўскаму*

Прабіўся парастак з зямлі
Пад векавой страхой зялёнай,
Бо дрэвы навакол былі
З раскідзістай цяністай кронай.

Пакутваў парастак пад ёй
Штодзень, штоноч — і так бясконца.
Галінкай кожнаю сваёй
Цягнуўся гэты лес да сонца.

Смакталі вільгаць карані,
Кара таўсцела і грубела.
Зусім загінуў бы ў цяні
Той кволы парастак нясмелы,

Ды сярод дрэў было адно
З цяжкім мінулым і славутым —
Заўважыла ў цяні яно
Малога парастка пакуты.

І дрэва голле развяло,
Зірнуўшы ўніз: — Жыві і помні!..
І парастак адчуў цяпло,
Нырнуўшы ў сонечныя промні.

...Я, пачынаючы паэт,
Як парастак у цемры кволы,
Зірнуў аднойчы ў творчы свет,
Бо сэрцам ты сагрэў мне творы.

## Мы захварэлі рускай мовай

Мы захварэлі рускай мовай —
Прыгожай, але ўсё ж чужой...
Дык дома мы ці за мяжой?

А што сказалі б нашы продкі,
Каб сёння нас пачуць маглі?..
Ці ж дзеці мы сваёй зямлі?

Няўжо ж, напіўшыся з крыніцы,
Ў яе магчыма напляваць?
Ці ж можна нас людзьмі назваць?

Ёсць і такія меркаванні:
— Было б адзенне і яда,
А мова — гэта не бяда!

Адзе вы бачылі, каб крона
Без каранёў жыла, адна?
Загіне, высахне яна.

## Здаецца – дзівоснае сню

Хата, хата — бацькоўская хата...
Раздзірае душу цішыня.
А жылі ж тут і мама, і тата,
З імі — я, да апошняга дня.

Як любіў я ў пасцелі, спрасонку,
Даглядаючы ціхія сны,
Слухаць стук мілагучнай даёнкі
І як сунуцца ў печ саганы.

Гэта мама — да сонца, руплівa,
Даглядаецца — ёй не да сноў.
Вось і тата падняўся маўкліва,
Закурыў і за дзверы пайшоў.

Ледзь за ім зачыніліся дзверы,
Як азваўся і ён пакрысе:
Чую стук на дрывотні сякеры,
Потым шоргат бруска па касе.

Голас мамы (жывы, незабыўны):
— Федзя! Што б гэта сёння зварыць?..
— Мо капусту і бульбу ў лушпінах? —
Чую татаў адказ. — Што мудрыць?

І ляжу я пад коўдрай шчаслівы,
І, здаецца, — дзівоснае сню:
Пра бацькоў і пра лёс іх руплівы,
Пра няхітрае наша меню.

Хата... хата... бацькоўская хата...
Да цябе я на крылах лячу.
Ціха тут, ты маўчыш вінавата,
Але я тут душою крычу.

## Не прашу прабачэння

Цяпер, калі жыцця прадбачу заканчэнне,
У мёртвых і жывых прашу я прабачэння.
Не ўсюды, не для ўсіх, напэўна, быў жаданы
Непрадказальны я, характар мой складаны.
Не, я не распачаў ніколі сварку-звадку,
А гаварыў усім святую праўду-матку.
Ды кажуць нездарма,
што наш язык нас губіць,
Я ведаю і сам, што праўды чорт не любіць.
А ўрэшце, для чаго нашу ў душы мучэнне?
Навошта ж мне прасіць за праўду
прабачэнне?

## Сяджу сабе на зэдліку

Вянец жыцця. На схіле год
Сум лезе ў галаву маю.
І я на зэдліку, як кот,
Сяджу сабе і думаю.

Агеньчык з грубкі грэе мне
Калені, цішу хатнюю.
А што ж, цікава, зазірне
У жыццё маё астатняе?

Я й сёння маладое сню,
Цалуюся на покуце.
Не саступлю жыцця лыжню,
Дарэмна не галёкайце!

Цяпер, калі крыху аслаб,
Узрушу патаемнае:
Я шмат паціскаў дзевак, баб,
Рабіў усім прыемнае.

Гарэлку піў. А хто не п’е?
Адкуль яна нахлынула?
А праз яе і ад яе
Сяброў нямала згінула.

Няўжо я толькі піў, гуляў?
Ды не! Што працы тычыцца,
Дык я з маленства працаваў,
А гэта ў нас не лічыцца.

Вось і сяджу я, нібы кот,
Як той прымак усватаны —
Праз дзіркі свеціцца жывот,
Кажух увесь залатаны.

## Суддзя

Ёсць суддзя сумленны, непадкупны,
І хоць ён нябачны і нячутны,
А заўсёды побач з намі — час.
Ён і праз стагоддзі судзіць нас.
Колькі пры жыцці імёнаў гучных
Господа з сябе рабілі штучна,
У бязслоўі заграбалі славу,
Але час рабіў сумленна справу,
Распраўляўся з імі ён без зброі,
І знікалі з памяці «героі».
Іх у нас ва ўсе часы хапала...

Ёсць і іншых прыкладаў нямала,
Пісаных слязьмі, крывёй і горам,
Ад якіх і жах бярэ, і сорам.
Годных і узнёслых — абражалі,
Велічных, выдатных — зневажалі,
Таленты — за краты, на мучэнне,
Лепшых з лепшых — проста на знішчэнне.
Лепшых па галоўцы лёс не гладзіў,
Але час не схлусіў і не здрадзіў,
У яго свой сэнс, свае законы —
І ўваскрэслі сцёртыя імёны.

## Разважанне

Калі не баліць тваё сэрца ад болю чужога —
Зрабілася сэрца тваё халадней нежывога.
Калі ты пад сонцам не бачыш
чарнобыльскай ночы,
Не сонца, а чэрствасць закрыла
сабой твае вочы.
Ці чуеш ты продкаў сваіх з таго свету,
іх душы?
Не чуеш? Не хочаш?
Зноў чэрствасць запоўніла вушы?
Калі ты не сніш той куток,
дзе маленства крыніца,
Лічы, што не жыў ты —
не мог у жыццё ўкараніцца.

## Пахавалі сабаку

Пахавалі сабаку
Без жалобных прамоў.
Закапалі сабаку
Абы-як — і дамоў.

А сабака быў важны,
Пільны быў, малады,
Непадкупны, адважны,
Вартаўнік — хоць куды.

Не пускаў ён чужога
Ані ў хату, ні ў хлеў.
І ўсяго ў ім благога —
«Не саромеўся» — еў.

Што дадуць — не пакіне,
Можа нават не жваць.
Не дае гаспадыні
Думка век дажываць.

— Надакучыў, пачвара!
Чым карміць лайдака?
Замест дэрбы-аўчара
Завяду парсюка.

А сабака й маленькі
Будзе звягу тварыць,
Ды і з’есць ён паўжменькі,
Меней трэба варыць.

Гэта думка паўстала,
Як ля долу труна...
І аўчаркі не стала,
Даканала яна.

Наляцелі падзеі
(Ноччу спала шчаня),
І пакралі зладзеі,
І свіней, і каня,

І кароўку з курамі,
І запасы мукі.
І ляцелі праз браму
Ім услед скразнякі...

## Любіце Беларусь!

Любіце беларусь! Ячна наш дом і лёс
І крылы нашых спраў, жыцця надзея.
Яна уцешыць нас, уберажэ ад слуз,
Яна аблашчыць нас і абагрэе.

Мы — ад адной зямлі. І з роднаю зямлёй
Дзяліць павінны боль і святкаванні.
Любіце беларусь, бо толькі разам з ёй
Мы пройдзем праз усе выпрабаванні.

Любоў сваіх дзяцей — бясцэнная яна,—
Любоў да нашай Бацькаўшчыны роднай.
Любіце Беларусь! У нас яна адна.
І мы ёй, і яна нам — неабходны.

## Бясцэнны скарб

*Светлай памяці*
*Уладзіміра Содаля*

Хоць ты пайшоў з жыцця,
не веру слову «быў».
Ты ёсць, ты будзеш побач жыццякрыла.
Лагойскую зямлю,
як маці ты любіў.
Яна цябе, як сына, й прытуліла.

З юнацтва скіраваў
душы ўзлёт круты.
Ты цешыў думкай нас
і «Родным словам».
І доследы твае, і кнігі,
гэта — ты.
Ты — і сумленне беларускай мовы.

Навыкрасаў ты шмат,
і шмат ты не паспеў,
Руплівы, заклапочаны, сумленны.
Ты аддаваў усё,
што ў шчырым сэрцы меў —
І гэты скарб тваёй душы — бясцэнны.

## Нясу свой крыж

Нясу свой крыж...
За мной бацькоўскі ганак
І крылы шчырых слоў:
— Ляці, сынок!
За мной — маё жыццё
і мой світанак.

А што рыхтуе мне
наступны крок?

Я спатыкаўся
і ўставаў з дарогі,
Я вырываўся
з мёртвых гушчароў.
Скрываўлена душа,
не толькі ногі,
Для гэтых ран
не знойдзеш дактароў.

Астатнія гады
мяне ці уцешаць?
Ці доўга мне збіваць
касой расу?
Хай перуны грымяць,
сабакі брэшуць,
А я іду,
а я свой крыж нясу.

## Тут сэрца грэе кожны кут

Тут пах раллі і пах травы,
Настой палёў.
А што за водар баравы
І тапалёў!

Тут ранак з сонечным вяслом
Плыве з начы!
Пад залатым яго крылом
Вясна гучыць!

І зачароўвае яе
Спеў салаўя.

І разам з раніцай пяе
Душа мая.

Тут сэрца грэе з году ў год
Мне кожны кут.
Адсюль я сам, адсюль мой род —
Увесь я тут.

Зіма жыцця не абміне...
У час бяды.
Мая зямля, прымі мяне,
І — назаўжды.

## Чаму?

Чаму?! — абураўся Купала.
І Колас пытаўся: — Чаму?!
Праз толькі гадоў перапала
Не менш абурэнню й майму.

Чаму мае бацька і маці
З нядоляй жылі да труны?
Пры пане не скінулі лапці,
Насілі і сацлахманы.

Чаму і маё пакаленне
Гады склала, нібы ў турму?
І гіне, і сохне карэнне,
І парасткі вянуць.
Чаму?!

## Прытулак гарадскі

Як гляну я ў акно —
Сціскае грудзі:
Вакол усё адно —
Машыны, людзі.

Зімой і гразь, і соль,
І чад над гэтым.
Ды не сціхае боль
У сэрцы й летам.

Прытулак гарадскі —
Мая няволя...
А недзе каласкі
Люляе поле.

Там лес прыціх ад дум,
Спакой глыбокі.
Там жураўліны сум
Нясуць аблокі.

Карпілаўка — мой лёс,
Жыцця крыніца.
І летам, і ў мароз
Хвалюе, сніцца.

## Гаспадар у сваёй хаце

Не жадаю быць малодшым братам
Ані ў Бога, ані пад прымусам!
Застануся, хоць і небагатым,
Вольным, незалежным беларусам.

Я — часцінка сонечных абшараў,
Я — крывінка Беларусі-маці.

Не хачу, каб хтосьці гаспадарыў
У маёй, хай невялікай, хаце.

Каб усе перастаўляу нанова
Пад маім, маім уласным дахам.
Я хачу, каб Бацькаўшчыны мова
Узнялася над Радзімай птахам.

Каб штогод мацнелі яе крылы,
Каб адчуў душой і сэрцам кожны,
Колькі ў нашай роднай мове сілы,
Непаўторнай і непераможнай.

Я не зломак — ногі ёсць і рукі,
Сэрца здольна і любіць, і марыць.
Хопіць мне й бацькоўскае навукі
На сваёй зямельцы гаспадарыць.

І нашчадкі будуць сваю маці —
Беларусь — любіць самааддана...
А суседзям, у суседняй хаце,
Ад мяне — павага і пашана.

## Восень

Восень. Сум. Мароз на глебе.
Не, зіма нас не міне.
Крумкачы крычаць у небе
На ўвесь свет. Ці не па мне?

Не аб’ехаць, не праскочыць
Непазбежную вярсту.
Я хачу заплюшчыць вочы
Не на ложку — на ляту.

Каб да самае магілы
Вецер піць — я ж так люблю,
Ну а потым скласці крылы
І ударыцца штосілы
Нібы знічка, аб зямлю.

## Браты

Мае браты... Заблытаная доля,
Блукаючыя ў змроку дзён плыты...
Любіў казаць старэйшы брат наш Коля
З душэўнай цеплынёй: — Мае браты!

І раптам — жах! Не стала брата Колі...
А потым — наляцеў і новы жах:
Нас размяло жыццё, як пух па полі,
Па нашых гнёздах, па сваіх вуглах.

Мае браты... Разладзілася нешта...
Разламываюцца нават спарышы.
Як глянеш — у руках пустая рэшта,
Хоць вельмі многа схована ў душы.

Няўжо цяплей сярод чужых — у свеце?
Што з намі? Закілзалі нас чаму?
Мы — кроў адна, адной матулі дзеці —
Не дай мне, Бог, застацца аднаму!

## Беражыце сям’ю

Беражыце любоў — гэты цуд-пачуццё,
Не ганіце яе, як нязванную госцю.
Пранясіце любоў праз гады, праз жыццё
І не дайце расстацца душы з маладосцю.

Разам — лепей спяваць, побач — лепей ісці,
Дапаможа любоў шлях любы нам адолець.
Можна штосьці згубіць і знайсці у жыцці,
А любоў, калі згубіш,— не знойдзеш ніколі.

Скіньце клопатаў маску, кіньце крыўду сваю,
І адзін аднаму аб галоўным скажыце...
Беражыце сям’ю, беражыце сям’ю,
Беражыце сям’ю, беражыце.

## Крынічанька

Паўвека, як крынічанька
прабілася, забілася,
Жыве мая крынічанька —
вада не замуцілася...
Цябе не раз забруджвалі,
а ты спявала: — Выстаю!
І поіш кожны дзень мяне
вадой-слязой празрыстаю.
З табой магу параіцца,
табе магу пажаліцца,
Маёй душы крынічанька —
мая выратавальніца.

## Маці Тэрэза

Прагнуць тваёй цеплыні і спагады
Нашыя дні.
Людзі пяшчоце, як сонейку, рады
І дабрыні.

Жорсткасць убілася ў нашыя сэрцы,
Лаянка, брэх.
Бога зняважылі, як іншаверцы,—
Сорам і грэх.

Нам бы з жыццёвай крыніцы адвечнай
Чэрпаць спакой.
Мы ж да мяжы падышлі небяспечнай,
Кроў за якой.

Вісне над намі нянавісць-спакуса,
Губіць, як чад.
Брат беларус, палюбі беларуса —
Ён жа — твой брат.

Мы ж, незалежна ад веры і мовы —
Дзеці зямлі.
Мудрасць захоўвалі, час больш суровы
Пераржылі.

Пэўна, не сэрцы ў нас сёння — жалеза,
Жудасны час.
Ты неабходна нам, маці Тэрэза,
Выратуй нас!

## Раніца

На галіначцы кожнай адзенне, як з ваты,
Пад бялюткаю коўдрай прыціхлі палі.
Я накінуў кажух і на досвітку — з хаты,
Каб убачыць, як сонца ўсплыве з-за зямлі.

Ах, якое чароўнае елак убранне!
І здаецца — бярозы стаяць з крышталю!
Ружавее марознае звонкае ранне,
Быццам казка аднекуль прыйшла на зямлю!

Колькі розных слядоў! Вунь — брабегла куніца...
Тут — вавёрка шукала свой «склад» ля карчоў...
Там — праклала раўнюткі «шнурок» свой лісіца...
Не злічыць — колькі «петляў» і скідак зайцоў...

Я «чытаю» сляды, і яны абудзілі,
Мо не к месцу зусім, насланнё-пачуццё:
Як жа ў сэрцы маім за жыццё «наслядзілі»...
Як тапталіся брудна ў душы за жыццё...

Што шукалі ЯНЫ ля крынічных вытокаў? —
Раздзіралі тканіну пачуццяў — жыўём.
Над калыскай жыцця хтосьці злосна галёкаў,
Вальнадумства ссякаў і махаў пугаўём...

...Я па снезе іду, я шчаслівы бясконца,
Думка светлая сэрца маё саграе:
— Дзякуй Богу! Узыдзе жаданае сонца!
І за ноччу нахлынуўшай — дзень настае!

## Бессэнсоўе

Сеялі зярняты ў глебу —
Хваляваліся.
Сэрцы цешылі: быць хлебу! —
Спадзяваліся.

Палівалі поле потам —
Не скупіліся.
Глебу песцілі, а потым —
Разгубіліся.

Ні расточка, ані ўсхода
Не прабілася.
Што за ліха-перашкода
Навалілася?

Сейбіты клялі здарэнне
І аратыя.
Хто ж мог думаць, што насенне
Вінаватае?

Што яно — у цемры глебы
Спіць спакойненька
І не ведае патрэбы
Бачыць сонейка.

І ляжыць яно падгніўшы,
Цемрай душыцца,
Лёс лянотаю спавіўшы,
Не варушыцца.

Будзе сёння, як і ўчора —
Спадзяваецца.
І не ведае, што гора
Падкрадаецца.

Век імгненнем пралятае,
А галоўнае —
Тое, што не прарастае —
Бессэнсоўнае.

## Адкрыццё

Няхай зрабіў бы кожны
Такое «адкрыццё»:
Багаты я, заможны —
Ёсць у мяне жыццё!

Я сонца бачыць здольны
І цешыцца, што ў свет
Чароўны, навакольны
Праклалі продкі след!

І берагчы пяшчотна
Суквецце дзён-вянкоў,
І жыць сумленна, годна
Для будучых вякоў.

Не выкарчоўваць дрэвы,
Раз не садзілі іх,
А пакідаць засевы
Для вёснаў маладых.

Жыццё — не для забавы,
Не вопратка — на раз...
Якія нашы справы —
Такі і лёс у нас.

# 1990—2000

## Зямлі святая памяць

Лагойскі край, зямля бацькоў,
Святая памяць землякоў —
Што сэрцу болей трэба!
Мне гэта крылы надае,
Узрушвае гады мае,
Нясе мяне да неба.

Я плынню стаў жыцця ракі,
Часцінкай вашай, землякі,
Стаў рэхам вашай мовы.
Наш лёс сумесна выспяваў,
Адзінай марай спавіваў —
Сустрэць світанак новы.

І мой, да болю родны кут,
І новы па жыцці маршрут
Мяне няспынна вабяць
Я з часам знікну назаўжды —
Не замятай мае сляды,
Зямлі святая памяць.

## Царства пяшчоты

Прыфасоню ватоўку і боты
І з ружовасцю ранку ў абдым
Накіруюся ў царства пяшчоты,
Дзе адчую сябе маладым.

Добрай раніцы, елкі, бярозы,
Поле, луг і ружовы абшар!
І расінкі, як Боскія слёзы,
Што з галін акрапляюць мой твар.

Кожны год непаўторна і нова
Бачу ўсё — нібы дзіўнае сню.
Край мой мілы, я невыпадкова
Улюбёны ў тваю чысціню.

Ты — майго нараджэння прадвеснік,
Ты — калыска, натхненне для крыл.
Тут мае самабытныя песні,
Тут і лёсу майго небасхіл.

Пазванчэла празрыстае ранне —
Хутка, хутка ружовасць міне.
Вунь і сонца ўзышло. Прывітанне!
Бачу я — ты пазнала мяне!

# Не спяшайцеся

Не спяшайцеся. Хоць на хвілінку
Прыпыніце сваю хаду.
Не мінайце бярозку-дзяўчынку,
Што глядзіцца ў люстэрка-ваду.

Вунь, на полі цвіце карагодна
Непаўторная сінь васількоў.
Колькі ў іх беларускасці роднай
І бяздоння блакітных вякоў.

Аблачына — у белым халаце
Вас вітаць прыплыла здаля.
Рада вам і карміцелька-маці,
Усыпальніца продкаў — зямля.

Гай зялёны, бары ў лёгкай дымцы,
Зазываюць вас, нібы радню.
Прымуць вас у абшары-абдымкі,
І падораць сваю чысціню.

Канфеці матылькоў-аднаддзёнкаў,
Краскі ў лузе, як райскі кут.
І прыбой белапенных рамонкаў —
Дзе вы гэткі сустрэнеце цуд?

Не спяшайцеся! — шэпчуць вам дрэвы
І палі залачоных ніў,
Подых ветру, птушыныя спевы
І — усё, што Гасподзь благаславіў.

## Жыцця не хапае

Празрысты, крыштальны бярозавы гай,
Нібыта памыты вадою крынічнай.
Фантанам вяршынь да аблокаў шугай,
Спявай і далей мілагучна, лірычна.

Зялёнае мора, ласкавы уздых —
Раздольна душы і пачуццям разгульна.
У кроне пяшчотных карункаў тваіх
І ветру не цесна, і промням утульна.

Халоднай зімой я вясну тваю сню,
І побач з табой, цемра-ноч — не сляпая.
Даўно палюбіў я тваю чысціню,
Табой наталіцца — жыцця не хапае.

## Разгавеюся сонцам

Разгавеюся сонцам, паветрам уп'юся,
І закруціць мяне, закалыша вясна.
На зялёныя грудзі яе павалюся,
Зразумее яна, і абдыме яна.

Я сустрэў маладосць, ап'янеў назнарокам
Ад ажыўшых лясоў, ад празрыстых вятроў.
Я не буду хмяліцца бярозавым сокам,
Бо не п'ю я ніколі сяброўскую кроў.

Як прыемна адчуць пад сабой пульс зямліцы,
І ляжаць, і глядзець у бяскрай-сіняву,
І гадаць — хто плыве? — па-дзіцячы дзівіцца:
Ці аблокі — у небе, ці сам я плыву?

## Асяні і блаславі

Над маёй калыскай-вёскаю,
Над магілаю бацькоў
Разнябесь, Матуля Боская,
Святакрылены Пакроў.

Галасы тут продкаў чуюцца,
Душы ў высях, над зямлёй.
Пад пакровам хай утуляцца
І пад ласкаю тваёй.

Памяць сэрца непахісная,
У душы яна, ў крыві.
Маці светлая, прачыстая,
Родны кут мой блаславі!

## Срэбрадзіўнае святло

Месяц хмаркай ахінуўся,
Ясналікі, як заўжды.
Прывітанне! Я вярнуўся,
Ды, на жаль, не малады.

Наш саюз амаль распаўся,
Паміж намі — часу цень.
Я з узростам закахаўся
У святло, у ясны дзень.

Колькі пад табой мінула,
Адспявала, адгуло!
Колькі тайнаў паглынула
Срэбрадзіўнае святло!

Для кахання ты выстрэнчваў,
Ладзіў і паліў масты.
Ты вянчаў і ты развенчваў,
Зводзіў і разводзіў ты.

І хоць бачымся мы рэдка,
Наш саюз я блаславўлю —
Ты адзіны ў свеце сведка
Шматмільённага «люблю».

## Незнаёмы матыў

Разрывае душу незнаёмая песня —
Ці дажынкі жыцця, ці дасеўкі надзей,
Ці галёканне ночы, ці ранку прадвессе,
Ці няспетае штосьці аджыўшых людзей?

Незнаёмы матыў, як агністая лава,
Скрозь гады прабіваўся з душы глыбіні.
І апальвае сэрца, і лашчыць ласкава,
І пяшчоціць, і зноўку трымае ў агні.

Быццам хтосьці спявае і плача надрыўна,
Каб жыцця некранутыя струны крануць.
Пэўна, полымя гэтай мелодыі дзіўнай
Не дазволіць душы прыжыццёва заснуць.

## Доля-долечка

Доля ты долечка, непастаянная —
Кладзесь душэўнасці, колкасць вачэй,
Шчасце ледзь бачнае, гора спатканае,
Сонечнасць, ранічнасць, цемра начэй.

Доля ты долечка — маці і мачаха,
Крылы — для мараў, надзеям — капцы.
Гнула ідучага, біла ляжачага,
Потым гаіла на сэрцы рубцы.

Доля ты долечка, непрадказальная —
Круціцца часу бязлітасны млын...
Ты — і малітва па мне памінальная,
Ты — і апошні па мне успамін.

## Самы светлы прамень

Я вёсачкай нашай пад небам-іконай,
І хаткай, дзе рос, пад асінавай кронай
Жыву кожны дзень.
Там мама і тата, суседзі, вяскоўцы,
І я паміж імі — у ботах, ватоўцы —
Жыцця самы светлы прамень.

У сэрцы застаўся мінулага дзённік:
Сябры і сяброўкі, любімы гармонік,
Якім я дзяўчат мілаваў.
О, як я хварэў самадзейнасцю з жарам,
Блудзіў, паляваў з незабыўным Анчарам,
Пастушыў, касіў і араў.

Ніколі не выпіць мінулага чашу.
Імчыць мяне поезд няспыннага часу
Далей і далей ад тых дзён.

Імчыцца ў тупік гэты поезд няўмольны,
Дакладна ніхто разабрацца не здольны:
Дзе байка? Дзе праўда? Дзе сон?

Юнацтва, як дзіўнае рэха, гукае,
Былое палоніць і не адпускае,
Не згасне яно не міне.
І тыя ўспаміны, і тое гуканне —
Душы асолода, маё пакаранне,
Духоўна мацуюць мяне.

## Заўсёды ваш

А я, замест царквы, Святога Храма,
Прыйшоў пад купал сініх вечароў,
Дзе дзве бярозы, як жывая брама,
Аздобліваюць двор усіх двароў.

Тут прадапошні мой прытул гасцінны,
Апошні хутка мне падорыць час.
Тут бэз і яблынь згорбленыя спіны,
Настурцыя і глог сустрэнуць вас.

Гудуць рупліва пчолкі-працаўніцы,
Яны не ўджаляць — Божа барані!
Здарожыліся? Вось вада з крыніцы,
Папіце і ладкуйцеся ў цяні.

Калі ж мяне не стане дома з часам,—
Век чалавечы, як вясной лядзяш.
Заходзьце, адпачніце «самапасам»,
Прабачце — не сустрэў... Заўсёды ваш.

## Мяне мама не разбудзіць

Мяне мама не разбудзіць болей,
Як будзіла: — уставай, сынок...
Сніцца мне той час нялёгкай долі,
Час маленства — чысціні выток.

Да ружовых дзён вяртаюць ночы
У калейдаскопе дзіўных сноў.
Як бы я хацеў расплюшчыць вочы
Ад далоняў маміных і слоў.

— Уставай, сынок, збірайся ў школку...
Цягне з печы бульбу — «разнасол».
І здаецца прыцемкам, на золку,
Што не мама гэта, а анёл.

Што няма на ўсёй зямлі багацця
Большага, чым бульба ў сагане,
Што ўвесь свет змясціўся ў нашай хаце,
Просіцца за стол, зайздросціць мне.

Свеціць у душу святло газоўкі,
Грэе сэрца: «уставай, сынок...»
Мамы слоўкі, нібы спеў салоўкі
Далятаюць да мяне здалёк.

Я застаўся, як былінка ў полі,
Лёс не аднавіць, ні адрадзіць...
Мяне мама не разбудзіць болей,
Бо даўно ўжо непрабудна спіць.

## Душа-гармонік

Душа-гармонік, што ж ты сціх
З няпамятных часоў?
І не чуваць нідзе тваіх
Басоў і галасоў.

Ці ж думаў хто, што паглыне
Цябе імклівы век?..
Ад таты перадаўся мне
Тваёй душы сакрэт.

О, як любіў я, малады,
Твой голас — прызнаю!
Пераліваласся тады
Твая душа ў маю.

Я прачынаўся й засынаў
Пад дзіўны разгалос.
Ты упрыгожваў і яднаў
Усіх вяскоўцаў лёс.

Няўжо, мой дружа, ты памёр?
Не веру, што аджыў
Чароўных гукаў перабор,
Мелодый пераліў.

Прыціхлі вёскі — вер не вер,
Бо іншае мадней.
І не пачуць цябе цяпер
Паўсюдна, як даўней.

І хоць палоніць пакрысе
Наш слых інакшы спеў,
Сумуюць па табе усе,
Каму ты сэрцы грэў.

## Клічу ў сведкі Бога

Патух апошні кадр жыццёвай стужкі
І вось ужо — у іншым свеце ты...
Мой адыход заўважаць толькі птушкі,
Бздомыя сабакі і каты.

І я клянуся — клічу ў сведкі Бога
І Боскай Маці светлае імя:
Мне пакідаць не страшна анікога
На ўсёй зямлі, бяздомных акрамя.

Я ратаваў, як мог, гаротнасць гэту,
Не шкадаваў душэўнага цяпла.
Я прапісаў іх да свайго бюджэту,
Дзяліўся з імі ад свайго стала.

Трагедыя, як ноч, вісіць над імі,
Яны ахвяры — наша ў тым віна.
І б’юся я з млынамі ветранымі —
Бяздомных шмат, а пенсія адна.

## Было спачатку слова

Занудны дождж злізаў з наўколля пыл,
Прастору неба ўсю абклаў, навіснуў.
І хочацца разбухлы небасхіл
Падперці, каб на галаву не ціснуў.

Адкуль наслаў слату такую Бог?
Імжачына вісіць другія суткі.
Цяпер і кот не ступіць за парог,
Ды і сабака нос не выткне з будкі.

Сабаку пашкадую і ката,
Бадзянне й голад — кепскія дарункі.
Я сам пайду — прымі мяне, слата,
Такім дажджом глыбей віруюць думкі.

Я ў далеч невідучую нырну
І за імжастым покрывам растану.
Магчыма, там спасцігну глыбіню
І шчырасці, і нізкага падману.

Няхай імжыць, няхай мацней ліне,
Спазніўся дождж — было спачатку слова.
А безгалоўе паспрыяе мне
Жыццё асэнсаваць усебакова.

## Закон і беззаконне

Папрацаваў працяглы снегапад —
Здаецца — лес у белым моры тоне.
Тут ціша, свой закон, адвечны лад,
А след на снезе мой, як беззаконне,

Пятляе ён між гэтай белізны,
Сасну абыдзе, абміне яліну.
Нібыта нейкі швец-кравец блазны
Нядбайна кроіў белую тканіну.

Я сам дзіўлюся — для чаго я тут?
Зірнуў на след свой блытана-нікчэмны.
Здавалася, што снежны белы цуд
Хацеў сказаць, што я тут непатрэбны.

## Кароткая ноч

Колькі свечцы яшчэ гарэць
У пакоі душы-самоты?
Мне б паспець адыход прапець,
Не сарваць аніводнай ноты.

Казка казкай — не толькі яна
У гарбуз ператворыць карэту —
Хутка вып’ю жыццё да дна,
А галоўнае не прапета.

Быццам сплю і не плюшчу воч,
Дажываю — нібыта сніцца...
Ах, якая кароткая ноч —
Не паспець сіраце ажаніцца.

## Тут я свой

Як прыемна, летуценна
Па Лагойску крочыць!
Тут я свой, небезыменны —
Толькі б не сурочыць.

Вольна дыхаецца сыну
На зямельцы-маці.
Землякам я ўсё пакіну,
Што паспеў прыдбаці.

Светлалікі, ясназоры
Небасхіл натхненняў,
І душу сваю, і творы,
Мары і сумненні.

## Мінулы мой дзень

Не знік я з зямлі, як Садом і Гамора,
Хоць дыбіў гады, «не пасціў».
Падзяка табе, дзень мінулы — учора,
Ты ў сёння мяне прапусціў.

Аблога спакусаў, падзей шматгалоссе,
Нам дараць і смех, і слязу.
Мы кожны, па ўласным нязведаным лёсе
Выкрочваем, як па лязу.

Бязгрэшнасць свая міражом палымнее,
А грэх? Толькі цень, толькі блік.
І кожны ад грабляў сваіх разумнее,
Чужыя памылкі — не ў лік.

Мінулы мой дзень — і суддзя, і падпора,
І прыцемак ты, і святло.
Падзяка за тое, табе, маё ўчора,
Што ты неапошнім было.

## Не паўторыцца век залаты

Адплылі журавы, адгалосілі,
І прыцьмянела ў сэрцы святло.
Асляпляльнае золата восені
Адбуяла, пад ногі лягло.

Адспявана ў лясах, адгамонена,
Адквітнелі палі і лугі.
І душа ціхім сумам напоўнена,
І згарбеў небасхіл ад тугі.

Ой, дарэмна ты, восень, сутулішся!
Ты паўторышся зноў — год міне,
Зноў парчой залатою атулішся —
Усміхніся, зірні на мяне.

Мной патрачана шмат без ашчаднасці —
Квецень саду, узлёт малады,
Асляпляльнае золата радасці
І гарачыя коні-гады.

Нам з табой — ні раўняцца, ні мерацца,
Бачыць Бог — шчаслівейшая ты,
Бо маё ўжо ніколі не вернецца,
Не паўторыцца век залаты.

## Хлеб і песня

Нашчадак наш сахе паклоны гнуў.
І лашчыў неба зорнае вачыма.
Ён да душы і песню прыхінуў —
Хіба ж адзіным хлебам жыць магчыма?

Я ганаруся, землякі мае —
Наш край Лагойскі песнямі багаты.
Я адчуваю, як душа пяе
У кожнага на працы і на святы.

Хлеб — галава! А крылы перамог —
Душа і песня — з продкамі былі.
І сёння побач з намі — бачыць Бог,
Сябруюць хлеб і песня на зямлі.

## Бярозы жоўты медальён

Мой мілы дом, мой родны кут,
Садок, гарод, квяцісты ліпень!
О, як даўно не быў я тут,
Амаль што вечнасць — цэлы тыдзень.

Сваю адметнасць час нясе,
І нельга незаўважыць гэта.
Як значна зрушыліся ўсе
Да блізкай фінішнасці лета.

Дарос да хрусту агурок
Вішняк гарыць чырвонабока.
І яблыкі ўзяліся ў сок,
Не спяць — да Спасу недалёка.

Запасяць далі спакваля
Сум у зялёныя далоні.
Спакойней дыхае зямля
І неба робіцца бяздонней.

І хоць жыццё кіпіць вакол,
Пульсуе ў покрыве зялёным,
Ды ўпаў бярозе на прыпол
Лісточак жоўтым медальёнам.

## Жніво адышло

Жніво адышло і — па лету...
Хоць гэта пара не благая,
Вунь, восень залоціць карэту
І тройку гнядых запрагае.

Прыпусціць сваіх чыстакроўных
І рынецца рыжая пані
Адорваць абноўкай шыкоўнай
Абшары — свае уладанні.

Лясы ператворыць у казку
У дрэў размалюе аблiччы.
Ёй хопіць і фарбаў, і бляску,
А не — дык у сонца пазыча.

Вясёлкава ззяюць далоні,
Абгледзіць усё і абскача.
Як толькі прытомяцца коні —
Паблякне, дажджамі заплача.

## Я прашу прабачэння

Я прашу прабачэння
ў зямлі, у вады, у нябёс
І ва ўсіх, хто пад сонцам адзіным
прытулак знайшоў,—
Я не здолеў уславіць сучаснасць
і кожнага лёс,
Бо не змог адшукаць самых светлых,
узвышаных слоў.

Вы трымалі мяне
на далонях пяшоты ўвесь час,
Сенажаці, палі,
задуменныя пушчы, гаі.
Мне б удзячна складаць
бессмяротныя гімны пра вас,
Як вясной, кожны год,
услаўляюць жыццё салаўі.

Я з павагай да ўсіх,
на сяброўства мне скардзіцца грэх —
Сілы браў я ад ветру,
таму і стамляўся радзей,
Ад дажджу слёзы ўзняў,
а ад сонейка яснага — смех,
Ад жывёлы ўзняў шчырасць,
якой не бывае ў людзей.

Больш я браў, чым аддаў,
і для смутку нямала прычын,
Запазычанасць гэта
мне спальвае сэрца штогод.
Я баюся пайсці,
як няўдзячны, няўважлівы сын,
Я не супраць,
каб вы не заўважылі мой адыход.

## Я пра вёску пішу

Я пра вёску пішу, пра вёску,
А пра што ж мне пісаць яшчэ?
Сэрца смокча ўспамінаў соску,
Дзе мінулага плынь цячэ.

Там і я, як струмень гэтай плыні,
Там ружовыя, мілыя сны,
Чырвань ранку, праддзёнак сіні,
І наіўнасць, і подых вясны.

Там імгненні, якія не ўзважыць,
Адгалоскі, што сэрцу чуваць.
Там такое, пра што не раскажаш,
Што магчыма душой адчуваць.

Я пра вёску пішу, пра вёску,
Пра няхітры картовы час.
Памяць сэрца — здабытак носкі,
Ён сабой атуляе нас.

## Чароўны сум вясковай даўніны

Чароўны сум вясковай даўніны
Агорне сэрца — раніць і залечыць...
Вялізны круглы бохан іржаны
Калісьці мама выпякала ў печы.

Акругласць цеста на гарачы под
Спіхала ў печ з драўлянае лапаты.
А потым... Потым слінак повен рот
І ў вёску пах духмяніў з нашай хаты.

Жыццё даць хлебу — не булён зварыць,
Не кожнай ён даваўся гаспадыне —
То не ўпячэцца ён, то падгарыць,
То зліпнецца ў закалец і застыне.

І толькі ў мамы пёкся хлеб такі —
Душы разынка у нялёгкім лёсе.
І часцяком пыталіся жанкі:
— У чым сакрэт? Раскрый таемства, Зося.

І адгукаўся мамін смех жывы,
Дзялілася з суседкамі «адкрыццем»:
— Замешваю я цеста, як і вы,
Ды размаўляю з ім, нібыта з дзіцем.

## Ноч-апоўнач

Ноч-апоўнач. Сяджу ля каміну,
Наліваю ў кілішак, грашу.
Адагналі мой сон успаміны,
Расштурхалі балюча душу.

Шторм жыцця паматляў лёсу човен,
Час скапыціў маіх вараных.
Што казаць? Я — у полі не воін,
Бо адзін між млыноў ветраных.

Кроў не ўспеніцца хмельным загулам,
Свісту крыл не пачуць за спіной.
Рань ружовая — недзе ў мінулым,
Хмара чорная — перада мной.

Штосьці згінула, штосьці дагіне —
Пульс адчайна марзяніць у скронь.
А пасцель халадзее і стыне,
І згасае ў каміне агонь...

## Удранка

Рукой падаць — ледзь не ля ганка,
У невядомы сіні край
Між лесу шчэміцца Удранка —
Рачулачка, амаль ручай.

Пад віславухасцю прывычнай,
Дзе песціць прахалоду цень,
Самотна пець вадзе крынічнай
Пра хуткі свой апошні дзень.

А чорны дзень не за гарамі —
Няма чым гулка віраваць...
А колісь тут, між гушчарамі,
Яе здаля было чуваць.

Цякла задзірыста Удранка,
Шукалі броду, бо — каюк.
І толькі стронгі, як маланкі,
Адужвалі напор ізлук.

У Дворышчы жыццё кіпела,
Быў пальны мост, вядомы млын.
Усё сыйшло на звод, зніцела,
А плыні цень, як успамін.

Яшчэ і сёння тут прыгожа,
Бяжыць Удраначка, пяе.
І Божа — вечны цар-надзёжа,
Ёй захлынуцца не дае.

Тут лес спявае калыханку,
Тут прахалоду песціць цень
І помніць дужую Удранку,
І беражэ, нібы каханку,
Перасыхаючы, струмень.

## Волат беларускасці, прабач

Сорак год, як Коласа не стала...
То ж зусім не шмат гадоў прайшло.
Я здівіўся, а чаму так мала
Нас, жывых, да волата прыйшло?

Сваякі, пісьменнікі, паэты...
Вось і ўсё — іх кожны год радзей.
Не было у дзень балючы гэты
Ні студэнтаў, ні са школ дзяцей.

Ні душы ад тых, хто пры уладзе...
Волат беларускасці, прабач.
Мова наша сёння ў заняпадзе,
Сёння-сум, а заўтра будзе плач.

## Нядоля

Вунь, клён быў маладым,
Ды час падраў сярмягу.
Бярозка побач з ім,
Як дзеўка без пасагу.

Ён — голле ў яе бок,
Яна — ўсё разважае.
Зрабіць насустрач крок
Што ім перашкаджае?

І ўсё ж яна і ён,
Хоць побач, ды не ў шчасці.
Адзін загіне клён,
І ёй адной упасці.

## Затоенае прадчуванне

Паўдня ляноціна сляпая
Хавалася ў цяньку,
Ды паступова саступае
Спякота халадку.

Туман, як палатно з-пад прэсу,
Хоць ветразі зшывай.
Над ім зямля зубамі лесу
Казыча неба край.

Усё празрыста і бялёса,
Як павалока воч.
Бяроз расплеценыя косы
Хвалююць — хутка ноч.

Бярэ ў палон зачараваннем
Прыроду і людзей
Затоенае прадчуванне
Загадкавых падзей.

## Вёска-вёсачка

Лес міражыць сіняй даллю,
Аблачынкі ў небе чыстым,
Як дзяўчаты на Купалле,
Карагодзяць з гарманістам.

Пастушок з рагатым статкам
Тоне ў кіпені зялёнай.
Клён кляняткам-немаўляткам
Напявае штосьці кронай.

Тут майго наіву ранне,
Мой світанак блазнюкоўскі,
Горыч першага кахання,
Душы продкаў, дом бацькоўскі.

Спалучэнне былі й казкі
З сінню неба, з чорным долам —
Вось яна, жыцця закваска
З падсалодай, з перасолам.

Дні лістаюцца запоем,
Ночы — з казачнымі снамі,
Вечар пахне сырадоем,
Ранак пульхнымі блінамі.

Вёска, вёсачка, калыска!
Як ты блізка і далёка.
Памяццю хілюся нізка,
Сэрцам — узнясу высока.

## Вядомасць

Па гараскопу я — блізнец —
Таленавіты, знакаміты,
І жнец, і на дудзе ігрэц,
Вядомы ўсім і п’яна-сыты.

Прароцтваў і прыкмет — букет.
Усё тут — слава і маёмасць.
Ды добра, што з усіх прыкмет
Адна хоць спраўдзіла — вядомасць.

Не, не прыцягваў я штокрок
Натоўп людзей, як стол той шведскі,

А пазнае мяне Пушок,
Сабака, сябар мой суседскі.

Малютка, лепшая з кароў?
Заўжды насустрач мне рыкае.
Каты, сабакі ўсіх двароў —
Па-свойму кожны сустракае.

Такой душэўнай, як мая,
Вядомасці жадаю многім.
І за яе удзячны я
Сваім сябрам чацвераногім.

## Вечар сіні

Не спяшайся, вечар сіні,
Дагараць самотай-свечкай.
Хутка ліпень параскіне
Туманы над ціхай рэчкай.

Плынь ракі нясе кудысьці
Мары аблачын ружовых.
Рыбы плёск шукае выйсце,
Б’ецца па затонах новых.

Ластаўкі паветра рэжуць,
Не крануць вады люстэрка.
Як запраўскі канькабежац,
Калаўроціць вадамерка.

Я шапчу жыццёвай плыні,
Зазіраю — вочы ў вочы:
«Не спяшайся, вечар сіні,
Саступаць дарогу ночы».

## Дзень выдаўся цудоўны

Дзень выдаўся цудоўны,
Як кажуць, на ўсе сто.
Ды пырснуў дождж раптоўна,
Хоць не чакаў ніхто.

Сцямнела наваколле,
Каціўся гром здаля,
Загойдаў вецер голле,
Як маці немаўля.

А хмары, як навала,
Як грывы вараных,
Зязюля адкувала,
Маўчыць — няма дурных.

Храбрыцца вецер, пнецца:
— Ратуйся, хто жывы!
Трава ажно кладзецца,
Каб быць «ніжэй травы».

Крывых маланак джалы,
Ярчэй усіх свяціл,
Як вострыя кінжалы,
Крамсалі небасхіл.

Хоць бура пагражала,
Ды, як не раз было —
Грымотай папужала
І ўсё назвод сышло.

Зязюля балбатліва
Маніла зноў пра ўсіх.
А вецер сарамліва
Вільнуў хвастом і сціх.

## Самародкі слоў

Ператрасаю і лапачу
У засяроджанай цішы —
Часцей наўпрост, радзей наўдачу,
Шукаю скарб сваёй душы.

Ён назапашан велізарны:
Каштоўнасць, значнасць і баласт.
Гады спрасоўваліся скарбна,
За годам год, за пластам пласт.

Старацель — ён ані хвілінкі
Не палайдачыць на баку.
Ён, дзеля залатой крупінкі
Прасейвае гару пяску.

Вось і паэт, самааддана
Гарыць, ўваскрэшваецца зноў.
У рудніку душы складана
Вышукваць самародкі слоў.

## Кансерватар

Не стаў я «крутым» і «новым»,
Мы з сённяшнім днём — не радня.
Застаўся душой вясковым,
Не трактар люблю — каня.

Не вабіць хаос інтэрнэта,
Агідніць кампутарны клон.
Як быццам ужо канец света
З бяздушшам людскім заручон.

Само чалавецтва міжвольна
Дарогу праклала бядзе.
Прагрэс непазбежна, няўмольна
Да самазнішчэння вядзе.

Я зжыўся з касой і лугам,
З сякерай і гэблям на «ты»,
Выкройваю спраўным плугам
Удзячнай зямлі пласты.

Сябе спадзяваннем цешу,
Што Бог — ад памылак гарант.
Я лепей па-дзедаўску — пешшу,
Чым супертэхнічны мутант.

Прабач, самалёт і трактар,
Абрыдлі ваш шум і смурод.
Такі вось я ёсць кансерватар,
І буду да скону год.

## Запозненая сустрэча

Я звязаўся з гадамі-няўклюдамі,
Жыў па-ўсякаму — лепей і горш.
І паўвека не бачыўся з Будамі.
Не! Якое паўвека? Больш!

Тут крынічка жыцця патаемная
Для мяне патаемна пяе.
Тут галодныя, пасляваенныя,
Залатыя гадочкі мае.

Груз самоты зваліўся на плечы мне,
Нежаданы, нязгаданы госць —

Зараслі ўсе сцяжынкі малечыя,
Што ў юнацтва вялі, ў маладосць.

І сцяжынак тых не далічылася
Плынь душы, што цячэ па жыцці,
Быццам сонейка ў цемру скацілася
І не можа ніяк узыйсці.

Не глядзіце мне ў твар насцярожана,
Гай бярозавы, лесу крыло,
Мной тут збегана ўсё, пераходжана —
Вас тады тут зусім не было.

Я змяніўся — пазнаць не спяшаюцца
Мой прыход, нават тыя, хто й быў.
Вунь і клён — мой знаёмы, вагаецца:
Я ці не? — у здзіўленні застыў.

І таму выглядае засмучаным.
Дружа-клён, кінь турботу сваю!
Я і сам у жыцці перакручаным
Не заўсёды сябе пазнаю.

Я люблю вас! Я вам абавязаны,
Казка лесу, пагоркавы цуд.
І хоць лёс мой тым часам памазаны,
Я — усё ж, нарадзіўся не тут.

## Не выказаць услых

Душы няўмольна памнажаюць боль
Вачэй нажы, халодных слоў каменні.
Душа, як голы казачны кароль,
Пакутуе ў адзенні-летуценні.

У крыўдах — і сучасных, і былых,
Ірве пялёсткі-дні: няверу-веру.
І, бачыць Бог — не выказаць услых
Пакут — і не пакласці на паперу.

Каб штосьці праясніць — яшчэ дадам,
Магчыма, зноў туманна, аднабока:
У вельмі многім вінаваты сам,
Ды ўсё ж, да лыжкі дзёгцю мне далёка.

## Пост

Ад грахоўнай стравы тлустай
Вызвалю сваё жытло.
Накіслю душу капустай
Аж па першае чысло.

Буду піць ваду і сокі,
Бульбіну мачаць у соль.
У цямнюткі кут далёкі
Адфутболю алкаголь.

Рыбнага — дый то паўжменькі,
Прэч, тарты! — падцісну хвост.
Буду стрымліваць памкненні
Грахаўныя — пост дык пост.

Маю мару на прыкмеце,
Мёд яна ў душу ліе:
А, магчыма, на тым свеце
Спішуцца грахі мае.

Кепска векаваць без веры,
Хоць — бывай і пад трамвай.
Раптам хтосьці — грук у дзверы,
Госці ў хату — налівай!

## Жыццё і смерць

*Памяці Паўловіч Анюты*

З глыбінь мінулага яна не прападае,
Не паглынуў яе падзей шматлікіх цень...
Ішла цяжарная жанчына маладая
Ля ганку нашага амаль што кожны дзень.

Ішла паволі, асцярожна, беражліва,
А я, хлапчук малы, глядзеў тады праз плот
На «безфігурную фігуру», як на дзіва,
На недарэчны, мне здавалася,— жывот.

Ёй жыць далей дало... ды толькі ва ўспамінах,
Спыніўся шлях зямны у росквіце жыцця —
Не ўратавалася, памерла пры радзінах,
Ды, дзякуй Богу, захавалася дзіця.

І мне з малечных год забыцца немагчыма,
Хоць да падзеі той — «сваіх» падзей сцяна,
Як па жыцці ішла цяжарная жанчына
І несла ў чэраве жыццё і смерць яна.

## Наперадзе сюрпрыз

Мой родны лес пяшчотаю атуліць,
Напеў палёў ласкава ахіне.
Нібыта рукі цёплыя матулі,
І акрыляюць, і нясуць мяне.

І мне б ні спець, ні выплакаць ніколі
Ні гулкасць ранку, ні начной цішы,
Каб колісь не сустрэў у чыстым полі
Сябе, з ўзнёслым ранкам у душы.

Мне тое «колісь» не давала гнуцца.
І хоць нажыў я шышак на ілбе.
Важней за ўсё — з сабой не размінуцца,
У блытаным жыцці знайсці сябе.

І гэтае знаёмства і сустрэча,
Як хвалі часу, то — уверх, то ўніз.
І штосьці кажа мне: — Яшчэ не вечар,
Што б ні было — наперадзе сюрпрыз.

## Не я складаю вершы

Я, пэўна, ў плагіяце самы першы,
Але маўчаць сумленне не дае.
Сазнаюся — не я складаю вершы,
Якія ў свет выношу, як свае.

Пісаць, як «я пішу» — я бы не здолеў
Без аўтараў, хто талентам — сам Бог.
Раздольнасць крылаў-слоў я ўзяў у поля,
Яго адвечны спеў падслухаць змог.

Пісаў бы я ненатуральна, штучна,
І шэра б выглядаў мой творчы дах,
Каб не адчуў, наколькі мілагучна
Спяваюць летам краскі на лугах.

Бор вабіць задуменнасцю духоўнай
І прапануе прахалоды цень.
А вунь з якой дзявоцкасцю чароўнай
Бярозы апяваюць летні дзень.

А што за ночы! Сэрцу птушкі-коні
У зорным небе бачацца найперш.
Пяе там муза ў велічным бяздонні —
І нават не паэт складае верш.

Застыў паўмесяц, як агарак-свечка,
Задумаўся аб нечым, нібы спіць.
Пасерабрыла сваю песню рэчка
І між каменняў ціхенька звініць.

А што казаць пра дзеяслоў зімовы!
Яго я тайну разгадаць паспеў.
У ім — крыштальна-казачныя словы,
І сумны, і пагрозлівы напеў.

Вось так пішу — падслухаю, падгледжу,
Настрой адчую, зазірну ў душу.
Я ад сваіх «сааўтараў» залежу,
Яны складаюць мне, а я — пішу.

## Нявеста

Каб мне сказалі жартам ці не жартам:
Каго б ты з дрэў нявестаю назваў?
Я б не вагаўся — стаць нявестай варта
Бярозка-краска, з ёй бы векаваў.

Пакіньце пры сабе смяшкі і кпіны,
Падобных цудаў на зямлі няшмат.
Такіх ласкавых рук няма ў жанчыны,
А стан такі не знойдзеш у дзяўчат.

Вунь і яна! Ва ўсёй красе — зірніце!
Нахабнік-вецер адхінуў падол.
Яна безабаронная, як дзіце,
Бяскрыўдная яна, нібы анёл.

З ёй салавейка па-сяброўску ладзіць,
І ў ёй пярвей за усіх бруіць вясна.
Яна і не абразіць, і не здрадзіць,
А возьме ўвесь наш боль сабе яна.

З давён-даўна ёй прысвячалі вершы,
Яе мастак ніводзін не мінаў.
Дык хіба ж я на свеце самы першы
Яе з жывой нявестай параўнаў?

## Паслухайце сэрца

На крылах трывогі,
Па ветры пакутаў
Нясе мяне лёс.

Душой — у паветры,
У марах — без путаў,
А сэрцам да болю прырос.

Гады за плячыма
Не скарб, а атрутнасць,
Памылкі мінулых вякоў.

Паслухайце сэрца,
Зірніце у сутнасць,
Чытайце глыбей — між радкоў.

## Такі мой сад

Я на сядзібе, замест яблынь,
Бярозак насадзіў.
Мяне на смех: — Якога д'ябла?
Ну ты і адцудзіў!

Ды ты ж Ранэт з Антонам крыўдзіш
Сваім ражоннем — псіх!
Каго ты ў лесе лесам здзівіш?
Ды выкарчуй ты іх!

І смех, і грэх у іх парадзе,
Лжэпрагматызму — воз.
Я й яблынькам дам росту ў садзе,
Але — пасля бяроз.

Бярозка, як ніхто, прывеціць,
Пяшчотай ахіне.
Бярозы бель душу мне светліць
І маладзіць мяне.

Ледзь-ледзь усход пасалавелы
Зяхнуў — і спіць зямля,
А мой садок дзівосна-белы
Усім відаць здаля.

## Шайморы

Пасля вайны, у цемры-горы,
Жылі ў трысцені-рухлі.
І мама нам пякла шайморы,
Каб з голаду не пухлі.

Шайморы — гэта бульба з поля.
Што за зіму згнівала.
Смурод яе ўсё наваколле,
Напэўна, адчувала.

Ішлі шукаць яе з ахвотай,
Нібыта за прысмакам.
Мы на калгасным полі ўпотай
Паўзком капалі, ракам.

І мама з бульбін перагнілых
Мясіла куламаху.
Аж закіпала кроў у жылах
Ад смакаты, ад «паху».

Мы праснакі тады ўспрымалі
Лепш булак вялікодных —

З агню патэльню пераймалі
Аж дзесяць рук галодных.

Шайморы ў памяці удзячнай
Духмяняць праснакамі.
Адно не помню адназначна —
Хаця б кавалачак праснячны
Ці даставаўся маме?

## Плача бярозка

Хворай бярозка сябе адчувае:
— Што ж салавейка на мне не спявае?
Ветрык, скажы, дзе цяпер салавейка,
Дзе наш чароўны свісточак-жалейка?

Ён і будзіў — яшчэ сонейка спала,
Песня яго і дабранач люляла.
Што ж ён не лашчыць, не радуе спевам?
Вецер са стогнам узняўся над дрэвам:

— Нас салавейка надоўга пакінуў,
Тут радыяцыя — ён і загінуў...
Плача бярозка, пытае нясмела:
Што ж гэта робіцца — незразумела.

Дзень пашарэў — неадрозніць ад ночы,
Смех захлынуўся хлапеча-дзявочы.
Дзе той хлапчук, сінявокі, бялёсы —
Што ж не ідзе расплятаць мае косы?

Выдыхнуў вецер: — Нядоля настала,
Гора людзей з сваіх гнёздаў сагнала.

Тут вось, дзе «зона» ляжыць нежывая,
Вельмі няхутка зямля заспявае...

Вецер далей паляцеў неахвотна,
Толькі бярозка стаяла самотна.
Косы заблытаны, звяла прычоска,
Плечы сутуляцца — плача бярозка.

## Глабальнае пахаладанне

Ратуйцеся, хто можа! Пацяпленне!
Глабальнае! Сусветнае! Канец!
Каго палоніць жах, каго — здзіўленне —
Хто ісціну вяшчуе? Хто ілжэц?

Вядзецца дыспут вочны і завочны,
І кожны хоча сэрца закрануць:
Два палюсы — паўднёвы і паўночны,
Усё, што паміж імі — паглынуць!

А за спіною дыспутаў вучоных
Грымяць тэракты, вісне смерці цень.
І колькі іх, ахвяраў незлічоных,
На ўсёй планеце множыць кожны дзень?

Ратуйся! Пацяпленне! Канец свету! —
Валтузяць, рвуць адзін і той жа гуж.
Ды цень другой бяды накрыў планету —
Глабальнае пахаладанне душ.

## У сэрца нож

Апошні час — нядобры чарадзей,
Нядобрымі навінамі частуе.
Нібыта боль усіх зямных падзей
Для аднаго мяне сабраць гатуе.

А гэта навіна — у сэрца нож:
«Акрыленасці» абсякаюць крылы...
І зноў я горка усміхнуўся — што ж,
Вялікі боль, ды не страшней магілы.

Там кожны твор — крывінка ці дзіця,
Слязьмі душы пасвенчана папера.
Загінуць можа творчы пласт жыцця,
А разам з ім — у чалавека вера.

## Наіўнасці дзіця

А я, наіўнасці дзіця,
Пакутую: а што калі
Надыдзе час, пайду з жыцця —
Што я пакіну на зямлі?

Вачамі лашчу далягляд,
Зірну вакол — я тут прарос.
І горка мне — пакіну шмат
Да болю роднага, да слёз.

І грудзі спальвае адчай,
І холад чуецца спіне —
Вунь, сіні бор, зялёны гай
З маленства песцілі мяне.

Яднае нас давер і лад
Усё жыццё, усе гады...
Адкуль не вернешся назад,
Падацца мушу назаўжды.

Палі бывайце і лугі,
Прыму бязлітасны прысуд.
Пакіну самы дарагі,
Адзінай продкаўшчыны кут.

Бывай, рамонкавы усход,
Заўсёды новы — кладзесь сноў,
Бярозак годны карагод,
Прыстойнасць велічныў дубоў.

І, калі ёсць душа — яна
Узрадуецца, як дзіця,
Што неўміручая вясна
Усё вяртае да жыцця.

І чую вечнасці уздых:
Усё вяртае, ды не ўсіх...

## Жыцця дажынкі

Я свой погляд развітальны
Кінуў роднаму парогу.
І падлеткава-запальна
Распачаў жыцця дарогу.

Прагнуў славы — прэч бясслаўе!
Пралетарыў і калгасіў.
Шмат краін, куды дапяў я,
Шмат па свеце накаўбасіў.

Я таптаў Еўропу, Штаты,
Па зямлі выпісваў дугі.
Сэрца да бацькоўскай хаты,
На свае вярнула кругі.

Толькі радасці мне мала
Адзначаць жыцця дажынкі —
Двух братоў, бацькоў не стала,
Сваякоў, сяброў — адзінкі.

О, мой краю, сэрцу мілы,
Сад стары, платы, шпакоўні!
Мір табе, дамок падгнілы —
І зямлі паклон сыноўні.

## Благавест

Раптоўна неба лік
Заззяў, не без прычыны —
Зямля пачула крык
І прыняла радзіны.

Такі вось благавест
Стварылі часу рукі.
Зямля была замест
Бабулі-павітухі.

Пад песню салаўя
Лес віншаваў і поле.
Дамоў «прыехаў» я
У маміным прыполе.

Пазней — у далане
Тых дзён, жыццё не гасла —

Ля мэдлікаў мяне
Трымала перавясла.

І ў баразне я рос,
Качаўся, ладзіў гульбы,
Пакуль бацькоўскі лёс
Гарбаціўся над бульбай.

Я ў жыце быў снапок,
А на раллі — бульбінкай.
Вось так, за крокам крок,
Ішоў жыцця сцяжынкай.

Я захаваў давер
Да сябра-наваколля.
Ці не таму й цяпер
Услых вітаю поле?

І подыхам зямлі
Свой подых наталяю.
Паклон нясу раллі
І з лесам размаўляю.

Я шмат гадоў-кашуль
Знасіў, па-свойму вышыў.
Сыду туды, адкуль
У свет калісьці выйшаў.

## Ах, неба...

Ах, неба — месяц, зоркі,
Бяздонне, глыбіня.
Світанкі, надвячоркі,
Канец, пачатак дня.

Ах, неба — глыбы-хмары,
Нашэсце навальніц,
Перад якім абшары
Паклоняць дрэўмі ніц.

Ах, неба — жах таемны,
Маланкі, перуны.
Выток дажджоў прыемных
І снежнай белізны.

Ах, неба — сонца ласка,
Бязвоблачны блакіт.
Ах, неба — быль і казка,
Ах, неба — меч і шчыт.

## Ну яго з Парнасам!

Што сёння раніцай зраблю найперш? —
У думках сам з сабой вяду бяседу.—
Заместа снедання складу лірычны верш,
А потым верш складу замест абеду.

А што з вячэрай? Дам і ёй адбой.
Не да яды — займуся творчай справай.
Такі вось суд наладжу над сабой,
І буду жыць адной духоўнай стравай.

А ноччу ўсім паэтам не да сну —
І мы ўсю ноч не будзем спаць з Пегасам.
А ранкам... ранкам «ногі працягну».
Няўжо памру? О-о! Ну яго з Парнасам!

Не, раніцай насмажу сала я,
Абедаць буду і вячэраць потым.
Хай байкамі сілкуюць салаўя,
Але і ён галодны згубіць ноты.

## У лесе – нікога...

У лесе — нікога, мая тут персона,
Ды не, гэта — самападман.
Начхала на ўсіх — гарлапаніць варона.
За ёю крумкачыць груган.

Азвалася сонна зязюля-манюка,
Гадоў «дадала» мне — прагрэс.
А дзяцел не можа пражыць без тук-тука,
Ратуе ад вусеня лес.

Сарока стракоча задзірыста, бойка,
Па-праўдзе,— яна так пяе.
— Тут хтосці ідзе! — папярэджвае сойка,
Крычыць, нібы рэжуць яе.

Яна — вартаўніца, за кожным усочыць,
Пацвердзіць майстэрства сваё,
Таму міма вока яе не праскочыць
Ні постаць людзей, ні звяр’ё.

Танюсенька ціўкнула нейкая птушка,
Нябачна сцяжыняць звяры.

А вунь і змяя, нібы чорная стужка,
Паўзе да таемнай нары.

А вось ручаёк — мурашова дарога,
Хаця б толькі не наступіць.
Здавалася, ў лесе нічога, нікога —
Жыццё тут пульсуе, кіпіць.

У лесе нікога? Памылка, панове,
Тут вочы і вушы «вастры».
Тут зносяцца ўсе на загадкавай мове —
Мурашнікі, птушкі, звяры.

## Пачну з кахання

*(жарт)*

Сяджу, гарую сваё гора —
Аб чым пісаць?.. Сцяна. Туман.
Паэтаў развялося — мора,
Натворанага — акіян.

Узяць каханне — «тралі-валі»,
Няхай ядуць яго ваўкі.
Яго ж па костачках распялі
Браты-паэты за вякі.

Яго, як сцяг той для параду,
Наверх дасталі з-пад спадніц.
Яго і спераду, і ззаду
Апелі рыфмы да драбніц.

Пісаць ці не пісаць — дылема.
Дзе сутнасць творчасці? Дзе соль?

Хутчэй за ўсё, другая тэма
Пасля кахання — алкаголь.

Тут — свет фантазіі раздольны,
Абсяг бязмежны, не загон.
І вечнай тэмы алкагольнай
Б’е слоў фантан, як самагон.

Тут кожны з градусным імпэтам
У твор натхненне «заліваў».
І я на шумным фронце гэтым
Пабаляваў, паваяваў.

Тут правяць не анёлы — чэрці,
Таму і даў я задні ход.
Як творца, можна тут памярці,
Тут паліш кроў, паскудзіш рот.

А што ж рабіць? Куды падацца?
І дзе Пегаса не было?
Што засталося? Грошы, праца,
Зямля, вада, дабро і зло.

Пачуццяў бура, часу хвалі,
Таемства ночы, неба сінь...
Дый тут паэты здратавалі
Усё і ўся — куды ні кінь.

Не, не памерла спадзяванне,
Што крылы абжывуць спіну.
Вастру пяро — пачну з кахання,
І алкаголь не абміну.

## Нёман

І век назад, і два, і сёння
Ты цешыш і яднаеш нас...
Усе мы — дзеці прынямоння,
Хто бачыў плынь тваю хоць раз.

Праз лёс Радзімы шматпакутны,
Праз кожны асабісты лёс,
Цячэш ты велічны, магутны,
Пад небам мар, надзей і слёз.

Якая моц, якая вера
Імкне цябе за далягляд?
Ты не спыніўся, ты — наперад,
Хоць час насустрач, час — назад.

Адзіны лёс у нас навекі,
І Беларусь — адзіны дом.
Удалеч клічуць, вабяць рэкі,
Цякуць, бруяць і пад ільдом.

Так ёсць і будзе ва ўсім свеце:
Надзеі плынь не спыніць час!..
Усе мы — прынямоння дзеці,
Будзі, згуртоўвай, Нёман, нас!

## Гармонія жыцця

Юнацкая пара палоскаю зары
Чароўны дзень жыцця распачынае.
Наперадзе гады, як дні ў календары,
Спрасованы — жыццё іх разлістае.

Дарога без канца — ідзеш, а далягляд
Міражыць, вабіць абысці планету.
З усіх бакоў вясна, цвіце, буяе сад —
Адрозніць восень цвет ад пустацвету.

І мой ручай душы крынічнасцю бруіць,
Імкнецца ў белы свет незамутнёна.
Гармонія жыцця — жывое прагне жыць
І марыць, і глядзіць на ўсё ўлюбёна.

Гармонія жыцця, юнацтва чысціню,
Святло і цень былое спалучае.
Я гэта ўсё прайшоў, я гэта сёння сню,
Ды позна зразумеў — за што сябе й віню:
Прыстаўка «дыз» гармонію знішчае.

## Надзея

Пакуль не стыне кроў, бруіцца ў жылах,
Надзея — мой анёл, заўжды са мной.
Мяне трымае на нябачных крылах,
А, калі трэба — за мяне сцяной.

Крышылі лёс няўмольныя падзеі,
Цягнулі безвыходнасцю на дно.
І я даўно б загінуў без надзеі
Альбо абезхрыбеціўся даўно.

Нястомны я, пакуль са мной надзея,
Мяне не зрынуць галавой у вір,
Хоць кажуць — дурань думкай багацее,
І ўсё ж яна — апошні мой казыр.

Я ведаю — ёсць прымаўка старая,
Што у надзеі самы доўгі век,
І што яна апошняй памірае.
Ды не! Былое гэта абвяргае —
Апошнім памірае чалавек.

## Касьба

Спакой працягваў сніцца хатам,
Над імі — месяца ражок.
Надосвітку ішлі мы з татам
Касіць між лазняка лужок.

Мы з татам недаспалі ў хатцы
Таму, што рупіла хутчэй
Да сонца, да калгаснай працы,
Скасіць надзел — гара з плячэй.

Да цемры прывыкала вока,
Спіну пашчыкваў халадок.
А недзе бліскала далёка
Грымела, адпаўзала ўбок.

Расой касілася без стомы,
Рот злізваў поту гарчыню.
Мы — як вядучы і вядомы,
Пракосілі насустрач дню.

Мы ў такт замахваліся жвава,
Здавалася, што ў наш пракос
Лазняк хіснецца, як атава,
Пад націскам сталёвых кос.

Здавалася, што косы косяць
Натхнёна, не шкадуюць сіл.
А ім спрыяе таты постаць —
Сабой трымае небасхіл.

Крыху віднела. Неба пільна
Сачыла сцішана ўгары:
А раптам нечае касільна
Зачэпіцца за край зары.

Запела птушачка нясмела,
За ёй — астатнія гучней.
Мы сталі праяўляцца — днела,
Курэла пара ад плячэй.

Нарэшце дзень раскрыў павейкі
І паглынуў агонь зарніц.
А луг, як сшытак у лінейку,
За намі распластаўся ніц.

## Драч

Як толькі ліпень спусціць ноч з нябёс,
З лугоў квяцістых далятае плач,
Нібыта хтосьці скардзіцца на лёс —
Дык то не спіць, надрыўна стогне драч.

Ён, кажуць, пешшу ў вырай і назад,
Таму ў траве выплаквае тугу,

Што зноў дапне да Афрыкі наўрад,
Бо надта ногі змуліў на бягу.

Ах, то не плач, а песня! Ну і ну!
Яму тут, дома, ў мокрым лузе рай.
І ад таго шчасліўцу не да сну.
Ён так пяе, хоць вушы затыкай.

Спявай, мой дружа! Як без песні жыць!
Спявай, мой драчык, хоць не зведаў нот!
Ноч летняя — імгненне, час бяжыць,
І хутка восень, восенню — ў паход.

## Нарэшце адсняжыла

Нарэшце адсняжыла, адмяло,
Заслоны-хмары неба расхінулі,
Прыгрэла сонейка і з стрэхаў пацякло,
Яны раней за ўсіх вясну адчулі.

«Дзінь-дзінь» — ледзь гучна талі ледзякі,
Павіслыя, як трубачкі аргана.
Ручай прачнуўся спрытны, гаваркі,
І лес глядзеў у неба закахана.

Зямелька адыходзіла ад сну,
Збаўлялася ад покрываў пуховых.
Усё вітала сонца і вясну,
Стаміўшыся ад халадоў зімовых.

Я ўпотай спадзяюся кожны год —
Прыйшла вясна — бывай гадоў завея!
І на душы растане смутку лёд,
І сэрца ажыве, памаладзее.

## У абдымках бяроз

У абдымках бяроз
забываю пра сталы свой век,
І што я — дысгармоніі цень,
І што я — усяго чалавек.

У абдымках бяроз,
дзе вясной салавейка пяе,
Карані ўспамінаю свае,
І свой сорам пякучы —
грахі забываю свае.

У абдымках бяроз
я смяюся, сумую, пяю.
Тут кранае да слёз чысціня,
І узносіць мой лёс,
І душу напаўняе маю.

Як ты вабіш мяне!
Прывітанне, бярозавы гай!
Уплятай мяне ў косы свае,
Палані маё сэрца і зноў —
захапляй,
ачышчай,
абдымай!

## Спыніся, куля!

Спыніся, куля, на ляту,
Крыві ты напілася, досыць.
Ты не пчала, што носіць мёд,
Ты напладзіла шмат сірот,
Паўсвета ад цябе галосіць.

Спынiся, куля, пачакай!
О, каб ты не была сляпая,
Ты ўраз пазбавiлася б сiл
Ад колькасцi «сваiх» магiл —
Вунь, хтосьцi зноўку дол капае.

Спынiся, куля, ты — не суд,
А кроў i слёзы — не вадзiца.
Запомнi гэта адкрыццё:
Ты нiшчыш не адно жыццё,
А й тых, хто мог бы нарадзiцца.

Спынiся, куля, час яшчэ
Табе спытацца дазваляе:
Цi даспадобы вечны сон,
Цi прагне кулю ў сэрца ён,
Той, хто бязлiтасна страляе?

## Iльма

Цi ёсць яно дзе , цi няма,
Сцвяржаць, абвяргаць не бяруся.
Расце ў мяне дрэва iльма —
Цi чуў аб iм хто ў Беларусi?

З якой яно тут даўнiны?
Гадоў яму, пэўна, за двесце.
Жылi тут калiсцi паны,
Праз iх, мабыць, гэта прышэсце.

Iльма — гэта волат-крэмень,
Яна не саступiць i дубу.
На шчасце, не прыйдзе той дзень,
Якi прынясе дрэву згубу.

Шмат часу над ім прагуло,
Ды ўсё ж аб жыцці яно дбала —
Вунь, колькі вакол парасло
Нашчадкаў ягоных — не мала.

Як дзе, а ў мяне яно ёсць,
Лагойская ў дрэва прапіска.
Адкуль ён, загадкавы госць?
Дзе дрэва радзіма-калыска?

## Эмігранты

Як зразумець, як ацаніць,
У чым і дзе шукаць прычыну?
Што вас прымусіла змяніць
Сваю Радзіму на чужбіну?

Сваю Радзіму? Божа мой!
Шукаеце вы ветра ў полі.
Радзіма-маці вам сваёй
Відаць, што не была ніколі.

Кулём ляцяць ва ўсе бакі,
Хто выйшаў, хто не выйшаў «рылам» —
Дзялкі, паэты, спевакі,
Каго зямля тут ускарміла.

Хто тут ні сеяў, ні араў,
А браў, што можна і няможна —
І абсмактаў, і абабраў,
І знік, каб там дажыць заможна.

Вы кожны ля чужых сталоў
Непаўнацэннасцю адметны.

Туды — з білетам, а дамоў
І рады быў — ды безбілетны.

І не вярнуць ні вас, ні час,
І вінаватыя вы самі.
О, як жа я шкадую вас,
Авечак, што жывуць з ваўкамі,

Няхай вам будзе Бог суддзя,
У ім шукайце справядлівасць.
А я... скажу вам шчыра я —
Вы выклікаеце гадлівасць.

## Рэха

Здаецца, што дробязь, а сэрцу — пацеха,
Я крыкну, а мне адгукаецца рэха.
І я не стамляюся з рэха здзіўляцца —
Усё яно можа: спяваць і смяяцца.
То плача яно, то крычыць бясклапотна,
То нешта мармыча, то свішча ахвотна.
Бывае, дзівоснае робіцца з рэхам —
Я плачу — яно адгукаецца смехам,
Я песню жыцця заспяваю натхнёна,
Яно пазяхае асіпла і сонна.
Няўжо маё рэха мой голас крыўляе?
А што калі хтосьці яго падмяняе?
Навошта? Каб мне насаліць? Калі ласка!
Чужое «саленне» — жыцця майго частка.
Крычыць не ў папад адгалоска чужая,
Уласнае рэха мяне пацвярджае.
Я рэха гукнуў, а яно прамаўчала,
Ці я знік раптоўна, ці рэха прапала?
Зноў крыкнуў — і чую адказ! Вось уцеха!
Я ёсць! Я жывы — бо жыве маё рэха.

## Я выдаў кніжку

Я выдаў кніжку пра бацькоўскі лёс,
Так і назваў яе — «Люстэрка лёсу».
Я выдаў кніжку — лёс нашператрос,
Як кажуць, ад зямлі і да нябёсаў.

Я выдаў кніжку пра бацькоў, калі
Не стала іх раптоўна — пасля смерці.
І хоць я ёсць пакуль што на зямлі,
Пасля выдання — згодзен быў памерці.

Здавалася — сказаў усё, што мог,
Дзе словы браць для новых твораў? Кропка!
Ды той, хто падарыў мне талент — Бог,
Дапамагаў грунтоўна, нетаропка.

За словам слова раскрываў душу
Натхнёна, фанатычна і запальна.
Бягуць гады, як дні, а я пішу —
Запаснік слоў душы — невычарпальны.

## Рубеж

Для мяне тут кут Эзопаў,
Знакамітасцяў манеж —
Даражэй усіх Амерык,
Даражэй усіх Еўропаў,
Ля Купалавых Акопаў,
Хутар колішні — Рубеж.

Усяго чатыры хаты,
Лапу тут ніхто не ссе,
Ўсе гаспадары тут — хваты,

Кожны працаю багаты,
Маюць прозвішчы-блізняты —
Давідовічы — усе.

Час той дарэвалюцыйны
Быў спрыяльны Рубяжу.
Быў ды сплыў той статус дзіўны —
«Самасційны» і нічыйны.

Лёс далейшы — трагедыйны,
Бела-чорны — праз мяжу.
Сёння тут — спакой застылы,
Невядомы ўсім куток.

Лес прыціх, як птах бяскрылы,
Ды падмуркі, як магілы —
Сэрцу блізкі, сэрцу мілы
Роду нашага выток.

## Сустракаюць па адзёжцы

Пішу, каракулю, ды праўлю,
Адказнасць вісне на гарбе,
Авось яшчэ каго услаўлю,
Альбо зняслаўлю сам сябе.

Ступаю па нябачнай сцежцы,
Сяджу з сякерай на суку.
Ўсіх сустракаюць па адзёжцы.
Мяне — па першаму радку.

А па апошняму праводзіць
Ці пляск далоневы, ці свіст...
Дзяцей жанчына ў муках родзіць,
Як родзіць вершы чысты ліст.

## Прагматызм

Каб схамянуць людзей гурток,
Крануў суседа для гамонкі:
— Чаму ты восенню, браток,
Уздзеў кажух, абуў валёнкі?

Адказ пачуўся неўпапад,
І нават выклікаў усмешку:
— Ці ж гэта восень — лістапад?
Снягі і маразы — па плешку!

Хоць снежань на дварэ, хоць май,
Зірні ў акно, на ганак крочы,
Тады на каляндар начхай
І ўсім прагнозам плюй у вочы.

## Незабыўная пара

Гармонік граў на ўсю акружыну
І сэрца паланіў, і слых.
Шукаў тут суджаную суджаны —
Ці маладыя маладых.

О, вечарыначка вясковая!
Драбнютка полечка ўразнос!
І «ночанька» заўсёды новая,
І вальс нібы на крылах нёс.

Дзяўчаткі, сціпласцю прывабныя,
Як кветкі ў лузе — цесна ім.
А мы, фарсістыя і зграбныя,
Ля іх махоркаю дымім.

Вунь — Томы, Галі, Зосі з Нінамі,
Як звыкла ў танцы іх кружыць...
Я праз паўвека успамінамі
Жыву і доўга буду жыць.

Найсветлая, непараўнальная
І незабыўная пара!
Юнацтва чысціня крыштальная
Згасае, як пад ноч зара.

## Лысы

А я яму ласкава: — Лысы!..
Нібыта сябру — не каню.
Да цёплых губ яго, да пысы
Падношу з хлебам даланю.

А ён і ёсць мой сябар шчыры,
Хоць я сусед, не гаспадар.
Рве жылы, не шкадуе сілы
Захамутаны конік мілы —
Людской няўдзячнасці ўладар.

І дні будзённыя, й нядзельку
Ўсе сілы працы аддае
За жорсткасць пугі, за бутэльку,
Што зарабляе ды не п'е.

На лузе, летнім ранкам раннім,
Ледзь толькі стрэсла сон зямля,
Ён прывітаў мяне іржаннем —
Заўважыў і пазнаў здаля.

Я падышоў, а ён міжволі
Шчаку мне пысай — «прыгубіў».
Таму, напэўна, што ніколі
Ні мацюкаў яго, ні біў.

Удзячны я за шчырасць, конік,
Але сціскае сэрца жудзь —
Вы з вёсак зніклі, як гармонік,
Які ні ўбачыць, ні пачуць.

Вы зніклі, нібы вечарынкі,
Нібы прыпевак карагод...
Вы ёсць пакуль, але адзінкі.
І мы кіруем вас на звод.

А з будучыні чадна крочыць
Слата жалеззя да людзей.
Яму не зазірнеш у вочы
І не прыціснеш да грудзей.

Яно не заіржэ прыветна,
Наш боль сабе не забярэ...
І ў чалавеку непрыкметна
Штось чалавечнае памрэ.

## Чорны гумар

Баюся, каб не быць бядзе.
Схапіў я забароны тыя —
І сівізной па барадзе,
І рэбрына чагосці ныя.

Мне ўтумкалі даўно бацькі,
Што грэшнікі Адам і Ева.

Я ўсё жыццё йшоў напрамкі
Цяпер — пачаў глядзець налева.

Не дайце мне туды крутнуць,
Я дому, я сям'і належу.
Чыё б мне сэрца закрануць?
Хто ўчуе? Ад каго залежу?

О, гэта «лева», як сіло,
Душа там стыне, сэрца гіне.
І там «налева»,— што было,
Чым жыў — усё пад ногі кіну.

Мне гэта «лева» — ў сэрца нож.
Ноч для пачуццяў ацалелых...
Іду, гляджу налева ўсё ж,
Чытаю: «Дом для прыстарэлых».

## Эксперымент

Я вып'ю гарэлкі, заем агурком
І ноччу на месяц завыю ваўком.
Бяздоннае неба, ад зорак рабое,
Не ў сілах адрынуць здзіўленне нямое.
Над вёскай, над лесам, над лёсам — самота,
Наўкола, як сола, як ноч — адзінота.
У хату вярнуўся — пасцель нібы лёд,
На шчырасць, на душ спадарожных — няўрод.
Люблю адзіноцтва — лжэісціна крочыць.
Люблю адзіноцтва — ды плюньце мне ў вочы!
Ён сам ад сябе згодзен дацца наўцёкі
І нават не жыць, чалавек адзінокі...
Я сум свой адклаў, зазбіраўся ў дарогу —
Паеду дамоў, да сям'і, дзякуй Богу.

Свой эксперымент я закончыў, і вынік
Пазней падвяду, несапраўдны пустыннік.
Люблю адзіноцтва... Адна тут умова —
Любіць яго лёгка не доўга, часова,
Прыемна «здзічэць», цішынёй агарнуцца,
На месяц павыць — і дадому вярнуцца.

## Прыемныя кантрасты

Дождж забаўляўся клавішамі шыб,
Дасужы вецер падпяваў са свістам.
Завісла хмара, як разлезлы грыб,
Над лесам пашарэлым і плячыстым.

У наваколля выгляд — слёзны сум,
Яно слаце працівіцца адчайна.
А ў небе, перасільваючы тлум,
Птушыны клін, заплакаў развітальна.

Асіплы вецер з кроплямі дажджу,
У вокны б’ецца, просіцца у сенцы.
А я ў цяпле і ўтульнасці сяджу,
Гараць у грубцы весела паленцы.

Патрэскваюць, гудуць на ўсе лады,
І ліжа іх агеньчык языкасты.
За вокнамі — макрэча, халады,
А ў хаце — рай. Прыемныя кантрасты.

# Паэт і крытык

*(жарт)*

Паэта крытык закрануў за «зёбры»,
І між радкоў параіў ад душы:
— Як чалавек, ты, безумоўна, добры,
А як паэт... ты лепей не пішы...

Раз’юшыўся паэт, як бык у стойле,
Як скарпіён, сябе гатоў забіць.
Дый крытыку рыхтуе помсты колле.
А да мяне з пытаннем: — Што рабіць?

Параіў я: — Спыні ты трэск сарочы,
Збярыся з духам, вершаў стос вазьмі,
Да крытыка схадзі і — вочы ў вочы,
І там, дзе падкузьміў ён — разкузьмі.

Ён ускіпеў: — Пра што ты тут гутарыш?!
Тады я змоўк, а ён далей злаваў:
— Ці ж ластаногі гусь свінні таварыш?
Ці ж кот сабаку сябрам называў?

І так ён распаліўся, небарака,
Што, пэўна, не адрозніць ноч ад дня,
І хто тут будзе кот, і хто сабака,
Хто ластаногі гусь, а хто свіння?

Не ведаю, дзе той паэт упарты,
Ці творыць, ці працягвае злаваць...
І крытык, і паэзія — не жарты,
Асцерагайся з імі жартаваць.

# Не хлебам адзіным

*Памяці М. Л. Растраповіча*

Вялікі музыкант пайшоў з жыцця,
Адпрацаваў сумленна і старанна.
Ён на куце сусветным, як куцця,
Сядзеў вілаянчэльна і пашанна.

Імчала слава нібы снежны ком,
Яе ён множыў мазалём і потам.
І так майстэрскі пілаваў смычком.
Што ў партэтуры цесна было нотам.

Гастроляў не злічыць — за турам тур,
За залай зала — памнажалі славу.
І нават палітычных партытур
Не прапускаў маэстра — ведаў справу.

Як кажуць, раем будзь яму той свет,
І памяць хай палае, не ліхтарыць...
А вунь, цераз дарогу, мой сусед
Працуе ўсё жыццё і гаспадарыць.

Махаў касой — куды таму смычку!
Быў у калгасе першы завадатар.
Ён быў «падмуркам» хлебу, малаку,
Камбайну рады даў, асвоіў трактар.

Ён працаваў ад ранку да цямна,
Ён накарміў адзін — людзей без ліку.
І састарэў — сагнулася спіна,
Век дажывае годна і без шыку.

І ён сваёю сціпласцю мудрэй
За ўсіх паркетных, хто не мацаў глебы,

Хоць не прыдбаў карцінных галерэй
І іншай шматмільённай непатрэбы.

Што ж, не заўсёды наш жыццёвы век
Спрыяе і заслугам, і патрэбам.
Без хлеба жыць не можа чалавек.
Ды дзякуй Богу — не адзіным хлебам.

## Адлегласць

Пачатак і канец...А што між імі?
Чым ён запоўнены, жыцця сусвет?
Адзін пятляў дарожкамі крывымі,
Таптаў зямлю — і не пакінуў след.

А хтосьці пеў сярод зімы і лета,
Пеў салаўём, зязюляй кукаваў.
Ды тут, як кажуць, песня яго спета,
Бо ён не пеў, а іншым падпяваў.

Ды і ў мяне не складвалася гладка —
Раскідваўся гадамі маладымі.
Жыццё, на жаль, не распачнеш спачатку —
Цяпер спрабую даганяць гады.

Народзіны і смерць...Адлегласць гэту
Ні вёрсты вымяраюць і не час.
Магчыма й за імгненне здзейсніць мэту,
А век жыццёвы змарнаваць за раз.

## Гультай

У хаце — печ,
У лесе — дровы,
А пасярэдзіне — гультай.
Гультай настолькі адмысловы,
Што пешшу у Кітай гатовы,
А печ зімой — хоць прападай.

Печ-маці халадней ільдзіны,
Непаленая ў халады,
А вось гультай глытае кпіны,
Сінее, нібы пуп курыны,
Дрыжыць, а з хаты — нікуды.

«Дастаў» мяне гультай-ахлэмак,
Што ні зіма, то з ім — бяда.
Вазьму я дроўцаў абярэмак,
Хай грэецца чатырохсценак —
Не гультая, а печ шкада.

## Крык мухі

Танюсенька загаласіла муха,
Напэўна, у абдымках павука.
Ледзь далятае гэты гук да вуха,
Не зразумець, з якога ён кутка.

Яна ў бядзе — сваёй крывёю поіць
Пачварыну. Мацней, гучней крычы!
Мяне яе галоскі непакояць,
Я й рады быў бы ёй дапамагчы.

Ды як знайсці, дзе бедалага б’ецца?
Яе зумдзенне ледзьве-ледзь гучыць.
А ёй, перадсмяротніцы, здаецца,
Што на ўвесь свет яе бяда крычыць.

Ды не, пакуты мухі-весялухі
Свет не пачуў між безлічы падзей.
Падумаеш, жыццё маленькай мухі! —
Вунь, колькі незаўважаных людзей...

## У хаце маёй

На сценах, у хаце маёй,
Ні Рэпін, ні Хруцкі, ні Водкін,
А ў рамах адзінай сям’ёй —
Суседзі, знаёмыя, продкі.

Я чхаў на сучасны кураж.
Дзе купля, (не продаж) — прадажа.
Далёка табе, Эрмітаж,
Да хаткі маёй — вернісажа.

Тут лёсаў працяг — не паказ,
Тут час адраджаўся шматкратна.
Заходзьце, сустрэнуць тут вас
Найшчыра, прыветна, бясплатна.

Як сведкі часоў пасівелых,
Мінулых падзей аднагодкі —
Глядзяць з фатакартак зжаўцелых
Суседзі. Знаёмыя. Продкі.

## Сэнс жыцця

О, сэнс жыцця! Які кашуля-хлопец!
Я — дысертацыя, а ён — буквар.
Ён не падставіць ножку, і не ўтопіць,
Ён — паднявольны, я — яго ўладар.

Як гэта проста — пі ва ўсю паветра.
Глытай праменняў лекавы бальзам.
Грызі, смакчы, як качарыжку, нетры
І толькі помні: — «Адчыні, Сезам!»

Мы паўтараем шлях памылак генны
Прымаем гузакі дзядоў, бацькоў.
Ішлі гады, я біўся лбом у сцены
У цемры нечаканых тупікоў

Разьбу жыцця падправіць лёсу лерка.
Пыл з-за вушэй скразняк падзей садзьме.
На сэнс жыцця я глянуў праз люстэрка,
Якое новым падалося мне.

О, сэнс жыцця! Я да цябе з павагай!
Не я цябе, ты да мяне — на «ты».
Ты так пераканаўча хрысціш дзягай,
Так секанеш, ажно трашчаць парты.

Хто сёння я? Рэальны ці умоўны?
Сустрэне сэнс мяне ці абміне?
Сэнсоўны сёння я ці бессэнсоўны?
Вось сэнс жыцця: — Патрэбны я ці не?

Я паступова з думкай парадніўся,
Яна — святая соль жыцця майго:
Не, сэнс не ў тым, што хтосьці нарадзіўся,
А сэнс у найгалоўным: — Для чаго?!

## Скажы чытач

Скажы, чытач, ці тое я пішу?
Будзь мне замест суддзі, замест Галгофы.
Ці здолеў я крануць тваю душу
Сваёй душой, укладзенай у строфы?

Я ведаю — тут розны падыход,
У кожнага свой густ, патрабаванні.
Паэзія — той незвычайны брод.
Дзе найглыбей шукаюць пераход.

Усходаў паэтычных каласы —
Галоўны скарб, галоўны мой пажытак.
Паэзія жыве ва ўсе часы,
Бо ёй жыве чытач — галоўны крытык.

Ці ёсць ён дзе, загадкавы Парнас?
Другое мне вядома дасканала:
Без чытачоў стрыножыўся б Пегас —
І гэта, як ні што, яднае нас.

## Ачышчальная крыніца

Дарога ў Храм ляжыць цераз душу,
Дарога ў Храм праз сэрца пралягае.
Адно я ў Бога для сябе прашу —
Няхай маю любоў не адвяргае.

Я шмат грашыў, пакуль прыйшоў у Храм,
Было сляпым блуканне-падарожжа.
Я свята веру, што прыйшоў не сам,
А ты мяне прывёў у Храм, о Божа!

Хрысціўся я, як толькі грымне гром,
Міналі хмары — зноў спіной да Бога.
І вось стаю я перад алтаром,
Як блудны сын ля роднага парога.

Нічога не прашу — наадварот,
Іду сюды з удзячнасцю схіліцца,
Бо ажыла ў душы на схіле год
Святая ачышчальная крыніца.

## Маленькая радзіма

Гады жыцця знікаюць за плячыма,
Падзей мінулых не пералічу.
Я да цябе, маленькая Радзіма,
На крылах светлай памяці лячу.

Пад родным небам сэрца спадзяецца,
Што і ў жыцці сучасным казка ёсць —
А раптам мне маленства адгукнецца.
А раптам тут сустрэну маладосць.

Я з-за мяжы не прагну анічога,
За ўсё ўдзячны бацькаўшчыне я.
Стаю, як сын, ля роднага парога
Перад табой Лагойшчына мая.

## Маленства

Нібыта ў набажэнстве,
Дзе сонечныя дні.
Душа жыве ў маленстве.
Ў святой далечыні.

І хоць было ў ім горка
І голадна было,
Яно — жыцця падпорка.
Дзіцячых год святло.

І я маленства помню —
Нястачу, слёзы, смех.
Па сонечнаму промню
Я ранкам з хаты бег.

Мяне гукалі мары
Да таямнічых мэт.
І вабілі абшары
У невядомы свет.

За далягляд жыццёвы —
Дарога без канца.
У бездань дзён ружовых
Прыемна даць нырца.

Як крыламі, рукамі
Махаў я, нібы ў сне,
А неба жаўрукамі
Спявала гімн вясне.

## Жанчыны-адзіноты

Вось ён, вясковы чалавек,
Убор — ватоўка, боты.
І тут свой дажываюць век
Жанчыны-адзіноты.

Іх лёс са шчасцем не ў ладах.
Яго не перайначыць.
Хапае іх і ў гарадах,
Ды там іх цяжка ўбачыць.

А ў вёсцы напаткаеш іх
Амаль на кожным кроку.
Не мала гэтых баб старых,
Яны навідавоку.

За лёс цяжкі чужой віны
Не прагнуць сэрцам чулым.
І толькі думкамі яны
Далёка — у мінулым.

Маленства там, гады вясны,
І сонейка, і хмары.
На жаль, няспраўджаныя сны,
Няздзейсненыя мары.

Удоўства — жах, як ні кажы,
Змушае жыць няшчасна,
Бо спрацаваныя мужы
Пайшлі з жыцця заўчасна.

Даўно б змарнелі бабы, каб
Не іх адзінства ў горы.
Што на душы у гэтых баб?
Што ім надзею дорыць?

Усё змаглі — араць, касіць,
Пасціць, мяхі цягалі.
Іх трэба на руках насіць,
А іх недакахалі.

Цураліся ласкавых слоў
Мужчыны прыжыццёва,
Пакуль «не напладзілі ўдоў» —
Вось тут і ўся размова.

Жыццё адной — душой крычыш,
Ды хто пачуе крыкі?
І ўсё ж нясуць яны свой крыж,
Нясуць свой боль вялікі.

## Непараўнальнае

— Скажы, Радзіма дзе твая? —
Спытаў хтось насцярожана.
— Лагойшчына! Ці ж мог быць я
Другой зямлёй народжаны?

Зямля дала мне крылы тут,
Тут здзейсніў свае мары я! —
А мне ў адказ: — Дык гэты ж кут —
Лагойская Швейцарыя!..

Я гэту дурасць чуў не раз
І кляў яе без літасці:
— Пры чым Швейцарыя да нас,
Да нашай самабытнасці?

Чужыя мераем штаны,
Фарсім чужой сарочынай.

Няхай швейцарцы, хай яны
Свой дом завуць Лагойшчынай!

Свая там «ноша на гарбе»,
Свае пейзажы горныя,
А мы падобны да сябе
І гэтым непаўторныя.

І прыгажэй кутка майго
Няма нідзе! — гутару я,—
Што тут прыклала да ўсяго
Да гэтага Швейцарыя?..

О, родны лес і сенажаць,
Рачулкі салаўіныя!
Ні з кім цябе не параўнаць,
Зямля бацькоў адзіная!

## Успамінаў маіх далягляд

Схамянуся і сэрца кране
Успамінаў маіх далягляд...
О, як сохлі дзяўчаты па мне!
О, як я трапятаў ля дзяўчат!

І здаваўся бясконцым той час,
І ўяўлялася вечнай вясна,
Ды ніводзін не думае з нас,
Што за крок ад вясны — сівізна.

Што той час непаўторны міне,
Хутка знікне ружовасці дым...
І ніхто больш не сохне па мне,
Толькі я па сабе, маладым.

Ды, магчыма, праз той жа ўспамін
Хтосьці скрывіць бяззубы свой рот:
— Цалаваў, абяцаў, сукін сын,
Ажаніўся ж з другой, абармот!

## Зямлі Лагойскай родны сын

Я родам з гэтых вось мясцін,
Якімі ганаруся —
Зямлі Лагойскай родны сын
І маці-Беларусі.

Не мала бачыў я краін.
Нёс гонар за мяжою,
Што я зямлі Лагойскай сын,
А ўсё вакол — чужое.

Зямлі, дзе нарадзіўся й рос,
Ёй здрадзіць немагчыма!
Ёсць слова важкае, як лёс,
Нібы жыццё — Радзіма.

## Акрыленасць

О крылы надзеі, душэўнага ўзлёту!
Як лёгка мне з вамі заўжды
Тварыць, працаваць аж да сёмага поту,
Нібыта я зноў малады!

Вы здольныя ўзняць да вышынь у імгненне
Задумкі-пачуцці мае,

Як быццам бы маці-Зямлі прыцягненне
Увогуле не існуе.

Вядома, што сэрца — то ў шчасці, то ў пекле,
Такі, кажуць, творчы працэс.
О крылы душы! Толькі б вас не абсеклі,
Не зрынулі раптам з нябес!

## Вера

Вядзі мяне, Божа, далей па жыцці,
Душы светапогляд спадобі азрочыць.
Дай моцы яму пашырацца, расці,
Лунаць, акрыляць, асвятляць — не сурочыць.

Хвалюе і вабіць жыцця далягляд
Вясёлкава-казачны і ілюзорны.
Хоць безліч адценняў і колераў шмат,
Ды толькі галоўныя — белы і чорны.

## Сябры

Няпроста без сяброў пражыць,
Хоць ты «прышпілены» — сямейны.
Сяброўства трэба заслужыць,
Сяброўствам трэба даражыць
І даказаць, што ты — надзейны.

У час нялёгкі — прэч, кураж! —
Сяброўскае падтрымкі прагну.
Але і я на заклік ваш,
Гатовы і ў агонь, і ў багну.

## Мара

Мне б зімку перажыць,
Пачуць бы жаўрука.
Ды ўсё хутчэй бяжыць
Майго жыцця рака.

Душой — увышыню,
А цела ў багну год.
Ці не таму я сню
Штоноч адно — узлёт.

З імпэтам маладым
Раблю за крокам крок,
Каб з вечнасцю ў абдым
Лунаць сярод аблок.

## Чарга мая

Сярод сяброў, сярод знаёмых,
Людзей звычайных і вядомых
Адзінкі грэюць сэрца мне.
А большасць, акрамя адзінак,
З уласным ценем паядынак
Вядуць ці «мокнуць у віне».

Што б я рабіў без вас шаноўных,
Сяброў душэўных і духоўных?
Сутрэчы з вамі рады я.
Ды толькі ладзяць нам спатканні
Ўрачыстасці ці пахаванні —
Наперадзе чарга мая.

## Утопія

Ці бачыў хто, як птушка памірае?
Ці чуў хоць хто, як рыбіна крычыць?
Відаць, за тое Бог людзей карае,
Што сэрца да чужой бяды маўчыць.

І скажуць мне: — Па кім ты ставіш свечкі?
Па птушцы? Па кузурцы? Смешна чуць!
Зірні вакол — не ручаі, а рэчкі
Людской крыві па ўсёй зямлі цякуць.

І, сапраўды, мой прыклад нетыпічны,
Гудзе планета наша ад падзей —
Тэрарыстычна ці «дэмакратычна»,
А людзі нішчаць гэткіх жа людзей.

Адкуль такое ў нас? Што з намі стала?
Заснула сэрца на дабро і зло:
— Адзін забіты? Дзесяць? Гэта мала!
А-а, там забілі сто — куды ні йшло!

Здзічэлы час бярэ людзей на мушку.
Вунь, новая людской крыві рака —
Хто ў гэтай бойні пашкадуе птушку?
Заўважыць хто кузурку, матылька?

І толькі там, дзе светам будзе правіць
Не грошы з нафтай, а да ўсіх любоў,
Жыццё жыцця ніколі не пазбавіць,
Не будзе ліцца бессэнсоўна кроў.

## Аналогія

Лясы прыціхлі і палі,
Нібыта перад навальніцай.
А-а, вунь і хмары напаўзлі,
Пускаюць джалы-бліскавіцы.

Знянацку вецер схалануў
Траву, кусты, загойдаў голле,
І дождж наўскоса паласнуў
Па пацямнелым наваколлі.

І загуло, і зараўло,
І безгалоўе застагнала,
І хмары чорнае крыло
Глынула сонца, жах нагнала.

Калі ж прайшла вады сцяна
І зацвілі вясёлкі-стужкі,
Закрасавалася вясна,
Зашчабяталі звонка птушкі.

Зіхцела сонца на расе,
Было і весела, і шумна,
Раскрылі вочкі краскі ўсе,
А я стаяў і думаў сумна:

Над светам іншы гром чуваць,
Стварaем і маланкі-джалы,
І страшныя лёсапавалы,
Каб, перажыўшы ўсё — спяваць.



## Дарогі клічуць

Дарогі клічуць да Купалы,
У творчы свет, якім ён крочыў,
Туды, дзе ён пісаў, прарочыў —
Дарогі клічуць да Купалы.

Да песняра дарогі вабяць,
Адчуць душу яго і словы,
І мілагучнасць роднай мовы —
Да песняра дарогі вабяць.

О велiч бессмяротных твораў!
Дазволіць сэрцу наталіцца
Духоўнай спадчыны крыніца —
О велiч бессмяротных твораў!

## Повязь з мінулым

Прашу цябе, сэрца маё, не балі,
Я крыж свой нясу — абавязак мой сынаў,
Бо тут, на Карпілаўскай маці-зямлі,
Дзе колісь прыстойныя людзі жылі,
Адзін застаюся сярод успамінаў.

Змяніліся нават палі і лясы...
Дзе блізкія? Родныя? Клічуць і клічуць.
Мне спаць не даюць галасы, галасы
Пайшоўшых з жыцця — галасы і аблічча.

Былое міражыць, як прывід-дымок,
Не дзецца нідзе ад мінулага путаў.
У сэрцы — збалеласць, у горле — камок,
Наперадзе — мора душэўных пакутаў.

## Бяздомнікі

Бяздомнікі — мой боль, «жывыя цацкі»,
Абрыдлыя гаспадарам сябры.
Ваш новы лёс, бязлітасны, нянацкі,
Вас выштурхнуў на жорсткія двары.

І ні прытулку, ні былое ласкі,
І голад, голад — можна рот зашыць.
І людзі, людзі — твары, нібы маскі,
І бездагляднасць, хоць людзей кішыць.

Не, не дадуць ні крошкі вам «крутыя»,
Чый карак тлусты рве кушуляў «ГОСТ»
Падкормліваюць вас, чым могуць тыя,
Каго штодня чакае дома пост.

Туляюцца між намі небаракі,
Па шчырасці важней за нас яны.
Бяздомнікі, мой боль — каты, сабакі,
Вы кожны — вінаваты без віны.

Я шмат паразумнеў, як стаў сталейшы,
Дый кожны разумнее праз гады...
Каб бедных не падтрымліваў бяднейшы,
Хто б на багатых працаваў тады?

## Душа і духоўнасць

Душа і душэўнасць, духоўнасць і дух —
Як ветразі над неабсягам Сусвету,
Як крылы, з якімі імклівасць і рух,
Як самаахвярнасць за кожную мэту.

Ствараючы свет, Бог зямлянам спрыяў,
Даў зорнае неба, даў сэрцам каханне.
З пячорных, наскальных «лістоў» і выяў
Духоўнасці скарб папаўнялі зямляне.

Душа і духоўнасць — гармоніі лік,
Дай, Бог, не забыцца на ісціну гэту.
Душа без духоўнасці — лёсу тупік,
Душа без духоўнасці — горш пустацвету.

## Былым сябрам

Шлях па жыцці мы выбірем самі,
Ды здольна раптам павярнуць яго
Бяздушша тых, каго лічыў сябрамі,
І атрымаў «падзяку» ад каго.

Я з горыччу «сяброўства» азіраю,
Было мне цяжка — вы глядзелі ў бок,
Маўчанне ваша — ваша хата з краю,
Падтрымка ваша — галава ў пясок.

Мяне, магчыма, назавуць злачынцам
Ці здраднікам, ды адкажу я ім: —
Чым вечна быць сярод сваіх чужынцам,
Лагічней быць сярод чужых сваім.

## Веру!(?)

Магутны Бог, перад тваім парогам
Яві мне цуд за ўсё жыццё хоць раз —
Хай маналог мой стане дыялогам,
Каб мог пачуць я ад цябе адказ.

Душу мне паскалолі думкі-джалы,
Пытанне не дае спакою мне:
Кім створаны наш свет недасканалы?
Няўжо табой? Не! Тысячу раз не!

Ці ж мог бы ты паслаць на брата брата,
Каб не ваду, а кроў піла зямля?
А ў чым перад табою вінавата
Памерлае дзіцятка-немаўля?

Зноў у тупік вядуць пытанняў рэйкі:
Хто ён, вунь той, з нахабствам у вачах,
Што за жыццё не зарабіў капейкі,
А на грашах жыруе, на харчах?

Дазволіць ён сабе Гаваі, Каны,
Уцехаў экзатычных не міне.

А той, вунь побач, працай змардаваны,
Век дажывае з думкай: — Жыў ці не?

І свет крывавіць у штодзённай бойцы,
І жорсткасць валіць будучыню з ног.
Чаму ты спіш, калі не спяць забойцы?
Чаму не нішчыш зло, калі ты Бог?

Трагічных лёсаў не злічыць у свеце,
І іх, здаецца, толькі множыць час.
Усе, хто на Зямлі — тваё мы дзеці,
Няўжо ёсць нелюбімцы сярод нас?

Я не прадаў сваю душу хвастатым,
Табе аддаў свядома, задарма.
Дай нейкі знак — у чым я вінаваты?
Ці ёсць ты недзе, ці цябе няма?

Я ў мітусні пражыў будзённа-шэрай,
Рваў путы лёсу, рваў жыцця гужы.
Хачу пайсці з жыцця са светлай верай,
Пачуй мяне, о Бог, дапамажы!

Калі ж табою буду я пачуты,
Няхай твой суд мяне не абміне.
Ты ад сумненняў, ад грахоў-атруты
Ачысць маю душу, пазбаў мяне.

Я ўсё табе даверыў, мары, мэты,
Я шмат табе сказаў, а ты маўчыш.
Я за цябе, за тое, што ўва мне ты,
Гатоў ісці на эшафот, на крыж.

Я на крыжы ад болю рот ашчэру,
Крывавы ком глыну ў паўзабыцці.
Хачу, каб слова з маіх вуснаў: «Веру!»
Сарвалася апошнім у жыцці.

## Захлынецца сэрца

Захлынецца сэрца цёплым успамінам,
Болем горкіх стратаў горла ціскане.
Я без мамы й таты перастаў быць сынам,
Да каго ў сумоце прытуліцца мне?

Вечнасці бязмежнай бездань паміж намі,
Ран душэўных безліч, сумных дзён — слата.
Светлае — ў мінулым, лепшае — з бацькамі,
Я без мамы й таты — горкі сірата.

## Перамога

Векапомныя дарогі
У мінулым — адгулі.
Да вялікай Перамогі
Праз пажар вайны вялі.

Боль, пакуты і адвага,
Брэст, Хатынь і Сталінград...
На пампезнасці Рэйхстага
Крыж паставіў наш салдат.

Поўняць свет набатным звонам
Незабыўныя гады.
Памяць светлая мільёнаў
З Перамогай назаўжды.

Гэта памяць будзе свята
Несці славу праз вякі,
Славу ратную салдата
Подзвіг ваш, франтавікі.

Перамога! Перамога!
Пік ліхіх саракавых!
Бессмяротная дарога
Да Берліна ад Масквы.

Перамога! Перамога!
Свята святаў, боль жывы.
Бессмяротная дарога
Да Берліна ад Масквы.

## Вечар задумлівы

Вечар задумлівы, ціхі, празрысты,
З дрэвамі зноў карагоды вадзіў.
Водгук далёкі, хвалюючы, чысты,
Жыва душу абудзіў.

Не адгуло, не прайшло, не адпела,
Кожны ўспамін,— як кругі на вадзе.
Вунь і бярозка насустрач нясмела
Марай з юнацтва ідзе.

Родны абшар, прыгажосць векавая,
Штосьці ў душу залятае здаля,
Чую — матуля ў маленстве спявае,
Чую — спявае зямля.

## На ўсе часы

Мы ўсе пад Богам у бясконцасць крочым,
Бязлітасны пад ім жыццяварот...
Мой брат старэйшы стаў даўно малодшым,
Я пераўжыў яго на дваццаць год.

Хаця і часу не прайшло багата,
На месца ўсё расставілі гады.
На фотаздымку — аднагодак тата,
Тады — стары, а сёння малады.

А вось і мама — з вечнасці бяздоння,
Прыгожая, хоць стаў на абразы.
Тады старой здавалася, а сёння
Я за яе сталейшы ў два разы.

І Галечка, якой Стваральнік-дойлід
Адмераў скупа — годзік усяго.
А мне б вярнуць вас з нематы-няволі
У дзень сучасны, да жыцця майго.

Гляджу я вочы ў вочы — не агульна,
І сэрцам чую вашы галасы.
О, як было мне з вамі жыць утульна,
І холадна без вас — на ўсе часы.

## Нязбыўны сон

Усе вярнуліся дахаты,
Хто стрэлам сонны лес будзіў,
Застаўся недзе памагаты —
Ганчак адбіўся, заблудзіў.

Зіма прыціхла чорна-бела,
Марозу — не кажы да трох.
І неба мутнае счарнела,
І нехаця, пасалавела,
З-за лесу месяц выткнуў рог.

Хоць паляўнічы ледзь не плакаў,
І клікаў, і не спаў начэй,
Але ад гэтага сабаку —
І ні цяплей, і ні лягчэй.

За ноччу ноч — і месяц стылы,
І безнадзейнасць — дзень за днём,
І на бягу згасалі сілы,
І ногі пёк мароз агнём.

Ён бегаў, выў, брахаў — і слухаў.
Ён ратаваў сябе, як мог...
Засмучаная завіруха
Заплакала над ім, дзе лёг.

А недзе рог трубіў зазыўна
І клікаў на адчайны гон.
Няўжо ён бачыць сон нязбыўны,
Прыемны і апошні сон.

## Вышыванкавы час

Вышываныя кашулі
О, як грэлі сэрца нам!
Стрэсла грошыкі матуля
І купіла іх сынам.

Не таму, што гэта модна,
І ні ў гору нос — фарсіць,

А па-беларуску, годна,
Наказала іх насіць.

Вечарынка ці гулянка
І жаданей, і мілей.
І рабіла вышыванка
Кожнага душой чысцей.

Успамін не дапаможа
Тагачасных бачыць нас...
Як жа выглядаў прыгожа
Вышыванкавы той час!

## Летам – сані

Я прачнуўся й схамянуўся,
Рот раскрыў — нямы.
Я ў палоне апынуўся
Матухны-зімы.

Звечара зямля — вуголле,
Далеч — чарната.
А за ноч прыгнула голле
Белая слата.

Пазайздросціць прыгажосці
Майстра палатно.
Дзве сінічкі, мае госці,
Селі на акно.

Паўімгнення — і няма іх,
Толькі «пі» чуваць.
Спрытнасць ім дапамагае
Зімку зімаваць.

Я адкінуў хваляванні,
Дровы ў печ нясу —
Летам рыхтаваў я сані.
Час кляпаць касу.

## Мая Карпілаўская восень

Тры месяцы, як тры браты
Пары залочана-стракатай.
Са мною кожны з іх на «ты»,
І з кожным я, нібыта з братам.

Тры месяцы, мы — як адно,
Яднанне душамі — сам-насам.
Мне не пісалася даўно,
Як побач з імі, гэтым часам.

Мяне прыход іх спавядаў
І хваляваў, і штосьці прарочыў.
Я шмат бы верасню аддаў,
Каб ён даўжэй глядзеў мне ў вочы.

Гаёў, яшчэ зялёны шум,
Усход па-летняму ружовы.
І светлы ўздых, і ціхі сум —
Асобны водар вераснёвы.

Душа ў кастрычніцкія дні
Не сонцам,— фарбамі сагрэта —
Вакол нібы гараць агні,
І зноў святкуюць бабы лета.

Душу кастрычнік залаты
Птушыным выраем галосіў.

Мне сэрца высветліла ты,
Адзінай продкаўшчыны восень.

Я хваляваўся неўпапад,
Баяўся тройкі белых коней.
І спачувальны лістапад
Не выпускаў цяпла з далоняў.

Мне лістапад пісаў лісты
І рыфмы й першы снег прыносіў...
Вось і закончылася ты,
Мая Карпілаўская восень.

## Раздваенне

Я зноў у гарадской кватэры,
Як тапаром, пішу.
На ўсе замкі замкнёны дзверы
І клямку на душу.

Што значыць для душы прастора —
Акрыленасць радкоў!
Я толькі што адтуль — учора,
Зноў пад дагляд замкоў.

Да вечнага супакаення
Нясу жыцця прысуд:
Душы і цела раздваенне,
То там яны, то тут.

## «Я»

Ту я жыў, тут я рос, тут цудзіў,
«Выкабельваўся» — сорам прызнацца.
Я за сонцам, за плугам хадзіў,
Мне было — усяго чатырнаццаць.

Я душу таму часу аддаў,
Я спяліў сябе неаднабока,
Я зачытваўся, недаядаў,
Я насіў сваю годнасць высока.

Я й сябе разам з коньмі цугляў,
Я смактаў мудрасць продкаў, як соску.
Падсвядома тады спасцігаў
Кладезь энцыклапедый праз вёску.

Я адчайна шукаў сваё «я»,
Як цяля на вяроўцы, прастору.
Вечнай спадчынай будзе мая
Сцежка মараў, што вабіла ўгору.

І калыска мая — родны дом.
І бацькі, што заўчасна старэлі,
І «банкет» за бацькоўскім сталом,
Дзе ад сціпласці страўнай быдрэлі.

«Я» — мацнела між шчырых людзей,
«Я» — ахоўваў і час спецыфічны,
«Я» — складалася з мноства падзей,
Як абстрактны партрэт мазаічны.

Дзе пачатак таго ручая?
Дзе ён кропляй жывой абудзіўся?..
Не, не меў бы правоў я на «я»,
Каб не вёсачка, дзе нарадзіўся.

## «Аліўе»

Утопіць не рака,
а ўласная нядбайнасць.
А кволаму агню
дасць моцы сухавей.
Для ісціны тупік —
не нашы спрэчкі — крайнасць.
Бывае, што жыве
ў звычайным незвычайнасць.
Не бойцеся цара —
апрычнікі страшней.
Сустрэнуць па вачах —
праводзяць па бяседзе.
У мутным рыбы больш,
ды лепшая ў віры.
Памылкі даўніны —
у будучыні недзе.
Лагодзяць «так» ды «так» —
лісліўцы — не сябры.

## Пазыч, мама, грошы

«Пазыч мне, мама, грошы, я вярну...»
І мама пазычала — гэта ж мама,
Хаця цішком збірала на труну,
Бо ўсіх пасля жыцця чакае яма.

Праходзіў месяц з горам напалам,
Зноў пенсію ў руках трымала маці...
— Пазыч мне, мама, грошы, я аддам,—
Як з-пад зямлі з’яўляўся сын у хаце.

А як бабулю мёртвую знайшлі
Чужыя людзі — вестку слалі сыну,
Страсаліся суседзі, як маглі
І на вяночак, і на дамавіну.

Бяды няўмольнай закруціўся млын,
Старая вёска гора гаравала.
І толькі штосьці прыпазніўся сын —
Ці не таму, што пенсіі не стала?

## Я не сыду ў нябыт

Плыве птушыны сум у вырай з Беларусі
І развітальны плач злятае з-пад нябёс,
А я і ў халады тут сынам застануся —
З табой, мая зямля, у нас адзіны лёс.

Апошні свой уздых аддам табе, мой краю.
Каб толькі ўратаваць надзею ад бяды.
Я нарадзіўся тут і жыць тут гонар маю,
Дзяліць с табой святло і змрочныя гады.

Я не сыду ў нябыт! Я песняю вярнуся
Убачыць, як з жыцця знікае смутку цень,
Як сонца узыйшло над вольнай Беларуссю
І крылы разгарнуў пад сонцам новы дзень.

Плыве птушыны сум у вырай з Беларусі
І развітальны плач злятае з-пад нябёс,
А я і ў халады з Радзімай застаюся —
З табою, Беларусь, у нас адзіны лёс.

## Жыве Лагойскі край!

Куды ні палячу, а думкамі вярнуся
У родны мой Лагойск, да роднае зямлі.
Лагойшчына мая — часцінка Беларусі,
Мы шмат прайшлі і шмат перамаглі!

Былі гады вайны і сонечныя святы —
І подзвігаў, і ран ніколі не злічыць.
Тут песні партызан, тут калыханка маці,
Тут мова беларуская гучыць.

Лагойская зямля пяшчотна сэрца грэе,
Лагойская зямля — мой лёс на ўсе часы.
Жыве Лагойскі край, пакуль жыве надзея,
Пакуль шумяць над полем каласы!

Лагойск!
Лагойск!
Лагойшчыны сталіца!
Ідуць, гудуць падзеі і вякі.
І праз гады цячэ жыцця крыніца,
І родная зямля на ўсе бакі!

## Перакананні

Перакананы я ў сваіх перакананнях,
І думаў, што яны — маё другое «я».
Ды не! Перакананні маюць скрыжаванні,
І не канон яны, а стужка ручая.

Аналізую лёс — мазгі магу знявечыць,
Дзе выйсце з тупіка — адгадваю праз раз.
Унутранае «я» мне стала супярэчыць,
І можна разгубіцца — хто галоўны з нас?

Не вер — сто раз правер! — бытуе зараканне,—
У цэнтры бліцпадзей, рашы — не насмяшы!
А лжэпераканананні — наша пакакранне:
І часу не вярнуць, і плямы на душы.

О, як няпроста нам за ісцінай угнацца!..
Сярод сляпых душой, сярод душой глухіх,
Самому — так-не так — лягчэй пераканацца,
Затое, шмат цяжэй пераканаць другіх.

Даказваў многім: — Я — адной крыві з Пегасам,
Я пераконваў тых, хто не чытаў мяне.
Складаны лёс прывёў мяне ў мастацтва з часам —
Перакананне гэта многіх не кране.

Сябе я пераконваў, што злавіў удачу,
Я пераконваў сонца — прападзе смуга!
Цяпер хачу рашыць апошнюю задачу:
Як смерць пераканаць, што не мая чарга?

## Думкі нявесткі

Ой, нячыстая ты сіла,
Ой свякруха!
І якая ж укусіла
Цябе муха?

Ад муштры няма карысці,
Сэрца слухай.
Ты ж сама была калісці
Пад свякрухай.

Ты ж ёй трафіла, гадзіла,
Кляла ў думцы.

Перад ёю ты хадзіла,
Як па струнцы.

Маладосць усё трывае
І смяецца —
Усяму канец бывае
Спадзяецца.

Сціхнуць хутка і папрокі,
І прыдзіркі,
Бо не зварыш і заціркі
Без прыціркі.

## Да сустрэчы!

Час ляціць няспынны, спешны,
Я ў мінулым — кропля ў моры.
Не шукайце прах мой грэшны,
Лепш знайдзіце мае творы.

Ў тлуме дзён і ў рэдкім шчасці
Я пісаў іх сэрцам чулым.
Я хацеў масток пракласці
Паміж вамі і мінулым.

Каб чыталі, адчувалі.
Як мы дбалі, што хацелі,
Каб памылкі даравалі,
Каб памкненні разумелі.

Веру — хтосьці прачытае!
Гэта — выпрамляе плечы.
І сустрэча нас чакае —
Да сустрэчы!

## Думкай багацею

*Дурань думкай багацее,*
*А жыццё ўсё карацее.*

Мне марыцца, пакуль яшчэ жыву,
Не, не схапіць для славы з неба зорку,
А збудаваць і распісаць царкву
Тут, на сваёй сядзібе, на падворку.
І ажывалі б з-пад маіх мазкоў
Ядвігін Ш.— узор для беларуса,
Купалы лік, бацькоў і землякоў,
А на пачэсным месцы — лік Ісуса.
Тут сэрца не дазволіць памыліцца,
Тут кожны знойдзе, на каго маліцца.

## Серабрыстая таполя

*Каб гэта бачыць мог Ядвігін Ш.*
*Ягоная заплакала б душа...*

Серабрыстая таполя
Шапкай неба падпірала —
Велічная, ды нядоля
Прыгажуню пакарала.

Чорт нагнаў аднекуль буру —
І найшла на сілу сіла.
І вякоў архітэктуру
Безгалоўе паваліла.

Я падобнай прыгажосці
У жыцці не бачыў болей.
І ўва мне нібыта штосьці
Надламалася з таполяй.

Бура ўсё яшчэ пужала,
Выла, несла ўсім пагрозы,
Хоць таполя ўжо ляжала...
А мяне душылі слёзы.

## Я з вамі, землякі!

Мы з вамі — плынь адной ракі,
Зямлі адной усходы,
Мой край Лагойскі, землякі,
Я з вамі назаўсёды.

Тут першы раз пасля вайны
Пабег у школку босы.
Тут стужка першай баразны
І першыя пракосы.

Тут першы горкай солі пуд
Сышоў з гарачым потам.
Надзеі, мэты, мары тут
Спяліў, каб здзейсніць потым.

Збылося штосьці, штосьці не,
Свой лёс судзіць не будзем,
Галоўнае: не брыдка мне
Глядзець у вочы людзям.

У вашы вочы, землякі,
Дзе шчырасць і спагада.
Мы з вамі — плынь адной ракі.
Імчыць якая праз вякі
За далеч далягляда.

## Крушні

У гушчарынах глухаменных,
Якіх наўрад ці родзяць сны,
Не мала помнікаў каменных —
Звычайных крушняў. Скуль яны?

Тут дрэвам векавым раздолле,
Ды грыбнікоў тут галасы.
А некалі было тут поле
І гойдаліся каласы.

Тут гаспадарылі і дбалі
Аб хлебе, аб наступным дні.
Таму збіралі і цягалі
З палёў у крушні камяні.

А я, мінулага нашчадак,
Стаю тут ля сівых вякоў.
Пабачыць бы мне тых дзяўчатак,
Хлапцоў, жанчын і мужыкоў.

Зірнуць бы ў вочы ім адкрыта,
Пагутарыць, пажартаваць:
— Вы тут засейваеце жыта,
А з часам будзем лес буяць...

Нябачны час нібы застылы,
Ды не — лістае ён вякі.
Куды хто знік? Дзе іх магілы?
Хто тыя людзі — лёс які?

Няўжо сышло ўсё прахам, тонню,
І ўсё руйнуе час-зладзей?
Няўжо ж у лесе крушні сёння —
Адзінае ад тых людзей?

Схіліўся лес, стаіць знямелы
На месцы, дзе жыццё гуло.
Бяру я камень заімшэлы,
Хачу адчуць тых рук цяпло.

## Іду ў Акопы

Стамляюць лёсу перавалы,
Цяжэюць думак ланцугі.
Іду ў Акопы да Купалы
Ачысціць сэрца ад смугі.

Іду ў спякоту і завею,
А хмара чорная плыве.
І зноў душа спяліць надзею
І веру — Беларусь жыве!

## Лёсаварот

Не адвярнуць, не адгукаць
Лёсаварот.
Якую ўцеху адшукаць
На схіле год.

У сэрцы ад шматлікіх страт
Пякучы жар.
І на плячах занадта шмат —
Гадоў цяжар.

Непрасыхаючых вачэй
Глытаю соль.
І зноў бяссонны жах начэй
Прыносіць боль.

## Крэда

Жыццё — няма за што чапляцца,
Жыццё — як сон па-за жыццём.
І я стаміўся не стамляцца,
Губляючы — не разгубляцца —
І горшай стомы не знайсці.

І чым бліжэй да заканчэння
Зямнога шляху, тым цяжэй.
І ўсё ж душэўнае мучэнне,
Перакананнем ачышчэнне,
Прыстасаванства даражэй.

## Сонца не ўбачу

Сэрца — у смутку, жалобе, журбе,
Мары — памылка...
Як навучыцца жыць без цябе,
Родны Гаўрылка?

Лёсу разлом, назаўжды перакос,
Цемра наўкола...
Ты за сабой у зямельку панёс
Шчырасць анёла.

Крылаў душа не разгорне мая
Сонца не ўбачу...
Клічу і клічу мінулае я,
Плачу і плачу...

## Зніклая гармонія

Была у бабулі курка,
Якая несла ёй яйкі,
Якую бабуля любіла,
А курка ў адказ сакатала.

Быў і каток у бабулі,
Шэранькі верціхвосцік.
Куды б ні ступіла бабуля,
Каток каля ног завіхаўся.

Быў у бабулі і Цява,
Сабака — жывы званочак.
Няхай сабе беспародны,
Затое аддáны бабулі.

Былі у бабулі і дзеці,
І нават шматлікія ўнукі,
А век дажывала бабуля
З куркай, катком і Цявам.

Бабуля сабаку — заціркі,
Бабуля катку — сырадою,
Курцы бабуля — зярняткі —
Між імі любоў і згода.

Былі у бабулі курка,
І шэры каток, і сабака,
Між імі — любоў і згода...
Ды раптам не стала бабулі.

І курку спаткала сякера,
Сустрэла катка бездагляднасць,
Бяздомным зрабіўся Цява —
Крыж-накрыж на вокнах дошкі.

## У матухны-прыроды

О, колькі цудаў матухны-прыроды!
Яны вакол, яны — на ўсе бакі.
Ялін, бяроз, рабінаў карагоды,
Асін пужлівых танец трапяткі.

Лазовы куст, як баба у ватоўцы,
Рассеўся ля дарогі, а за ім
Дубы, нібы «крутыя» на тусоўцы,
Фасоняцца адзін перад адным.

З бярозай вецер абыйшоўся жорстка,
Зламаў яе ля самага камля.
Яна цяпер, як кінутая костка
Упала ніц — і пухам ёй зямля.

Вунь, гаю гай шле прывітанне гулка,
Махаюць голлем, быццам сваякі.
А паміж імі ціхая рачулка
Схапіла неба аж за дзве шчакі.

І сонейка дало нырца у рэчку,
Нясе яго празрыстая вада.
А воддаль клён заладзіў з ветрам спрэчку,
Гнявіцца клён — бярозы той шкада.

Лугі разбагацелі сенакосна,
Палі рыхтуюць восеньскі пасаг.
А парасткам глядзець уверх зайздросна
На дрэвы з аблачынай на плячах.

Так, тут свае трагедыі і святы —
Як не любіць, не шанаваць зямлю!
І постаць дуба, і таполь цыбаты,
Лугоў суквецце, рэчку, лес кашлаты —
І ўсё жывое на зямлі люблю!

## Шукаю ветру ў полі

Мара плакала ў падушку,
Як гарох той пры дарозе,
Бо шукаю я Жар-птушку —
Ветра ў полі, нітку ў стозе.

Вось і сёння, як заўсёды,
Адштурхнуў журбу-нуду,
Не пабег ад непагоды,
А насустрач ёй іду.

Шэрасць золкая наўкола,
Вецер свішча безгаловы,
Бліскавіца распарола
Небасхіл на дзве паловы.

Я — ніжэй на вочы «фетру»,
Ўверх каўнер у паліто.
Акрамя дажджу і ветру
Не сустрэў мяне ніхто.

Хоць, відаць, сваю я мару
Пеpажыў і перарос,
Я за ёю борзда шпару —
І увагі нуль на хмару,
Што сячэ мне ў твар наўскос.

Прагну дзіўнае заўважыць,
Погляд «мацае» абшары.
Дзякуй Богу, што міражыць
Мара скрозь нязбыўнасць мары.

## Ён і яна

Ноч. Цішыня. Пакой. Не спіць паэт.
Агеньчык свечкі, нібы пульс нервовы.
Не спіць паэт, шукае думак след,
Складае рыфмы, падбірае словы.

Не ладзіцца. Не думкі, а капрыз,
Нібы вада праз рэшата, збягаюць,
Дый сон «не спіць» — павейкі цісне ўніз,
І вочы плюснуцца і не міргаюць.

І раптам ён, нібы спаткаў вясну,
Затрапятала і душа, і цела.
Ажыў паэт, паэту не да сну —
Яна ўвайшла ў пакойчык, уляцела.

Ён і яна — загадкавы інтым,
Яна і ён — адзінае дыханне.
Да раніцы не наталіцца ім
Вясной пачуццяў, водарам кахання.

Для іх малы пакойчык — цэлы свет,
І прыцемак і сціпласць — не абуза...
Ноч. Цішыня. Таемства. Ён — паэт,
Яна — яго выратаванне — муза.

## Сон зямлі

Зямля да новага зачацця,
Што спланавала на вясну,
Пад гурбамі, нібыта ў ваце,
Прыціхла — аддалася сну.

Прынёс зямельцы сон глыбокі
Сцюдзёнае зімы наркоз.
З-за лесу вырас — рукі ў бокі,
Плячысты і ружовашчокі
Світанак, быццам Дзед-мароз.

Для сонца ў небе мала шоўка —
Што вытчэш за кароткі дзень?
Зімовы дзень — як стомятроўка,
Разгон і фініш — ночы цень.

Ды ў галаве зімы ёсць «мухі» —
Між звонкіх і марозных дзён
Гудуць завеі-завірухі
Такія, што ні носу вон.

То безгалоўем неба ліжа,
То белой бурай дрэвы гне,
А то раптоўна заадліжа,
Знянацку туманом дыхне.

То, як майстрыца-чараўніца,
Стварае кружавы яна.
А ў гэты час, напэўна, сніцца
Зямлі пяшчотная вясна.

# Дарогі

Дарогі — як і мільённаногі спрут,
Нясуць дарогі ў нашы лёсы змены.
Дарогі знойдуць самы дальні кут.
Мы — кропелькі жыцця. Дарогі — вены.

І варта толькі выйсці за парог,
І думкамі зямлю апаралеліць,
Свет вабіць незлічонасцю дарог,
Якія ён за далягляды сцеліць.

І сэрца з-пад будзёнасці замкоў
У белы свет загадкавы імкнецца.
Дарогі клічуць нас да сваякоў,
Вядуць да тых, хто болей не прачнецца.

Ў тупік дарога — для душы турма,
У дом сяброўскі — і душой багаты.
Дарога ў край чужы — даўжэй няма,
І самая кароткая — дахаты.

Дарогі доруць нам і Боскі Храм,
Рыхтуюць і грахоў выпрабаванні.
І, часам, цяжка разабрацца нам
На новым, незнаёмым скрыжаванні.

Пульсуюць з веку ў век вакол зямлі,
Зліваюцца, звіваюцца, як рэчкі.
Адных дарогі да вяршынь вялі,
Другіх — у бездань, да жалобнай свечкі.

Жыццё — дарога. Блаславі нас, Бог! —
Нічога, што спіна шчыміць ад солі.
Шмат чалавецтва бачыла дарог,
Сваю ж апошнюю — ніхто, ніколі.

## Святло і цені

Не раз мы пра гвалтоўнасць чулі
І пра забойства заказное.
А губяць нас не толькі кулі,
Страляюць словы, нібы зброя.

Як распазнаць у бойні-бойцы,
У інтрыгантнасці бяскроўнай,
Як даказаць, што ёсць забойцы
Між нас з усмешкаю чароўнай?

Безабароннае сумленне,
Узнёсласць у палёце смелым,
І сэрцаў чыстыя імкненні —
Заўжды ў бяздарных пад прыцэлам.

Яны ў сваім антысумленні
Ганебныя ствараюць п'есы...
Ва ўсе часы — святло і цені,
Ва ўсе часы — свае Дантэсы.

## Бацькоўскае блаславенне

Бывай мая хата, мой кут, мая келля —
Душа вандраваць дазваляе!..
Дарога па лесе, нібыта з пахмелля,
То ўправа, то ўлева віхляе.

Я й сам ап'янеў ад пачуццяў раптоўных,
Ад дзёрзкасці смелага ўчынка.
Наперадзе — прысвяткі твораў галоўных,
За пазухай — хлеба скарынка.

Палі, сенажаці, лясоў прахалода
Мяне абдымаюць ласкава.
Я ў гэтай вандроўцы з маленства — заўсёды,
І гэта — мой лёс, не забава.

Забавам імгненні, а лёсу — руплівасць,
Руплівасці — рух і свядомасць,
Іначай — і мары збягуць палахліва,
І спыніць душу нерухомасць.

У высі імкнецца душа, да аблокаў,
Да зорак, да сонца праменняў...
Я з хаткі іду — ад бацькоўскіх вытокаў,
І ў сэрцы — бацькоў блаславенне.

## Паказ моды

Мы часта бачым з'яву гэту,
Дзівос на подыум узняты —
Ідуць, як здані з таго свету,
Худыя, як ражон, дзяўчаты.

Ці ж можна тут не хвалявацца
За чалавечы цень убогі?
Бо могуць хруснуць і зламацца
Да костак высахлыя ногі.

Пытанне стукаецца ў скроні,
Што ў вокны вецер раззлаваны:
«За што ім пляскае ў далоні
Ўвесь свет наш цывілізаваны?..»

Сказалі мне: — Адкінь здзіўленне
І памяняй прыярытэты.
Глядзі на моднае адзенне,
А не на модныя шкілеты.

## Бязлітасны экран

А за спіной багата успамінаў,
Падзей імклівых, што гулі даўно,
Нібы мяне раптоўна хтосьці кінуў
У залу з неагучаным кіно.

Час — дэмакрат і эшафот тырана,
То лашчыць сэрца, то сячэ з пляча.
І памяці бязмежнага экрана
Зашмат для адзіноты-гледача.

Знямеламу былому не азвацца,
І сам туды штогод — шыбчэй, шыбчэй.
Бязлітасны экран — не адарвацца,
І толькі слёзы — паўза для вачэй.

## А мы не дажылі да Перамогі

Яшчэ вятры свінцовыя гулі
І праз агонь вайны вялі дарогі,
А нам не ўстаць з апаленай зямлі,
А мы не дажылі да перамогі

Трымаючы ля сэрца жах нямы,
Чакала маці звестачкі ад сына.
Лісты ж адправіць не паспелі мы,
Хто паў ля Брэста, хто — каля Берліна.

Світанак мірны — найвялікшы цуд,
Ды толькі да яго дажыў не кожны.
І нам не завітаць у родны кут,
І нам салют не ўбачыць пераможны...

Сучаснасць палымнее ад падзей
І новы, светлы час ляціць над імі,
Каб будучыня мелася ў людзей,
Мы застанемся вечна маладымі.

## Сведка даўніны

*Памяці знішчаных дубоў*

Прамень узлескі высвятліў спрасоння,
Між імі жыта — як разлівы вод.
А ў жыце дуб, як «злодзей у законе»,
Паважна зелянее пасярод.

А тут аруць, тут сеюць і зжынаюць,
Камбайны караваняць, трактары.
І ўсе яго пашанна абмінаюць —
Ён з выгляду — да трох не гавары.

Ён пазірае з вышыні на поле,
Ён каранямі да глыбінь прарос.
І мускулы пакручанага голля
Уражваюць — асілак-хмарачос.

Ён постаццю адметнай знакаміты,
Бо моц у ім запасілі вякі.
І толькі вецер на яго сярдзіты,
Бо рве ўвесь час кашулю аб сукі.

Ці ўбачаць сведку даўніны нашчадкі?
Што дуб далей сустрэне на вяку?
Не раз яго хацелі — на лапаткі
І лёс яго вісеў на валаску.

Жыццё і смерць... Працяг такога цыклу
Не выпускае з рук дабро і зло.
І шмат дубоў з зямлі заўчасна знікла,
І вельмі шмат заўчасна палягло.

Імчыцца час нябачны і бясконцы,
І гэты дуб ішоў сюды скрозь час.
Ён мае ўсе правы стаяць пад сонцам,
Як людзі ўсёй зямлі — і кожны з нас.

## Белая варона

Шчаслівы я! — чуваць ад веку ў век.
І чутна гэта і ў жыцці сучасным.
Ці ж можа быць шчаслівым чалавек,
Калі ёсць недзе хоць адзін няшчасны?

Няшчасны я даўно, з усіх бакоў,
Жыву імгненным шчасцем палахлівым.
Я страціў блізкіх, пахаваў бацькоў,
Я — намінант... Ці ж можна быць шчаслівым?

Імгненні шчасця тояць свой сакрэт,
Гады жыцця ім людзі прысвячаюць.
Ледзь паспяваюць ім зірнуць услед,
Яны, як знічкі — бліснуць і згасаюць.

Шчаслівых шмат і я іх не суджу,
Я паміж імі — белая варона.
Я на жыццё складанае гляджу
Праз шчасце і няшчасце — улюбёна.

# Дуб-дзядуля

Я шчакой да дуба, як да вечнасці —
Колькі ж ён вякоў свой крыж нясе?
Колькі ён пабачыў чалавечнасці,
І крыві, і нашай недарэчнасці,
І ўсяго, чым хворыя мы ўсе.

Дуб-дзядуля — голле між аблокамі.
Не хіснецца, нібы бачыць сон...
Мераў шлях да нас гадамі-крокамі —
Дзякуй, што дажыў да нашых дзён.

Быў Лявіцкім слаўлены і ўхвалены,
Ды, відаць у вас — адзіны лёс:
Ты цяпер, сучаснасцю паранены,
Ён тады цягнуў нядолі воз.

Да цябе мая шчака прытулена —
Пэўна, так рабіў Ядвігін Ш.
І тады была не раз расчулена
Ля цябе ягоная душа.

Заглядзеўся ў неба ты бяздоннае.
Дуб-дзядуля! — хочацца гукаць...
Моц такая — ды безабаронная,
З чэрствасцю людскою абручоная,
Прыгажосць — якую пашукаць.

## Яд і вакцына

Грахі, як на душы мазоль,
Не церанешся — не заўважыш.
А церанешся — гэты боль
Знішчае свет, пудамі важыш.

І грэх, здаецца,— мізер, смех,
Драбней нябачнае бацылы,
А над душой трымае верх,
Як кропля камень, точыць крылы.

І што дзівоснае — грашым,
Смяшым, а смех уняўшы, плачам.
Віват! — «бязгрэшнасцям» чужым,
І зноў па-свойму — не іначай.

Без чадаў гарадскіх наўрад
Свой водар нам азон расчыне,
А, па-другое, каб не яд,
Вакцыны б не было ў паміне.

## Я – невідзімка

Мінае век мой неласкавы,
Сціхае невясёлы баль...
Я — невідзімка для дзяржавы,
Мы размінуліся, на жаль.

Я пад няпісаным законам
І мітушуся, і засну —
Ніхто яшчэ сваім натхнёным
Ілбом не змог прабіць сцяну.

## Ненавіджу

Ненавіджу цябе, як на досвітку муху,
Як шчака аплявуху,
Як нявестка свякруху.

Ненавіджу цябе, як рыбак рыбака,
Як грыбнік грыбніка,
Як авечка ваўка.

Ненавіджу цябе, нібы жахі у сне,
Як дакор на спіне,
Нібы «х» на сцяне.

Ненавіджу цябе, як пад вокам пухліну,
Як прылюдную кпіну,
Як жанчына жанчыну.

Ненавіджу цябе...
А каму ж гэта «слава»?
У каго «кампліменты» ляцяць неласкава?
І каго я радкамі лупцую, як пасам?..
Ды самога сябе ненавіджу я часам.

## Я вярнуўся

Мне не пашанцуе, я вярнуўся,
А вяртанне — дрэнная прыкмета.
Я ў сваё былое акунуўся,
Я сваім мінулым ахінуўся —
Лёс смяротным не дарue гэта.

Можна жыць загульна, без аглядкі,
Ды, на жаль, жыццёвы век кароткі.

Перад тым, як легчы «на лапаткі»,
Я імкнуўся не да вас, нашчадкі,
Я душой з мінулым, з вамі, продкі.

Пачыналі вы жыцця аповесць,
Я пішу працяг, бо сэрца чуе —
Перарвецца з днём мінулым повязь,
Дзень наступны гэта не даруе.

Я хачу зірнуць былому ў вочы —
Я вярнуўся, каб наперад крочыць.

## Страшны суд

І хто прыдумаў Страшны Суд у Бога?
Каго ён напужае, гэты жуд?
Чаго ў труне баяцца? Анічога!
Я згодны «там» — хоць кожны дзень пад суд.

О, каб ён быў! Той суд не быў бы лішні!
Ляцеў бы пух і прах з душы крывой.
З дурных галоў кароны б зняў Ўсявышні,
А ў некаторых — разам з галавой.

Падняў бы Страшны Суд усіх на вілы,
Хто на зямлі ганебны суд вяршыў.
І мне ўваліў бы Бог, абсек бы крылы —
Які з мяне анёл, калі грашыў?

Караў бы ён, на таленты няўклюдных,
А вось да славы — спрытных, крыкуноў.
Судзіў бы ён так званых непадсудных
І ўсіх прыстасаванцаў-лізуноў.

Ды ну яго, той суд недасягальны,
На жаль, ніколі нам не стаць прад ім.
Ёсць на зямлі свой Страшны Суд — рэальны,
Перад якім мы кожны дзень стаім.

Дарэмны пакаянні і маленні,
Ён непадкупны, як няспынны час —
Найвысшы суд — суд нашага сумлення —
Ён і прысуд, і камертон для нас.

Ён вочы ў вочы — і не адкруціцца,
І ад яго не кінешся наўцёк.
Асцерагае ён уніз каціцца,
Дапамагае не хіснуцца ў бок.

Хістаемся і коцімся, бывае,
Тады ў душу змяёю змрок паўзе,
Баліць душа — калі яна жывая,
Не спіць сумленне — дзень і ноч грызе.

Не праўда, што насільнік ці забойца
Спакойна спіць — маўляў, пры чым я тут?
Хоць перад смерцю ён Святую Тройцу
Успомніць — над сабой учыніць суд.

Яго сумленне прыме лік іконы
І пакаяннем сэрца закране.
Так, можна абмінуць суды, законы,
А вось сябе ніхто не абміне.

## Недасканаласць

Аблога рукатворных бед...
Бездапаможнасць сэрца паліць.
Недасканалы гэты свет
Не ў сілах я удасканаліць.

Не ў сілах я перарабіць
Што зроблена безадваротна.
І застаецца кол убіць
У дол надзеі — пасмяротна.

Чаму такое? Дзе адказ?
Хто нас бяздушыць і бязбожыць?
Відаць, таму, што кожны з нас
У свой, жыцця кароткі час,
Вакол недасканаласць множыць.

## Быць-не быць...

Я, як Гамлет, варажу-гадаю:
Быць-не быць... І быць якім я б мог?
Лепшым з лепшых быць я не жадаю —
Лепшых рана забірае Бог.

Быць сярэднім — месца залатое,
Хтосьці ў грудзі, ў плечы падпіхне.
Серадняк — ні сёе і ні тое...
Не! І гэта роля не па мне!

У канцы ранжыру месца досыць,
Там жыццё прыцішана смыліць.
У «хвасце» ніхто не пазайзросціць,
У хвасце няма чаго дзяліць.

Што рабіць? Адкуль пачаў, вярнуцца?
(О, мая святая прастата!)
Але тут ад тых не прапіхнуцца,
Хто ні дня ні быў вышэй «хваста».

Быць альбо не быць... Пара пазбавіць
Ад пустых пытанняў галаву.
Спадзяюся, час усё расставіць,
А таму — як жыў, так і жыву.

## Я малюся

Крычыце, плачце, журавы,
На развітанне.
Відаць, чарнобыльцы і вы...
Наш край пакутны ледзь жывы
У час змяркання.

Што гоніць вас? Дажджы? Зіма?
Гняздоўі стынуць?
І я стагну, а сіл няма
Свой кут пакінуць.

Адны мы будзем бачыць сны —
І я малюся
За ваш прылёт, за баль вясны
На Беларусі.

*1986 г.*

## Такі мой лёс

Нясу свой крыж... Цягну жыццёвы воз,
Які штогод цяжэй я нагружаю.
Такі мой лёс... А што такое лёс?
Ці ён мяне, ці я яго ствараю?

А кажуць — нарадзілася дзіця,
А з ім і лёс яго да скону. Кіньце!
Мы самі крывім, правім шлях жыцця
Альбо блукаем, нібы ў лабірынце.

Я мог бы ўлегцы йсці, не гнуць спіну
І скразнякам у галаве даць волю.
І ўсё ж нясу свой крыж і воз цягну —
Не Бог, а сам я выбраў гэту долю.

## Восень

У сэрцы храм узводзіў я,
У ім збіраў сяброў цікавых —
Вясну, каханне, салаўя
І маладых гадоў забавы.

Але гады — як лістапад,
Іх гоніць лёсу навальніца.
І азіраюся назад,
І жах бярэ — няўжо ўсё сніцца?

Тут столькі музыкі было!
Тут чуўся смех, віно лілося...
Чаму так хутка адгуло
І адспявала шматгалоссе?

Змоўк салавей, зшарэлі дні,
Ружовасць знікла без астатку.
З бязмежнасці, велічыні
Ператварыўся храм у хатку.

І вечнае ідзе на злом,
І для бязмежнасці ёсць мерка.
І ўжо насупраць за сталом,
За сабутэльніка — люстэрка.

Памылкі топяцца ў віне —
З пятлі грахоў ці будзе выйсце?..
А вецер часу кінуў мне
Пад ногі восеньскае лісце.

## І ўся любоў...

Сярод падзей, гадоў шалёных,
Цягнуўшых лёс на згуб,
Я быў для «белых» і «чырвоных»
Аднолькава нялюб.

Ды я й не сумаваў дарэмна
І не «наламваў дроў»,
Бо любяць шэрых і нікчэмных —
Вось тут і ўся любоў.

## Нябачная сувязь

Сколь не жыві, а прыйдзецца памерці,
Не будзе ж вечна доўжыцца мой век.
І я жыву, і не баюся смерці,
Для чалавецтва — дробязь чалавек.

Гісторыя на шалях часу важыць
Адметнае. Што сёння варажыць?
Маё знікненне мала хто заўважыць —
І правільна: жывому трэба жыць!

Для важкасці — у сведкі клічу Бога
І перад ім раскрыю свой сакрэт:
Баюся я не смерці, а другога —
Са мной памрэ унутраны мой свет.

Мой свет душы ўсяго Сусвету шырай,
Дзівосны твор жыцця-быцця майго.
Народжаны мой свет душою шчырай,
Не сонца — сэрца свеціць для яго.

І тут, пад сэрцам-сонцам — мама й тата,
Пакуль жыву, іх час не паглыне.
Тут родных, блізкіх і сяброў багата,
Іх не злічыць — «жывуць» яны ўва мне.

Я іх нашу ў душэ, як скарб бясцэнны —
Часоў, жыцця і смерці кругаверць.
Мяне не стане — і тады імгненна
Усіх паўторна напаткае смерць.

Я помню ўсіх — асобна і агульна,
Абліччы бачу праз імжаку слёз.
Я ведаю — ім ува мне утульна,
Бо не ўяўляю я без іх свой лёс.

Працягваюць нас звязваць успаміны,
Пякучы сум, бязгучны сэрца крык.
Для многіх сёння я — прамень адзіны,
Што высвятляе іх патухлы лік.

Часоў завея памяць замятае,
Бязлітасна з мінулым повязь рве.
Ды ёсць на свеце ісціна святая —
Пакуль мы помнім — чалавек жыве.

## Цыклічнасць

Зямля пад ільдамі і снегам...
Зямля — у агні...
Зямлю паглынула вада...
жахліва усё і трагічна...
Магчыма, жыццё на Зямлі,
нібы ночы і дні,
Прыходзіць — знікае.
Прыходзіць — знікае.
Цыклічна.

У чорную бездань
зямлянаў зацягвае час,
Дзівосна, што й самі
імкнемся туды безгалова.
Трагедыі нашы
чакаюць наперадзе нас —
Ці будзе каму зачытаць
памінальнае слова?

## Ведаць бы

Колькі перашкод і межаў —
Не праехаць, не прайсці.
О, каб чалавек залежаў
Толькі ад сябе ў жыцці!

Колькі б дасягнуў і здзейсніў,
Сэрцам вечна малады.
Не адну пачулі б песню
І нашчадкі, і гады.

Да крыві нагамі б'юся
Аб каменне марных спраў.
Ведаць бы, дзе павалюся,
Я б саломкі падаслаў.

## Не знікла гэта гора

*Да 20-годдзя Чарнобыльскай трагедыі*

Няўжо бяда прайшла? Наадварот!
Яна вакол — і цяжка ратавацца.
Чарнобыль стаў страшней праз 20 год
Таму, што пачынае забывацца.

Не, не прайшло, не знікла гэта гора,
Штодзённа нечы лёс слязой блішчыць.
Мы сёння не такія, як учора,
Нас сёння вельмі шмат недалічыць.

І выбух той, зямлі трагічны крык,
Як і не быў — ён сёння не пужае.

Бяспамяцтва вядзе нас у тупік
І новыя Чарноблі нараджае.

Балюча бачыць litgарадам і хатам
Не радасць, не людзей — адзін быльнёг...
Хапіла б толькі розуму нашчадкам
Не вабіць атам смерці на парог.

## Я – не анёл

Пражыць жыццё бязгрэшна цяжка —
Не абмінуць «падводных скал».
Тады ратунак — горкай пляшка,
Тады спакусы — ідэал.

Спакусам не складаюць оды,
І ўсё ж я іх прашу за стол.
Мае грахі — грамаадводы,
Я, дзякуй Богу — не анёл.

## Мінулае

Што быў я маладым,
Пішу, смяшу паперу.
Мінулае — як дым,
Было яно? Не веру!

Мінулыя гады —
Пакуты, а не ўцеха.
Не вернешся туды,
Дзе успамінаў рэха.

Хоць тут касцямі ляж,
Быломy не вярнуцца.
Мінулае — міраж,
Не дакрануцца.

Пастаўлена на кон
Усё — мой век бясплодны.
Мінулае — як сон...
Я з гэтым згодны.

## Хачу быць ісцінай

Хачу быць ісцінай — прыёмам супраць лома,
Ды кажуць, што няма прарокаў дома.
Прарочыў той у нас, хто меў уладу —
А розум у людзей заўсёды ззаду.

Хочу быць ісцінай...
Відаць зашмат хачу я,
Бо бачу погляд, воўк у ім начуе.
А недзе дуб пад корань рыюць свінні
І ганьбіць сонца крот у кратавінні.

## Ніколі

Ёсць страшнае слова «ніколі»,
Ніколі б не ведаць яго...
Братоў маіх Міцю і Колю
Ніколі не ўбачу я болей,
Ні маму, ні тату свайго.

Ніколі нам разам не сесці
За сціплым бацькоўскім сталом.
Затое заўсёды мне несці
У горле пакутлівы ком.

## Арэна

Паваліся, як бык на карыдзе,
Дзе без ліку людзей. Ён — адзін.
Паваліся — ніхто не падыдзе,
Не заўважаць, затопчуць у блін.

Паваліся — і нечыя боты
Мне на грудзі, на горла, на лёс.
Будуць смачна «травіць» анекдоты
Нада мной, смеючыся да слёз.

Час віхурыць няспынна, нязменна,
Крок — і ноч, наўздагон — успамін...
Людзі, крыкі, забава — арэна,
Акрываўлены бык. Ён — адзін.

## Урок

...ад пункта «А» да пункта «Б»... —
Вучылі ў школе нас.
І я да складак на ілбе
Вылічваў хуткасць, час.

І, пасталеўшы вывучаў,
Вылічваў кожны крок,

Спяшаўся да таемных спраў,
Нібыта на урок.

Пакуль жыве ўва мне мая
Дасціпнасць зведаць свет,
Ад пункта «А» да пункта «Я»
Імкнуся неўпрыкмет.

Нябачнай вечнасці рука
Да пункта «Я» вядзе.
Але, пакуль няма званка,
Урок яшчэ ідзе.

## Ці не таму?

*Рувалс І. І.*

Ці не таму буксуем увесь час,
Не дасягаем самых светлых мэтаў,
Што вельмі шмат чыноўнікаў у нас,
І вельмі мала сярод нас паэтаў?

Для творцы творчасць — жыць альбо
не жыць,
Ікона, ля якой не намаліцца.
Чыноўніцтва ж, нібы асфальт ляжыць
На творчай ніве —
паспрабуй прабіцца.

Хапаў іх «ласку» аж за дзве шчакі я,
Ды дзякуй Богу, што не ўсе такія.

## Вынік

Падводжу вынік...
Гнуты, біты
Абрынуся за небасхіл.
Як не сысці з жыцця арбіты
Заўчасна, ў моцы творчых сіл?

Мой лёс гарэў самааддана
Не для памінкавых прамоў.
О, як балюча і складана
Быць салаўём сярод глушцоў.

Губляю крылы і надзеі.
Жыццю аддаў усё, што мог —
А злева, справа прахіндзеі
Смяюцца: — Нам спрыяе Бог!

## Адкрыццё

Жывеш — нібыта ўсё адзіна,
І раптам робіш адкрыццё:
Як доўга цягнецца гадзіна,
Як мала доўжыцца жыццё.

І ўсё губляе сэнс патроху,
І сіл ўжо — курам на смех.
Гады,— як поўны мех гароху,
Ды вось бяда — дзіравы мех.

## Між радкоў

Калі паэт заплакаў, значыць, трэба
Душу крануць узнёслаю страфой.
Каб мог чытач убачыць зорным неба.
І сонца, і вясёлку над сабой.

Калі паэт засумаваў натхнёна,
Ён дапусціў да сэрца суму цень,
Каб мог чытач пражыць жыццё ўлюбёна,
Без смутку ў сэрцы бачыць кожны дзень.

Калі мастак пабачанага болю
У творах у сваіх не абміне,
Ён прагне аднаго — каб свет ніколі
Не множыў боль, які на палатне.

Жыццё штодня не лашчыць — выбачайце,
І творчы свет — непрадказальны госць.
Паэзію паміж радкоў чытайце,
І ў жывапісе — таямніца ёсць.

## Родны кут

Колькі бачу вакол прыгажосцяў зямных
На Лагойшчыне, лепшай у свеце!
І ідзеш, як плывеш, па лугах сакаўных,
Дзе кіпяць і буяюць суквецці.

Пачакайце, касцы, хоць дзянёк, хоць другі,
Адпачніце ад спёкі ў цянёчку.
Хай пяшчоцяцца ў сонечных промнях лугі —
Канюшынка, рамонкі, званочкі.

Вунь і пчолкі над імі рупліва гудуць,
І чмялі носяць мёд у скарбонкі.
Палысеюць лугі — і тады не пачуць
Ані пчолак, ні птушачак звонкіх.

Як удзячны табе, асяродак душы,
Родны кут, блізкі мне, шматгалосы,
Ды шкада, што сярод мілагучнай цішы
Справяць баль свой бязлітасны косы.

## На мяжы

Не адкруціцца ад жыцця-экстрыма,
Ад ран душэўных, ад пакут і слёз.
Прымаю ўсё — адрынуць немагчыма,
Што Бог задумаў, што рыхтуе лёс.

Няўжо і сапраўды кіруе намі
Адвечнае пісанне Кнігі кніг?
У ёй нас робіць Божымі рабамі
Наш дзень народзін, першы наш уздых.

А дзень апошні згасне нечакана
Між вечным і імгненным — на мяжы.
Усім смяротным нам наканавана
Галгофа і распяцце на крыжы.

## Не стаўлю кропку

Дарэмны восеньскія
каверзы-старанні,
Не стаўлю кропку я
ні ў гулях, ні ў каханні.
Іду за марамі праз лес
драпежны, шчыльны,
Не стаўлю кропку я,
бо кропка — крыж магільны.
Даўно ў дарозе я,
ступаю нетаропка,
А перадых кароткі —
коска, а не кропка.
Пакуль Гасподзь не зачыніў
у заўтра дзверы,
Не стаўлю кропку
ні ў жыцці, ні на паперы...

## Вітаю цябе

*Алесю Пісьмянкову*

У думках ты з намі,
душа твая дзесь
У высях нябачных лунае,
ля Бога.
Вітаю цябе, незабыўны Алесь,
Я кожную раніцу, быццам жывога.

У зносінах творчых —
нятворчага шмат,
Ты быў выключэнне —
сумленне так лічыць.

І сэрца нязменна вяртае назад
Туды, дзе жыццё тваё светла крынічыць.

Як сонечны промень
між цемры-слаты,
У заўтра імкнецца
твой свет вершаваны.
Ты шчырасцю душы нам лечыш, бо ты —
Святло ратавальнае —
Богам абраны.

## І загадкавасць, і адкрыццё

Як прыемна, і казачна-здорава,
Чуць вакол пераклічку цыкад.
І ў начное ухутацца покрыва,
Што накрыла зямлю, далягляд.

Ноч прыемная, ноч патаемная —
І загадкавасць, і адкрыццё.
Нават вечнасць — такая нікчэмная
Побач з велічным словам — «жыццё».

Цёплы жнівень нябачнымі кроснамі
Выткаў зорнае неба і сціх.
Толькі мары радкамі узнёслымі
Нараджаюцца ў думках маіх.

## Над Гайнай-рэчкай

Над Гайнай-рэчкай цішыня
Нябачная лунае.
Гадоў дасціпных мітусня
Мяне тут не кранае.

Над Гайнай-рэчкай вечар змоўк,
Нібы сумуе ўпотай.
А неба — вольнай плыні шоўк
Фарбуе пазалотай.

Спакой і ціша без краёў —
Душы зачараванне!
І толькі спевы салаўёў
Не сціхнуць да світання.

## Нялёгкая ноша

Увасшэсце на трон
Патрыярха святога
Урачыстым было,
гістарычным было.
Храм Хрыста напаўняўся
прысутнасцю Бога,
Напаўняла яго вечнай
Веры святло.
Тут, паводле Канонаў,
узвышана пелі,
Бласлаўляў «Аксіос»
Патрыяршыя дні...
А ў Рэспубліцы Комі,
ў прытулку гарэлі
Богаўгодныя людзі
старыя — ў агні.

Быць для ўсіх ратаваннем —
нялёгкая ноша,
Недзе слёзы і плач,
недзе танцы і спеў...
Бог у Храм завітаў,—
тут і бляск і раскоша,
А ў прытулак для бедных
прыйсці не паспеў.

*1.02.2009.*

## Мая ікона

Лагойшчына пяшчотна ахіне,
Падорыць безліч светлых успамінаў
Па сцежках часу правядзе мяне,
У вочы зазірне, як маці сыну.

Лагойшчына — маёй душы святло
У Храме лёсу ты — мая ікона.
А тое ўсё, што у жыцці было,
І дадзена табой, і блаславёна.

Вялі падзеі незаўжды ў гару,
Былі й падзенні — іх не забываю.
Жыцця памылкі на сябе бяру,
А поспехі — з табою падзяляю.

## Беларусь пачынаецца тут

Тут жыццё распачаў сваё я,
Сэрцу родны, карпілаўскі кут.
Беларусь дарагая мая
Для мяне пачынаецца тут.

Тут нябёсаў бяздонная сінь,
Тут лясы, як нідзе, і палі.
Я ішоў да жыццёвых вяршынь
З бласлаўлення Лагойскай зямлі.

У напрузе трымаў кожны год —
Мусіў часам я йсці напралом.
А наперадзе сонечны ўсход
І да новай вяршыні пад'ём.

## О, не дай, Божа!

Складанасці былі ва ўсе часы,
Спраўляліся спрадвек з любой задачай
Дзве процілегласці, два палюсы —
Ці «за», ці «супраць» — і ніяк іначай.

Ды той, каму на ісціну пляваць,
Каб ад сумлення (калі ёсць) схавацца,
Прыдумаў, як свій «гонар» ратаваць,
Рашыў — ні «так», ні «не», а — устрымацца.

О, не дай, Божа, устрымацца ўсім!
Прамых шляхоў не будзе і ў паміне,
І крывадушша шматслаёвы грым
Пакрые ўсё — і ісціна загіне.

## Давай памаўчым

Скажы мне што-небудзь, каб дух захапіла,
Каб веліч пачуццяў сляза акрапіла,
Каб свет усміхнуўся, як ранічны промнік,
Каб зніклі грахі, як апошні бяздомнік,
Скажы мне натхнёна, узвышана, нова,
Каб сэрцам пачуць пранікнёнае слова,
Каб кроў маладзела, кіпела — не стыла,
Каб мара наступную мару будзіла.
Скажы мне... Не трэба! Маўчы лепей! Годзе!
Славеснасць ішла са стагоддзя ў стагоддзе.
Ты словам душу не кранеш, не акрыліш,
Ты словы паўторыш адныя і тыя ж,
Якія не раз паўтараліся намі
І продкамі продкаў, дзядамі, бацькамі.
Ды ў словы не ўмесціш пачуцці ўсё-роўна —
Дык лепей давай памаўчым красамоўна.

## Жыта сей

Дарогі памяці бяспамяцтва палоніць —
Падкрэслена-будзёна, чэрствы час
Знікненне пакаленняў узаконіць
І «пахавае» пахаваных нас.

І пабягуць за годам год руплівы,
Адных заўважаць, іншых — не крануць.
І, бачыўшыя пыл вякоў архівы,
Пра нас старонку вестак прыхінуць.

Ды боль жывых людзей не запыліцца,
Нам розум — сябар, але й вораг ён,
Бо прысуджае: варта нарадзіцца,
А ўжо чакае памінальны звон.

Што зробіш — чалавечы век кароткі,
Імклівы час — зусім не дабрадзей...
Ды дзякуй Богу, нас вучылі продкі:
Сабраўся паміраць, а жыта сей.

## Табліца жыцця

Было няшчасце, было і шчасце —
Ладкую-праўлю жыцця паліцу,
Хачу дакладна гады раскласці,
Як Мендзялееў сваю табліцу.

Жыццё — не аркуш паперы чысты,
На ім блакітнасць і побач хмары,
Два «я» мае тут — антаганісты,
І вочы ў вочы: кат і ахвяра.

На ім шчыруе ружовы ранак
І памірае тут вечар золкі.
І аб зямлю тут грудзьмі падранак,
На радасць сквапнай нечай двухстволкі.

Жыцця паліца, жыцця табліца —
Ды не заўсёды цвярозы розум.
О, як складана не памыліцца,
Яшчэ складаней — пражыць цвяроза.

Штодзень куляеш памылак чарку,
І з гэтай чаркай ідзеш па лёсе...
Зусім нядаўна быў чысты аркуш,
Для кропкі месца і засталося.

## Гімн жыцця

Усё жыццё пісаў я гімн жыцця
І спадзяваўся — Бог мяне пачуе.
А лепшы твор — любімае дзіця,
Святло, узнёсласць, вечнасць скандэнсуе.

І спраўдзілася — сонечна было,
Душа лунала ў марах і натхненні.
Ды ісціна у тым: дзе ёсць святло,
Там непазбежна побач будуць цені.

І плынь пачуццяў ахалоджваў лёд,
І вера ў цуд не вельмі ратавала.
Таму святочнасць гімна з году ў год
Адценне рэквіему набывала.

Лягчэй агонь з ільдзіны выкрасаць,
Чым жыць адно — з усмешкай, без турботаў.
Не, гімн жыцця няпроста напісаць
Без падфарбоўкі, без фальшывых нотаў.

## Ветразь адзінокі

Пад белым ветразем надзеі
Плыву ў паданні, казкі, міфы.
І мары — сонечныя феі,
Кіруюць, абмінаюць рыфы.

Чужая недабразычлівасць
І зайздрасць чорная чужая,
Як плынь падводная. Зласліва
Плысці далей перашкаджае.

Гудуць чужых намераў хвалі.
Недасягальнае міражыць.
І лёс штодня кладзе на шалі
Дабро і зло — што пераважыць?

Цунамяць тут зямлі разломы,
Вятры тут раздзімаюць шчокі...
Дык вось адкуль радок вядомы:
«Бялее ветразь адзінокі...»

## Абвяргаю!

І хто сказаў, што ў Беларусі
Дух беларускасці памёр?
Хлусня!
Тады ўжо лепей схлусіць,
Нібыта ў нас няма азёр.

Я абвяргаю далікатна,
І вось што выкажу яшчэ:
Памрэ тады, калі папятна
Вада рачная пацячэ.

## Жыцця палітра

Жыцця палітра —
лёсы, дні, гады,
Якія час ці зрыне,
ці узвежыць.
Нікчэмнае —
знікае назаўжды,
Адметнае —
гісторыі належыць.

І кожнаму праз
лёсу калаўрот
Пранесці крыж
уласны даведзецца.
Рака падзей цячэ —
за годам год,
За векам век
у летапіс кладзецца.

## Падман

Я гукнуў у ноч саву,
Нават не зусім умела.
І яна на галаву
Ледзь гукацелю ні села.

Нада мною — шых-шых-шых,
І крутнула ў цемру ночы.
У яе — лакатар-слых
«Бачыць» значна лепш, чым вочы.

Зорнасць, дождж альбо туман —
Я гукаў — сава ляцела.
Паддаецца на падман,
А чаму — незразумела.

Пэўна, ў птушак, як і ў нас,
Больш замужніх і жанатых,
І ляціць яна штораз,
Бо шукае незанятых.

## Прагрэс

*У рэгрэса — шлях назад*
*Да пячоры, ў заняпад.*

У прагрэса шмат шляхоў
Да вяршынь і да вярхоў,
Да звычайнасці лагічнай
І да мэты фантастычнай.
Праз вякі, нібы праз лес,
Да святла нас вёў прагрэс.
Ён — як сонейка над светам,
Але дзіўнае не ў гэтым.
Я для прыкладу вазьму —
Нейкіх сто гадоў таму:
Век — тэхнічны велікан,
Ён займеў аэраплан,
Перасеў з каня ў машыну,
На чыгунак каляіну.
Вымушаў той век дзівіцца,
Дый было чым ганарыцца.
Але звыштэхнічнасць тая
Сёння ўсмешку выклікае —
Век не выглядае дзіўным,
А няўклюдным, прымітыўным.
Век — храмы, як без нагі —
Дзе былі у іх мазгі?..
Уявіце, што стагоддзе
Праляцела, як па лёдзе,
Праімчала, як імгненне.
Сталі нашы дасягненні
Цьмянець і сцішаць разбежку,
Нават выклікаць усмешку
У наступных пакаленняў.
І вярталася здзіўленне

Зноўку на свае кругі:
Дзе былі ў нас мазгі?..
Так было, так ёсць, так будзе —
Новай будучыні людзі —
Разумней, вышэй, наўзлётку,
Адштурхнуўшыся ад продкаў.
З веку ў век прагрэс няспынны
Крочыць — так і быць павінна.

## Душы малебен

Пішу... Пішу...
Таўсцее сшытак —
Сам аўтар, сам чытач, сам крытык.
У рыфмах лад, у думках вольнасць —
Падзяка Госпаду за здольнасць!
Пішу і цешуся дзіцяцем,
Што парадніўся з творчым шчасцем.
Пішу...
А што далей? Пытанне.
А дзе чытач? І слова вяне,
Як гіне без вады расліна.
Шуфляда — вершаў дамавіна.
І сам, як крыж на дамавіне —
І думкі мруць, і сэрца стыне.
Пішу...
Пішу...
Каму патрэбен
Жыцця грааль, душы малебен?

## Аргумент

Я на думцы сябе лаўлю,
Што палоніць мяне міжволі —
Не люблю я зіму, не люблю,
Чым далей па жыцці, тым болей,

Я не сын дакучальных прастуд,
Не любімец хваробаў кволы.
Захапляе й мяне белы цуд,
Дзе бярозы, як крылы анёлаў,

Дзе ад сонца звініць далягляд,
Дзе нібыта каралы галіны,
Дзе кружыць белы вальс снегапад,
Нібы ў небе страсаюць пярыны.

Чалавеку зімой шмат забаў —
Санкі, горкі, канькі альбо лыжы...
Вунь, бяздомны сабака прыпаў,
Закалелыя лапы ліжа.

А наперадзе ноч, мароз,
І няма болей сіл сабачых.
Ён не бачыць анёлаў-бяроз,
Бо й наступнага ранку не ўбачыць.

На дварэ маразоў кіпцюры,
За акном завірухі веюць.
Мы ў цяпле, мы — прыроды цары,
А яны без віны калеюць.

Колькі кожнай зімою дарма
Загібее бяздомных душаў,
Колькі іх забярэ зіма —
І сабак, і катоў, і птушак...

Аргумент — як сцяна. І таму
У штыкі халады сустракаю.
Быў бы рады любіць зіму,
Ды, як Бога, вясну чакаю.

## Мінулага пячаць

Спачатку не пачаць
Ні году і ні веку —
Мінулага пячаць
На кожным чалавеку.

Не ўключыць задні ход
Былому пакаянне,
Бо словам дадзен ход
І здзейснены дзеянні.

Адзін і той урок
За кожным паваротам:
Спачатку робім крок,
Аналізуем потым.

І мусім адзначаць
Усё, што адбылося...
Мінулага пячаць
Ляжыць на кожным лёсе.

## Няроўны бой

Ваюе баба з пацукамі —
Ну як бы іх пусціць на звод?
Ёй — сто гадоў, дый то з сынамі,
А пацукам — мільёны год.

Няроўны бой! Ён знішчыць хутка
Цярпенне, бульбу і муку.
І эвалюцыя — ...цітутка,
Супраць старой, на іх баку.

Гнявіла б менш бабулю бедства,
Каб слых дапяў і да яе,
Што ўзброенае чалавецтва
Бой гэты пацам прайграе.

# 2000—2007

## У віры падзей

Лёс мой іншы стаў —
Я цяпер радзей
У палоне спраў,
У віры падзей.

Без пасады мне
Лепей — вольны я.
Як заўжды, у цане
Пратакольныя.

Не бруіць, цячэ
Лёс — ну й што з таго?
Я здзіўлю яшчэ.
Я яшчэ — ого!

Груз гадоў — не здзек,
Старасць — не дакор.
О, мой сталы век,
Ты — мой лепшы твор!

Дрэва без кары
Знуліць дні свае.
Хіба ж конь стары
Баразну псуе?

## Вяртанне з выраю

Вяртанне з выраю —
цяжкі, далёкі шлях,
Чужыя землі пад крылом ляжалі.
І сэрцаў стук,
і крылаў кожны ўзмах
І гнёзды, і Радзіму набліжалі.

Там поўдзень, сонца —
ды нямілы цуд,
Свая зямля — найдарагая ў свеце.
Тут дом, пад небам продкаў,
родны кут,
І толькі тут працяг жыцця, дзе дзеці.

Падводжу вынік і гады лічу,
Што так мяне імчаць —
не азірнуцца...
Праз нейкі час я ў вырай адлячу,
О, як бы я хацеў назад вярнуцца.

## Лагойшчына – маці гасцінная

Я шмат дзе бываў —
куды ні зірні:
Еўропа,
Амерыка,
Азія...
З Лагойскай зямлі —
мае карані,
Якой аніразу не здрадзіў я.

З Лагойскай зямлі —
і першы узмах

Юнацкімі крыламі-мроямі.
Тут водар гаёў,
                    палёў,
                              і садоў
З крынічнымі дзіва-напоямі.

О, дзякуй табе,
                    мой насычаны лёс,
Зямля маіх продкаў былінная!
Я годна і свята
                    імя тваё нёс,
Лагойшчына —
                    маці гасцінная.

## Мо беззаконне?..

Закон прыроды?.. Мо беззаконне?..
Ланцуг харчовы — у ім і мы.
Чужая кроў і плоць — на коне,
І смерць...
Закон — глухі, нямы.

Хто ж так прыдумаў? Калісьці? Дзесьці?
Хто з «быць — не быць»
                              абраў «не быць»?
Каб жыць — кагосьці трэба з'есці,
Загрызці, разадраць, забіць.

Штодзень, штовек —
                              драпежны танец,
Адна арбіта — віток, віток.
Наш Бог — не вегетарыянец...
Зноў кіпцюры не ўпусцяць шанец,
Зноў для клыкастых —
                              крыві глыток.

О, я — дзівак! Шкадую птушку,
Зайца, казулю, мураша.
За грош і нас бяруць на мушку,
Жыццё — не варта і граша.

## Хараство

Пакацілася сонца за лес,
Туманы да ракі паплылі.
І здаецца, што шаты нябес
Раптам сталі бліжэй да зямлі.

І сціскацца пачаў далягляд
Да акругласці веліч-шатра.
Хутка ноч й залаты зоркапад —
Залатая ўлюбёных пара.

Сэрца, поўнае казачных мрой,
Прывітае жыццё і вясну.
Прачынаецца дзіўны настрой,
А зямля адыходзіць да сну.

Вунь, да месяца дуб-хмарачос
Прагна цягнецца голлем сваім.
Дзе ні глянь — непаўторнасць дзівос,
Хараство — не нацешыцца ім.

## Мы і яна

Хоць будзь набожным,
Хоць бязбожным,
Хоць з самай светлай галавой,
Ва ўсе часы стаіць за кожным
ЯНА з навостранай касой.

І прадчуванне з ёй сустрэчы
Нам пры жыцці настрой псуе.
Як ад дурноты чалавечай,
Не ўратавацца ад яе.

І што?
Крычаць: — Ратуйце, людзі?!
Не дапаможа — лепей так:
ЯНА — за горла,
Вы — за грудзі,
ЯНА — з касой,
А вы — ў «пятак».

А ўцёкі будуць марнай працай,
Ёй плюнуць — нас дагнаць, злавіць.
Галоўнае — не азірацца,
Няхай сабе з касой стаіць.

## Верш без слоў

Верша без слоў не бывае?
Бывае!
Ён — у душы, ён — часцінка паэта,
Шырыцца, крыліцца, моц набывае —
Як не схіліцца прад цудам за гэта?!

Ён — таямнічы спрыяцель натхнення,
Ён — як выток незмутнёны крынічны,
Бо ад яго і з яго блаславення
Родзіцца кожны радок паэтычны.

Ён — як зародак у чэраве маці,
Сёння — маўклівым спавіты бясслоўем,
Хутка — прачнецца і будзе спяваці,
Плакаць, смяяцца радком, міжрадкоўем.

Ён да глыбіняў душу пераверне
Безліччу мар, незлічонасцю мэтаў...
О, каб не гэта цудоўнае зерне,
Свет не спазнаў бы ніколі паэтаў.

## Салісты – рэдкасць

Салісты — рэдкасць, не натоўп яны...
І родзіць хлеб, быльнёгам незагушчаны,
І жолуд прарасце, зямлёй разлушчаны —
Для творчасці «шарашкі» — кайданы.

Прыгнёт, ідыялогія — пятля
На вольнай думцы, творчасцю акрыленай.
О не дай, Бог, мазгі з нятворчай звілінай
На караблі духоўным, ля руля.

Пад змрокам інквізіцыі — вякі
І таленты — не ўратаваў і Божа іх.
Магільны крыж на творах ненароджаных —
Уладаў шоры, «тройкі», Салаўкі.

## Благавешчанне

Да Благавешчання заўжды
Пяшчота сэрца й цеплыня.
І гэта свята праз гады —
Ў душы да сённяшняга дня.

З маленства ў памяці нясу
Прыкмету, прыгажосць яе:
Дзяўчына не пляце касу,
А птушачка гнязда не ўе.

Вось ён, святой пашаны дзень,
Непараўнальны Божы дар.
На Благавешчанне й прамень —
Як вестка аб здзяйсненні мар.

## Прамень даўніны

Безнадзейна сумуе сцяжынка ў траве,
Ледзьве бачна бяжыць — то ў нізіну, то ўгору.
Ёсць яна — і няма,
і жыве, й не жыве —
Разам з ёй тут знікае далёкае ўчора.

А калісьці сцяжынка дарогай была,
Хай сабе і не бойкай,
а ўсё-ткі «ў законе».
Тут і песні гучалі, й гаворка гула,
І гармонік завітваў, і цокалі коні.

Ці дажджы, ці спякота,
ці снег, ці вясна,
А над ёй не сціхаў
смех і спеў шматгалосы.
З году ў год бездакорна служыла яна,
Безадказна злучала сядзібы і лёсы.

О, чароўнасць дарогі такой — не шаша,
Тут і роздум духоўны,
й зямлі беззаганнасць.
У дарогі такой — наваколля душа
І свая непаўторная утаймаванасць..

Што ж, знікаюць яны,
адыйшлі у нябыт,
Нашых продкаў дарогі і годнасць былога.

Мы даўно праматалі
на шчырасць ліміт —
Сёння мчыць нас (куды?) безаглядна дарога.

Аўтабаны гудуць —
аж гудзе ў галаве,
І не ўгледзець у вокнах матулі-прыроды...
Толькі недзе сумуе сцяжынка ў траве,
І знікае прамень даўніны —
назаўсёды.

## Бяда-прычэпа

Слепа хліпала газоўка,
Праз парог ступіла маці:
— Ацялілася кароўка!..
І ад мацінага слоўка
Быццам прасвятлела ў хаце.

Дзеці — ў радасць!
Ў тлуме, ў грудзе,
Піску ў хату напусцілі:
— Мамка! Малачко ў нас будзе!
— Мамка! Масельца ў нас будзе!
— Будзе, дзеткі, адпасцілі.

Трэба грэць ваду — я хутка,
Бацька там саломку сцеліць,
Бо ляжыць наша Малютка —
Бог памог яе расцеліць.

Тут ускочыў бацька ў хату,
Ў самы тлум дзяцей-гарэзаў.

Дзеці абступілі тату,
Ён прамовіў вінавата:
— Усё... Ляжыць пластом... Дарэзаў...

Маці — ў жах. З раскрытым ротам,
Каля печы як абмёрла,
Выдыхнула: — Што ты? Што ты?
— Мусіў... Кроў пайшла праз горла.

Дзеці ў голас: — Татка! Татка!
Маці — ўперад галавою:
— А дзіцятка?! А цялятка?!
Што з ім? Як яно?
— Жывое.

О бяда... Бяда-прычэпа,
Й самых бедных не мінае...
Зноў смыліць газоўка слепа,
Ноч у вокны зазірае.

## Неабходнасць

Выйду ноччу на пагорак,
Бо туман ў лагчыны лёг —
На ўсё неба безліч зорак
Парассы́паў сейбіт-Бог.

І ліе срэбрабялёсы
Месяц сум свой на палі.
Зоркі ў небе, нашы ж лёсы
Мітусяцца на зямлі.

Мы прывязаны навечна
Да Радзімы, да магіл.

І за намі шляхам млечным
Сцелецца дарожны пыл.

Мы напружана вачыма —
У палон зямных дарог.
Не заўсёды ёсць магчымасць
Пазіраць туды, дзе Бог.

Незаўжды...
Ды ёсць патрэба
Клопаты спіхнуць з душы,
Стаць вось так, зірнуць на неба
У загадкавай цішы.

## Спадчына

Аб чым пісаць?..
Святая справа!
Мы свой па-свойму век зжылі.
Пісаць — каб вам было цікава,
Нам — не саромецца ў зямлі.

У нас трава і сонца тыя ж,
І ў вас, хутчэй за усё — яны.
У нас — слязьмі душу памыеш,
А вам што непакоіць сны?

Мы зробім вам наўрад адкрыцці,
Вы больш разумныя за нас.
Галоўнае — каб нашы жыцці
Граблямі спраў былі для вас.

О, мы далёка не анёлы,
І ў нас нячысцік святкаваў.

Кароль між нашых лёсаў голы
Пампезна прашпацыраваў.

Духоўных намаганняў праца
Узносіла наш час і нас
І прагнасць беларусам звацца —
Як наша спадчына для вас.

## Быў – ёсць – будзе...

Я адыходжу, зачыняю дзверы,
І ўсё, што за душой — ідзе са мной.
Наперадзе — халодныя ашчэры
І сум не менш халодны за спіной.

Я адыходжу дзень за днём — няспешна,
Падводзіць вынік спраў маіх — не мне,
Бо я б абагульніў да болю смешна
І коратка, як надпіс на сцяне.

У слове «быў» — прысуд і сэнс фатальны,
Не дужа лепшы сэнс у слове «ёсць».
У першым слове — надпіс памінальны,
Чытай другое — як «часовы госць».

І толькі ў слове «будзе» — таямніца,
Бо ёсць надзея, што разумны час
Дазволіць бессмяротным нарадзіцца,
Шчасліўцам, лепшым за часовых нас.

## Каюся

Божа любы!
Божа правы!
Ты стварыў жыццё — не мёд,
І таму даруй забавы
Маладых і грэшных год.

Час шчаслівы — час імклівы,
Але носім,
Як дакор:
Перагулы, перапівы,
Многіх «пера» — перабор.

І блюзнерыў я нярэдка,
Ціскаў дзевак — ад душы.
Ты б цішком мяне, без сведкаў
Адчыхвосціў: — Не грашы!

Ты б хоць раз мне ў вуха шмягнуў,
Што казаць — было за што.
Ты маўчаў — і я працягваў
Калаўроціць на ўсе сто.

Сёння іншы я, набожны,
Бог такіх не абміне...
Але грэшны дзень той кожны
Ўсё ж прыемна ўспомніць мне.

## Туды, дзе сінь...

Ў абдымках часу, на далонях дзён,
Жыву ў бацькоўскай хаце, не ў палацы.
А думкам рыфмы, строфы — не палон,
Вальней ім між радкоў, у творчай працы.

Радкі — штыкі, а між радкамі плач,
Ды міжрадкоўе не сатрэ і гумка,
Хоць часу конь капытамі няўдач
Дратуе поле парасткаў-задумкаў.

З інтрыгаў за спіной распяцця крыж
Рыхтуюць спраўна зайздрасці Іуды.
Ды шчасце — ў неба ўзмыў натхнення стрыж,
Туды, дзе сінь, вышэй, чым хмараў груды.

Туды, дзе сінь...
А што вакол, вось тут,
Дзе мітусня падзей, дзе дні-гарэзы?
У чыстай плыні — чорных хваляў бруд,
Ад іх ратуюць творы-хвалярэзы.

О творчасць! Ты адкрыла вочы мне!
Табе б — ля сонца! Ты ўсё лезеш з ямы...
На чысціні, на белым палатне,
Крычаць і выядаюць вочы плямы.

## Покліч мінулага

Час-чарадзей —
Кніга жывая.
Рэха падзей
Не заціхае.

Нават стагоддзі
Не перашкоды —
Покліч мінулага
Чуцен заўсёды.

Шчырыя сэрцы
Час абмінае.
Повязь з мінулым
Крыліць, натхняе.

Ёсць ад каго
Ім адштурхнуцца,
З веку свайго
Ў новы імкнуцца.

Наш мэташлях
Шырыць і праміць
Лёсаў працяг —
Памяць!

## Дзед-гідрамет

То снег, то дождж ліне,
Начхаўшы на прагноз.
Ён спраўджваецца й не —
То едзе на мане,
А то — па ветры нос.

Не клімат, а бяда,
Капрызны, як свякроў.
Таму й прагноз — «вада»,
Псуе «вадою» кроў.

А вось сусед мой, дзед,
Хоць не чытаў буквар,
Мудрэй за гідрамет —
Прагнозаў уладар.

Ён слухае заўжды
Прагноз, раскрыўшы рот
Й прадказвае тады
Усё наадварот.

— Ты мудры сярод нас! —
Чуваць з усіх бакоў.
А дзед ім у адказ:
— Чытайце між радкоў.

## Языкі

Між іншым чуў,
ды ўсё ж не верыў,
Хоць плешчуць языкі:
«Няма для лесу бракан'ераў
Страшней, чым леснікі».

І баюць, мо не без прычыны
З няпамятнай пары,
Што самы страшны для дзічыны
Драпежнік — егяры.

Але ёсць чуткі, ад каторых
Душа то ў плач, то ў крык —

Як быццам найгалоўны вораг
Для ўсіх людзей — язык.

О языкі!
Да нас гамонка
Даходзіць спакваля,
Нібыта бы для мужа жонка,
Як цуглі, як пятля.

Агучаць языкі ў азарце
Навіны, плёткі, злосць.
Яны й жартуюць, але ў жарце
І праўда-матка ёсць.

## Баль на крыві

Хвалюе сонечную даль
Вясны няўрымслівы прамень.
Але вясна нясе, на жаль,
Ў сваіх далонях вербны дзень.

На вербах — пчолак карагод,
Прачнуўся, рупіцца, гудзе.
Ды сумна вербам, бо штогод
Нядзеля вербная ідзе.

І ўшчэнт абломіцца галлё,
(Бывай, вясенні свет жывы!)
Хто упрыгожыць ім жыллё,
А хто — на продаж ля царквы.

І так штогод, не першы раз...
Ды тут бярозкі загулі:

— На Сёмуху ссякаюць нас
Пад самы корань, ля зямлі.

І упрыгожвае царкву
Забіты гай дзівосных сноў,
І сок, як кроў, цячэ ў траву —
Праз год другіх ссякаюць зноў.

— І ў нас жыццё смыліць, як кнот,
Ўздыхнулі елкі ў гушчары,—
Бо што казаць пра Новы год?
Нас безліч гіне без пары...

Вось так гамоняць з веку ў век
Ахвяры святаў і нажыў,
Ды цар прыроды — чалавек
Не чуў. Ён святкаваў і жыў.

## Мой анёл

Цяпер адчуў глыбей: я — госць,
«Пакуль» — прысуд, не паратунак.
І мой анёл, калі ён ёсць,
Няшчасны.
Я — не падарунак.

Ён светлы плён жыцця майго
Ад першай хвілі — да магілы.
Мой лёс і засмучаў яго,
І ацяжарваў яго крылы.

Ў жыцці складаным, а не ў сне
Дзіўлюся шчыра я, бяскрылак,

Як доўга ён нясе мяне
Над безданню маіх памылак.

Яго спрыяльнасць сэрцам п’ю,
І дзячу, не заўсёды ўдала.
Чым запазычанасць маю
Яму аддаць?
Ўсё будзе мала!

Я гучна жыў — і ўкрыў, і ўкос,
Адкрыта з недаверам хеўрыў.
Ды прасвятленне мне прынёс
Анёл — і я ў яго паверыў.

## Наперадзе лецейка

Прымае душ глеба,
Клубяцца папары.
Май, рэшатам неба
Працэджвае хмары.

Кудлацінка гаю
Забегла на поле,
Паказвае маю
Зялёнае голле.

Кусты ў задуменні
Схілілі галовы.
Ды дождажык вясенні
Кароткі, часовы.

І вось ужо сонейка
П’юць далягляды.

І вычурна, тоненька
Жаўрук тчэ рулады.

Вясна пастаралася —
Ненадзівіцца.
Прырода прыбралася,
Як маладзіца.

Расчысціла рэчанька
Смецця запруды.
Наперадзе лецейка
Й новыя цуды.

## Пытанне – адказ

Вам пачуць хацелася,
Як жылося нам?
І пілося й елася
З горам напалам.

Бачу — вы цікаўнікі...
У жыцці-віры
Хто былі настаўнікі?
Ў нас — правадыры.

Што? Чым мы займаліся?
Пелі «вечны бой»,
А затым змагаліся
З «ворагам» — з сабой.

А аб чым мы мроілі?
Пераджыць бедлам.
Мы — урок засвоілі,
Не спатыкнуцца б вам.

## Ад ідэі да падзеі

Колькі ў свеце падзей,
У жыцці, а не ў сне.
Колькі ў свеце людзей,
Кожны — носьбіт ідэй
І карысных, і не.

Не даюць перакур
Нам падзеі — пад дых.
Як ад сонечных бур,
Не схавацца ад іх.

Хто нас так пакараў?
Рух, кароткія сны,
Калаўрот мірных спраў,
Ад вайны да вайны.

Кашу хтось заварыў,
А расхлёбваць усім.
Хтось капае абрыў,
А над ім мы стаім.

Часу млын не стаіць,
Перадых — ўсё радзей.
І працягваем жыць
У палоне падзей.

## Кліча сінічка вясну

Кліча сінічка вясну,
Скача руплівая сініца:
— Гаю, прачніся ад сну!
Й ты прачынайся, зямліца!

Сонейка, з неба зірні
Промнямі з новаю сілай,
І маразы прагані —
Служкаў зімы апастылай.

Вёсенка, дзе ты? Не спі! —
Просіць сінічка-пяюха.
Ды паглынула «чык-пі-і»
З'едлівая завіруха.

Выя мяцеліца, дзьме,
Гурбы наносіць без стомы...
Чулі сінічку ці не
Гай і вясна — невядома.

## Я помню...

Я помню твае губы
Цяплом уласных губ.
Ты не шаптала «любы»,
Маўчаў пачуццяў шлюб.

Як водзіцца ад роду,
Спакусных вуснаў жар
Прыносіць асалоду
І двух дыханняў жар.

Я помню твае грудзі
Цяплом сваіх грудзей.
Адчуў я ў пругкім цудзе
Здзяйсненне ўсіх надзей.

Абдымкі цёмнай ночы,
Нібы душы вуаль...
А што казалі вочы?
Не бачыў я, на жаль.

## І горка сэрцу

Жыццё — у нейкім новым цыкле,
І гэты цыкл — нібы сіло...
Няма лугоў, кудысьці зніклі
Нібы зусім іх не было.

З палёў жытнёвых больш карысці,
Вось хтось лугі і прыараў.
Затое басанож не выйсці
На росны луг, у квецень траў.

Прагрэс ад'еў усе вантробы
Ва усіх сялян, душой жывых.
А луг даўней — палёў аздоба
І царства кветак лугавых.

І не пачуць напеўных касаў —
Штось лепшыць, штось руйнуе час.
Лугі — адбітак нашых лёсаў,
Урбанізіраваных нас.

Няпроста збавіцца ад звычак
Прыдбаных на сваім вяку.
І горка сэрцу, як ад дзічак
Бывае горка языку.

## Вампіры

Штоноч брыдота лезе ў сны,
А сны — рукой не адхінуць:
Вакол вампіры, і яны
Крыві хоць кроплю смактануць.

Не, гэта не крывавы вір,
А спадцішка капаюць дол.

Нераспазнаць, хто з іх вампір,
Бо кожны з выгледу — анёл.

І як адрозненне знайсці,
(Чужыя думкі — цёмны лес)
Калі мы побач па жыцці
Ідзем, сябруем — згода спрэс?

Сяброўства — творчасці выток,
Чытаю іх тварэнні — цуд!
Ды раптам бачу свой радок,
А то і больш — то там, то тут.

Мне горка й сорамна за іх...
Упэўнены і сёння я,
Што думак вольных, нічыіх
Няма — у кожнага свая...

Прачнуўся з мокраю спіной
І цешуся — адхлынуў сон,
Што светлы дзень перада мной,
А значыцца, вампіры — вон.

## Перамены

*...Бо на свеце ўсё нявечна,*
*І зямля свой твар мяняе.*
Я. Колас

Як мяняе ўсё наўкола
Час бязлітасна, няспынна.
Толькі бусел «круціць кола»
У паветры сумнаплынна.

Там, уверсе — сінь, аблокі,
Над бусловым «выкрунтасам» —

Свет бязмежны і высокі,
Незалежны, паза часам.

А зямля...
Яе люляе
Час, ды не заўжды спрыяльна —
Наваколле выглядае
Засмучальна, развітальна.

Далягляд «злысеў», прывянуў —
Ні ратунку, ані спасу...
На сябе я ў люстра глянуў:
О, і я — ахвяра часу!

## Я і Ленін

За вокнамі золка
зімоваму дню
І ломіцца вецер —
то ў вокны, то ў сені.
Я лаву падсунуў
бліжэй да агню,
Да грубкі —
і Ленін узлез на калені.

Так хораша мне,
што, здаецца, засну —
У грубцы трашчыць
мілагучна паленне.
І Ленін дрымоціць,
завёўшы курну,
Між намі —
ўзаемнае паразуменне...

Бабуля Алёна,
суседка праз плот,—
Сама дабрыня —
дай Бог жыць чалавеку!
Адна векавала —
і з ёй шэры кот,
Таксама стары,
паважанага веку.

Алёнін быў кот...
ды застаўся адзін,
Бо раптам не стала
яго гаспадыні.
Вось я і забраў яго,
не без прычын,
Бо хто ж ссірацелага
ў горы пакіне.

— Чый кот гэта?
— Ленін.
Вось так і пайшло,
Вось так і паехала,
і павялося.
А ўжо языкі —
як трапло-памяло —
І «Ленін» — на гэтым кату прыжылося.

І кот фанабэрыцца —
толькі пакліч,
Ён стаў знакамітасцю —
есць сабе й лындзіць...
Спі з мірам й далей,
Уладзімір Ільіч,
Твой цёзка не злыдзень —
і мыш не пакрыўдзіць.

## Гісторыя памылак

Псеўдаідэй — абмылак,
Ад абяцанак — цень.
Гісторыя памылак
Штовек,
Штогод,
Штодзень.

О, байкам мала веры,
І лозунгі — сіло.
І камунізм — хімера,
І мірны атам — зло.

Дзе сёння хціўцы тыя,
«Кармільцы»-крыкуны,
За кім — гады пустыя,
Не горы залатыя,
А гора? Дзе яны?

Мы страх з надзеяй жэнім
Таму і ад таго,
Што лёс не пераменім,
Што жыць далей пад ценем
Чарнобыля свайго.

## Парада

Дзеля шчасця, дзеля лепшай долі,
Не шукайце ветра ў чыстым полі,
Не насіце рэшатам ваду.
Талькі той, хто з мэтаю сам-насам,
Хто на «ты» з падзеямі і з часам,
Адарве падэшвы на хаду.

Не шукайце шчасце за мяжою,
Не шукайце — там яно чужое,
Нам незразумелае яно.
На чужбіне й шчасце — чужаніца,
Будзе сніцца «у руцэ сініца» —
Журавель у небе знік даўно.

## Штрыхі

Кароткая памяць
Вядзе да бяды.

Хвіліны параняць,
Загояць гады.

Салодкае слова
Нярэдка гарчыць.

Ў жыцці выпадковых
Людзей не злічыць.

След ісціны дзесьці —
Маланкавы стрыж.

Нялёгка данесці
Да долу свой крыж.

Сцвярджаецца важка:
Любою цаной.

Больш важна, больш цяжка
Самім быць сабой.

## Быць звонам часу!

Вазьміце маё сэрца, калі ласка,
Тады пераканаецеся вы —
На ім жывая кроў мая, не маска,
А ў ім — няспынны боль і крык жывы.

Паслухайце яго — яно адкрые:
«Заўжды быць звонам часу!» — свой дэвіз.
Але падзей і часу арытмія
Няўмольна набліжаюць фініш-крыз.

## Нязбыўнае

Хачу праз стагоддзі вярнуцца
Ў жыццё трапятлівае зноў.
Да сэрцаў жывых дакрануцца.
Радком сваіх думак і слоў.

Калі ж праз вякі словам чулым
Я вас закрану — сведкам Бог:
Між будучыняй і мінулым
Успыхне прамень — дыялог.

## Надпісы на сценах

Чытаю надпісы на сценах,
Напісаныя ад рукі:
— Ударым голадам па цэнах!
— Затужым рэмнем пазванкі!..

Які тут сэнс хаваюць словы?
Ён не для розуму майго,

Хоць не зусім я безгаловы —
Дзіўлюся — што тут да чаго?

Махнуў рукой, заходжу ў краму —
Асартымент, прывабнасць, пах!
А цэны!.. Як не ўспомніць «маму?» —
Штодня растуць, як на дражджах.

Ды к чорту ўсё! К ядрэні фені!
Тужэй свой рэмень зацягну.
Калі харчы не па кішэні,
Пайду шукаць сваю сцяну.

## Дзень беларускага пісьменства

Дзень беларускага пісьменства —
Святкуй, літаратурны свет!
Для душ духоўных — набажэнства,
Для бездухоўных душ — фуршэт.

Людзей, людзей! На тое й святы,
Каб шэрасць будняў забяліць.
У кожнага настрой прыўзняты —
Ёсць чым цікаўнасць наталіць.

Кнігарні, кірмашы, буфеты,
І песні, й танцаў карагод.
Тут — і святочныя газеты,
І дух даўно мінулых год.

А вось — на сцэне выступоўцы
З раёну, вобласці й вышэй.
І дораць прывітання слоўцы —
Мёд для душы і для вушэй.

Чыноўнікі людзей вітаюць,
Уладныя гаваруны,
Хоць кніг ні пішуць, ні чытаюць,
Ды тут — галоўныя яны.

Пісьменства — свята!
Адназначна!
І нездарма шматлюдна тут...
А дзе ж пісьменнікі? Не бачна!
А-а — вунь! Адсунутыя ў кут.

## Там шчырасці болей

Мяне, як малога бяруць за руку,
Былое за сэрца бярэ і вядзе
Па лёсе маім, па пражытым вяку,
Па ўсім, ад чаго не схавацца нідзе.

Па ўсім...
Пачынаючы з лютай вайны,
Праз жахі якой несла маці мяне,
Праз голад, што спраўна
 прыходзіў у сны —
Няхай вас драпежнасць
 тых дзён абміне.

Ў абдымках галечы,
 пад гмахам бяды,
Я шчасцем маленства
 праменіўся, рос.
І памяць ласкава вяртае туды,
Дзе першы мой крок,
 дзе крынічыць мой лёс.

І я паслухмяна за памяццю йду
Ў былое — прабачце, сучасныя дні.
Не, я не мяняю свой час на бяду —
Там шчырасці болей,
там больш чысціні.

## Чуткі

І як не верыць прыліпалам-чуткам,
Калі яны — нібыта ў лазні лісце,
Калі яны з'яўляюцца звышхутка
І нашы нервы ядавіта хрысцяць?

— А чулі, там было...
Няўжо не чулі?
— А там загінулі...
— А там канаюць...
І гэтыя атручаныя «кулі»
Не забіваюць, а настой знішчаюць.

І сонечнасць псуюць адценнем шэрым,
Уклад жыцця вядуць у беспарадак.
І хоць іх адганяеш недаверам,
Ад чутак застаецца ўсё ж асадак.

Дзе паратунак — выказаць наспела:
Адным — язык прытрымліваць у роце,
А большасці — глядзець наперад смела,
Не верыць брудным надпісам на плоце.

## Першы гром

Вясна прыход чакаеш, нібы свята,
Як таямніцу —
новая заўжды.
З вякамі — маладзее мнагакратна,
І сам вясной —
нязменна малады.

На ўсё і ўсіх
яе ўплываюць чары —
Ляціш да сонца —
нібы матылёк,
Празрыстасцю напоўненыя мары,
Акрылены надзеяй кожны крок.

Вясна ва ўсю прыкладвае старанні,
Яшчэ што б упрыгожыць — разважае.
А першы гром —
як першае каханне,
Крыху трывожыць —
і крыху пужае.

## Узаемныя парады

— Чаму, сусед, твой сад штогод
Багаты — аж трашчаць сукі?
З чаго такі урод-прыплод?
Як кажуць, еш за дзве шчакі.

А мой садок праз плот — бы спіць,
Вясной цвіце, а ўвосень — пшык...
Сусед сваім адказам кпіць:
— Ты сам у шапку спаць прывык.

Вазьмі ў святочны дзень «Пахом»
Сякеру й паграждай садку;
Ўлупі па дрэвах абухом:
«Не будзеце пладзіць — ссяку!»

І сад твой накладзе ў штаны,
Будзе пладзіць увесь твой век.
І я рабіў так — без маны,
Адну, для страху іншым — ссек.

Усёк?
— Усёк! А я, партач
Карміў іх гноем задарма...
— Цяпер, браток, ты́ растлумач,
Чаму ў цябе жукоў няма?

— Пра каларадскіх ты жукоў?
— Пра гэта, братка, гадаўё.
Яны бульбоўнік да шматкоў
Ушчэнт знішчаюць, ё-маё...

Вось у цябе бульбоўнік — лес,
І не жучка нідзе — ні-ні!
— Я ў іх нутро мазгамі ўлез
Даўно — цяпер вось на кані.

— Мазгамі ўлез?.. Не ўцяміў я...
Ты, братка, кінуўся ў ману?
— Не! Ты крані у гадаўя
Нацыянальную струну.

Пастаў ты з краю баразён
Лавушку з музыкаю ім.
Затым ўключы магнітафон —
Зайграй амерыканскі гімн.

Ты так дасі жукам пад дых,
Бо настальгія — гэта жуць.
Патрыятызм прачнецца ў іх
І самі ў пастку запаўзуць...

Так і зрабіў — адзін, другі:
За ураджай!
Супраць жука!
Для кемлівасці — і мазгі,
І ад праблем — адна луска.

## Вершы

Я думаў, што вершы —
ружовыя крылы
Для казачнай птушкі —
складай і на ўзлёт.
Яны — аднадумцы,
выток маёй сілы,
Яны — не прыхільнікі
зменлівых мод.

Я думаў, я верыў —
быў перакананы:
Ружовасць у сэрцы —
ружовасць вакол...
Ды ў снах не складаюць
жыццёвыя планы,
Рэальнасць жыцця
хутка ўб’е у іх кол.

Хмурнеў светапогляд,
мяняючы строфы,
Сціскалася сэрца —
і словы ў камяк.

І творчасць стварала
абрысы Галгофы
І парасткі вершаў
у рост — аніяк.

Народжаных вершаў
і смуткі, і святы
Ствараюць душы
неабсяжны абшар.
А вершы, што ў сэрцы
выношваеш свята —
Адказная ноша,
шчымлівы цяжар.

## Жыццё не ўдалося...

Здаецца, што скочыў
Я «з гра́зі ды ў князі» —
Пачаў век і скончыў
Ў змаганні-экстазе.

Гной, плуг і рыдлёўку,
Бясхлеб'е, бяспраўе —
Іх, нібы вяроўку
На шыі, спазнаў я.

Да ведаў быў прагны,
Да лепшага часу —
Як з жудаснай багны,
Ірваўся з калгасу.

Дасягнута мною
За век свой немала,
Ды горыч сцяною
Наперадзе ўстала.

Назад азірнуўся —
О, неба святое!
Зрабіў я, Ісусе,
Не ўсё, шмат — не тое.

І ты, Божа правы,
Падшкоджваў патрошкі —
Няўжо для забавы
Мне ставіў падножкі?

Я, з веку малога,—
Ні ныцік, ні цынік.
Не га́ню нікога,
Падводзячы вынік.

З мінулым гута́ру,
Душой адчуваю —
Галоўную мару
З сабой пахаваю.

Не, не далілося
Здзяйсненняў калоссе —
Шмат што не збылося,
Жыццё не ўдалося.

## Прадзім'е

У лесе няўтульна
Халодна і пуста.
Канчаецца восень —
«Адрэзана луста».
Нідзе ні грыбка,
Ані красачкі позняй,
Нідзе ні дарунка
Зямліцы заможнай.

Ні гуку, ні шоргату,—
Суму аблога,
Нібыта ўсе збеглі кудысьці —
Нікога!
А-а, вунь мільганула
Рупліва сінічка,
Паспела штось пі-ікнуць
І знікла, як знічка.
Спакой выглядае
З-за кожнага дрэва...
О, хутка заўладзіць
Зіма-каралева.

## Санкцыі

Санкцыі супраць людзей,
    што цябе ўзгадавалі,
Здольны прасіць недáчалавек —
    замежнай памыйніцы кот.
Кіне ён нават сваіх
    маці і бацьку на шалі,
Як процівáгу той костцы —
    у фанціку з еўрабанкнот.

Санкцыі...
Гэта гучыць сапраўды
    застрашальна, сурова,
Санкцыі супраць дзяцей і старых,
    быццам гэта злачынцаў сусвет.
Санкцыі б’юць па нявінных,
    хто біты і так шматразова,
Ды не збяднее ад іх
    уладны і стол і бюджэт.

## Выключны прыклад

Шчаслівым будзе той,
        хто ўсё закрэсліць,
На ўсё ў мінулым
        сытасць дня ашчэрыць.
Ў бяспамяцтве сваім,
        нібыта ў крэсле,
Разляжыцца —
        усё і ўсіх пахерыць.

Так, тут свіння —
        і перад ёй карыта,
Выключны прыклад —
        дзе ад яго дзецца?
Расце і пустазелле
        сярод жыта,
А хлеб усё ж
        галоўным застаецца.

Пакутуе, крычыць
        душа жывая,
І кожны успамін
        аб гэтым сведчыць...
Таму людзей шчаслівых
        не бывае,
Што памяць ёсць —
        яна душу нявечыць,
Ад чэрствасці душу ратуе —
        лечыць.

## Забытае «калісьці»

Мы — дзеці «самых лепшых» канстытуцый,
На практыцы — калючых, як асцё.
І мы ў палоне розных рэвалюцый
Змагаліся амаль усё жыццё.

Штось гартавала нас,
Штось гвалтавала,
А штосьці вельмі проста —
 у расход.
І ўсё ж былі такія —
 і не мала,
Хто прагнуў з «масаў»
 адрадзіць «народ»...

Гэта — было...
 Ды вастрыню былога
Не прытупіла мешаніна часу.
І сведчыць падазронасці аблога,
Што зноў народ
 муціруюць у масу.

Гісторыя заўжды падкажа выйсце,
Як «аднавіць» яе —
 рэцэпт стары,
Бо новае — забытае «калісьці»,
Яно было — гатовае бяры.

## Запознены вынік

Як рыбіна ў сетцы, я біўся,
Адольваў заслоны гадоў,
Баяўся, хаця б не згубіўся
Мой след сярод іншых слядоў.

І што? Азірнуўся і бачу,
Я — марнасці часу прымак.
Мне жыць можа б трэба іначай
Спачатку, змаленства.
А як?

Запознены вынік — каранне...
Нажыў гузакі на ілбе,
Аддаўшы шмат часу блуканню
Ва ўласнай душы, у сабе.

І сілаў патраціў не мала
На доказы: я — гэта я!
Ды грознае «мы» адчувала
Заўжды самабытнасць мая.

Я дзёрзкім быў — неасцярожным,
Дзе й трэба не слухаў маўчком,
Таму падпішуся пад кожным
Напісаным калісь радком.

## Прытулак для душы жывой

Нарэшце — за спіной дарога,
Не чую ні плячэй, ні ног.
Быццам не я — мая знямога
Зрабіла крок цераз парог.

Хінуў я стомленае цела
Бліжэй да грубкі, да агню.
Трывожна шыбіна трымцела,
Палохаючы цішыню.

Даўней мяне сустрэла б маці:
— Сядай, сынок! Паеш, сынок!..
А сёння я адзін у хаце
Ды Маці Боскай абразок.

Надзея не губляе веры,
І я, у кут дапяўшы свой,
Не зачыніў на клямку дзверы,—
Прытулак для душы жывой.

Мо ён камусьці дапаможа
Не ўпасці, сілы аднавіць...
Ноч, безгалоўе, бездарожжа,
Нервова шыбіна трымціць.

## Прысуд-кляймо

Сярод уцех, спакус, антыспакус,
Сярод падзеяў, фактаў, антыфактаў —
У Беларусі — рэдкасць беларус —
Трагедыя для продкаў і нашчадкаў.

І ён гудзе, свядомасці набат,
Адзін з найзаклапочаных у свеце —
У Беларусі — беларусаў шмат,
На жаль, не па душы, а па анкеце.

Няўжо мы назаўсёды набылі
Прысуд-кляймо гісторыі суровы: —
«Адзіная дзяржава на зямлі,
Якая верне нос ад роднай мовы...»

## Зайздрасць

Жыццё атульвала пяшчотай,
Ды біла ўсё-такі часцей.
А мне зайздросцілі употай
Заўжды — з юнацтва, «ад лапцей».

Рот не заткнеш такому люду,
За кім пятляе чорны след.
А я з калгасу, з гною, з бруду,
З мар прадзіраўся ў светлы свет.

Са скуры лез — была патрэба
У сэрцы запаліць святло.
І мне нішто не ўпала з неба,
Само да ног не прыплыло.

У тых заўсёды вынік плённы,
Хто плёну дорыць сілы ўсе,
І хто вышэй за хлеб надзённы
Духоўнасць па жыцці нясе.

Употай зайздрасць ці адкрыта,
Яна, як горб, відаць здаля,
Ёй ля разбітага карыта
Век векаваць — ніжэй нуля.

Напэўна, знойдзецца не мала
Хто хутка пазайздросціць мне:
— І зноў яму пашанцавала,
Шчаслівы ён — памёр у сне...

## Рэвізія

Перачытаў свае вершатварэнні,
Якія кніжны набылі статут.
О, як бы я прарэдзіў іх — з карэннем,
Падправіў, паднавіў з задавальненнем
Альбо адсунуў у далёкі кут.

Ці я змяніўся, ці яны спрасцелі?
Ці тут маёй крытычнасці парша?
Але ж і ў нашым незаменным целе
Праз нейкі час мяняецца душа.

І чалавек, як верш наіўны, ранні,
І сам наіўны быў і малады,
Лунаў у блазнюкоўстве і каханні,
Ды на зямлю спусціўся праз гады.

Разважлівасць радзей глядзіць на зоркі,
А пра наступствы думае найперш.
Таму і вынік разважанняў горкі:
Не розум, а душа крыліла верш.

Мой ранні верш — цікавая праверка,
Учора й сёння я — два берагі.
Я быццам глянуў на сябе ў люстэрка
І сумна ўбачыў — сёння я другі.

Мяняць і перапісваць?
Аніслова!
Там я — больш натуральны і жывы.
І рань душы не аднавіць нанова
Разумным вершам, ўзятым з галавы.

## Аўтапартрэт

Ён пець ад шчасця быў гатовы,
(Сябе ў сабе перамагаў)
Хаваў узрост свой блазнюковы
Хлапчук пятнаццацігадовы,
Як парку коней запрагаў.

Ён ледзь у сваё шчасце верыў,
Свой гонар цешыў спадцішка —
Калгас «узнёс», калгас даверыў,
Крок — і мужчына з юнака.

І толькі іскры ад каменняў,
Калі падковы білі ў іх.
Ён пралятаў, як гром вясенні,
Калі дзяўчаты ў захапленні
Глядзелі ўслед, ўздыхалі ўслых.

Ён мог насустрач дню імчацца,
Назад — вёз дровы, гной згружаў.
А тое, што цяжкая праца
Змардоўвала — не заўважаў...

О, залатое блазнюкоўства,
Юнацтва, як дзівосны сон!
І тое шчырае сяброўства
Штодзённа — два кані і ён.

## Апошняе жаданне

Надыдзе хутка развітанне
І не паспею азірнуцца...
Маё апошняе жаданне —
З нашчадкамі не размінуцца.

Каб быў ён запатрабаваны
І ў час пазасучасны, новы,
Мой жывапісны, вершаваны,
Мой празаічны том жыццёвы.

Інакш — жыццё не адбылося
І будзе, позна альбо рана
Душы бязмежнай шматгалоссе
У доле часу пахавана.

Святое твораў прызначэнне —
Прайсці праз «моды», час, нягоды,
Каб словы, як вясной насенне,
Пусцілі ў будучыні ўсходы.

## Сааўтары

Сааўтар мой — душа,
        пісаў бы пра каханне,
Другі сааўтар — сталасць,
        ён не згодзен з першым.
Стрыножыўся Пегас
        такім супрацьстаяннем —
Як згоду ўсталяваць?
        Якім патрафіць вершам?

Узрост для музы — цень,
        занудзісты філосаф,
Ён важыць драбязу,
        над простым разважае.
Душа — шырэй, чым свет,
        душа вышэй нябёсаў,
Яна пульсуе ўся —
        узрост не заўважае.

Яшчэ сааўтар ёсць —
　　і ад яго залежнасць,
Каханне ў ім заўжды,
　　юнацтва, сталасць, стома,
І вышыня нябёс,
　　і долу непазбежнасць —
Усё, што мае свет,
　　усё яму вядома.

Душы-бунтарцы ўдзячны,
　　як ні дзіва,
І сталасці...
　　А сэрцу — асабліва!

## Промні ці цені?

Нявечаць нам душы —
　　ні час, ні нягоды крутыя,
А словы-атруты,
　　а погляды-джалы штодня.
У жорсткім жыцці
　　выжываюць па-большасці тыя,
Хто жорсткасць нясе ў сваім сэрцы,
　　якое — браня.

І ім праз сумленне ступіць —
　　лягчэй, чым праз смецце,
Ім ісціна — не перашкода,
　　хоць мэта — хлусня.
І ценем паўзе
　　ненажэрная жорсткасць па свеце,
Ды свет уратоўвае тое,
　　што ёсць на зямлі дабрыня.

Стагоддзі ляцяць, як гады,
гады — як імгненні,
Стагоддзі, гады і імгненні —
гісторыі час.
А хто святкаваць на зямлі будзе —
промні ці цені,
І хто пераможа?
Залежыць ад кожнага з нас.

## Процістаянне

Так сёння ёсць,
так будзе,
так было —
Хвалюе ўсіх адвечнае пытанне:
Хто атрымае верх —
дабро ці зло?
Хто пераможа
у процістаянні?

Дабро з усмешак створана,
з святла,
Яно навідавоку —
вочы ў вочы.
А зло драпежна
сочыць з-за вугла,
Каб у спіну ударыць
сярод ночы.

Я свята верыў —
возьме верх дабро,
Бо як інакш?
Інакш жыццё — няўдача.

Лавіў жар-птушку,
падабраў пяро —
Няўдача — скача,
а ўдача — плача.

Зло пракладае чорныя сляды
Па душах, па гісторыі,
па марах.
Дабро перамагае
не заўжды,
Бо й сонца веліч свой
губляе ў хмарах.

Маланка — зло,
а нас пужае гром,
І вестка — зло,
калі яна благая.
Жыццё — дабро....
Павінна быць дабром —
І ўсё-ткі смерць
яго перамагае.

## Самасёлы

Ў адселеных вёсках
Чарнобыль спраўляе свой баль —
Нідзе ні душы,
ад слёз з берагоў выйшла Прыпяць.
Дык вось ён, знявечаных лёсаў грааль,
Які за стагоддзі
нашчадкам нашчадкаў не выпіць.

О, час-ліхадзей...
А, можа, усё ж, чалавек-ліхадзей?

Тут з кожнай вачніцы-акна
глядзіць рукатворнае гора...
Каханне, вяселлі,
і поўныя хаты дзяцей,
Жыццё без краёў,
яны — беззваротнае «ўчора».

Нідзе ні душы?..
Не, смерць памылілася й тут,
Агеньчык надзеі не згас —
ён гарыць, хоць і кволы.
Жыццё завітала, вярнулася
зноў ў гэты кут —
Да родных вытокаў
прынеслі свой боль самасёлы.

Тут пуста й жахліва —
жыццю тут ніякіх умоў,
Затое мінулае ў сэрцы
бядою не сцёрта.
О, як не хапае «маленькай Радзімы!»
Як цягне дамоў!
У родную хату...
Няхай сабе ў зубы да чорта.

І б’ецца падранкам душа,
І баліць — хоць крычы,
І без гаспадарлівых рук
стогне маці-зямліца...
І цяжка аблегчыць ваш боль,
і як памагчы?
Адно застаецца, адно —
перад вамі схіліцца.

## Свой лёс

Пазваў далягляд за сабой
Удалеч пад сінню нябес.
Жытнёвага поля прыбой
Спыніў насцярожаны лес.

Не маючы іншых уцех,
Чым тут дажываць у цяні,
Удалеч ён сам бы пабег,
Ды ўтрымліваюць карані.

Расхрыстаны вецер панёс
Аблокаў шматкі — дагані!..
У кожнага толькі свой лёс
І крылы свае, й карані.

## Толькі тут

Расхініцеся, даляглядзы,
Распаляйся, душы агмень,
Хай пашырацца зоркапады,
Хай ва ўсю распраменіцца дзень.

Ветру цесна пад небасхілам,
Думкам вольна вышэй аблок.
І ляціць да мясцінаў мілых
Сэрца, нібы ў агонь матылёк.

Сэрцу дорага, сэрцу блізка
Калыханка былога — з даля.
Вёску родную, быццам калыску
Закалыхвае маці-зямля.

Думкі, мары, душа — супольна
Бласлаўляюць мой родны кут.
Толькі тут даляглядам вольна,
Слёзы шчырыя — толькі тут.

## Галоўнае не спета

Не ўсе зямныя справы
Я завяршыць паспеў...
Баюся не расправы,
Мне крыўдна, Божа правы —
Не ўсё сказаць паспеў.

Зноў за ўсмешку-шыльду
Хаваю ўласны плач.
Баюся, што за крыўду
Не ўсім сказаў: — Прабач!

Не ўсім надзейным словам
І справай дапамог.
Учынкам выпадковым
Кагосьці раніць мог.

Грызе туга сляпая —
Яшчэ б пажыць, пажыць.
І часу не хапае
Ўсе справы завяршыць.

Няздзейсненая мэта
Ў канцы жыцця — дакор.
І ў кожным сэрцы гэта —
Галоўнае не спета.
Чакае лепшы твор.

## Нішто не вечна

Ці плённа жыў, ці недарэчна,
Прысуд адзін бясспрэчны:
Нішто пад месяцам нявечна,
Дый месяц сам не вечны.

О, колькі лёсаў на планеце,
Ды доля ўсіх такая:
Нішто не вечнае ў сусвеце,
А што сусвет чакае?

Лагічна ці мо выпадкова
З'явіліся мы, людзі?
І ўсё ж мы на Зямлі часова,
Бо і Зямлі не будзе.

## Хвалі памяці

Плывуць гады,
        мільгаюць дні-гарэзы,
Імкнуцца ў ноч —
        няўмольна і рашуча.
І хвалі памяці
        на часу хвалярэзы
Імчаць і разбіваюцца балюча.

Знікае штосьці,
        штосьці ўваскрашае —
Бурлівы век
        застаўся за плячыма...
Ёсць хвалі памяці —
        і гэта суцяшае,
І можна бразнуць
        напаслед дзвярыма.

## Заняў чаргу

Жыццё хоць рэдка —
　　　ўсё-ткі цешыць нас,
Рыхтуе радасці,
　　　сюрпрызы, даты.
Ды непазбежна
　　　надыходзіць час,
І ўжо наперадзе —
　　　адныя страты.

Жыццё — прыму́с,
　　　жывеш «праз не магу»,
Бо мала засталося
　　　сэрцу блізкіх.
Ды й сам ужо «туды»
　　　заняў чаргу,
Дзе ні надзей,
　　　ні сонца, ні вятрыскі.

Баішся тэлефоннага званка,
Пачуць баішся —
　　　гора кліча ў госці...
Зноў вечнасці
　　　нябачная рука
Чарговы раз
　　　закрэсліла кагосці.

## Таму пішу

Верш...
Проза...
Думкі на паперы...
Ці зацікавяць сёння? Не?
Няўжо я стукаюся ў дзверы,
Якія не адчыняць мне?

«Дык гэта творы ўсё пустыя!» —
Чуваць з нятворчага кутка...
На жаль, такое кажуць тыя,
Хто не чытаў ані радка.

Хто продкаў не любіў ніколі,
Той, хто не зведаў шчырых слёз
Той, хто не з’еў і грама солі
З людзьмі, сярод якіх узрос.

Жыць бездухоўна немагчыма,
Таму — пісаў,
Таму — пішу.
Надзённым хлебам і грашыма
Ніхто не наталіў душу.

## Цік-так...

Зеўрыць ноч бяссонна ў вочы —
Й ты не спі, паэт, мастак!
А гадзіннік спешна крочыць,
Ўсё стракоча дні і ночы
Абыякава: — Цік-так...

То — узгорак, то — лагчына,
Лёс уверх, да долу нас.
А гадзіннік гільяцініць —
Адсякае лёсу час.

І жывем мы поўным ходам,
Ўсе па-свойму — так ні так.
А над намі з кожным годам
Больш пагрозліва: — Цік-так...

## Адкажуць стагоддзі...

Чытаю афішу: —
        «Сустрэча з народным паэтам».
Афіша сумуе —
        нікога няма ля яе...
Я верыў заўсёды —
        дый ведае кожны аб гэтым:
Вясною салоўка
        без званняў высокіх пяе.

І любяць яго — «нізы»,
        і «вярхі», і «праслойкі»
Без гучных указаў
        і без непатрэбных афіш.
О, каб нам паэзіяй жыць,
        як не жыць без салоўкі —
Ніколі не ўбачыў бы свет
        на духоўнасці крыж.

А я — не народны паэт,
        і ўсё-ткі не антынародны
І я без даведак і шыльдаў
        пішу пра народ...
Што ў года пытацца:
        ён шчодры прыйшоў ці бясплодны?
На гэта адкажуць дакладна
        стагоддзі — не год.

## Мазаічнасць

Дзіўна — ёсць маралі амаральныя,
Праўда ёсць, ды ў кожнага свая.
Прыгажосць і жорсткасць — сумяшчальныя,
Думка масаў — думка нічыя.

Чалавек — істота  мазаічная,—
Нішчыў, сеяў, будаваў, араў.
Ўсё, што ёсць вакол антаганічнае,
Паэтычнае і празаічнае,
«Так» і «не» — ўсё пакрысе ўвабраў.

І з антаганічнасці і спрэчнасці
Лепіць ён сябе ўвесь свой век.
Логіка жыцця і недарэчнасці,
Праўда-матка й каверзы-заплечнасці,
Зло й дабро —
Усё гэта чалавек.

Колькі рысаў!
Як яны ўжываюцца,
Творачы душы калейдаскоп?
Спяць адны, другія вытыркаюцца —
Зеўс, Іуда, Цар-гарох, Эзоп.

Існуюць яны не за бяседаю,
А ў непрымірэнчай барацьбе.
Часта чалавек і сам не ведае —
Хто ў ім натуральныя, хто «псеўдыя»,
І каго ж ён носіць у сабе.

## Верхаўладае дух

Зямля бацькоў чароўная,
Надзей, ружовых крыл,
Цяпер — трагедый поўная,
Ўспамінаў і магіл.

Скрозь слёзы бачу зоркі я,
Настрой пад гмахам дум.
Усмешкі — толькі горкія,
Душу зжырае сум.

Ці ж думаў я на ўзлётку мар,
Пра іх няўмольны спад?
Тады бясконцым быў абшар,
Бяскрайнім далягляд.

О, вышыня нябесная,
Крылі мяне, крылі!
Не, немач не цялесная
Магніціць да зямлі.

З падзеямі лагічнымі
Антырытмічны рух.
Над сіламі фізічнымі
Верхаўладае дух.

## «Скprobнае» месца

Сквер на колішніх могілках —
        сквернае месца,
Негуманны закон руйнаванню даў ход...
На струхнелых касцях
        сёння хтосьці смяецца,
Тут, дзе слёзы ліліся —
        гучыць анекдот.

Ёсць святое паняцце —
        намоленасць Храма,
Дзе паветра само,
        як да Бога акно.
Тут, над скверам,
        паветра жывое таксама,
З плачу, з болю,
        з трагедый шматлікіх яно.

Мы ад лёсаў мінулых
        шыбуем імпэтна,

Мы ствараем бязлітасны
свет забыцця —
Нішчым кволыя душы свае непрыкметна
І растоптваем душы паўшоўшых з жыцця.

## Бяссонніца

Ноч — мой прысуд,
пара пакутная,
Зноў вочы ў вочы —
я — яна.
Нібы бадзяжніца прыблудная,
Нібы варожасць супраць сна.

То плач, то смех
ў салісты просіцца.
Адно другому —
наперакор.
Душы аркестр —
рознагалосіца.
Бездапаможны я дырыжор.

То мараў енк,
спавіты скрухаю,
То адпяванне надзей-хімер.
Я з ночы ў ноч такое слухаю,
Гляджу ў бяссонніцы ашчэр.

Відаць, душа ўжо
не загоіцца,
Не нажывешся наўздагон.
Мне ні заснуць,
ні супакоіцца,
Пакуль не прыдзе
вечны сон.

# Алкалогіка

Што гэта, за жыцця прыярытэт?
Што трэба для таго, каб жыць у шчасці?
Мне доўга і па-свойму раскрываў жыцця сакрэт
Адзін аматар за каўнер закласці.

«Наш свет ажно кішыць ад дзівакоў,
І ўсе даюць сваім дзівацтвам волю —
Вунь, бабы аж шалеюць без тартоў... і мужыкоў,
А я дык не магу без алкаголю.

Ці ўзяць, напрыклад, спевака таго ж,
Ён згодзен сам у мікрафон залезці,
Каб даць канцэрт — у Афрыку загоніць пешшу вош,
А мне б кульнуць — я згодзен і не есці.

А вунь вучоны — што з ім гаварыць?
Ён будзе век над мікраскопам кіснуць,
Каб свет здзівіць пустым — хоць інфузорыю адкрыць,
Яму — сваё. А мне — хутчэй хлабыснуць.

Сказаць па-праўдзе, піць пачаў даўно,
І стаж мой надалей мяне натхняе.
Хто любіць вернісажы, хто тэатры, хто кіно,
А мне ўсё гэта пляшка замяняе.

А ўзяць цябе — і ён пачухаў плеш,
Парнуў мне ў грудзі, высмаркаўся зычна
Малюеш, штосьці пішаш і не п’еш. Ці ж ты жывеш?
А я вось п’ю. Нябожчык — не. Лагічна?»

## Дзялюся сакрэтам

Як шмат сяброў мяне чакае:
Магутны дуб — зялёны гмах,
У полі ветрык сустракае,
Вітаюць краскі на лугах.

Сасновы бор мне дорыць казкі,
Пяе бярозавы абшар.
І нават дожджык цёплы майскі
Прываблівае, лашчыць твар.

Дзялюся шчыра я сакрэтам —
Заўсёды: восенню, вясной,
Я кожны дзень, зімой і летам,
З сябрамі — і яны са мной.

## Гэта – не памінкі

*...да майго выхаду з Саюза*
*беларускіх пісьменнікаў.*

Не прыняла мяне воўчая зграя,
Душы ашчэрылі, нос угару —
Воўчая зграя, дзе кожны зжырае
Сябра па пляшцы, калег па пяру.

Словаахвотлівасць пра адраджэнне
Лёгка за пасак запхне салаўя,
А за душой — «я» ды «я», як каменне,
Лозунгі — ветразь для вашага «я».

Воз ані з месца, чаму тут дзівіцца,
Рознагалосіца — гвалт, а не хор.

Вам бы спачатку самім адрадзіцца,
Вылечыць самаўлюбёнасці хвор.

Шчыра сябе закрануць за жывое
Здолее толькі сумленнем жывы.
Гляньце ў люстэрка — яно не крывое,
Гэта такія сапраўдныя вы.

Вось і «здавалі акоп за акопам»,
Дбалі пра ўласнае праз не магу.
Да ўзнагародаў — імчалі галопам,
Да адраджэння — нага за нагу.

Не, я па вас не спраўляю памінкі,
Перахварэеце, хворасць міне.
Ёсць сярод вас, але толькі адзінкі,
Хто зрэагуе без паўзы-замінкі:
— Гэта напісана не пра мяне...

## Сяродак-напалову

— Здароў, сусед! Ну як жывеш?
— Ніяк!..
Ты ж ведаеш, што можна раніць словам?
Адныя кпяць з мяне, завуць — прасцяк,
Другія горай — клічуць безгаловым.

— Ды плюнь, сусед! Хай кпіць язык крывы.
Тут, пэўна, чорнай зайздрасці ахапак,
Ці ж ты прасцяк? Ці ж ты без галавы?
Ну а на чым знасіў ты процьму шапак?

Другі сусед — мне скаргу, як на блюдзе,
Уздыхнуўшы перад гэтым разоў сто:

— Калі ўжо ў свеце справядлівасць будзе?
Я жыва пацікавіўся: — А што?

— Ёсць людзі... э-э... сяродак-напалову,
А вось дык я б, варочаць горы мог —
Ўрадзіўся я бадліваю каровай,
Але, як кажуць, Бог не даў мне рог.

Я прамаўчаў, не падтрымаў гамонку,
Не мог сказаць ні праўду, ні маніць,
Бо ведаю даўно яго і жонку,
З кім, як ні з ім пра рогі гаманіць?

## Адно папрашу

Адно папрашу,
адлятаючы ў вырай,
Зірнуўшы на наш
беларускі абшар:
— Пастаўце мне помнік
з удзячнасці шчырай,
З узнёсласці светлай,
з нездраджаных мар.

Мне вас не сустрэць,
маладых, незнаёмых,
Мой час адышоў,
ваш на ўзлёце гудзе.
— Пастаўце мне помнік
з памкненняў свядомых,
З шляхоў, па якіх
Адраджэнне ідзе.

Законы адвечныя
сувязі геннай:
Ёсць голле на дрэве,
бо ёсць карані...
— Пастаўце мне помнік
не з глыбы каменнай,
Не з бронзы халоднай,
а з душ цеплыні.

## А суддзі хто?

Мяне вы асудзілі на бязвеснасць,
Хоць ваш Пегас храмы, з адным крылом,
І гэтым скарацілі вы адлегласць
Між днём і ноччу, між дабром і злом.

За кволенькія творчых ніў усходы
Хавалі вы сапраўднае нутро.
Як карты, тасавалі ўзнагароды
Не горш за тых дзядоў з Палітбюро.

Каб больш сабе ўрваць — ляцелі куляй,
Лавілі славу ў спрэлае сіло.
Пеў хтосьці пеўнем, іншыя — зязюляй,
Ну, а мяне між вас — як не было.

Без сэнсу — бессэнсоўная славеснасць,
Без мудрасці яна — ні сё, ні то.
Мяне вы асудзілі на бязвеснасць,
Задумацца не грэх: — А суддзі хто?

## Зямлі парада

Зямля сказала мне: — Пішы,
Калі ўжо словы просяць волі.
Ды помні — слова без душы,
Як вецер безгаловы ў полі.

Як глеба без руплівых рук,
Нібы засохлая галінка.
Такое слова — толькі гук,
З душой — духоўнасці часцінка.

І не пішу я «з галавы»,
І столь начная не натхняе.
Душа стварае верш жывы
І крыліць, і адушаўляе.

І з паэтычных слоў маіх,
Упэўнены — зямля вяшчуе.
Таму зямля пярвей за ўсіх
Душою створанае чуе.

## Хутка

Ў шлях свой апошні
надоўга
навечна
пайшла мая маці —
Ні адгукнуць, ні вярнуць
і ні спаткаць,
і ні ўбачыць яе.
Як надакучыла жыць...
дажываць
У даўно асірацелае хаце,

Дзе цесната для душы,
дзе не ў сілах я ўцісnуць
усе ўспаміны свае.

Доўга...
Як доўга іду я адзін
праз гады, праз нягоды,
Твой, самы меншы,
і, часам,
не вельмі ўважлівы сын.
Хутка сустрэнемся, мама,
на шчасце, цяпер — назаўсёды —
О, колькі я назапасіў
расповедаў розных,
цікавых навін...

## Жыве святло душы

Даўно вядома ўсім такая ісціна —
Без веры з тупіка не будзе выйсця нам,
Без веры сонца лёсу хутка схіліцца
І сэрца светлай песняй не акрыліцца.

Мы ўсё жыццё — ў пачатку і ў канцы дарог
Адно ў Бога просім: —
Блаславі нас, Бог!
І адчуваем гэта бласлаўленне мы,
Тады спыняе вера наступленне цьмы.

Цячэ жыццё, надзей і плёну поўнае
І ў сэрцы захаваецца галоўнае:
Святая вера — крылы і душы вясна,
Дарога ў Храм адна —
не зарасце яна.

Гарыць святло душы нязгасна, без ашчаднасці,
І Госпадзі імя ў сэрцы ў нас.
Удзячны Богу мы —
 і ў сумны дзень, і ў радасці
За тое, што Святы агонь не згас.

## Ашуканства

Месяц разжыўся
На хмарку-папаху —
Заганарыўся
І адхіліўся
Ад Млечнага Шляху.

Там, на Парнасе,
На свет-відавоку,
Ён у папасе
Не плех лысабокі.

Што за аблічча!
Ні плех, і ні рогі.
Грэшна не збіцца
З Млечнай дарогі

Зоркі з хлапчыны
Вочак не зводзяць.
Зоркі-дзяўчынкі
З ім карагодзяць.

Ён незвычайны,
Ён кучаравы!
Кружаць адчайна
Танцы-забавы.

Вецер на танцы
Дзьмухнуў з размаху,
Зняў з ашуканца
Хмарку-папаху.

Зорачкі ў ночы
Крыўду адчулі:
Ён жа нам вочы
Плехам намуліў.

## У добры час!

Жывіце, людзі, на зямлі,
На ёй да нас вякі гулі,
Жыццё нярэдка — драма.
Жывіце, людзі, за сябе
Й за тых, хто паў у барацьбе,
Паў і за вас таксама.

Жывіце, людзі, пасля нас
Узнёсла, светла — ў добры час!
Менш вам трагедый-ценяў!
Жывіце, людзі, ў добры шлях,
Хай кожны крок, як вольны ўзмах,
Нясе вас да здзяйсненняў.

Запомніце, як «Ойча наш» —
Ёсць варыянт: — Жыццю шабаш!
Вы й вашы дасягненні
Пярэйдзеце — у попел, прах,
Праз жар вайны ў чужых мазгах —
Раптоўна, у імгненне.

Ўзмацняйся, чалавечы род,
Жыві заўжды — мільярды год,
Час-вецер б’ецца ў грудзі.
Асвенцымы і Салаўкі,
Дыктатары — прэч, у бакі!
Нясі высока праз вякі
І годна, званне — людзі!

## Час паверхаводзіў

Белы пух сняжынак
Безклапотна лёг —
Не знайсці сцяжынак
Ад малечых ног.

Адчуваць прыемна —
Зніклі халады.
Ды й вясной дарэмна
Я шукаў сляды.

Хто ж тут больш нашкодзіў,
Холад ці цяпло?
Час паверхаводзіў,
Шмат ім зарасло.

## Няўдача-удача

Удзячны вам, мае няўдачы,
Шматлікія, балючыя.
Я на жыццё зірнуў іначай,
Зрабіўся больш рашучы я.

Няўдачы між удачаў — вехі,
Прайшоўшы іх — больш хваткі я.
Я не хачу жыцця-уцехі,
Салодзенькага, гладкага.

Няўдача, ўдача, спраў аблога —
Жыццё віруе, пеніцца.
Цудоўнае сярод благога,
Сапраўдны поспех, перамога,
Яшчэ вышэй ацэніцца.

## Самагартаванне

Калейдаскоп жыццяўтварэння —
То ўверх, то ўніз — арэлі.
Несумяшчальнага злучэнне,
Знішчалі ўсходы пад карэнне,
А ўраджай — хацелі.

Згарталі пот гарачы жменяй,
Тварылі, разбуралі....
Было б праблемаў
 значна меней,
Каб мы іх не стваралі.

І хоць пакпіць над гэтым кожны,
Ды ўсёй душой адчуе,
Што наш народ — хай незаможны,
Затое ён — непераможны,
Бо сам сябе гартуе.

## Добрыя людзі

Мы, людзі, у палоне
шматлікіх падзей,
Ды добра,
што ў нашым жыцці-мешаніне,
Між іншых людзей —
большасць добрых людзей,
А добрае сэрца —
ў бядзе не пакіне.

І часта ўратоўвае нас ад бяды
Сардэчнасць людзей,
дабрыня і спагада.
Ці бачым мы гэта душой?
Не заўжды.
Мы крочым дарогай
сваёй праз гады
Між розных людзей,
між вясны й заняпада.

Стварэнне, разбурванне,
плён, мітусня,
Жыццё напаўняюць,
валтузяць за грудзі.
Але пераважвае ўсё ж дабрыня —
Падзяка за гэта вам,
добрыя людзі!

## Прыцягненне Зямлі

О імкненні!
Куды б вы зямлян завялі,
Не сустрэўшы нідзе перашкодаў?
Ды нябачны ланцуг —
        прыцягненне Зямлі
Нас ратуе ад трагіпрыгодаў.

Самы амбіцыёзны
        і ўзнёслы узлёт,
Першародак касмічнае эры,
Вакол нашай Зямлі
        завяршыў абарот —
І дамоў!
        Прэч прыгоды-хімеры!

Родны кут! Тут мой дом
        і маленства гады,
Тут зямля й маіх продкаў святая.
Прыцягненне «маленькай Радзімы» заўжды
Да сябе непазбежна вяртае.

Прыцягненне — між нас,
        хоць не бачым яго —
Адчуваем яго штоімгненне.
Назаўжды мы згубілі б
        адно аднаго,
Каб ні сэрцаў,
        ні душ прыцягненне.

## Перастулаючы прайсці

«Пражыць — не поле перайсці...» —
Ва ўсе часы адно чуваць.
На жаль, праз многае ў жыцці
Даводзіцца пераступаць.

Прасцей набраць у рот вады,
Чым дурня дурнем велічаць.
Са́мі не лезуць жалуды
У рот свінні — бо праз гады,
З чаго дубам жыццё пачаць.

Падставіць лёгка галаву
Пад меч, сказаўшы толькі «а».
Другі ўсміхнецца — я жыву
І пасля «я» — ёсць галава.

Каб на сябе не клікаць — Фас!
Ату яго! — з усіх бакоў.
Даводзіцца ўкладаць не раз
Сапраўдны сэнс паміж радкоў.

Даводзіцца бруд кпінаў піць,
Дзень страціць — вырataваць год,
Праз меншае пераступіць,
Каб большаму ў жыццё даць ход.

## Зіма-царыца

Няспешна, белакрыла
З'явілася зіма.
Усё пасерабрыла
Ў ахвотку, задарма.

Сумленна і рупліва
Падбельвае вакол.
Ого — якое дзіва
На ёй штодзень камзол!

Убор шыкоўнай дамы
Іскрыцца, зіхаціць,
Ні кропачкі, ні плямы —
Ёсць ад чаго фарсіць.

І завірухай круткай
На галасы пяе.
І ўсё ж адліга хутка
Убор ёй падпсуе.

Але, пакуль іскрыцца,
Не замакрэла даль,
Яна адна — царыца,
Яна спраўляе баль.

## Жыццё каштоўнасць

Лепей складанасці —
        з верхам, з гакам,
Лепей змаганні —
        праз крык, праз боль.
Толькі ні ціша жыцця —
        ні вакуум,
Толькі б не злегчы
        пляваць у столь.

Толькі ні утаймаванасць
        ні сытасць,
Сон і няўрымслівасць —
        два берагі.

Сытасць забрудзіць сабой
самабытнасць,
Млявасць, гультайства —
затлусціць мазгі.

Непрадказальнасць падзей,
няроўнасць —
Ўзлёты, няўдачы,
падзенне, уздым —
Пэўна, у гэтым
жыцця каштоўнасць,
А неласкавасць жыцця —
ні па чым.

## Гімн вясны

Супраць плыні,
Супраць лома,
Супраць ветру —
Не дай Бог!
Гэта кожнаму знаёма:
Лепш за клямкай
Нерухома —
І ні кроку за парог.

Супраць сілы,
Супраць гвалту,
Супраць здзекаў —
Што вы? Не!
Лепш пазбавіцца свабоды,
Хай нявечыць
Лёс заўсёды
Горб пакутаў на спіне.

Хто там енча?
Хто там плача?
Хто там гімн вясне пяе?
Ў песні — сіла
І — удача!
Толькі «супраць»,—
Не іначай
Лёсам крылы надае.

## Дом і дол

Пакланіцеся зямлі —
Будзем памяць паважаць.
Пакланіцеся зямлі —
Нашы продкі тут жылі
І цяпер у ёй ляжаць.

Шар зямны — наш дол...
Не жарт!
Дом і дол — вось дык «букет».
Ў «доле» — не адзін мільярд
Адыйшоўшых ў іншы свет.

Дом і дол — часоў зігзаг,
Шлях гісторыі — Садом.
Мы святкуем на слязах,
На кладах будуем дом.

## Букет

Не, немагчыма жыць на гэтым свеце
Без засмучэння і без перамен —
У кожным, самым найжывым букеце,
Затойваецца завядання тлен.

Затойванне — і ёсць наш вораг грозны,
Жыве шмат год нябачна і ўва мне.
Яго заўважыць можна, хоць і позна,
Заўважыць можна, а змагацца — не.

Стаіць букет, прыветна сустракае,
І цешыць свежым выглядам сваім.
Ды непрыкметна штосьці у ім знікае,
І штосьці з часам дадаецца ў ім.

А потым штосьці альбо хтосьці жорсткі
На прыгажосць кладзе чарговы штрых,
І ледзь прыкметна скручвае пялёсткі,
І сушыць лісце, і маршчыніць іх.

Стаіць букет і сохне адзінока —
Чароўнасці былой часовы госць.
Ды ўжо, другі букет прывабіў вока,
У росквіце другая прыгажосць!

## Не адракайся...

Не адракайся ад мяне, Радзіма,
Ні пры жыцці і ні пасля мяне,
Бо і ўявіць такое немагчыма,
І не прысніць у самым страшным сне.

Я твой з народзін — і табе вядома,
Як творчы свет ствараў душой сваёй.
Усё, што я рабіў — рабіў свядома,
Сумленна, дзень за днём, у гонар твой.

Хоць ззяў над галавою серп і молат
І светлай абяцанкай гімн гучаў,
У вочы зазіраў нярэдка голад,
Надзею й безнадзейнасць спалучаў.

Ты «маскаліш», «сусвеціш» і «еўропіць»,
Выпрабаванні часу п’еш да дна.
А нас усіх увагай не ахопіш
Нас у цябе — мільёны, ты — адна.

А ты адна — вакол інтрыг драпежнасць,
Ты многімі пастаўлена на кон.
Жывеш ты! Захавала незалежнасць!
Прымі за гэта да зямлі паклон.

Ніколі я не марыў аб багацці,
Бо ты духоўны свет адкрыла мне.
Ты для мяне была заўсёды — маці,
З маёй матуляй роднай — нараўне.

## Калыханка

Спі, маленькае дзіцятка,
Спі, прыемна ў снах лунаць.
У дзяцінстве больш парадку —
Не спяшайся падрастаць.

З кожным годам перамены
Й нас мяняюць і псуюць —

Ненажэрлівыя цэны
Не кусаюць, а грызуць.

А пакуль табе не трэба
Ведаць, што і да чаго.
Шлях цяжкі да свайго хлеба
І кутка ў жыцці свайго.

Спі, дзіцятка, толькі ў сне ты,
У малечым — вольны птах.
Падрасцеш — і прайдзісветы
Звузяць крылаў вольны ўзмах.

Ты — з сям'і сумленнай, шчырай,
У сумленных — лёс цяжкі,
Бо на шалях лёсаў «гіры» —
Бессумленныя праныры
І ўсялякія дзялкі.

Падрастай, дзіця, няспешна —
Схопіш ласку ад вярхоў.
Спі, анёлік мой бязгрэшны
Ты з'явіўся ў свет грахоў.

## Эксперымент

Я зрабіў эксперымент,
Як у казцы, што чытаў —
Каб разбіць сумненні ўшчэнт,
У люстэрка запытаў:

— О, люстэрка на сцяне!
Ты з маленства тут — не госць,
Раскажы ўсё пра мяне,
Усю праўду, ўсё, як ёсць!

І люстэрка — у адказ:
— Бачу я не першы раз
Прыгажосць тваю, прывабнасць,
І падцягнутасць, і зграбнасць.

Але знешнасць — хуткі май,
Ты духоўны — цераз край.
Працаздольны, пладавіты,
Як ніхто, таленавіты.

Ты ва ўсім, заўсёды — новы,
Словам — геній прыжыццёвы,
Помнік будзе залаты
Па табе — такі вось ты!

Я задзёр да столі нос,
Але нос абвяў уніз —
Каляндар ад пылу строс,
Ліст перавярнуў — і скіс.

Пад гарачы сэрца стук
Словы сплюнуў з языка:
— Гэта ж сёння дзень манюк —
Першага красавіка...

## Арган стыхій

І зноў заплакаў дождж,
Па кім, Бог мой?
Прыкмета ёсць — і усё ж
Не веру ёй.

А вецер за акном,
Як плач сірот.
Такое перад сном —
На сэрцы лёд.

То стогне, то гудзе
Арган стыхій,
Не дзецца анідзе —
І сон ніяк ні йдзе,
Хоць сам завый.

## Галава – дом урада

*Жарт*

Мая галава — дом урада!
Ну як? Дом урада — гучыць?
І звіліны ў ёй, як пасады
Іх многа — не пералічыць.

Адну з іх зусім не пашкодзіць
Галоўнай — прэм’ерам назваць,
Бо трэба ж парадак наводзіць,
«Саўмінам» сваім кіраваць.

У звіліны кожнай адказнасць,
Нібыта ў міністра — свая.
За іх спецыфічную прагнасць
Найпершым пакутую я.

«Саўмін» мой прымае рашэнні,
Скіроўвае дзейнасць маю.
А вынік — пустыя кішэні,
Я ў дзеўках заблытаўся, п’ю.

Лянота — мая каралева,
«Саўмін» мой — да скону, мой крыж.
«Міністры» ўлягаюць налева,
Я — следам за імі — туды ж.

Ад шкодных рашэнняў, бясплодных,
Прыходзіць жыццё ў заняпад.
О, кожнаму з нас неабходны
Свой розум — разумны урад.

## Пасланне з таго свету

*Чорны гумар*

Іду між помнікавых, шчыльных
Радоў — тут могілкі і Бог.
І раптам бачу надмагільны,
Чытаю — дзіўны маналог:

«Бывай, непрадказальны, тлумны
Свет, і пакутаў, і забаў!
Тут, на тым свеце, мне не сумна,—
Адмітусіўся, адтрываў.

Ляжым мы ў позах нерухомых,
Пакой нарэшце набылі.
Тут сваякоў, сяброў, знаёмых
Намнога больш, чым на зямлі.

Няма тут збрыдлых і нязграбных
На вальнадумстве ланцугоў.
Няма чыноўнікаў нахабных
І кіраўніцтва без мазгоў.

Зямля — на цішу не скупая,
Збаўленне ад грахоў дае.
Адно — гарэлкі не хапае
І гэта тут настрой псуе.

Бывайце, людзі, дрэвы, жыўнасць!
Адно мы — нас я не дзялю.

Жыццё надзеі і нязбыўнасць,
Мы ўсе з зямлі — і ўсе ў зямлю...»

Здзівіўся я, ці ж прыжыццёва
Такое пішуць? Не і не!
Завецца памінальным слова
Тады, калі жыццё міне.

Я разгубіўся. Думкай крочу
У небывальшчыну, у сон:
«Няўжо нябожчык вылез ноччу
І напісаў ўсё гэта ён?..»

Я выцер лоб узмоклы, мыльны —
Дзе ён, адказ? У чым сакрэт?
Няўжо ёсць ўсё-ткі замагільны,
Пакуль што невядомы свет?

Махнуў рукой я — лёс на схіле,
Усё праясніцца у пару.
Ёсць ці няма жыцця ў магіле —
Даведаюся, як памру.

## Пераўтварэнні

Усё, як кажуць, на ходу
Мяняецца — ў раку прытокі,
Снег ператворыцца ў ваду,
Вада — у хмары ці аблокі.

Аблокі — зноў у дождж ці снег —
І так за кругам круг, бясконца.
Настрой цудоўны — родзіць смех,
Паўсюдна цені родзіць сонца.

Лес ператворыцца ў дамы
Язык падперчаны — у кпіны.
Усё мяняецца... А мы?
А мы — пярэйдзем ва ўспаміны.

## Лоб для гузака

Пытанне ўсіх пытанняў:
 — Куды нас час нясе?
Пакуль у часу —
 кіслая грымаса.
Усе мы пакрысе
 сядзім на каўбасе —
Калі ўжо перасядзем на Пегаса?

Вось граблі, ўласны лоб —
 якраз для гузака.
На граблі мы ступаем паслядоўна.
Калі ўжо мы «духоўнасць»
 згорнем з языка,
І жыць пачнем без «гузакоў», духоўна?

## Да «ніколі»!

Сустрэчу разлука псуе...
Трымаў я за рукі сяброўку
І ціха спытаўся ў яе:
— Калі мы сустрэнемся зноўку?

— Да заўтра! — адказ мне прапеў,
Як ветрык, што носіцца ў полі.
— Да заўтра! — і я зразумеў,
Што ўбачымся мы — у «ніколі».

Бо заўтра не будзе — яно
Ў сваёй віртуальнасці недзе.
Яно, як нямое кіно,
Агучыцца, ў «сёння» пярэйдзе.

Бруіла вакол мітусня,
Валтузіла род чалавечы.
Чакаў я наступнага дня,
Не «заўтра» чакаў, а сустрэчы.

Раптоўна жар думак прыцiх,
Ў здагадцы патух нечаканай —
Яна — у пачуццях маіх
Сяброўкай жыве, не каханай.

## З чыстага ліста

Сэрца хмеліць водар тонкі
Успамінаў чарады.
Час лістае, як старонкі
Хуткаплынныя гады.

Час ахвочы да лічылак,
Усяму ён галава —
На старонках шмат памылак,
Аўтару адзнака — 2.

Дзень згарае без астатку,
Хмараў наплыло — слата.
Эх, пачаць бы ўсё з пачатку,
Зранку, з чыстага ліста.

## Бабіна лета

Прыдумаць лепшае прыродзе ці магчыма?
Увосень лета! Здорава! Удала!
І неба яснымі, блакітнымі вачыма
На лета бабіна ўлюбёна паглядала.

І мроіў лес — не зносіць ён, не скіне
Ніколі залаты убор дзівосны.
Кружылася ў паветры павуцінне,
Імкнулася ў сонечныя кросны.

Кароткі дзень ласкава дыхаў, поўніў
Надзеяй далягляды, паднябессе.
І толькі жураўліны плач напомніў,
Што гэта восень — халадоў прадвесце.

## Тэст

Ўсё можна лёгка пабароць,
Злосць перашкодаў, боль пакут,
Каб ні ўпартых дзён аброць,
Каб ні складаных год хамут.

Перапляценне дзён і год,
Накрыжаванне спраў, падзей,
Хоць ацяжарваюць узлёт,
Ды загартоўваюць людзей.

Як тэст — выпрабаванняў час,
О, трэба й цяжкасці цаніць.
Жыццё таму штурхае нас —
Не ўдарыш — звон не зазвініць.

## Ноч ідзе

Вечар, золка, сіні снег,
Першых зорак вачаняткі.
Дзень услед за сонцам збег
Уціхую, без аглядкі.

Край лімоннае зары
За сцяной лясоў — далёка.
Срэбны месяц угары,
Як начнога неба вока.

Ноч ідзе, звяры не спяць,
Птушкам, пэўна, лета сніцца.
Месяц, зорачкі зіхцяць,
Наваколле — таямніца.

## Вечны рухавік

Жыццё мінулае, заплечнае,
Было — сплыло.
Канец, тупік.
Бо сэрца, хоць і даўгавечнае,
Зусім не вечны рухавік.

Рэсурс дапаліцца да каліва
І... «стоп машына» — прыгавор.
Гады, гады — не тое «паліва»,
Каб не спыніўся наш матор.

Няўдачы, стрэсы, страты горкія
Разбалансоўваюць наш рух.
Ці не таму знікаюць многія?
Паўшляху — і матор заглух.

Пачатак дня, ды сонца схіліцца
І прыдзе ноч, хоць круць, хоць верць.
І вечны рухавік не спыніцца:
Жыццё — і смерць,
Жыццё — і смерць.

## Памылковасць

Да сонца звярнулася ноч:
— Хутчэй саступі мне дарогу,
Я — маці для зорачак-воч,
І месяц мне сын, дзякуй Богу.

Яны аздабляюць мой свет,
Без іх чарната, а не неба.
А промні — ці ж гэта сакрэт? —
І месяцу й зоркам не трэба.

— У тым памылковасць твая,—
Адказвала сонейка ночы,—
І месяц бы згас, каб не я,
Не ззялі б і зорачак вочы.

## За далягляд

Да далягляду — рукой падаць,
Я — да яго, ён — ад мяне.
Абрыс зямлі другі відаць —
Ўсё новы й новы, як у сне.

Хоць ведаю — не даганю
Я край зямлі і неба край,

Іду за ім насустрач дню,
Надзея ў сэрцы — не адчай.

Надзея новае пазнаць —
Людзей, краіны, свету храм.
І свой скептызм пераканаць,—
Адновішся ў новым сам.

— Я бачыў свет! — скажу тады,
Калі прайду зямлі абсяг
І вернуцца мае сляды
Сюды, адкуль пачаў свой шлях.

## Жывуць

Гуляе голад па зямлі
Ў абдымку з тымі,
з тымі поруч
Людзьмі, што толькі й нажылі
Адзіны «скарб» — адчаю горыч.

Ёсць землі, дзе заўжды няўрод,
(Хіба ж Радзіму выбіраюць?)
І там жывуць ад году ў год,
Ды больш заўчасна паміраюць.

Краіны ёсць, дзе суш, пяскі,
І ні вады, і ні надзеі.
І там жывуць ва ўсе вякі,
Жывуць?.. Гібеюць, бедакі.

Нібы няўмольнай смерці цень,
Гуляе голад па ўсім свеце.

І недзе кожны Божы дзень
Ад голаду ўміраюць дзеці.

Ёсць і такія, што жывуць,
Сабе — цары, людзям — абраза:
Ў тры горлы смакату жаруць,
Нажэршыся, ледзь дабягуць
Да залатога унітаза.

## Эцюд

На ганку кот сядзеў,
пачэсваў вуха,
Прымаў лянотна
сонечныя ванны.
Сядзела побач баба,
як квактуха,
На ганку, як на троне,
ў позе панны.

Раптоўна дождж сыпнуў
па гонтах стрэх,
Па наваколлі
ў вопратцы зялёнай.
Кот — не дурны,
адразу ў хату збег,
А баба — не,
так і не злезла з «трона»,
Назло дажджу,
сядзела, як варона.

## Сапраўднае сяброўства

Пушок-дружок — сабачка незабыўны,
Мірок-каток — бы Кіплінга герой,
Які вы свет вакол стваралі дзіўны!
Як упрыгожвалі жыцця настрой!

Ваш лёс — з недаўгавечнасцю, з няўдачай —
Тым незабыўней вы і тым ярчэй.
Няма другой такой душы сабачай
Й Мірка душы, адданасці вачэй.

Мой сталы век — даўно не блазнюкоўства,
З пяшчотнай, ля апошняга званка,
Адчуў душой сапраўднае сяброўства
Праз двух маіх сяброў — Пушка й Мірка.

## Саломінка-хімера

Жыццё (стварыў так «Рэжысёр») —
Спектакль аднаактны.
І вось фінал: акцёр — памёр...
Але, пакуль гучыць — «Матор!»,
Фінал — міраж абстрактны.

Ёсць «порах» — і жывы жыве,
Хоць і ў ЯЕ на вудзе.
І тушыць думку ў галаве:
«А-а, смерць?.. Калі йна будзе?..»

Хінецца думка ад бяды,
«Жыццё!» — гучыць звышважка.

Што калісь знікнеш назаўжды —
Ўявіць такое цяжка.

І гэты аптымізм-бальзам
Саломінкай хімерыць...
Не дадзена другога нам,
Як у нязбыўнасць верыць.

## На каго спадзявацца?

На каго спадзявацца?
Цень стаіць ля парога,
Ад яго не схавацца,
Абаронцаў — нікога!

Ні рукі, ані слова,
Аніякай падтрымкі,
Быццам мне выпадкова
Цень рыхтуе абдымкі.

Быццам мне толькі дрэнна
У сляпым безгалоссі...
Помню вас паіменна,
Адраджэнцы ў двухкоссі.

Хто з вас здольны азвацца?
Ад каго мне падмога?
На каго спадзявацца?..
На сябе і на Бога.

## Без яе нецікава

Хваробы, нядоля сляпая,
Трагедыі, як абавязкі...
А як у жыцці не хапае —
О не! Не багацця, а казкі.

Вядома — жыцця заканчэнне,
Як ноч — адгуло, адзвінела:
Душы аслабелай мучэнне,
Цяжар аслабелага цела.

А казкі!.. Фінал казкі кожнай
Не чорны, а ў ззянні ружовым,
Дзе робіцца бедны заможным,
Дзе робіцца хворы здаровым.

Я б кожнага казачнай сілай
Пазбавіў ад долі няшчаснай.
Паўсюдна б раззеўрыў магілы,
Вярнуў бы памершых заўчасна.

Цень жудасны войнаў знішчальных
Ніколі б над светам не лётаў.
Не слалі б лістоў пахавальных,
Ні ўдоў не было б, ні сіротаў.

Жыццё — без крыві, без хваробаў —
Усцешцеся — маеце права!..
Пражыць я без казкі папробваў —
І што?.. Без яе нецікава.

## Для думак – Мека

Падзей, учынкаў, спраў пячаць
Ляжыць на кожным дні і лёсе.
Спазнаць іх, аналізаваць,
Не ўсім смяротным давялося.

Складаны клуб пытанняў, тэм,
Загадкаваць, для думак — Мека.
Прабіцца ўглыб праблем, дылем,
Імкнецца розум чалавека.

Той век лічыўся залатым,
Які адкрыцці «лузаў» шумна.
І ўсё ж, лягчэй жывецца там,
Хто па жыцці ідзе бяздумна.

## Я адзін, а вас...

Ох, не мёд, скажу вам шчыра,
Долечка мая.
Я адзін, а вас чатыры —
Разгубіўся я.
Нібы краскі, як сунічкі,
Нібы зоркі-чараўнічкі,
Я адзін, а вас чатыры —
Разгубіўся я.

Колькі раз рабіў я спробы
Больш не варажыць.
Вы усе мне даспадобы —
Як далей мне жыць?
Ты — святлянка!
Ты — чарнушка!

Ты — з касой!
Ты — з завітушкай!
Вы усе мне даспадобы —
Як далей мне жыць?

Я сталею нежанаты —
Так жыццё міне.
Можа б лепей вы, дзяўчаты,
Выбралі мяне?
Я — прыгожы,
Я — харошы!
Поўныя кішэні грошай —
Можа б лепей вы, дзяўчаты,
Выбралі мяне?

Для тугі няма прычын,
Сустракай вясну
Нас чатыры, ты адзін —
Выбірай адну.
Я чароўна падміргну.
А я сонейкам зірну!
Я змілую!
Я сцялую!
Выбірай адну.

## Сны канчаюцца

Ёсць часовае,
Ёсць часовыя.
Будзе новае —
Будуць новыя.

Пераменіцца,
Перамелецца.

Пераацэніцца —
Куды дзенецца?

Адмятаецца
Ўсё двухлічнае.
Сны канчаюцца
Летаргічныя.

На няшчырае
Слова ловімся.
Адзамбіруем
І адновімся.

## Тосты

Узняўшы чарку ўверх прывычна,
Мы без надуманых прадмоў,
Агучваем аўтаматычна
Ўсяго два словы: — Будзь здароў!

Кароткі тост, не мнагаслоўе.
А нам ляціць ужо ў адказ
Зноў маласлоўе: — На здароўе!..
І так — штогод, штовек, шточас.

— Здароўя ўсім! — гудзе застолле,—
Да дна! Да дна! Віват, віно!
І п’юць да дна па завуголлю,
І... апускаюцца на дно.

І кожны смачна выпівае:
— Здароўя вам на ўсе гады!..
А вось здароўе — убывае
Альбо знікае назаўжды.

З прывычак гэтых выхад просты:
Каноны шкодныя — на злом!
Каб быць здаровым — зменім тосты
І за сталом, і за вуглом.

— За вашу язву! За гастрыт!
— За ціск і за халецісцыт!
— За «глюкі» і за лекаў культ!
— За ваш інфаркт! За ваш інсульт!
— За печань — за яе цыроз!
— За ваш ушчэнт прапіты лёс!..

Тут я, як кажуць, з жару, з пылу,
Нагарадзіў — не разабраць.
Не! Мы ўжо лепей у магілу,
Чым тосты новыя прымаць.

## Не зусім бяда

Хоць пакаяннем сэрца ўкроў скрышы,
Лёс не палепшыць ні на дзень, ні разу.
Зубамі памяці не выгрызці з душы
Трагедый і памылак метастазы.

І чым бліжэй да Страшнага Суда,
Тым больш грахоў, душэўных ран адзначыш.
І ўсё ж іх колькасць — не зусім бяда,
У тым бяда, што іх не перайначыш.

Калі ж душу жыццё не закране
Грымасай ганьбы ці усмешкай славы,
Мертвячынай ад чалавека тхне,
Хоць з выгляду жывы ён і рухавы.

Такіх няшмат, але яны ўсё ж ёсць,
Каго не закрануць падзеі, словы...
Боль у душы — ён гаспадар, не госць,
Баліць душа — і чалавек здаровы.

## Арытмія

Арытмія адзнакаў за ўчынкі —
 удача, няўдача...
Хай удачаў была б перавага —
 ці хоць бы пароўну... Дык не!
Лёс заўжды за спіной у мяне —
 то смяецца, то плача,
Лепш бы загадзя плакаў у вочы —
 і так папярэджваў мяне.

Кожны крок — намаганне,
 хоць, здаецца, распраўлены крылы,
Кожны дзень — перашкоды глухія,
 яны перад мэтай — сцяной.
Не заўжды адбываецца тое,
 на што накіроўваеш сілы,
І, як вынік, насустрач няўдача,
 а ўдача — наўцёкі, спіной.

Азірнуўся вакол — ці не тое
 жыццё сваё трачу?
Ўзяў, расчысціў крыніцу натхнення —
 з яе наталяўся і піў.
Я напружыў свой лёс,
 перастаў спадзявацца на ўдачу,
Я адолеў абставіны,
 я перашкоды за грудзі схапіў.

## Чагосьці не хапае нам

Як важна зразумець незразумелае,
Паўстаўшае сцяною між людзей.
І з сэрца свету схлыне набалелае,
І будзе свет хварэць усё радзей.

Наперад крок — адказ на невядомае,
І мы́сленне глыбей ад веку ў век,
Бо ісціна жыцця — жыццё свядомае,
А чалавецтва — кожны чалавек.

Трагедый землятрусы да ускраінаў
Перыядычна коцяць па зямлі.
Стагоддзямі чагосці не хапае нам —
Паразумення так і не знайшлі.

Вайна, знішчэнне — і жыццё няўтульнае,
А шар зямны — дарунак, не мішэнь.
Агульны дом Зямля, і усё агульнае —
І смутак ночы, і жыцця агмень.

## Сонца

Бог сонца Ра,
напэўна б, з неба збёг,
Каб ведаць мог,
што ён для сонца — лішні,
Што сонца і само —
прызнаны Бог,
Яно — і веліч,
і яно — Ўсявышні.

Паклон табе, свяціла.
ад людзей

І ад раслін —
        ад усяго жывога!
Мы да царквы
        звяртаемся радзей,
Чым да цябе,
        твайго святла святога.

Зямлі ты дорыш
        цеплыню, святло
Й наступны дзень —
        яго мільённа множыш.
Але ў табе й затоенае зло —
Ты ўраз усё жывое
        знішчыць можаш.

## Каханне ўзыходзіць на трон

Салавейка за вокнамі цёхкае
І ад гэтых крыштальных рулад
Ноч настолькі бяссонная, крохкая,
Што, здаецца, пачне зоркапад.

Лёгка сэрцу аб песню параніцца,
Загаіцца намнога лягчэй.
І працягне салоўка да раніцы
Чараваць — то цішэй, то званчэй.

Не стрымалася зорачка спрытная
І — уніз, да зямное красы.
Тут, чаромхавай пенай памытая,
Ператворыцца ў кроплі расы.

Салавейка пяе, завіхаецца
І, ніяк не нацешыцца ён,

Што прырода й душа аднаўляюцца
І каханне ўзыходзіць на трон.

Неба край запалаў новай раніцай,
Лес напружыўся ўзмахам крыла,
Далягляды ружова туманяцца —
Салаўіная ноч адышла.

## Суперперамога

Жыць — цяжкая праца,
З соллю на спіне.
Жыць і не змагацца —
Гэта не па мне!

Ворагі? Нікога!
Тут інакшы бой:
Суперперамога —
Над самім сабой.

## Крыніца гаючай вады

Крыніца гаючай вады —
Маіх успамінаў крыніца.
Яна ўсё глыбей праз гады
Бруіцца — яе не напіцца.

Маленства — ўспамін, на які
Маліцца і не намаліцца.
У сэрцы — жывыя бацькі,
Жывыя браты, сваякі,
Ўсё гэта — жывая вадзіца.

Ды радасці — побач з бядой,
Не сціхне трагедый грамніца —
І мёртваю поіць вадой
Маіх успамінаў крыніца.

## Бессэнсоўе сэнсу

Жыццё мае сэнс,
пакуль Бог нас вядзе
Пад сонцам —
а потым жывуць успаміны,
Ды й тыя, нібыта
кругі на вадзе
Згасаюць і мруць,
як і мы — усёадзіна.

Памёр дзед-стагодак
альбо немаўля,
Цяпер ім пароўну —
ні сэнсу, ні страху.
Усіхураўнуе сырая зямля...
Ці многа тут сэнсу —
мір вашаму праху?

Праз многія лёсы
стагоддзі прайшлі
І сцёрлі імёны —
і з намі так будзе.
— Хто жыў тут калісьці,
на гэтай зямлі?
Адказ будзе абагульняючы: —
Людзі...

Мы ў цемру нырнём з галавою —
бултых!

І станем мінулым
і рэдкімі снамі.
Жыццё наша сэнс мае
толькі для тых,
Хто зноўку народзіцца,
прыйдзе за намі.

Так, наша жыццё
мела сэнс пры жыцці,
Дзе плёну вытокі,
дзе твораў пачаткі.
Нічога, што нашых імён —
не знайсці
Ў гісторыі — спадчына наша —
нашчадкі.

## Паводка

Паводка веснавых пачуццяў
Душу запоўніла маю.
Я да блакіт-нябёс імкнуся,
Вясны празрысты водар п’ю.

Я хмелем веснавой адлігі
Яшчэ душу не наталіў.
А тое, што інтрыгі-крыгі
Вакол — іх паглыне разліў.

Нягледзячы на перашкоды,
Святкуе сонечны прамень.
Імкнуцца веснавыя воды
За марамі, у новы дзень.

Чакаем мы з вясной спаткання
Таму, што кожнаю вясной

Жыццё, душа, вясна, каханне
Зліваюцца ў адно жаданне
І плынню робяцца адной.

## У сасновым бары

У адбымку часоў
Бор грыбніцу спяліў.
Вунь — агонь верасоў —
Толькі б лес не спаліў.

Тут — бурштыны брусніц
І чарнічныя сны.
Пах духмяных суніц,
Звон празрыстых крыніц
Ад вясны да вясны.

Птушкам вольна ў бары,
Вецер бачыць тут сны.
На сасновай кары
Пазалота зары,
Ўнізе — мхоў дываны.

Замілоўвае слых
Калыханка вякоў.
Бор сустрэне усіх —
І малых, і старых,
Пікнікоў, грыбнікоў.

Бор усіх правядзе —
Да спаткання, сябры!..
Ды відаць дзе-нідзе
Бруд ў сасновым бары.

## Не для прэсы

У вёсак — жыцця надвячорак,
І лёс — аднаддзён-матылькоў —
Удоўствуе кожны падворак,
І вочы адвыклі ад зорак,
Не чуецца цокат падкоў.

Карова рыкае ў мінулым,
Браханне сабак — дзе-нідзе.
Не выбарачна, а агулам
Спусценне па вёсках брыдзе.

Ні моладзі, ні цвеpазення,
Гармонік нідзе не пачуць.
Старыя ссыхаюць карэнні
І парасткі з іх не растуць.

Штодзённа крутыя замесы,
Камяк — не глынуць, повен рот...
Напісанае — «не для прэсы»,
Для прэсы — ўсё наадварот.

## Мара

Я так хачу, каб больш паэтаў стала,
Як процівáга прозе шэрых дзён.
Душа зямлі адтала б, акрыяла
І прасвятлеў бы неба парасон.

Тады б убачыў кожны мараў плённасць,
А ў зорках неба —
казачны салют,

У поглядзе людзей —
　　　душы бяздоннасць,
А ў кропельках расы —
　　　вялікі цуд.

Складалі б песні, оды
　　　дням-маланкам,
Вянкі з усмешак
　　　кожны б дзень плялі,
Казалі б людзі людзям:
　　　— З добрым ранкам!
І сонцу, травам,
　　　матылькам, зямлі.

Я так хачу,
　　　каб больш было паэтаў,
Якія б упрыгожылі вякі.
Але для строф,
　　　для песенных куплетаў
Патрэбны чытачы і спевакі.

Жыццё падчас
　　　вядзе да заняпаду
Час-спажывец.
　　　бяздарны дылетант,—
Тады паэты пішуць у шуфляду,
А чытачы...
　　　чытаюць прэйскурант.

## І жук, і жаба – Банапарт

У часу — слёзы на шчаках —
Замкнёны круг, як выйсці з круга?
Вунь колькі зброі на руках,
Ніколі не трымаўшых плуга.

І гэта ўзброенасць — не жарт,
Не дзеці, што ў вайну гуляюць,
А «Марсы», што ў людзей страляюць,
Жыцця без войнаў не ўяўляюць —
І жук, і жаба — Банапарт.

Чуваць гісторыі дакор —
Штогод — крывавыя старонкі.
Пагрозы, войны і тэрор,
Без ліку зброі — перабор,
А мірны дах над светам — тонкі.

Мір на паперы — крохкі лёд,
Салодкасць дэкларацый — шоры...
Рыхтуйся, чалавечы род
Пачаць жыццё з нуля, з пячоры.

## Ад ранку да ночы

Мэты, мары, крылы,
Воля, вышыня,
Ранак, поўны сілы,
Моц жыцця — штодня.

У бяскрай-прастору
Існасці прастор.
Шлях — у гору, ў гору,
Да аблок, да зор.

Не стрымаць нястрымны
Роскві́т, не суняць —
О, каб неабдымны
Свет хутчэй абняць.

Свет — спрэс каляровы,
Дорыць дабрыню,
Ды запал ружовы
Саступае дню.

І ружовасць неба
Засціць смутку дым —
Бо другім не трэба
Твой духоўны ўздым.

І слабеюць сілы,
Вянуць пакрысе —
Дажывай бяскрылы,
Роўны — як усе.

Пахавай натхнёна
Ўсё, што ў сэрцы нёс...
Вечар, як заслона,
Месяц, як ікона,
Зоркі — кроплі слёз.

Час — як склеп магільны,
Лёс — як кнот смыліць.
Бог і той бяссільны
Боль душы крыліць.

Быццам страціў кроў я —
Ні душы вакол.
Вынік — бессэнсоўе,
Ноч, тупік і дол.

## Згода

— Што зрабілі, што вы робіце, гады́?
Вы жыццё маё імчыце не туды,
Вы жыццё маё імчыце ў нікуды,
Ой, як мала засталося да бяды.

А гады мне незласліва ў адказ:
— Ты дарэмна абураешся на нас,
У мінулым ці падумаў ты хоць раз —
Плённа жыў ты ці дарэмна траціў час?

— Ой гады мае гады, вы ж так гулі,
Маладымі дзіва-вёснамі цвілі.
Больш у небе я лунаў, чым на зямлі —
Разважаць і думаць не было калі.

Больш я дзейнічаў — задумваўся радзей,
Матыльком ляцеў у полымя падзей.
Асцярожных і разважлівых людзей
Не шкадуе час, не робіць маладзей.

Я не быў сляпым абставінаў рабом,
Ад слупы сваіх памылак біўся лбом,
Ў марах храмы будаваў, пускаў на злом,
Падаў і ўзлятаў з надломленым крылом.

Я б не жыў, а час бяздарна марнаваў,
Каб жыццё не сэрцам, думкай адчуваў...
А гады ў адказ...
Адказу не знайшлі,
Ды і я маўчаў — да згоды мы прыйшлі.

## Пытанняў шмат

Жыццё дало мне ўсё,
што сёння ёсць,
Не шкадавала святаў і ахвяраў.
Жыццё маю забрала маладосць,
Зламала крылы ў ружовых募раў

І ў гэтым «ёсць» —
такі калейдаскоп
Антаганічных якасцяў і рысаў —
Упартасці праз край —
хоць трэсні ў лоб,
Нястрыманасці слоў —
хоць бі мне ў пысу.

Ўратоўвала пачуццяў вышыня,
Узносіла пад неба
з багны злосці.
Ёсць у жыцці маім і дабрыня,
Ды гэта — лыжка мёду
ў горкім дзёгці.

Жыццё — наш скарб...
Ці ж гэта адкрыццё?
Вялізны скарб,
які шануем мала.
Жыццё дае наступнае жыццё,
Я ў гэтым ліку —
мне пашанцавала.

Я з ім на «ты»,
а можа б лепш на «вы»,
Паважлівасць ўзаемнасцю заплоціць.
Даўжэй жыццё не зробіць
шлях крывы,
А шлях прамы —
жыццё нам не скароціць.

Хоць мы свайго жыцця гаспадары,
Яно нас вучыць,
    як з жыцця не збочыць.
Усмешка ў вочы —
    не заўжды сябры,
Хутчэй сябры —
    крутая праўда ў вочы.

Пытанняў шмат,
    і варыянтаў шмат,
Як жыць, як карыстацца
    гэтым цудам —
Ці дасягненняў шырыць далягляд,
Ці заставацца ў прыцемку шарплюдам...

## Недаспеласць

Недаспелыя паземкі[1]
Як паклаў сабе я ў рот,
Аж скрывіліся пашчэмкі,
Ажно зморшчыўся жывот.

То дажджы, то навальніцы
Душаць чэрвень, як слата.
Вось чаму кісляць суніцы —
Недаспела смаката.

Белабокасці багата,
Ды яе я не бяру.
А яна ж не вінавата,
Што паспее не ў пару.

---

[1] Паземкі— суніцы.

Не заўсёды ёсць умовы
Думкі выспяліць свае —
Небасхіл жыцця суровы
Лёсаў шмат перапсуе.

О, да зорак нам далёка,
Мы — то ўніз, то — угару.
І жывем мы белабока,
І даспеем на ў пару.

## Агіднасць

Я бачыў сон,
адчуў смурод інтрыгі,
Няхай вас жах
падобны абміне:
З рэестру лёсаў,
з паважанай кнігі
албокС агідны
выкрэсліў мяне

Я боль душы
з адным пытаннем важыў,
Шукаў, шукаю
на яго адказ —
Чаму ніхто
злачынства не заўважыў?
Не падтрымаў мяне
ніводны з вас?

Як жыць далей —
цяпер мая ўжо справа,
Судзіць мяне
ніхто не мае права.

## Балючае з радасным

Жыццё — то адкрыта,
　　часцей — неўпрыкмет
Балючае з радасным
　　зводзіць, вянчае...
Вялікі сусвет —
　　безліч святаў і бед,
А сэрца маленькае ўсіх іх змяшчае.

І сэрца трапеча
　　да Суднага дня,
Хвалюецца да развітальнага ўдара...
А кажуць, што ёсць яшчэ сэрцы — браня.
Ці ж гэта жыццё з імі?
　　Боская кара.

## Юбілеі

Ёсць адмеціны,
　　міма якіх не прайсці,
Нам нязменна нясуць —
　　віншаванні, жаданні, парады...
Юбілеі, як цені,
　　за кожным ідуць па жыцці,
Большасць прагне да гэтых адмецінаў —
　　хтосьці не рады.

Я свае юбілейныя даты
　　даўно не ўзлюбіў,
Слухаць мне трафарэтшчыну
　　і пратакольшчыну — ка́ра...
Пра нябожчыка добрае кажуць,
　　які б ён ні быў,
Тое ж самае кажуць
　　і пра юбіляра.

## Сыр-бор

Сяброўкі, пасля ўсіх навін
Звялі гаворку неўпрыкметку
На тую, хто ім — «першы блін» —
На ненавісную суседку.

— Яна — фігураю радня
Вось гэтай во, усохлай жэрдцы.
— Яна, як каша-размазня —
Ні табе ў роце, ні ў талерцы.

— Ты глянь на рот крывы яе,
На выгнутасць буслінай шыі.
— Яна ж гавора, як ліе
Не словы ў вушы, а памыі.

— Мо грэх, я ёй услед плюю,
Няма хаўрусу паміж намі.
— Я з ёй вітаюся, стаю,
Але — іголкі пад нагамі.

— Брыда, бадай яе ваўкі,
Пустышка, дзірка абаранкі.
— Але ж за ёю мужыкі,
Нібы каты да валяр’янкі.

— І што яны знайшлі ў ёй?
За ёй, як цень, як на вяроўцы.
— Аж злосць грызе, бо мы з табой
Нібыта лялькі на паштоўцы.

— Вось нам мужчыны — ўвагі нуль,
А перад ёй глытаюць слінкі...
А-а, зразумела мне, адкуль
Сыр-бор.
Зайздросціце, жанчынкі.

Й мае сляды вас абмінуць.
Вас бачу — «у руцэ сініцу».
Хачу на «жураўля» зірнуць —
На тую жэрдку-таямніцу.

## Завяшчанне

Паміраюць такія, як я —
неприкметна...
Што нябожчыку трэба?
Адзінае — Бог.
Не хачу, каб па мне
трафарэтна, газетна,
Пратакольна, супольна
гучаў некралог.

Не хачу развітанняў
у залах казённых,
Дзе ад чэрствых прамоўцаў
нябожчык з труной,
Ад усіх «гледачоў»,
абыякава-сонных,
Адгароджаны вечнасцю,
нібы сцяной.

Завяршыўся мой шлях
па замкнёнаму колу,
Шлях зямны — поўны мар
да апошняга дня.
Хай праводзіць мяне
да маўклівага долу
Спадарожніца вечнага сну —
цішыня

## Да пабачэння!

Прыемнасць... Непрыемнасць —
        спалучэнне.
Антаганісты — ўсё ж прымай, трывай.
Хачу заўсёды чуць: —
        Да пабачэння!
І не жадаю чуць прысуд: — Бывай.

Ды чорна-беласць
        па жыцці — радамі,
Падзеі перамешваюць «рады».
І ўсе ж «бывай» часцей гучыць з гадамі —
«Бывай» услед камусьці —
        назаўжды.

«Жыццё», «каханне» —
        словы-аздабленні,
Яны, як крылы з-за падзеяў-плеч...
Я сёння ўсім кажу: —
        «Да пабачэння!
Да новых светлых святаў!
        Да сустрэч!»

## Амінь

Пакінь мяне, мая туга,
Аб тым, што многа не ўдалося,
Што шмат спазнаць не давялося —
Пакінь хутчэй жа, як мага!

Пакінь, мая туга, мяне,
Вазьмі з сабой маю грахоўнасць,
Маіх памылак паслядоўнасць
Й цяжа́р душы, што долу гне.

Мая туга, мяне пакінь,
Такіх, як ты, не трэба сведак.
Хачу без смутку, напаследак,
Спакойна выдыхнуць:
— Амінь!

## Зноў у снах маіх...

*О, не злічыць душэўных ран,*
*Што робіць нам тэлеэкран.*

Разлахмаціўся век, раскудлаціўся,
Страхалюддзе — куды ні зірні.
Быццам нейкі нячысцік унадзіўся,
Ўнёс бязглуздзіцу ў нашыя дні.

Тэлегвалтасцю час «перасолены»,
Бездухоўнасцю, шэрасцю тхне.
Лютай жорсткасцю антынамолены,
Да пакутаў людскіх «абязболены» —
І, відаць, што няхутка міне.

Ад экрана адводжу вочы я,
Крык шаманны псуе мне слых...
Зноў у снах маіх косы дзявочыя
І душэўнасць мелодый былых.

# 2007—2016

## Мне выпаў гонар...

Часоў неўтаймаваных
чую подых —
То на спагаду,
то на жорсткасць мода...
Мне выпаў гонар
жыць у двух стагоддзях,
Хаця і дзень жыцця — узнагарода.

Бывае й дзень —
стагоддзі упрыгожыць,
І ў кропельцы расы —
нябёс бяздонне.
Мне выпаў гонар
скарб духоўны
множыць,
І ганьба выпала
дзяліць грахі штодзёння.

Я светлым дням
і змроку ў вочы глянуў,
Я навучыўся плакаць і смяяцца.
Мне выпаў гонар
быць адным з зямлянаў,
Мне выпаў гонар
чалавекам звацца.

## Адштурхнуцца ад былога

У хаце — ні жывой душы, нікога...
Я гэты боль штодня ў сабе нашу,
Вяртаюся да роднага парога,
Каб перажытым наталіць душу.

Далёка недзе майго лёсу ранне,
Не перасох майго жыцця выток.
Я па жыцці без гэтага вяртання
Наперад не зрабіў бы нават крок.

Дарога ўсіх дарог — жыцця дарога,
Былое бачым, будучыню — не.
Зноў сэрца адштурхнецца ад былога
І дапаможа не упасці мне.

## Мы – у меншасці

Лёгка вылічыць, нават бегла,
І жахнуцца ад лічбаў суровых —
У зямлю больш людзей палегла,
Чым жывых на зямлі, часовых.

Стужка фінішная віецца,
Час навыперадкі імчыцца.
Нам нічога не застаецца,
Як да «большасці» далучыцца.

Мы грыземся, валтузімся —
Годзе
Ткнуць ражны у чужыя колы!

Нам бы тут векаваць у згодзе —
Свет наш — безабаронны, кволы.

Мы, жывыя,— усе у «меншасці»,
Тут нам цесна, марудна, млосна.
А ў загадкавым царстве тленнасці,
Там — усе мы аднагалосна.

## Мясціны родныя

Гады і спрэчныя, і годныя
Заперавяслілі мой лёс.
Прабачце мне, мясціны родныя,
Я — парастак, хоць доўга рос.

Мяне вы да самаадданасці
Паілі водарам часоў.
Я рос між вашай беззаганнасці,
Сярод лясоў і каласоў.

Не кожны крок мой быў узважаным,
Не ўсе пасевы зацвілі.
Я не імкнуўся быць заўважаным,
Не адрываўся ад зямлі.

І вашай шчырасцю чароўнаю
Я упрыгожваў смутку дні.
І адчуваюць повязь кроўную
З зямлёю сэрца карані.

## Святасць надзеі

Расшчодрылася на цяпло прырода —
Натоўп, чарга руплiўцаў-садаводаў.
Распродаж саджанцаў!
Вясна ў правы ўступiла,
Й бабуля тут — яна «дубцы» купiла.
Каб выпесцiць такiя аднагодкi,
Гады патрэбны — тэрмiн не кароткi,
Няпроста iх давесцi да парадку,
Сад вырасцiць цяжэй, чым немаўлятку.
А тут бабуля, згорбленая крукам,
Цiкаўлюся: — Каму купiла, унукам?
— Сабе! Садок мой зацвiце калiсьцi —
Так хочацца свой яблычак угрызцi!
О, святасць чалавечае надзеi!
Не толькi дурань думкай багацее.
I хоць бабулiн век пачаў змяркацца,
Дай Бог ёй ураджаю дачакацца.

## Зiмовы экзамен

Я й сябар мой вярталiся дамоў
Паўднём марозным з творчае сустрэчы,
Я, верабейчыкаў i галубоў
Кармiць пачаў — вакол зiма-пустэча.

Якi там корм! З кiшэнi крошкi строс,
Якiя назапашваю старанна.
Ану крыху палепшу птушкам лёс —
Вясна ж далёка, нават думаць рана.

Мароз трашчыць i па каленi снег,
Як птушкам выжыць на краi адчаю?

Я іх кармлю, а сябар мой у смех:
— Ёсць яны — не, я іх не заўважаю!

Не заўважаць жыцця вакол? Ого!..
Жыве паэт — душа адпачывае.
Ці не таму паэзія яго,
Як аўтамат-камп'ютар, нежывая?

А ён жа славіць гэты свет жывы,
І словы мудрагеліста рыфмуе...
Я зразумеў — ён піша з галавы,
Бо боль чужы сваёй душой не чуе.

## Мінулага голас

Прамень адраджэння
лаўлю сэрцам чулым,
Я — частка сучаснасці,
кропля яе.
І ўсё-такі светлая
повязь з мінулым
І крылы, і святасць
жыццю надае.

Я чую заўсёды мінулага голас,
Хоць тыя падзеі
даўно адгулі.
Іду па жыцці
а насустрач мне Колас,
І кліча усіх нас
да новай зямлі.

Жыццё будзе доўжыцца
ў шчасці, не ў згубе,

Калі ўнукі ўзмоцняць
духоўнасці ўзмах,
Калі будуць помніць
твой заклік, Якубе,
І шырыць, табою завешчаны шлях.

## Білет у адзін канец

Усё глыбей штодзённасці завеі,
Усё часцей рыфмуецца няўдала.
Яшчэ гарыць пакуль прамень надзеі,
Прамень здзяйсненняў асвятляе вяла.

Яшчэ прывабна сцеліцца дарога,
Ўсё прама й прама — і не адхінецца.
І с кожным днём усё бліжэй да Бога,
Яшчэ крыху, і круг жыцця замкнецца.

Людзей вакол і маладых, і сталых!
Гамонка, смех — мільгаюць твары, спіны.
І я падумаў, не зусім удала:
«Білет у кожнага ў адзін канец...
Адзіны!»

## Мой горад

Мой горад, і сталы, і новы,
Асветлены, шматпавярховы.
Праспекты, шыкоўныя крамы,
Паўсюднае ззянне рэкламы.

Палацы, тэатры, музеі,
Духоўнасці храмы, ліцэі.
Спартыўных арэнаў прывабнасць,
Будынкаў утульнасць і зграбнасць.
Мой горад — у працы, ў натхненні,
Але і пад сонцам ёсць цені.
Якія ў цябе жыццяшанцы,
Мой горад на аўтастаянцы,
Мой горад, у аўтапалоне?
На ўзлёце твой век ці на сконе?

## Учарэпістасць зімы

Красавік прыйшоў,
а снег за вокнамі —
Вось яна, ўчарэпістасць зімы.
Гоні выглядаюць белашчокімі,
І зусім не рады снегу мы.

Думка душыць стопудовай гіраю,
Сэрца заспакоіць як і чым,
Калі птушкі прыляцелі з выраю —
Ні цяпла і ні прытулку ім?

Год на год,
як кажуць, не прыходзіцца,
Вось сюрпрызы і прыносяць дні.
Мо хоць ты, Святая Багародзіца,
Маразы з снягамі прагані.

## Конкурс Еўрабачанне

Прэстыжны конкурс — Еўрабачанне,
Прывабны воку, слушны вуху.
Ды беларускасці, прабачце мне,
Тут кот не плакаў, няма й духу.

І тут, на жаль, не ўсё духоўнае —
Інтрыгі, змовы і падкусы.
Тут недзе й нашы «памяркоўныя»,
Па пратаколе — беларусы.

І выглядаюць недарэкамі,
Крыўляцца, малпнічаць гатовы.
І па-англійску «кукарэкаюць»,
Не ведаючы роднай мовы.

Тут свята песні міжнароднае.
А мы? Няўжо тут выпадкова?
Ніколі наша мова родная
Тут не гучала — ані слова.

А мы ж адкрытыя, душэўныя
Перад усім вялікім светам.
І нашы песні ўсе — напеўныя,
Чаму ж не ганарыцца гэтым?

## Не хлебам адзіным

На Міншчыне вольнай палі каласяцца,
Адноўлен зямлі кожны кут.
І творчая думка, і святы, і праца,
Пачэсна шануюцца тут.

У цэнтры падзей ты заўжды гістарычна,
Падзей, што вякамі гулі
І вобласць працуе, як сэрца, рытмічна
Усёй беларускай зямлі.

Адкрыцці — Радзіме, здзяйсненні —
Радзіме,
Сузор'е славутых імён.
І гонар мільёнаў — не хлебам адзіным
Сталічны жыве рэгіён.

У песнях — узнёсласць,
У працы — грунтоўнасць,
У сэрцы — гасціннасці свет.
І крочыць упэўнена Мінская вобласць
Да новых вяршыняў і мэт.

## Не факт

О, што з гадамі я нажыў?!
Што я прыдбаў з гадамі?
Розум!..
А розум — непатрэбны роздум,
Яго прысуд — не так я жыў!

Прыдбаўшы розум, я згубіў
Форс шалянца, грахоў параднасць,
Пачуццяў палкіх безагляднасць,
Па сутнасці:
Я — знік!
Я — быў!

Маёй паэзіі малебны,
Мая разважлівасць, мой такт,
Нашто? Каму яны патрэбны?
Я больш цікавы стаў?
Не факт!

## На пасашок

Лугі здзічэлі, параслі быльнёгам,
Лугі без сенакосцаў — не лугі.
О, як усё мяняецца пад Богам —
Не тыя вёскі ўжо, і я другі.

І мне штогод цяжэй пытанні несці
Праз заняпад вясковай нематы:
Каму касіць? Хто будзе сена есці?
Туга хлявоў? Шчарбатыя платы?

Што тут гуло жыццё, я ледзь угледзеў,
Гады — як аднадзёнак-матылёк.
Няма аднавяскоўцаў і суседзяў,
Апошні я — мой лёс «на пасашок»...

## Сон

О, што я сніў мінулай ноччу!
(Прачнуўся — лёд ільдом.)
Нібыта я з Гаморы крочыў
Ў вядомы ўсім Садом.

І так я там «садоміў» з густам,
Спакусы піў да дна.
І ад таго, што стаў распустай,
П'янеў, як ад віна.

Мой сон штарміў дзевяцібальна,
Як самы грэшны грэх...
Што сон?!
Мы і ў жыцці рэальным
Не проць начных уцех.

## Адвечнае

Як хутка хуткі час
Растляе нас,
Жыццё імчыць непрадказальна —
Мы плачам, мы спяваем,
То лета, то зіма.
І толькі войкнуць паспяваем,
Як нас ужо няма —
Фізічна
Ці маральна.

## Дасеўкі-дажынкі

Мяне вялі сцяжынкамі кахання
Маё юнацтва, маладосць мая.
Таму й хвалюе веснавое ранне,
Што летам не пачуеш салаўя.

О, тыя непаўторныя сцяжынкі,
Вы велічней усіх шляхоў-дарог!
Я ў маладосці сеяць мары мог,
А ў сталасці спраўляю ім дажынкі.
Цяпер, увосень не вярнуць вясну —
І ў выніку — што сеяў, тое й жну.

## Новы час

Час новы, толькі я не новы —
Немудрагеліста пішу
І ўсё шукаю тыя словы,
Каб грэлі чытачу душу.

Сучаснасць інтэрнэтных плодзіць,
Някніжныя — амаль усе.
А «мой чытач», на жаль, сыходзіць
З арбіты, што й мяне нясе.

Усё, што мы, й да нас стваралі,
І ўсё, што створаць пасля нас,
Уверх штрухае па спіралі
Ва ўсе стагоддзі новы час.

## Дробязь

Не пазбегла жыццё пустаты.
Не мінулі майго лёсу страты...
Як мне вас не хапае, браты,
Я марнею без мамы і таты.

Свята ў сэрцы радзей і радзей,
А ў душы цемра-ноч гаспадыня.
Шмат вакол і людзей, і падзей,
Ды, здаецца, наўкола — пустыня.

Дажываецца праз не магу,
Рэвізуецца ўся жыццяопісь.
У былым й дробязь мае вагу,
А чаму сёння й важкае — дробязь?

## Мне ніхто не забароніць

Карпілаўка святлом іконіць,
Хоць змрок, хоць навальніца.
І мне ніхто не забароніць
На родны кут маліцца.

На вас, нябачныя сцяжыны,
Нязгаслых успамінаў,
На вас, аджыўшыя хаціны,
На ўсіх, хто ў вечнасць згінуў.

Хоць час нікога не мілуе,
Пужае долам, страшыць,
Душа яшчэ з жыццём віруе,
Бунтуе і кірмашыць.

Жыццёвы вір таго палоніць,
Хто перастаў змагацца.
І мне ніхто не забароніць
Самім сабой застацца.

## Прэзентацыі

Прыемнага шмат захавала
Удзячная памяць — да скону.
Было прэзентацый нямала —
Я кніжкі ўспрымаў, як іконы.

Выстаў жывапісных паўсюдна
Шмат прэзентаваць давялося.
Было і цікава, і людна —
Натоўп гледачоў, шматгалоссе.

...Памру я, а вы мне не верце,
Пасмейцеся лепш, а не плачце.
Таму прэзентацыю смерці
Не буду я ладзіць — прабачце.

## Лясная калыханка

Іду між задуменных дрэў,
Кранаю ветлівае голле.
Я непрыкметна састарэў —
А родны лес? А наваколле?

Я сэрцам успрымаю вас
З пяшчотай і замілаваннем,
Нібыта бачу першы раз,
Хоць нашых не злічыць спатканняў.

Вось дзіва з дзіваў — лес заўжды
Зачараваць, здзівіць гатовы.
Вось і цяпер ён, праз гады,
Ўсё той, а мне здаецца — новы.

Душу і сёння лес хіне
І наталяе, як крыніца.
Ці ні таму з маленства мне
Лясная калыханка сніцца?

## Дзіўны стан душы

Рукапіс не праўлю я,
ні крэслю:
Не цяжарны словам —
не пішы!
Я пішу, нібы складаю песню,
Хіба ж правяць
дзіўны стан душы?

Ад душэўнай радасці
ці болю,

Ад падзей узнёслых,
ці ад бед,
Словы самі просяцца на волю
У такі непрадказальны свет.

Нават вір-гарэза,
лёдам скуты,
Да святла ірвецца
з-пад акоў.
Крэмзанні і праўкі,
нібы путы
Для узнёслых
паэтычных
слоў.

## Надзея ў лепшае

Магчыма, й добра, што я пайду
Праз хуткі час з жыцця ў трывозе.
І не пабачу брыду-бяду,
І з жахаў жах — мы на парозе.

І не пабачу, як чалавек
Сваё ж жыццё ірве з карэннем.
О, сыты, звар'яцелы век!
О, страшны ген самазнішчэння!

І ўсё-такі, дасць Бог, калі —
Жыву й памру, а не загіну,
Пасля сябе я на зямлі
Надзею ў лепшае пакіну.

## Імгненне

Маленства — сон,
салодкі ды кароткі,
Расплюшчыў вочы —
ты ўжо не дзіця.
Міргнуў — вакол падлеткі-аднагодкі,
Крок — ты ўжо сталы,
у віры жыцця.

Адказаў не знайсці на ўсе пытанні —
Як хутка страціў шмат,
хоць шмат і меў.
Ляцяць гады — сустрэчы і расстанні,
Знікаюць нечакана, неўспадзеў.

Па маладосці не спраўляў памінкі,
Бо не заўважыў —
ці ж яна была?
І старасць я не вабіў на «дажынкі»,
Яна сама няпрошана прыйшла.

Вось так і мітусяцца нашы дні:
Вадой у ступе,
ветрам у дарозе.
Я й смерць не клікаў —
Божа барані!
Не клікаў... А яна ўжо на парозе.

І ўжо з парогу не прагнаць яе,
Не ўступіць гэта чортава насенне...
Вунь зноў дзіця
жыцця гняздзечка ўе,
Зноў сон салодкі, крок...
Жыццё — імгненне.

## «Сціпласць»

Не народны я,
не заслужаны,
Лаўрэат аніякіх прэмій.
І вядомасцю не кантужаны,
І хаўруснасцю не нагружаны,
Проста —
самы
звычайны
геній.

## Я – не паэт

Я спадзяюся, што не будзе «зносу»
Радкам, якія з-пад пяра ляглі.
Я — не паэт, а летапісец лёсу
Сваёй Радзімы і сваёй зямлі.

Я спадзяюся, што навінаў чашу
З нашчадкамі мы вып’ем напалам.
Я — не паэт, а прапаведнік часу,
Які жыццём наканаваны нам.

Я — не паэт...
Я рос навідавоку
Ў людзей, падзей, што навакол гулі.
Паэты на зямлю глядзяць звысоку,
А я не адарваўся ад зямлі.

## Жыў...

Чым адгукнуцца мае творы?
Маўчаннем? Нематой
У неабсяжным кніжным моры?
Ці памяццю святой?

Ці пахавае ў новай модзе
Мой скарб чытач-знаток?
Ці прарасце з глыбіць стагоддзяў
Хаця б адзін радок?

Магчыма, зможа ён адолець
Часоў прыліў, адліў?..
Таму — не трэба лепшай долі,
Я не дарэмна жыў.

## Пачатак канца

У кожнага лёсу —
сваё завяршэнне,
І кожная праца ідзе да вянца.
Дарог не бывае
без іх заканчэння —
Й народзіны —
гэта пачатак канца.

Ад маці-Прыроды
прысуд нам суровы:
Часовыя мы...
Ну а ўсё вакол нас?
Дык што? Свет наш «вечны» —
таксама часовы?
Ці ёсць штосьці вечнае?
Ёсць. Гэта — час.

## Што я магу сказаць?..

Што вам магу сказаць я
пры сустрэчы,
Я вам — і невядомы,
і чужы?..
Сказаць агульна —
значыць, час скамечыць,
Душой не дакрануцца да душы.

Чым вас магу я
пры сустрэчы ўразіць,
Я вас — звычайны,
адпіхнуты ў кут?
Сказаць вам, што жыццё
дажынкі ладзіць —
Ці ж гэта толькі
для мяне прысуд?

Аб чым маглі б мы
пры сустрэчы марыць?..
Я мару быць патрэбным вам.
А вы?
Я мару неба лёсу не захмарыць,
Свайго і не свайго —
пакуль жывы.

Сказаць я вельмі многа
быў гатовы,
І шмат сказаў —
і ў вочы, і ў спіну.
А вось да душ не далятаці словы,
На жаль...
Нібыта біліся ў сцяну.

Ды я і сам,
у жыццятлуме спешным

І слухаў шмат,
а не пачуў усіх,
Таму, напэўна,
што не быз бязгрэшным,
Хоць быў далёка ад усіх інтрыг.

Нам кожны б дзень,
і кожнае імгненне
Збліжэнне нашых душаў святкаваць.
Прыйшло б тады ўзаемаразуменне,
І адышло б:
«Што я магу сказаць?..»

## Чагосьці не хапае...

Жыццё спрыяе нам
невыпадкова —
Я зразумеў між спраў
і між забаў.
Таму праз намаганні,
з часам, паступова,
Няхай сабе не ўсё,
а шмат прыдбаў:

Акрыленасць, сям'ю,
сяброў, кар'еру,
Здзяйсненні мараў
і грахі мае.
Чагосьці не хапае...
Мужнасці Мальера
І мудрасці Эзопа не стае.

## Вось так...

Хоць я і шмат зрабіў —
няма і знаку.
Нязробленага яшчэ больш — слата.
Я прыхінуў бяздомнага сабаку,
Я прытуліў бадзяжнага ката.

Лячыў, як мог, параненую птушку,
Якую хтось хацеў упаляваць.
А потым ледзь не плакаў у падушку,
Калі яе не змог уратаваць.

Я не адзін раблю дабро спрадвеку,
Бо боль чужы ва ўсіх душу кране...
А ноччу я чужому чалавеку
Ці адчыніў бы дзверы?...
Мусіць — не.

Я ў лесе згодзен і з ваўком спаткацца,
А з чалавекам?..
Боязна бяды.
Рабіць усім дабро —
святая праца,
Дабром за гэта плоцяць не заўжды.

## Незямныя дарогі

Як надзейна трымае
мяне на зямлі
Продкаў лёс,
майго лёсу карэнне.
А у свет паэтычных
пакутаў вялі
Незямныя дарогі
майго летуцення.

Ёсць яны альбо не?
Ці прыдумаў я іх?
Казка й быль —
палюсы, сутыкненне.
Я іду па зямлі,
па дарогах зямных —
Па таемных дарогах
майго летуцення.

## Я – апошні

Я жыў, у кроўны род уросшы —
О, як ім даражыў я!
Усіх не стала...
Я — апошні,
Хоць шмат вакол
людзей харошых.
Ды ўсе яны чужыя.

Каго сляза мая узрушыць?
Каму апаліць грудзі?
Расце камяк у горле, душыць,
І мушу ў адзіноце рушыць...
Вакол чужыя людзі.

## І вось фінал

Праз год ці сто,
а скончыцца дарога.
Пачаў спяваць —
і песня будзе спета.
Пісаў, тварыў я
з дапамогай Бога,

І вось фінал...
Каму патрэбна гэта?

Хоць шмат тамоў напісана,
хоць сшытак,
Іх не крануць
памінкі-юбілеі...
Відаць, што мой
не нарадзіўся крытык.
Відаць, чытач мой
ў чэраве надзеі.

## Беларусь-матуля

Беларусы-браткі,
Землякі-браточкі,
Ад адной мы маткі —
І сыны, і дочкі.

Ад зямелькі-маці
Карані і лёсы.
Толькі ў роднай хаце
Нашай долі кросны.

Вытчам з мовы святы,
Закірмашым імі.
Працу ўславім свята
Сэрцамі сваімі.

Беларусь-матуля,
Будзь пад сонцам вечна!
Мы цябе атулім
Шчырасцю сардэчна.

## Не замінай...

Ад плыні часу і я залежны,
Яна падмыла мне карані.
Хоць свет жыццёвы такі бязмежны,
Ды час мне крэсліць гады і дні.

Жыццё калісьці мяне вітала,
Цяпер я чую яго «бывай...»
Няўжо нам месца пад сонцам мала,
І хтосьці кіне: — Не замінай!

## Самы старажытны

Надзеі позняй восені нядбалыя
Вядуць мяне ў апошнія грыбы.
А сосны, як даўней, такія ж сталыя,
Такія ж знешне хвацкія дубы.

А ім жа сто і двесце год,
ды з гакамі.
А іх жа, продкаў продкі —
ўсіх на «ты».
Яны ў абдымках часу, нібы ў вакуме,
Хоць лёс сівой мінуўшчыны круты.

Яны гартоўным часам акарыліся
І ганарацца волацтвам сваім.
Яны б і на Купалу не здзівіліся,
Хоць побач з ім крыху памаладзіліся,
А вось Скарына — аднагодак ім.

Зразаю баравік я засяроджана,
З пашанай выкаленчваю паклон.

Хто ведае, адкуль ён, кім народжаны,
Магчыма, самы старажытны ён?

## Боль дзірванны

Сярод палёў, бароў
Дзічэе боль дзірванны.
Тут безліч хутароў
Навечна зруйнаваных.

Даўно гэта было,
Пад «бальшавіцкім дахам».
Заможнае жытло
Пайшло на згубу — прам.

Усё пайшло на злом.
А той, хто побыт ладзіў
Гарбом і мазалём,
Той лішні стаў уладзе.

Кавалачак зямлі,
Пад горкім потам соткі —
І дбалі, і жылі
Там нашых продкаў продкі.

Сярод палёў, бароў
Вісіць туга сляпая.
Заможных хутароў
Нам сёння не хапае.

Нашчадак! Зазірні
Ў мінулы час далёкі.
Твае там карані,
Твайго жыцця вытокі.

## Радзеюць рады

Сяброў незаменных сціскаецца кола,
Душы неабходных — радзеюць рады.
Няўмольнасці лёсу кіруюць да долу,
Жыцця пуцявіны вядуць да бяды.

Як страшна застацца
ў жыцці ў адзіноце,
Ты — востраў бязлюдны,
і ты ж — Рабінзон.
І сэрца смыліць як агеньчык на кноце,
Наступнае сніцца,
мінулае — сон.

У мараў — абшары,
не след каляіны.
І ўсё-ткі цішэюць здзяйсненняў званы
І крыляць згасаючы дзень успаміны,
Ды толькі вяртаюць
ва ўчора яны...

*18 красавіка 2015 г.*
*Дзень пахавання Уладзіміра Содаля.*

## Вечны вандроўнік

*Уладзіміру Александровічу*

Зямля Беларусі, калыска мая,
Край казак, былін.
Я — вечны вандроўнік, і ўсё-такі я —
Зямлі гэтай сын.

Мне сніцца Радзіма ў чужой старане,
Лясы і палі.
Душы маёй крылы вяртаюць мяне
Да роднай зямлі.

Я тут нарадзіўся, тут марыў і рос,
Тут сэрца пяе.
Тут мяці-зямля бласлаўляе мой лёс
І песні мае.

Я зноў прад табою схіліцца хачу:
— Прабач, родны кут.
Я, вечны вандроўнік, за марай лячу
І зноў буду тут.

## Што я пакінуў?

Глынуў маю песню сусветны, імпэтны
Раздрай шматгалосы.
У плыні стагоддзяў
расстаў непрыкметна
Ручай майго лёсу.

Няўмольна руйнуюць
стагоддзі-тытаны
Свет памяці дзіўны
А што я пакінуў?
Нікім не чытаны
Стос твораў архіўны.

## Адкрыцці

Адкрыццяў многіх прарастала семя
Імгненна, раптам, як дзівосны сон —
Ньютону яблык шмякнуўся на цемя,
І вось ён — гравітацыі закон.

І тое векапомнае імгненне —
Трыумф! Падзея! Эўрыка! Прарыў!..
А я закон уласны прыцягнення
Не для сусвету, для душы адкрыў.

Я шмат дзе быў, ды там не мог прыжыцца,
Дамоў спяшаўся з-за мяжы, здаля.
Мой родны кут не адпускае, сніцца,
Бацькоўская прыцягвае зямля.

Для сэрца больш галоўнага закона
Няма, чым прыцягненне ў родны край.
Няхай сабе пазней, пасля Ньютона,
Яго адкрыў я для сябе, няхай.

## Адкуль?..

Адкуль яны, паэзіі вытокі,
Дзе кожны верш народжаны — дзіця?
Адныя скажуць, ткнуўшы рукі ў бокі:
— Адкуль вытокі? Ведама — з жыцця!

Другія знойдуць іншае рашэнне,
Свой погляд вытыркаючы найперш:
— Адкуль вытокі? Ведама — з натхнення,
У ім бярэ пачатак кожны верш.

— Ды што ён тут вярзе «натхненнік» гэны? —
Пярэчыць гучна нечы маналог.
— Адкуль вытокі? Балем правяць гены!
А хтосьці хмыкне: — А над імі — Бог...

О колькі меркаванняў! Спектр шырокі,
Іх маем мы, як кажуць, цэлы куль.
І ўсё ж адкуль паэзіі вытокі?
Не ведаю...
І сапраўды — адкуль?

## Змаганне

Амаль увесь свой доўгі век — не частку,
(А сем дзясяткаў год зусім нямала.)
Усё жыццё ствараў з жыцця я казку,
Але яе жыццё і разбурала.

З жыццём змаганне забірала сілы,
Душу скалола марных спраў асцё.
І толькі мары надавалі крылы,
Ды хутка іх абламвала жыццё.

Жыццё без мары — смерці падабенства,
Жыццё без казкі — летаргічны сон.
Я чую ў сэрцы галасы маленства
І зноў ствараю казку з шэрых дзён.

Як цяжка ўсё жыццё з жыццём змагацца,
Дзе перамога то дабра, то зла.
Няўжо жыццё і ёсць Сізіфа праца,
Тунэль, ў канцы пазбаўлены святла?

## Што да чаго?

Я прыйшоў у жыццё, каб спасцігнуць яго —
Адукацыю грыз, паглыбляўся ў дылемы,
Невядомым цікавіўся — што да чаго?
Не мінаў аніводнай заблытанай тэмы.

Рэшткі ведаў збіраў я, ламаў галаву,
Спадзяваўся, што штосьці складу з іх ці склею.
І прыйшоў да высновы — чым болей жыву,
Тым жыцця мудрагелістасць менш разумею.

Кажуць, чорт калыхае дзяцей гультаю,
Я ж не лындзіў, круціўся вавёркай у коле.
І адкрыў з часам... малапісьменнасць сваю,
Безліч кніг прачытаўшы, пуды з’еўшы солі.

Можа, й праўда, галоўнае — пі сабе, еш,
Ты — ўсяго чалавек, ні тытан, ні асілак...
Век жыві, век вучыся, а дрнем памрэш,
Напладзіўшы грахоў, нарабіўшы памылак.

О, каб кожны ўсвядоміў з маленства свайго:
«Толькі еш, толькі пі» — бессэнсоўе, бязвыйсце.
Сэнс жыцця — пошук ісціны — што да чаго?
Пошук сэнсу жыцця — гэта ісціна ісцін.

## Віктару Тамашэўскаму

Ён і малым быў летуценню рады,
І ў маладосці мог бясконца марыць.
Яго дыплом — бацькоўскія парады,
Як на зямельцы жыць і гаспадарыць.

Ён так і жыў — адкрыта і грунтоўна,
Свой лёсу крыж нёс па жыцці сумленна.
Так і жыве — руплівa і духоўна,
Дабразычлівы да усіх — нязменна.

З маленства ў сэрцы носіць кут свой родны
Адзіны ў свеце, Богам дараваны.
Ці не таму ён на здзіўленне годны,
Што на зямлі Купалы ўзгадаваны?

## Адзінкі

Вечнасць 40 дзён адважыла...
Колькі гэта — шмат ці мала?
Беларусь! Ці ты заўважыла —
Ўладзі Содаля не стала?

Не ўхваляў ён «я» уласнае,
Памяць-спадчыны араты,
А здавён-даўна ў сучаснае
Нам вяртаў імёны, даты.

След гісторыі скрыўляецца,
Насланнё гадоў — фіранка.
Ды адзінкі ў свет з'яўляюцца —
Сэрцы на далоні Данка.

## Два шляхі

З чым ісці па жыцці?
У духоўнасці — спад-заняпад.
У сваім развіцці
Чалавецтва крутнула наўспят.

Праз сусветны бедлам
Прадзірацца стагоддзям дало
Ці засвеціцца нам
У канцы нэазмрока святло?

Засцярога штогод —
У жыцця два шляхі, нападбор:
Ці духоўнасці ўзлёт,
Ці пячора й каменны тапор.

## Безнадзёга

У думках, вершах мушу паўтарацца,
Таму, напэўна, што мой век на сконе?
Мінулыя гады мне часта сняцца —
І ўсё ж часцей за ўсё мне сняцца коні.

О коні, коні! Страчанае свята!
Акрыленасць сяброўствам закадычным.
Схіляюся прад вамі вінавата,
Прад лёсам, незаслужана трагічным.

Ваш век шчаслівы — у мінулым, згінуў,
Вы сёння — толькі кропелька былога.
І горка мне ад светлых успамінаў,
Бо вам не адрадзіцца — безнадзёга.

## Ашчэр аўчаркі

Вайна, бяда, пажары,
Крывавы, страшны час.
Фашысцкія пачвары,
Нямецкія аўчары
Знішчалі, грызлі нас.

Шукалі нашай згубы,
Пакуты неслі, смерць,
Але зламалі зубы
Аб абаронцаў цвердзь.

А сёння што? Ўжо ўнукі
Ікластых тых аўчар
Да зброі цягнуць рукі,
Каб напладзіць ахвяр.

З высокае трыбуны
Ухвальваецца зло.
Знішчаюць ген імунны —
Такое ўжо было.

Зноў хтосьці ненажэрна
Чужы глынуў бы плод.
Зноў пазіраюць жэрлы
Гарматаў на ўсход.

І заклікам ваенным
З-за Рэйна чуем: «Гут!»
О, Гітлераўскім генам
Далёка не капут.

Распялі памяць шпарка
У часе на крыжы.
І зноў ашчэр аўчаркі
Мы бачым з-за мяжы.

## Заўсёды новы цуд

Ура! Зімы не стала!
І ўжо каторы раз
Гасцінна завітала
Вясна-душа да нас.

Ільдзіны ў плыні рэчкі
Расталі, аджылі.
І гурбы, нібы свечкі,
Пад сонцам «паплылі».

У кожным дрэве сокам
Пульсуе зноў вясна.

А над зямлёй, высока —
Абшар-блакіт без дна.

Ўсё сонейкам сагрэта
І ўдзячна ўсё яму.
Было пад Богам гэта
І сто гадоў таму.

Міне яшчэ стагодддзе,
А вёсны будуць зноў
Галоўнымі ў прыродзе,
Як да жыцця любоў.

Спрадвек з вясной спатканне —
Нязменна новы цуд,
Як першае каханне,
Нібы здаля вяртанне
У сэрцу родны кут.

## Плоць і дух

*Не плоть, а дух растлился в наши дни...*
Ф. Тютчев (1851 г.)

О, дух ваш быў, як кажуць, на кані,
Ў прамым і пераносным сэнсе слова.
А вы бы зазірнулі ў нашы дні,
У вас, напэўна, аднялася б мова.

Здавалася б, гадоў імклівых рух —
У будучыню, да вяршынь духоўных.
Ды штосьці адстае ад часу дух
Й ад плоці адстае — яна ў галоўных.

Ліецца ў нашы душы плынь бяды —
Інфармацыйны бруд з усяго свету.
На шчасце, вы не ведалі тады
Ні тэлевірусаў, ні інтэрнэту.

Бульш мудрым стаў сучасны чалавек,
У навуковы свет рвануў з запечча.
Але чамусьці наш вучоны век
Больш жорсткі, нават за сярэднявечча.

На жаль, дабро ад зла не прапалоць,
Як бураю не сцішыць завіруху.
Дык вось чаму, дзе плоць знішчае плоць
Й ліецца кроў — не будзе месца духу.

Вы — там, мы — тут. Нас падзяляе час —
Стагоддзе з гакам, ледзь акіне вока.
І шмат у чым далёка вам да нас,
Але у многім нам да вас далёка.

## Не ў пару

Кажуць, той вунь, у пару памёр, той рана...
Хто адлічвае, адмервае наш век?
Смерць, як правіла, прыходзіць нечакана,
Хоць старэе, хоць хварэе чалавек.

Хіба ж можна у зямлю сырую легчы
Ані позна, ані рана — ў самы раз?
І хаця нам «чорнай меткі» не пазбегчы,
Без пары магіла прытуляе нас.

Як вы хочаце сабе, а я памру,
Хоць і ў сто гадоў, а ўсё-такі не ў пару.

## Чысты аркуш паперы

Чысты аркуш паперы
На стале, пад рукой.
Дзень за вокнамі шэры,
Адпаведны й настрой.

Лес — зусім не далёка,
Поўны восеньскіх дум.
Дзесь стракоча сарока,
Разганяе мой сум.

Двор за шыбамі мілы.
Прыстарэлы мой сад,
Плот шчарбаты пахілы,
Ліпаў згорбленых рад.

За імгненнем імгненне,
Час улегцы бяжыць.
Не прыходзіць натхненне —
Чысты аркуш ляжыць.

Не, не ўбачу й здалёку
Рыфмаў творчых палёт.
Напішу пра сароку
І пра сад, і п ра плот.

## Дабро

*Сямёну Шапіру*

Які асноўны ў душы «багаж»?
Любоў, духоўнасць, чуласць і надзея.
І ўсё ж галоўны спадарожнік наш —
Дабро — яно нязменна сэрца грэе.

Дабро няўхільна па жыцці вядзе,
Адолець памагае перашкоды.
Дабро плячо падставіць у бядзе,
Дабро ад зла ратуе нас заўсёды.

Дабро спрадвеку для жыцця было —
Месія, вера ў цуд, адзінаверца...
Ёсць людзі, ад якіх ідзе святло
І цеплыня — ад сэрца і да сэрца.

## Трэці лішні?

Я быў адзін, ледзь заўважаў вясну,
Стаяў у задуменні з кіслай мінай.
І раптам быццам ачуняў ад сну —
Убачыў праваруч хлапца з дзяўчынай.

Цягнуў ён вусны да яе шчакі —
Ці цалаваў, ці штось шаптаў з імпэтам.
Яны былі, нібыта галубкі,
Адны — на ўсёй зямлі, на свеце гэтым.

Эх, падыду! І будзе нам утрох
Шмат весялей сярод вясны гутарыць.—
Я усміхнуўся да вушэй, як мог,
І смела «падруліў» да гэтай пары.

Але хлапец спыніў маю хаду:
— Ану адгэтуль на падэшвы цісні!
Здзівіўся я: — Куды? Я не пайду?
Але ў адказ пачуў я: — Трэці лішні!

Куды цяпер?.. Ды з правае рукі
Убачыў я здаля ў святле рэкламы,—

Як тычкі дзве, стаяць два дзецюкі,
Кагось чакаюць каля віннай крамы.

Відаць, што час у хлопцаў не ў цане,
Не ведаюць, куды яго бы дзець ім.
Калі ж яны заўважылі мяне,
Гукнулі: — Далучайся! Будзеш трэцім!

## Не паспеў...

Сціхае разгалосы жыццяспеў,
Ды ўсё мацней гучыць над гэтым хорам
Адно пытанне: — Што я не паспеў?
Што пойдзе след за мной нямым дакорам?

Пытанне гэта па душы скрабе,
І мой адказ —
Далёка не Эзопаў:
Не ўратаваў сябе я ад сябе,
Ад слабасцяў сваіх і недахопаў.

Іх не адолеў — позна бедаваць,
Не ставіў ветразь самым дзёрзкім мэтам.
Ў душы не здолеў Храм пабудаваць,
Каб мець паразуменне з гэтым светам.

Трапляў пад гузакі памылак лоб,
Маланкава мільгалі дні і ночы,
Жыццё круціў жыцця калейдаскоп —
Я й не паспеў жыццю зірнуць у вочы.

## Старт і фініш

О лёс мой, каляровы й чорна-белы!
О думкі, суцяшальныя й назолы
Пра старт жыццёвы блазнюкова-смелы,
Пра фініш, нечакана невясёлы.

Пішы, малюй, хоць наварочай горы,
Ўсё гэта мітусню не пераважыць.
Памры я сёння, знікні мае творы —
І хто такую драбязу заўважыць?..

## Ганебны дзень

Сёння дзень абароны бяздомных жывёл,
Чорны дзень,страшны дзень —
душаў нашых калецтва.
Эх, убіць бы ў бяздушша асінавы кол.
Не было бы ганебнага дня ў чалавецтва.

Дзень, народжаны чэрствасцю нашай людской,
Дзень як помнік бязлітасці безчалавечнай.
Гэтым днём кракадзілавы слёзы ракой
Можна ліць, ды не зменшыць трагедыі вечнай.

Каб дабро выпраменьваў дамашні агмень,
Трэба сэрцы ачысціць ад хцівых бірушаў,
Трэба выкінуць вон, штучна створаны дзень,
А на месца яго — свята чуласці душаў.

## Засяцрога

*(ад старога)*

У вушах яе —
Салавей пяе.
У вушах маіх —
Адспяваў і сціх.
У вачах яе —
Ясна-ранічка
Разгаўляецца, разгараецца.
У маіх вачах —
Дзень прыцьмяніўся,
Надвячорачак затуманіўся.
У душы яе —
Ладзіць баль вясна,
У маёй — даўно
Адгула яна.
Ёй ажно карціць
На гулянaчку,
Мне б хаця дайсці
Да ляжаначкі.
Ой жа горка мне —
Падзівіцеся.
З маладзенькімі
Не жаніцеся.
Чым салодкае
Піць з малодкаю.
Лепей церці хрэн
З аднагодкаю.

## Разгубленасць

Што ёсць жыццё? І што ёсць мы ў жыцці?
І што ёсць ісціна ў мільярдаў лёсаў?
Як шлях знайсці ў жыцці? І як прайсці
Ад «А» да «Я» без хібаў, перакосаў?

На «што ёсць што?», адказ —
пад пальцам ртуць.
Адказаў шмат, пытанняў значна болей.
Яны ў сабе разгубленасць нясуць
І вастрыню расчараванай болі.

Жыццё пражыў, нібы змарыў каня —
Жар-птушку не дагнаў, не ўцёк ад смерці.
О жах! Няўжо жыццё — ёсць мітусня?
А ісціна — ёсць Бог?..
Не ў кожным сэрцы.

## Як адна сям’я

Каля боку кот,
У нагах — другі.
Так вось, з году ў год,
Ложак — абцугі.

Не крануцца ў сне,
Ног не выпрастаць.
І складана мне
Сесці або ўстаць.

Кажуць, любіць Бог
Святу Троіцу —
Трэці кот мой лёг
Ў ізгаловіцу.

Я наўскос ляжу
У начной цішы.
І маю душу
Грэюць тры душы.

Мы і днём, і ў сне,
Як адна сям’я.
Як ім без мяне?
Не ўяўляю я.

## Пачынаюць галёкаць совы

Пачынаюць галёкаць совы,
Набіраецца восень моцы.
Ціха месяц срэбрагаловы
Ў аблачыне плыве, як у лодцы.

Неба зорак сузор’і квецяць
Па-над цішай застылай ночы.
І глядзеў бы на ясны месяц,
Не міргаючы — вочы ў вочы.

## Мёртвыя душы

Яны ліюць у вушы словы-мёд,
З лжэцеплынёй заглядваюць ў вочы,
Усмешкі дораць, а за імі — лёд,
А у душы пануе цемра ночы.

Няшчырасць іх, як пляма на сталe,
Спагадлівасць, як на вярбе ігрушы.
Жывыя людзі з выгляду, але
У іх усё-ткі нежывыя душы.

Чакае нас усіх сумлення суд
Перад апошнім у жыцці парогам.
А душы мёртвыя — сваё сумленне ў кут,
Забыўшыся, што мы ўсе пад Богам.

## Пасрэдніцтва

Шальмоўства, бізнес дзейнічаюць жыва,
Вышукваецца кожным свой Кландайк.
А для пасрэдніцтва — свая нажыва:
Купі-перакупі, перапрадай.

О колькі прыжывалаў у дзяржаве,
Яны вакол, як кажуць, на вачах.
Патрэбен-непатрэбен, ты пры справе,
Ты спраўна пры грашах і пры харчах.

Пакінем гэты свет нажывы шэры...
А тут не зразумела, чорт вазьмі:
Навошта ў чысціні Святое Веры
Пасрэднікі між Богам і людзьмі?

## «Калісьці» ці «рэтра»...

Якія песні ў маладосці мы спявалі!
Якая музыка выхоўвала наш лёс!
Нас уратоўвалі мелодый дзіўных хвалі,
Час мелагучнасці жыццё на крылах нёс.

І нічагуткі, што жылі мы не багата,
Што надыходзіла — ў кішэні ні граша.
Але заўсёды песняй поўнілася хата
І ў свет мелодыі імкнулася душа.

Адсвяткаваў той час напеўна-дзіўны,
Ды «свята месца» не павінна пуставаць!
І сёння ўжо спяваюць неяк агрэсіўна,
Калі ўсё гэта можна спевамі назваць.

Са сцэны глушаць рытмы, крыкі, рыкі, рокі —
Хто ў драных джынсах, хтосьці ў модным «дэфіле».
Крыўлянні, ўціскі і шаманскія падскокі,
А ўжо спявачкі дык амаль што нагале.

І раздзіраюць узмацніцелі паветра,
І новы «брэнд» абездухоўлівае нас...
«Калісьці» наша — сёння хрысцяць
словам «рэтра»,
Як ні заві яго, а быў цікавы час.

## Прыдумана няўдала

Вясна, пасля зімы настылай,
Нібыта пасля ночы ранне.
Вясною набываюць крылы
Надзеі, мары і каханне.

Вясна — ад чэрствасці збавенне,
Ад самаедства лепшы сродак.
Вясна — прыроды аднаўленне
І летуценнасці зародак.

І ўсё ж прыдумаў Бог няўдала
Для тых, чыё жыццё на сконе:
Яшчэ адна вясна настала,
А ты — у восені ў палоне.

## Страшны звер

Больш страшнага не маюць звера
Палі, лясы,
Чым чалавека-бракан’ера
Ва ўсе часы.

Сябе ён лічыць незалежным
Ад забарон.
Кіруецца нутром драпежным
Заўсёды ён.

Забойствуе ён, і з-пад фараў,
Начэй не спіць.
З сумлення кроў сваіх ахвяраў
Яму не змыць.

Яму лютуецца з ахвотай
Заўжды й цяпер.
Зноў цісне на курок употай
Звер-бракан’ер.

## Вярхі і нізы

Пампезнасць нашай Мінск-арэны,
Бібліятэкі брыліянт,
Шыкоўны Аквапарк бясцэнны
І Прэзідэнт-гатэль, як франт.

Ад Незалежнасці палаца
Не ў сілах адарваць пагляд...
Хацелася б замілавацца
На веліч пенсій і зарплат.

## Зварот да далёкіх нашчадкаў

Вось седзіцё тут вы ў пячоры,
Касцёр адсунуў цемру-цьму.
А дзе сядзелі вы «учора» —
Ўсяго стагоддзе-два таму?

Адны блудзілі ў інтэрнэце,
Другія спалі на грашах.
А хтось пры атамнай ракеце
Прыдумваў больш жахлівы жах.

Усе забыліся пра розум,
Пальнулі — і жыцця няма.
Імгненна ядзерным марозам
Зямлю накрыла ноч-зіма.

А тыя рэдкія адзінкі,
Хто выжыў, дачакаўся дня,
Спраўляюць па жыцці памінкі
Для іх пячора — вышыня.

Мацуйцеся! І мы спачатку
З пячоры пачыналі шлях.
Ваш прыйдзе час, але нашчадкі,
Унукаў вашых дзіцяняткі,
Праз век-другі паўтораць жах.

## Паразумнеў

— Вунь Бог ідзе! І што ты мне параіш? —
Спытаўся сябар.— Ты ж аўтарытэт!
— Ідзі й скажы: — Ты мала нас караеш,
Мы грэшнікі, якіх не бачыў свет.

— А, можа, папрасіць бы ў яго штосьці?
Як кажуць, сігануць у ногі лбом?

Я ўсміхнуўся: — Папрасі, каб госці
Штодня сядзелі за тваім сталом.

— Ўсё гэта дробязь! Што бы наўздагонку
Яшчэ агучыць? Хутка Бог міне!
— Прасі ты ў Бога маладую жонку,
Твая ў гадах — такія не ў цане.

Пакуль я сябра, дзеля лепшай долі,
То за мазгі цягнуў, то за язык,
Бог міма нас цішком прайшоў паволі,
Стаў аддаляцца і ў паветры знік.

І сталі з сябрам зноў жыццё мы ладзіць
Боз Боскай ласкі, толькі я знямог:
Што ні раблю — ўсё бокам мне вылазіць,
Нібыта кару насылае Бог.

Ў дадатак да ўсяго, трайную плату
Пачаў плаціць я за свае грахі —
Аднекуль чорт гасцей нагнаў у хату,
Штодзённа — ад палогі да страхі.

Ўсё «падмялі», да крошачкі паелі —
Пажэрлі, як галодныя ваўкі.
Ні месца за сталом мне, ні ў пасцелі,
Туляюся, нібы прымак які.

І як цяпер мне не прыпомніць Бога?
Бяда заўжды прыходзіць за бядой —
Нядаўна жонка збегла да другога,
А я, дурны, жаніўся з маладой.

За ёй у хату звяга завітала,
За ёй у гаспадарку — заняпад.
Яна маё багацце праматала,
А мне, з майго кутка — нагой пад зад.

Вось і нашу ў сваім я сэрцы стому,
Запознена паразумнець паспеў.
Ёсць ісціна — жадай таго другому,
Чаго сабе б ты пажадаць хацеў.

## Гаўрылка

Каб, каток, ты ажыў,
Хоць на ўздых,
Хоць на міг,
Я б цябе задушыў
У абдымках сваіх.

Эх ты, смерці ашчэр!
Думкі ў сечку крышу
Успамінам цяпер
Наталяю душу.

## Маналог да друга

Ніжэй, ніжэй хінецца
Мой друг — і моцны сон.
Няўжо ён не прачнецца?
Няўжо не ўстане ён?

Ці дзень, ці ноч, ці сцюжа,
Ці спёка — я прывык,
Што мой надзейны дружа
Заўжды са мной, як штык.

Мы з ім павіравалі,
Адкідвалі нуду.
Падэшвы адрывалі
У дзеўчын на хаду.

Гулі, аж гай дыміўся,
Трымалі дышлам хвост.
Цяпер ён прытаміўся —
Ну што ж, не той узрост.

Да друга я звярнуўся:
— Не спі! Ўставаць пара!
О, радасць! Ён прачнуўся!
Падняўся ён! Ура!

## Лес гасцінны

Мяне на досвітку вітае
Лес гасцінны.
Птушыны спеў, зямля святая,
Мае мясціны.

Я рады пахам, успамінам,
Гарэзе-промню.
Я казкі гэтых гушчарынаў
З маленства помню.

Я бег малым у пушчы-далі
Аж да Псігуркі
Баравічкі тады гулялі
Са мной у жмуркі.

О гэты цуд рудагаловы
Напатканы!
Прад імі біць паклон гатовы
Не без пашаны.

Прад кожным я спіну згінаю,
Бяру без спешкі.
Але й лісічкі не мінаю
І сыраежкі.

## Разбалансаванне

Даўней было галоўным праца,
Пра ўцехі думалася мала.
Даводзілася харчавацца
Звычайным — бульба, хлеб ды сала.

І малачко было па густу,
Капустцы кіслай — не загана.
Сучаснік скрывіцца: — Не густа!
Не ўхвальна! Не збалансавана.

Ці ж гэта ежа! Смех курыны!
Ненавуковасць — адназначна.
Дзе каларыйнасць? Вітаміны?
Дзе разнастайнасць блюдаў смачных? —

Мяняемся мы ўсебакова,
Мадэрфіцырумся генна.
Меню складаем навукова
І збалансоўваем нязменна.

Ядзім мы з густам, першакласна,
Нярэдка, на бягу, галопам.
Куды цяпер да нас сучасным
Усім Амерыкам, Еўропам?

І вось яно, гадоў каранне:
Лёс чалавецтва лёг на шалі —
Збалансавалі харчаванне,
Ды душы разбалансавалі.

## Час адноўлены

На жаль, мне не вярнуцца з выраю,
Таму з абвостранай адданасцю
Свае я творы бальзамірую
Чужой незапатрабаванасцю.

О, прыдзе зорны век славеснасці
У шэры свет абездухоўлены.
І саркафаг маёй бязвеснасці
Ускрые, узломіць час адноўлены.

## Багаты чалавек

*Барысу Міронавічу*

Звёў лёс мяне з багатым чалавекам —
Багаты ён не кашальком тугім,
Багаты ён сваім жыццёвым векам
І мудрасцю, якая й сёння з ім.

Ён рос у простай хаце, не ў палацы,
Пазней — лічыў за гонар мазалі.
Ён прысвяціў жыццё сялянскай працы,
Душу і сэрца аддаваў зямлі.

І ён лічыў за мэту, за патрэбу,
Пражыць свой век сумленна, без маны.
Ён ведае цану жыццю і хлебу —
І для яго няма вышэй цаны.

Сакрэт яго жыцця не быў сакрэтам —
Жыве ён Чалавекам між людзей...
Я ад знаёмства з гэтым чалавекам,
Духоўна стаў чысцей і багацей..

## Клопат апошні

Восенню сталай, восенню стылай
Быццам стаіш ля апошняй мяжы
Птушкі тужліва кіруюцца ў вырай,
Сумна вакол і ў абшарах душы.

Восенню сумнай — пачуццяў аблога,
Плынь непазбежнага ў вечнасць нясе,
Думкі заглыблены ў сутнасць былога
Там, дзе памылкі і поспехі ўсе.

Восень у вочы — і гэта не жарты.
Чуецца плач адлятаючых стай.
Клопат апошні — чаго я быў варты?
Дзе ён? Які ён, жыцця ўраджай?

## Верабейчыкі

Прыйшлі вы ў гэты свет вялікі,
Каб несці шчырасць праз вякі,
Няўрымслівыя чык-чырыкі,
Прываблівыя камячкі.

Жыццё прад вамі вінавата,
Ваш небяспечны лёс — не рай.
У вас і корму не багата,
І ворагаў у вас — «праз край».

Вам весела й зімой суровай,
У спякоту й восенню сырой.
Эх, мне бы ваш запал жыццёвы,
Ваш аптымізм і ваш настрой.

## Пра сябе... і не толькі

Беларускасцю абуджаны,
Нашай роднай мовы — годны.
Па анкеце — не заслужаны,
Пратакольна — не народны.

Маці й бацьку абавязаны
Тым, што ў творчасць закаханы,
Што пішу, хоць не заўважаны,
Што твару, хоць не прызнаны.

Хтось сябе наперад соўгае,
Пра выключнасць пустазвоніць...
У хаўрусцаў вушы доўгія,
Але ж сонца не заслоняць.

## Лёс прытомлены

Я у сэрцы нёс
Шалянца агонь.
І імчаў мой лёс,
Як у мыле конь.

Супрацьлома іх,
Свой знаходзіў лом.
Маналіт інтрыг
Прабіваў ілбом.

Ёсць душы святло,
Ім багаты я,
Хоць плятуць сіло
«Памагатыя».

Сёння конь мой — лёс,
Ох, прытомлены,
Ох, прытомлены,
Ды не зломлены.

І таму прыўжвар
Ад магільных пліт
Так, каб час у твар —
Іскры з-пад капыт.

## Зімовыя «дачнікі»

Гаспадары былі вам да пары
Гаспадарамі й вашымі «сябрамі».
Цяпер няма іх, вы тут жыхары
Ў абдымку з маразамі і вятрамі.

І ні кармёжкі, ні цяпла няма,
Для вас адно — мяукаць, енчыць, выці,
Бо забярэ бязлітасна зіма
Жывыя вашы душы, вашы жыцці.

А тыя, хто вясной бяздушна вас
Часова прыкармілі для забавы,
Пад цёплай коўдрай спяць ці ў гэты час
Ледзь здыхваюцца ад глынутай стравы.

Зімой пусцеюць дачы да вясны,
Бязлюдзяць, ды, на жаль, не безжывёляць,
Бо тут канаюць, гінуць без віны
Каты, сабакі — й ціхенька скуголяць.

Ваш енк і плач — слабей і ўсё радзей,
Ніхто з вас не міне смяротнай кары.
Але вясной зноў будуць у людзей
Жывыя цацкі — новыя ахвяры.

## Душа

*Упокой, Божэ, душу...*
(З малітвы)

Ізбаві, Бог, каб разам з целам спала
Душа, пасля канчыны чалавека.
Тут, на зямлі, ёй цесна, месца мала,
А дамавіна — пастка, под і века.

Хоць ты крычы, а ад жыцця збавенне
Ў канцы жыцця чакае нас няўмольна,
Я не хачу душы упакаення,
Няхай бунтарыць, рухаецца вольна.

Няхай дурэе, мітусіцца, скача
У пушчах, гонях і у чыстым полі.
Няхай лунае над зямлёй, іначай
Няма душы — і не было ніколі.

## Малых трагедый не бывае

Ці людзі вернуць нос ад Бога,
Ці адвярнуўся Бог ад нас?
Трагедый жудасных аблога
Тэрарэзіруе наш час.

Мы ўсе па-рознаму гаруем,
Калі наносіць лёс удар.
Чамусьці звыкла сартэруем
Трагедыі, нібы тавар.

Здзіўляюць меркаванні злыя —
Ў трагедый розны боль і сэнс,

Што ёсць вялікія й малыя,
Ёсць больш балючыя і менш.

Для маці ля труны дзіцяці,
Счарнелай з гора назаўжы,
Трагедыя яе не ў хаце,
А на ўвесь свет — бяда з бяды.

І так стварылі свет наш Богі,
Што боль чужы — каля нуля.
Для маці боль трагедый многіх
Не варты смерці немаўля...

Ці лось, ці шпак — душа жывая.
Я сэрцам зразумеў даўно:
Малых трагедый не бывае,
У кожнага — жыццё адно.

## Слова

За слова — слава,
            за слова — й да адказу.
Праклён у слове і удзячнасць нам.
У слове ёсць і святасць, і абраза,
У слове — зброя й лекавы бальзам.

Агучыць слова і прысуд суровы
Тым, хто яго ўжывае абы-як.
Цікава ўсё ж!
 Адны і тыя ж словы
Паэтаў нараджаюць і пісак.

У слове ёсць душа і моц жывая,
Яно было пярвей за ўвесь сусвет...

Паэтаў нецікавых не бывае,
Бо той, хто шэрасць плодзіць —
не паэт!

## Грыбныя снежкі

З давён-даўна пара грыбная
Нас вітае.
Нас зачароўвае, гукае,
Не адпускае.

Дзеля азарту, а не карысці
Ў лес імкнуцца.
Было ў лясах грыбоў калісьці —
Не размінуцца.

Мы з Кастусём, старэйшым братам,
Блазнюк-даўбешкі,
Чашчавікамі — іх багата,
Гулялі ў снежкі.

Нам «упрыгожвалі» адзенне
Нязмыўкі-плямы.
І не было канца здзіўленню
У нашай мамы.

Пытала мама ў нейкім спудзе:
— Што за гасцінцы?
Прыйшлі вы з лесу не, як людзі,—
Як далмацінцы.

Было нам весела і міла
Ўтвараць пацеху.
А мама плямы дзёрла з мылам,
Ёй не да смеху...

І праз гады пара грыбная
Прыходзіць святам,
Нібы маленства яшчэ гуляе
У «снежкі» з братам.

## Залатое сэрца

Камусьці — прыемна, а мне — непрымальна...
Не раз чуў за доўгі свой век,
Як нехта камусьці лагодзіў ухвальна:
— О, вы — залаты чалавек!

А нехта другога нахвальваў напеўна
З вяршыні сваёй прастаты:
— А сэрца у вас залатое, напэўна?
Й характар у вас залаты...

Я ўдзячны складанаму лёсу за тое.
Што сталасць — яшчэ не фінал,
Што сэрца ў грудзях маіх не залатое,
Што б'ецца ў грудзях маіх сэрца жывое,
Бо золата — мёртвы метал.

А сэрца жывое ірвецца на волю,
Як птушка ў жывы гэты свет.
А сэрца жывое — з любові і болю
І з сонечных мараў і мэт.

Яно незалежна лунае над часам,
Над вечным ўсясіллем яго.
Усім залатым найсусветным запасам
Далёка да сэрца майго.

## Лёс катка

Як прыдбалі кацянятку —
Колькі радасці спачатку.
Ён гарэза, ён рухавы,
І пушысты, і ласкавы.
І малы каток знянацку
Стаў для ўсіх жывою цацкай.
Ловіць хвосціка свайго —
Не нацешацца з яго.
Ой жа ж як катка любілі,
Калі быў каток у сіле.
А як стаў каток старэнькі,
Сілы у катка паўжменькі,
Як зрабіўся нэнзлы ён,
Дык і выкінулі вон.
А вакол зіма, завея,
І стары каток гібее.
Быў пад коўдрай, за сталом,
Апынуўся пад вуглом.
Калі ўбачыце катка,
Прытуліце бедака.

## Вярнуцца б...

Мінулае й сучаснасць можна
Ацэньваць: што каму мілей
Жывецца сёння нам заможна,
Жылося бедна нам даўней.

Штодзённая цяжкая ноша —
Пасляваенны горкі час.
Бо бульбіна была раскошай,
А хлеб наведваў рэдка нас.

А сёння хлеба шмат і сала,
Прысмакі розныя — штодня.
Ды толькі шчырасці замала,
Ды штось знікае дабрыня.

Ды жорсткасці — не размінуцца,
Ды грошы — душ уладары.
І як цяпер не прыхінуцца
Душой да шчырай той пары?

Пасляваенны час гаротны
Па-свойму сфарміроўваў нас.
Эх, мне б вярнуцца ў той галодны,
Той халодны, родны час.

## Вясенні вальс

О, не магу стрымаць слязу я,
Слязу замілавання —
Са мной вясна-красна вальсуе
Мелодыю спаткання.

Пяшчота сонца-дабрадзея
Вядзе ў палі, на ўзлескі.
І чуйна сэрца маладзее
Ад погляду пралескі.

Са мной бярозкі карагодзяць
На зайздрасць зграбным клёнам,
Якія з нас вачэй не зводзяць
У вопратцы зялёнай.

Навокал гарманічны, цэльны
Свет мар і іх здзяйсненняў.
І водар адраджэння хмельны,
І стан душы вясенні.

## Няздзейсненыя мары

*З натуры*

Ён ляжаў на тратуары
Плямным тварам дагары.
Адсмяяўся, адгутарыў,
Хоць узростам — не стары.

Ён ляжаў схуднелы, спіты,
Не адзенне — ашмаццё.
Недагледжаны, нямыты,
Ледзь заўважыўшы жыццё.

Ён ляжаў навідавоку
Тратуарнай табалы.
На яго глядзеў звысоку
Кожны — сталы і малы.

Хутка й «хуткая» прымчала
І міліцыі нарад.
Склалі штосьці, ды толку мала,
Смерць — яна і чорту брат.

Вось і ўсё. Адмітусіўся,
І цяпер — апошні шлях.
Хтосьці ўслед куснуў: — Дапіўся!
Гіцаль, ёкарны твой лях!

Я міжволі глянуў скоса
На нястрымка-языка.
Шкадаваў я не п’янтоса.
А малога хлапчука.

Як і ўсе мы, ён таксама
Падрастаў бы матылёк.

Першым выўчыў слова «ма-ма-а»,
А за ім быў першы крок.

Потым — розных спраў стасунак,
Школа, мары, планы — «я».
І вясельны пацалунак,
І уласная сям’я.

Ўсё прыстойна і прыгожа,
Не жыццё — дзівосны сон..
Дзе ж ён хістануўся, Божа?
Як скаціўся пад адхон?..

Бачыў я на тратуары
Не аджылага пітка,
А няздзейсненыя мары
Ад анёлка-хлапчука.

## Калыска мілая

Я не прыняў жыцця дарогу новую.
Яе не зладзіць пад свой густ, хоць млей.
«Учора» й «сёння» сумна параўноўваю
І вынік неўцяшальны: — Што далей?

Жыццё пульсуе ў нейкім штучным цыкле.
Жыццё і неадушаўлённасць — жуць!
Няма даўно шызаваронак, зніклі,
Цецерукоў не ўбачыць, не пачуць.

І вынішчыў бязлітасны, сучасны
Прагрэс — з лугоў і красак матылькоў.
І чалавек сваёй рукой уласнай

Закрэсліў лепшы твор сівых вякоў —
Кароў рыканне, цоканне падкоў.

Жанчын не ўбачыць ля вясковай студні,
І не ўваскрэсіць тут вясковы люд.
Не дзіва — надыходзіць дзень наш судны,
Хаця вядомы нам яго прысуд.

О, вёсачка мая, калыска мілая,
У вокнах сум, пахілыя платы,
Як быццам бы ў заўчасную магілу я
Зыходжу, не дажыўшы, а не ты.

Балюча бачыць туташнасць тутэйшаму —
Засілле дачаў, вёсак заняпад.
І толькі ў маім сэрцы па-ранейшаму
Яшчэ жыве таго жыцця уклад.

## Бяда-нуда

Паэт знаёмы малады
Зрабіў заўвагу мне з ухмылкай:
— У вашых творах ёсць памылка —
Зашмат у іх нуды-бяды...

Што ж, кажуць, кожнаму сваё.
Я не агучваў праўду-матку:
«Ты пражыві хаця б з маё,
Перагаруй майго хоць частку».

Я сціпла прамаўчаў таму,
Не бараніў сваю «нуду» я,
Што ўласнае жыццё яму,
На жаль, нуды не пашкадуе.

Што назапашваюць гады
Для кожнага трагндый нізку —
І горкія пуды нуды,
І страту самых родных, блізкіх.

Няхай нуда яго міне
І праз гады, аж да магілы...
Пісалася калісьці й мне
Лірычна, светла, легкакрыла.

## Бывай...

— Бывай, мой дом,— сказаў стары,—
Бывайце, пушчы і бары,
І неба, й сонца каравай! —
І адказал і ўсе: — Бывай!

— Бывай, каса, сячкарня, плуг,
Бывайце, рэчка, руні, луг.
Я з вамі шчыраваў не раз...—
— Бывай! — пачулася ў адказ.

— Цяпер і ты бывай, ралля,
Бывай, карміцелька-зямля.
Ў тябе і слёзы, й поце мой.—
Зямля усклікнула: — Пастой!
Ляціць «бывай» да ўсіх тады,
Калі знікаеш назаўжды,
Калі ідзеш з жыцця міжволі
І ўжо не вернешся ніколі.

Мяне ж тваё «бывай» міне,
Бо сам ідзеш ты да мяне.
І ўсе бясконцыя гады
Са мною будзеш — назаўжды,

Як продкаў незлічоных хвалі,
Якіх стагоддзямі хавалі
На вечны, непрабудны сон,
Ўвамне іх не адзін мільён.

Дзед уздыхнуў: — Я між людзьмі
Аджыў, таму й мяне прымі...
І ад жыццёвага цяпла
Зямелька дзеда прыняла.

## Адзелянеў абшар

І зноў адзелянеў абшар.
Зрабіўся калярова-кідкім.
Ад восеньскіх дзівосных чар
Мяняецца ўсё ўвачавідкі.

Рабіна падпаліла бок,
А побач з трапяткой асінай
Напіўся чырвані клянок.
І толькі малады дубок
Стаіць з зялёнаю чупрынай.

А гай бярозавы здаля
Нам выглядае жоўта-бела.
Пад сонцам восеньскім зямля
Вясёлкава зазіхацела.

О восень, восень! Кожны раз
Здзіўляеш вытанчаным густам.
І ўсё ж зімой, праз хуткі час,
Тут дудзе бела, снежна, пуста.

## Святая справа

*24 верасня 2016 года ў Лагойску*
*адкрыта бронзавая выява*
*Маці Божай Лагойскай,*
*работы скульптара*
*Уладзіміра Слабодчакава*

Сведкі мы — у нашым часе
Здейснена святая справа:
Над Лагойскам узнялася
Маці Боскае выява

Узнялася дзіўныс ростам,
Светлым сімвалам цудоўным.
Каб па-над жыццём няпростым
Узняліся й мы духоўна.

Хай любоў да бліжніх будзе
Ў кожным сэрцы поўнай мерай!..
Крочаць да Святыні людзі
Наталіцца чыстай верай.

*25.IX.2016 г.*

## Спадчына жывая

Хоць памяць — спадчына святая,
Патрафіць кожнаму наўрад.
Падзеяў многа захавае,
Імёнаў ушануе шмат.

У памяці даведнік коўзкі,
Яго нашчадак палістаў:
— А-а, Давідовіч...
Хто такоўскі?
Не чуў, не бачыў, не чытаў.

## Будзе...

Закрэсліць новы час
        маё жыццё-маланку,
Бо ў свеце іх няма —
        нязменных велічынь.
Зноў будзе маці пець
        дзіцяці калыханку,
І будзе, як раней,
        цячы стагоддзяў плынь.

І будзе салавей
        чакаць з вясной спаткання,
І сонечны прамень
        Зямлю не абміне.
І будзе лес шумець
        і будзе жыць каханне —
І шмат чаго яшчэ,
        ды толькі без мяне…

## Пазыка

Янка рана, у нядзелю,
Стогне і галосіць —
Моліць жонку Даміцэлю,
Пахмяліцца просіць.

— Даміцэлька! Любка! Мілка!
Капні хоць з піпеткі!
— Дзе набраўся, нібы сцілка?
Мабыць, у суседкі?

— Што ты? Бубачка мая ты!
Быў я у Яўхіма.
— Ты на чым прыпоўз да хаты?
На брывах, магчыма?

— Ой, гараць жывот і грудзі,
Пырсні у кілішак.
— Скулу ў бок! Жыві, як людзі,
Што не паляць кішак.

— Даміцэлька! Гасне сіла,
Клічу Бога ў сведкі...
Раптам праз парог ступіла
У пакой суседка.

— Я ж ішла пазычыць солі,
Ды праз дзверы чую,
Як твой Янaчка скуголіць —
Бедненькі, труднуе.

Даміцэля аж прысела:
«Вось куды ты цэліш!
Ах ты, чортавае цела —
Надта ж мякка сцелеш».

— Яначка! Баліць галоўка? —
Лашчыць Даміцэля.—
На вось, выпі стограмоўку!
Не ўставай з пасцелі!

Калі хочаш — выпі болей,
На здароўе глыкай!
А табе — у вочы б солі:
Ходзіш тут, пазыка...

## Недаваранная бульба

Мог дзяліць бы з аднагодкай
І душу, і цела.
Ажаніўся ж я з малодкай —
Дурань пасівелы.

А яна ўвесь час рагоча
(Мо дзяцюк прысніўся?).
А яна чагосьці хоча,
А чаго — забыўся.

Я на левы бок валюся,
А яна — на правы.
Я ніяк не адасплюся,
Мне не да забавы.
Пакаціўся шлюб няроўны
Да канца, да згубы.
Мала гора — дык раптоўна
Стаў губляць я зубы.

Не магу куснуць скарынку,
Сала не даецца.

Ем і п’ю адныя слінкі,
А яна смяецца.

Слінкамі не будзеш сыты,
Раз — і «лапці скінеш».
Жонка! Бульбы хоць звары ты!
Мо бліны расчыніш?

Баба — чорт хітрагаловы,
Хутка знойдзе выйсце:
Бульбу варыць да паловы —
Не магу угрызці.

Пра бліны няма і слыху,
Кажа: «цеста збегла!»
Я пачаў «ліняць» пакрыху
Ад яды нягеглай.

Завяжу я ў вузел шмоткі —
Скарб свой небагаты,
Ды пайду да аднагодкі,
Лепей — да шчарбатай.

## Разгадка

Было ў Прузыны «хобі» —
Гнаць
На продаж барматуху.
Яна любіла рана ўстаць,
Калі вакол — ні духу.

Цягала дровы і гаршкі,
Ваду ўвесь час насіла.
Каб дзве яшчэ былі рукі —
І ім бы спраў хапіла.

І сёння не спыніла рук —
Увагі брага просіць.
Ды раптам чуе ў дзверы стук.
«Каго там чэрці носяць?!»

Прузына зірк, і — мой ты Бог! —
Застылі ў горле словы.
Пераступіў цераз парог
Інспектар участковы.

«Прынесла ж бура! Каб ты скіс!» —
Падумала Прузына.
— Ой! Хто прыйшоў!
Які сюрпрыз! —
Вітала ўслых, як сына.

— А я ўсё думаю, чаму
Не зойдзіце ніколі!
«Во нос! Каб ён адсох яму!» —
Падумала міжволі.

А участковы й сапраўды
(Не пень жа нерухомы!)

Ступіў, нюхнуў туды-сюды.
— Тэ-экс! Чую пах знаёмы!

Тэ-экс. Зразумела. Ну і ну!
Ага. Знайшоў, здаецца...
Прузыну хоць кладзі ў труну —
Збялела ўся, трасецца:

— Ой, гора!
Не перажыву
Сваёй нягеглай долі!
Ой, ліха мне на галаву!
Оё, не губі, саколік!

Няхай згарыць, калі маню,
Усё маё кухарства!
Ці ж, залаценькі, я ганю
На продаж? На лякарства!

Але і вухам не павёў
Дзяржаўны участковы.
Ён сам з сабой гаворку вёў
І выгляд меў суровы.

— Тэ-экс. Вось ён, стрыжань.
Вось адказ,—
Зірнуў інспектар скоса.
— А я вось думаў увесь час,
Чаму свярбіць пад носам?!

## Прамы эфір

На радыё, у студыі
Ужо не першы год,
Як гаспадар, арудуе —
Жыве прыблудны кот.

У вольны час цярэбіцца:
Які ж ён кот — без блох?
То яўкае, то чэпіцца,
То ледзь не валіць з ног.

Усе любілі Спікера —
І кот усіх любіў,
А асабліва дыктара,
Бо той яду насіў.

А дыктар неяк раніцай —
Ці то мазгі растрос,
Ці ўчора позна «парыўся»? —
Нічога не прынёс.

Быў дзень такі напружаны,
Ва ўсіх работы — вір.
І кожны, як кантужаны?
Ідзе прамы эфір!

У кожнага работніка
Адказнасці — праз край.
А што кату-гаротніку?
Яму — каўбаску дай!

А дыктар засяроджаны,
Яму не даў каўбас,
Чытае ён народжаны
Для грамадзян Указ.

Не зразумела Спікеру,
Што гэта за байкот?
Ён — на калені дыктару,
Піхаецца ў ывот.

Каленьмі дыктар дрыгае,
Каб скінуць лайдака,
А Спікер — трэцца, нігае,
Шукае ласунка.

Відаць, абрыдла Спікеру
Быць лішнім у «віры» —
І запусціў ён дыктару
У нешта кіпцюры.

Зароў на ўсю рэспубліку
Паранены бядак —
І ў студыі ўсю публіку
Ледзь не хапіў слупняк.

Жывёла ж непадсудная,
Ёй суд — не камандзір.
Пад хвост кату прыблуднаму
Пайшоў прамы эфір.

## Знахарка

— Во напасць! Няўжо мне мала
Ліха? — бедаваў Алесь.—
Зноў кабыла закульгала,
У хамут хоць сам залезь.

Што рабіць, сусед Захарка?
А сусед?
— Не плач, браток!

У Дзянісках ёсць знахарка,
Па кульгавасці — знаток!

Ці каню, ці чалавеку
Толькі слова шаптане —
Той адразу ж і аптэку,
І бальніцу абміне.

Так што, брат, чашы ў Дзяніскі.
— Як часаць, суседзе мой?
Да Дзянісак — свет няблізкі,
Ці змагу дайсці з кульгой?

— Ат, Алесь, не дужа хліпай!
Ну, памесіш трохі гразь.
Ты туды цішком даклыпай,
А назад, як вецер — шась!

Там пакінеце кульгавасць,
Так што, брат, не стой — чашы!..
Запалілася цікавасць
У Алесевай душы.

І Алесь Захару з сілай
Трос руку:
— Пайду, сусед!
І падаўся ён з кабылай
У такі няблізкі свет.

Ледзь прыйшла ў Дзяніскі «парка»,
Знемагліся, кожны ўзмок.
Сустракае іх знахарка,
Зірк Алесь... і сэрца — ёк!

Чуць паўзе — кульга кульгою,
А нага — то скрып, то трэсь.

— Божа мой! А што з нагою?! —
Пацікавіўся Алесь.

І адказ быў поўны злосці:
— Есці не магу, ні піць.
Вось, нагу скруціла штосьці —
Трэці тыдзень не ступіць.

## Нырок

Быў Яўсей, як дзьмухавец,
Дрынгалясты, тонкі.
А ў вадзе — як селядзец:
Адставаў любы плывец
З ім наперагонкі.

Кажуць — здольны Бог караць,
Да ўсяго не ладзься!
Не умеў Яўсей ныраць,
Хоць вазьмі расплачся.

А яму ажно карціць,
Даць нырца ахвота,
Бо на беразе фарсіць
Маладняк-блазнота.

Разганяюцца — і боўць
У ваду з абрыва.
У Яўсея нават жоўць
Зашчымела хціва.

Ды й хлапцы свае насы
Ткнуць усюль, рагочуць:
— Ты, Яўсей,

Трымай трусы,
Як у рэчку скочыш!

Тут Яўсей, як тонкі нож,
Разануў па ветры —
Мільгануў трусамі-клёш
У блакіт-паветры.

Ды, відаць, слабы штуршок
Падпсаваў карціну,
Бо Яўсей, як той мяшок —
Галавой у ціну.

Гэта — горш, чым горкі сон:
Ціна ў роце, ў носе.
Неяк выблытаўся ён
Ды як загалосе!

— Зуб згубіў! Сюды, браты!
Хлопчыкі, ныцайце!
Бедны зуб мой — залаты!
Ой, браткі, шукайце!

Нацягалі ціны стог,
Як для кроснаў пражы,
Ды ніхто знайсці не змог
Цэннае прапажы.

Раптам — горай усяго,
Пачаліся кпіны:
— Мусіць, ты глынуў яго,
Як наеўся ціны?

— Ты б, Яўсей, замест нырцоў
Плыў наперагонкі —
Не згубіў бы без канцоў
Залатой каронкі.

Тут знайшоўся і «знаток» —
Хлопец скалазубы:
— Ты трымай, Яўсей-браток,
Не трусы, а зубы!

## Пераліванне крыві

— Што так мала п’еш ты сёння? —
Запыталіся ў Івана.
— Хай ідзе яно ўсё тонню! —
Той махнуў усхвалявана.

І працягваў слёзна хліпаць:
— Жонка раптам захварэла.
Як у рану соль не сыпаць,
Калі ўсё нутро згарэла?

— Вось дык жах! — сябры жартуюць.—
Сходзіш сёння да дзяўчыны!
Жонка з хаты — дык святкуюць
Незалежныя мужчыны!

Ты скажы, Іван, талкова,
Што за хворасць? Як названне?
— Хлопцы! Трэба тэрмінова
Кроў ёй для пералівання.

Нешта доктар там гародзіць
Пра яе хваробу гэну,
А спусціць ёй не пашкодзіць
Кроў звяглівую — на змену.

— Ну, Іван! Знайшоў пытанне!
Колькі здаць — вядро ці бочку?
Заўтра атрымаеш зранне
Нашу кроў — рыхтуй замочку!

— Што вы, хлопцы! Што вы, братцы! —
Закрычаў Іван міжволі.—
Наша кроў, калі прызнацца,
Аж кіпіць ад алкаголю.

— Ну і што?! — сябры сурова.—
Палім мы не кроў — вантробы,
Ды і кроў адначасова
Ачышчаем ад хваробы!

— Не, сябры!
— Маўчы, Іванка,
Бо па п'янцы «перахрысцім»!
Лепш кульні за жонку шклянку,
Мы таксама кроў ачысцім.

* * *

Кроў здавалі — колькі лезла,
Што казаць — не шкадавалі,
Толькі б хворасць тая счэзла —
Жонку сябра ратавалі.

Сам прафесар знакаміты
Хворай кроў у вену ўводзіў.
І шаптаў сястры сярдзіта:
— Хто гарэлкай насмуродзіў?!

Раптам хворая, што спала
Ды ляжала беспрытомна,
Галасіста заспявала:
— Ой, нап'юся ночкай цёмнай...

Ад такога вось лячэння
Здрыганулася палата,
А прафесар ад здзіўлення
Ледзь не выскачыў з халата.

## Галёшы

Няхай мой язык нажыве сабе язву,
Калі зараз брэша, пляце пустаслоўе.
У вёсцы адной, не скажу яе назву,
Жывуць дзед і баба — дай Бог ім здароўя.

Аднойчы бабулі і кажа дзед ціха:
— Бяры ты з куфэрка якія ёсць грошы
Ды з'ездзі у Мінск, а то я, як на ліха,
Разуўся раптоўна — дасморгаў галёшы.

Галёшы патрэбны: кароўцы даць сена,
Сцягацца за хлеў і да студні даклыпаць,
Прынесці з дрывотні да печы палена.
А як без галёшаў? Вачмі толькі лыпаць.

Апошнюю тут адшкадуеш пяцёрку,
Каб выйсці за дзверы, пакінуць запечак.
І баба ўрачыста кладзе ў насацёрку
Сабраныя грошы ды вяжа вузельчык.

І вось яна ў Мінску, дзе булкі і крамы,
Дзе кожны вясковец — цяля на вяроўцы.
Бы ў яме старая. Як выбрацца з ямы?
Таўчэцца галодная на Камароўцы.

Таўклася, пыталася, доўга шукала,
Апошнія мусіла сілы прыкласці.
Нарэшце галёшы ў ларку напаткала,
Купіла, не верыць у гэткае шчасце.

Шчаслівая бабка ідзе па вакзале,
Галёшы з-пад пахаў блішчаць, выглядаюць.
А ёй жа абноўку нічым не звязалі —
Яны замінаюць старой, выпадаюць.

Адзін паляціц і другі праз хвіліну,
Злуецца старая — бяда чалавеку.
Рукі не падняць, не паправіць хусціну.
Дзе рады шукаць? І зайшла у аптэку.

— Дачушка, ратуй! Во, купіла халеру,
А гэтая гума капрыз вытварае.
Звяжы матузком ці пазыч хоць паперу,—
У вочы заглядвае, просіць старая.

Дзявочае сэрца, як цукар, растала
Ад просьбаў бабуліных, скаргаў-матываў.
Яна ў той жа момант галёшы паклала
Ў пустую каробку з-пад прэзерватываў.

Шчаслівая бабка схапіла абноўку —
Дзе сілы знайшліся? На вуліцу — птахам.
І голад прапаў, не кляне Камароўку —
Галёшы ў каробцы, каробка пад пахай.

І вёска, і дзед ёй прыходзяць на памяць,
І хуткай сустрэчай задыхалі грудзі.
Ды нешта старая нічога не сцяміць,
Чаму не даюць ёй праходу ўсе людзі.

Не зробіш і кроку ў жывой гэтай пробцы,
Стаяць, як сцяна, у здзіўленні застылі:
— Скажыце, бабуля, а ў гэтай каробцы...
Куды вы нясеце? Каму вы купілі?

— А, гэта? Дык з гэтым дамоў я паеду!
Без гэтага дзед ні дзянёчка не можа.
— А колькі ж гадкоў будзе вашаму дзеду?
— Дзевяты дзясятак, мацуй яго Божа.

Здзіваліся ўсе — і мужык, і кабета,
Дзяўчаты і хлопцы, і нават падлеткі.
— Скажыце, бабуля, нашто яму ГЭТА?
— Нашто?! Ён за месяц сасморгае, дзеткі!

## Сучасная падзея

Карова як карова — нагі чатыры, вымя,
Хвост, капыты і вушы, ды рогі побач з імі.
Скубе траву і раптам — захлюпала па глебе:
Прыспічыла карове, прабачце, па патрэбе.
Скажыце, у якія мінулыя эпохі
Цікавіла кагосьці такое ну хоць трохі?
А сёння за каровай сачылі вочы пільна
Тых дачнікаў сучасных,
Што тут стаялі шчыльна.
Яшчэ не даляцела і першая «аладка»,
Як пачалася звалка, як закіпела звадка:
— Я першы быў!
— Хваробу! Я першая сачыла!
— Куды ты цыгнеш рукі?
— Куды ты сунеш рыла?
— Мне трэба пад капусту!
— А мне і пад цыбулю!
— Ты ж адарвеш мне вушы!
— Ты ж мне падраў кашулю!
...Нас гэткімі зрабілі і ўжо не перайначыць —
І сорамна карове такое чуць і бачыць.

## Запалка

Ідэя агарнула нечакана.
Падскочыла ажно бабуля Ганна,
Заззялі вочы, як у маладзіцы:
— Якая ж я бязмозглая курыца!
Я ж дома тут, як той чарвяк на вудзе.
Чым так марнець, падамся лепш у людзі.
...Някепская была старая гэта,
Але, калі нясе зіма і лета
Адно і тое — сум і адзіноту,
Да чорта ў зубы пойдзеш на работу.
І бабка Ганна са сваёй ідэяй
Пайшла «у людзі», хоць была завея.
Убілася ў тралейбус раннім ранкам,
Каб даць жаццё задумкам-нечаканкам.
Яна ўдыхнула ў высахлыя грудзі
І выдыхнула, каб пачулі людзі:
— А каб ты правалілася ўсё ў яму!
У шостую, здаецца, еду краму.
А малака — нідзе! І будзь здаровы!
Як быццам паздыхалі ўсе каровы...
Павіслі словы ў цішыні панурай,
Ды кажуць, што зацішша — перад бурай.
— А вось раней,— пачуўся голас сонны,—
Усё было: вяршкі, сняжок лімонны,
Кумыс і ражанка, і сыраквашa —
Усё, чаго душа жадае ваша...
І пачалося, загуло, прарвала,
І слова слову жару паддавала:
— А каб наверсе ім мазглі адсохлі!
— А каб яны замест кароў падохлі!
— Дык гэта ж гэны лысы вінаваты!
— Прычым тут лысы? Гэта ж — дэпутаты!
— Я чуў, што вінаваты радзюкалы,
Ці як іх там? Ну, нейкія там калы.

— Вы што, з канопляў выскачылі ўчора?
Падкінулі нам партакраты гора!
— А я пры камуністах ела сала,
Яны хоць кралі, але й нам хапала!
— Нястраўнасць выклікаюць вашы спрэчкі,
Як бачу — вы ў палітыцы авечкі,—
Пачулася з гвалтоўнай гэтай кучы.—
Усё няшчасце ад таго, што чукчы
У самастойнасць павярнулі нарты,
А мы без чукчаў — ні на што не варты...
Успыхнуў, разгарэўся спор заганны,
Хоць след астыў, як кажуць, бабкі Ганны.
А бабка Ганна, шчуплая, сівая,
Ужо трасецца ў цеснаце трамвая:
— Ну што за Мінск? Во чортава калыска!
Аб’ехала, абгойсала паў-Мінска,
Мае кабецінкі, мае мужчынкі,
А ў магазінах хлеба — ні скарынкі...
Зноў цішыня — прадвеснік навальніцы,
Вісіць, як павуцініна з паліцы.
— Ты што, старая, бразнулася з неба?
Вы чулі? Захацелася ёй хлеба!
А фігу — во! — ты не хацела з макам?
Яны твой хлеб скармілі ўвесь сабакам!
— Сабакам хлеб? Адкрылі вы сакрэты!
Яны гатуюць для сабак катлеты
І любяць побач за сталом абедаць.
— Я чула, калі хочаце вы ведаць,
Яны ікру даюць свайму сабачку!
— А самі што жаруць тады, прабачце?
— Як і сабакі — розныя прысмакі.
— Вось мы дык тут грыземся, як сабакі
За мех пусты. А каб вам так жылося!
— Хто ўспомніць, а з чаго ўсё пачалося?
І хтосьці тут напомніў асцярожна:
— З таго, што сталі піць усе бязбожна...

— Ды што ён хлусіць! Плюньце яму ў вочы!
З таго сыр-бор, што мужыкі ахвочы
Да баб чужых, а не да нас, законных.
— А вы і рады з нас зрабіць палонных!
Ды толькі мы — з крылатае кагорты,—
Сказаў жанчыне мужычок пацёрты.—
Абразніцам хай сядзе ў роце скула!..
Але старая гэтага не чула.
Яна з трамвая ціха слізганула
І хуценька ў аўтобус сіганула.
Прапоўз аўтобус цяжка і не шпарка,
А з вокнаў выляталі гвалт і сварка.

## Палучка

*Прысвячаю Кастусю*

Галоўнае — момант злавіць у жыцці.
Кастусь і злавіў яго: жонка ў адлучцы —
Паехала ў госці. Ну як не прыйсці
Сябрам на вячэру, «даць дыхту» палучцы?

Кульнулі, глынулі «да самых краёў»,
Вядома ж — за чаркай няма гультаёў.

Як толькі «злінялі» дахаты сябры
І п’яны дурман агарнуў усе члены
Зваліўся Кастусь жыватом дагары
І даў храпака, аж затрэсліся сцены.

А ноччу ўсхапіўся, трасець усяго:
Прыснілася, быццам абкралі яго.

«А што, калі возьме і спраўдзіцца сон?
Каму не вядомыя злодзеяў штучкі?»

І грошы ў газету закручвае ён,
І ў комін над юшкай хавае палучку.

— Цяпер мне любыя зладзюгі — луска! —
І з новаю сілай задаў храпака.

Вярнулася раніцай жонка дамоў:
— Ты што тут разлёгся, як ёлупень нейкі? —
Грызець Кастуся без уступных прамоў:
— Выкладвай палучку — усю, да капейкі!

Кастусь у кішэні, у шафу — нідзе!
Укралі? Згубіў? Быць, напэўна, бядзе!

— Ну што ты надзьмуўся, маўчыш, як баран?
З кім піў? — насядае на Косціка жонка.
— Учора Іван быў, Міхалка, Дзям'ян
І, ліха яе забяры — самагонка.

Ускочыла жонка: — На гэтых вось трох
Падам у міліцыю сёння ж, дальбог!

...Пакуль участков часаў сваю скронь,
Вёў допыт Івана, Дзям'яна, Міхалкі,
Распальваў Кастусь дома ў печы агонь,
І ўспыхнулі дровы ад першай запалкі.

А дым не праз комін пайшоў, як заўжды,
А ў хату вярнуўся — во стварэнне бяды!

Адкрытая юшка, а цягі няма...
Падскочыла жонка: — Во гора! Во смутак!
Не стой тут, як пень! Дай праверу сама! —
Да юшкі рукой — і... выцягвае скрутак.

Кастусь аж прысеў — валасы ледзь не рваў,
Успомніў, як грошыкі ў комін схаваў.

— Дык гэта ж я ў комін працоўны рубель
Па п'янцы схаваў ад зладзюгаў учора...
А жонка яму — у каршэль, у каршэль:
— Бяжы, вызваляй сабутэльнікаў, гора!..

Адкрыў участковы збянтэжана рот:
— Чагосьці і мой барахліць дымаход...

## Працоўны дух

Старшыня калгаса на нарадзе
Разгубіўся, згорбіўся, патух:
— Гаспадарка наша ў заняпадзе,
Як і чым падняць працоўны дух?..

— Як падымеш? — брыгадзір мармоча,—
Людзі грошы бачаць толькі ў сне.
Хто ж за «дзякуй» працаваць захоча
У гразі па вушы, у ...?

Заатэхнік ледзь падняў павекі,
Бо ў куточку прыдрымаў, як кот.
— У мяне на ферме — тры калекі,
І узрост агульны — дзвесце год.

Добра шчэ, што гэтыя бабулі
Покуль паслухмяныя, «без мух».
Хто б даіў Рагулі ды Красулі?
Вось вам і увесь працоўны дух.

Чуем і заггара-небараку:
— Паліва паўгода на нулі...
У мяне у кожным бензабаку,
Пэўна, мышы гнёзды павілі.

Тут «прафкам» запальна і бадзёра
Заключыў: — Таму не страшны чорт,
Той жыве упэўнена, без гора,
Хто гуляе ў тэніс — мае корт!

— Што за корт? — усе раптоўна ўсталі.
Зноў рагоча прафсаюзны бог:
— Як жа безнадзейна вы адсталі!
Гэта ж модна... для мазгоў і ног.

Вось глядзіце: з мячыкам паскачаш —
Будзеш потым працаваць за двух,
Дый спартсмен ад цяжкасцей не плача:
У здаровым целе — моцны дух!

Старшыня калгаса ўсіх спыняе:
— Грэх маёй застойнай галаве!
Кіраўніцтва ж гэты мяч ганяе
Сапраўды: і ў Мінску, і ў Маскве.

Адкладзем у бок плугі і вілы,
Пасяўную правядзем пазней,
Сабярэмся і з апошняй сілы
Пабудуем корт — як у людзей.

* * *

Дні насталі іншага ўжо сорту,
Набылі рухавасць, мітусню —
Раніцай людзей вязуць да корту
«Памачыцца» ў свецкую гульню.

— Гэй! Кульгай за мячыкам адбітым!
— Дай ракетку!
— Выкусіў — ага?!
— Чорт яго, з тваім радыкулітам!
— Уставай, старая качарга!

— Ты куды, алкаш, свіное рыла?
Боты з гноем, а на корт залез!
— Сам ты доўбня! Пута ты! Дурыла!..
Гэта ж трэба — так шагнуў прагрэс!

## Старому – старое

Да дзеда прыехаў унучак у вёску,
Дарослы хлапчына, не ссаў ужо соску.
А дзед быў стары, як старое балота,
Сухенькі, худзенькі, карчак-адзінота,
Як кінуты некім капшук на паліцу.
Адзін жыў, бо жонка сышла у зямліцу...
Ледзь толькі прачнуўся прыветлівы ранак,
Унучак да дзеда падняўся на ганак.
Ступіў не адзін ён на дошкі гнілыя.
Падскочылі дзедавы бровы сівыя:
— Няўжо ажаніўся, няхай цябе качкі?!
Дык вось у якія гуляеш ты цацкі!
Парадваў, ўнучак! Герой! Малайчына!..
А «цацка» — была прыгажуня-дзяўчына,
Як лялечка, нібы партрэт для паказу,
Зірнеш на такую — самлееш адразу.
Дзядок аж заззяў, затаптаўся рупліва,
Бо век дажываў адзінока, маўкліва.
А тут — падарунак, унучак з край-свету!
Падкінулі госцікі дзеду імпэту.
Успыхнулі згаслыя дзедавы вочкі:
— Заходзьце ж у хату, мае галубочкі,
Мае кацяняткі, мае вы анёлы,
Парадуйце мой небасхіл невясёлы! —
І селі «анёлы» за стол праз хвілінку.
А мы, каб ля іх не глытаць з боку слінку,
Далей пададзімся ад гэтага рання,
Без нас вельмі радасным будзе спатканне.

Сядзяць дзед і ўнучак, як дуб і галінка,
За гутаркай дзень праляцеў, як хвілінка.
Стаміліся госці, дый дзеда хістае.
І спаць укладаюцца — месца ж хапае.
Сям'ю маладую, сям'ю дарагую
Кладзе дзед на ложак у хату другую.
Ніхто там не ходзіць, там чыста, прыбрана,
Ні мух табе злосных, спакой і пашана.
А сам жа дзядок адпачыць ад сустрэчы
На меншай палове прыгрэўся на печы.

Зліпаюцца вочы, заснуць ім прыспела,
Ды нештачка ў хаце другой зарыпела:
Цы-гі ды цы-гі. І сапе нехта жвава.
Скрыгель ды скрыгель. Ці падлога, ці лава?
Рып-рып ды рып-рып.
Ці то столь, ці мо дзверы?
Ускочыў дзядок ад праявы-халеры,
Нібыта за сэрца блыха укусіла,
І хрысціцца шчыра: — Нячыстая сіла!
Ці, можа, свой жарт дамавы вытварае?
А можа, прыйшла з таго свету старая?
Адкуль тыя гукі? У чым тут прычына? —
Сядзіць дзед на печы, як цвік, як спружына.
Сядзіць ён, і страх яго з ім неразлучны —
Ды раптам упаў і рагоча бязгучна.
— А каб цябе немач, старога, дурнога!
Дык гэта ж не столь скрыгаціць, не падлога.
Ото ж баязлівыя сталі старперы!
Дык гэта ж не лава скрыпіць і не дзверы.
Старая ты порхаўка! Пень безгаловы!
Забыўся зусім ты пра месяц мядовы.

Па печы качаецца дзед і рагоча:
— Дык гэта ж унучак не спіць і скпыгоча!
Калісьці мы з бабкай на тым самым ложку
Не спалі, таптталі для ўнучка дарожку.—

І дзед маладым добрай ночы жадае:
— Спалохалі, хай вас камар забадае! —
І зноў яго вочы зліпаюцца млява,
Ды нешта не спіцца старому, цікава.
«А як яны там?! — думка стукнула токам.—
Праз шчыліну гляну адным толькі вокам...»
І звесіўся з печы нагамі сухімі,
І лаву шукае, намацвае імі.
Ды, мусіць, спяшаўся дзядок, хваляваўся,
Бо бразнуўся ён на падлогу, сарваўся —
І бокам аб лаўку, аж хруснулі косці.
— Ой-ёй! Ай-я-яй!
Як ускочылі госці,
Прыбеглі туды, дзе стагнаў дзед ля лаўкі,
І голыя сталі прад ім, нібы п’яўкі.
Ад болю крычыць дзед, і стогне, і млее,
Ды болей ад сораму ён чырванее...

Дарэмна мы з вамі не байку стваралі,
Бо як абысціся цяпер без маралі?
А то прысаромілі б дзеда-героя:
— Не лезь болей з печы! Старому — старое!

## Прыдуркаваты кавалер

Ледзь сонейка над лесам узышло,
Зірнуўшы зверху на зямлю ўлюбёна,
Васіль пракалымажыў праз сяло
Да канцавой сядзібы, ля Лявона.

— Суседзечка, пазыч мне барана,
«Да хлопцаў» усхадзілася авечка.
Дасць Бог, глядзіш, акоціцца яна
І параднімся мы.
— Аб чым, брат, спрэчка!

Бяры, даю яго я напавер,
Вядзі да «маладой»,— Лявон смяецца,—
Але бяда, бо гэты кавалер
Крыху прыдуркаваты, надта б'ецца.

Баіцца толькі аднаго мяне,
Астатніх валіць, як гнілое дрэва.
Васіль махнуў:
— А-а, можа, й абміне
Нас гэты грэх... Вядзі жывёлу з хлева!

Лявон стрыножыў ногі барану,
Памог ускінуць бэку на падводу.
— Бывай здароў, сусед, чакай вясну,—
Сказаў Васіль,— а з ёю і прыплоду!

А барана праз дзень назад прыпру! —
І сцёбнуў пугай па спіне кабылу.
Загрукацелі колы пад гару,
Узняўшы за сабою хмары пылу.

* * *

Чакала дома жонка Васіля,
Авечку прывязаўшы каля хлева.
Васіль на жонку закрычаў здаля:
— Рыхтуй паненку, маць яе налева!

— Як рыхтаваць? Гатовая яна! —
Ў адказ Анэта.— Вось, стаім на пару!
Васіль сцягнуў з падводы барана,
Разблытаў ногі: — Ну, задай ёй жару!

Баран устаў, абвёў вачыма двор,
Пацёр, пастукаў аб падводу рогі —
І раптам з месца, дурань, як папёр,
Як даўся з усіх сіл Анэце ў ногі!

Кабеціна крутнулася ваўчком
І бразнулася, аж заныла цела.
Ускочыла з зямлі і — зноў тырчком
Ад барановай ласкі паляцела.

Ды, дзякуй Богу, выратаваў хлеў,
Куды Анэта праслізнула спрытна.
Цяпер баран накіраваў свой гнеў
На дзверы — і крышыў іх апетытна.

Адскочыць трохі і з разгону — бух!
Як той таран, пракладвае дарогу.
Васіль сабраў увесь мужчынскі дух
І кінуўся да жонкі на падмогу.

Баран зрабіў на месцы разварот
(Яму й мужчыне даць пад зад ахвота).
Васіль маланкай сігануў на плот,
Зароў штосілы: — Прэч пайшоў, дурнота!

Але Васіль напаў не на таго.
Дарэмна ён на цэлы свет галёкаў.
Баран як даў у плот, дык ад яго
Адныя трэскі пырснулі навокал.

Васіль ляжаў пад трэскамі цішком,
Анэта ў хлеве гузакі лічыла.
Цяпер ужо баран — бачком, бачком
І да авечкі, што за ім сачыла.

* * *

Прыйшлося без развагі і прадмоў
Ісці хутчэй да Васіля Лявону,
Каб барана свайго забраў дамоў
І сябра з жонкай вызваліў з палону.

— Такі быў жах, нібы кульнуўся свет! —
Сказаў Васіль.— Ён доўга будзе сніцца...
Лявон смяецца: — Ты заходзь сусед,
Калі яшчэ захочаш парадніцца.

## Гасцінец

Калісьці прывозілі з Мінску дзіцяткам
То стос абаранкаў, то булкі-стрынаткі.
Дамоў без гасцінцаў не ехаў ніводны,
Зусім не таму, што быў хтосьці галодны:
Гасцінец — увага, праява пашаны,
Гасцінец дарослым і дзецям жаданы.
Таму, калі дзед апынуўся ў сталіцы,
Дзе ў крамах ад markназнага пухнуць паліцы,
Дзядок разгубіўся, прысеўшы на клунак.
— Які ж мне для бабкі купіць падарунак?
Прыдбаць абаранку? Дык зубы ж згубіла!
А можа, ўзяць штроксы? Няхай іх магіла!
Заморскім штанам да кальсонаў далёка,
Іх годнасць уся — што рубцамі да вока.
А можа, вунь тампіксы нейкія раяць?
А з чым жа ядуць іх? А як ужываюць?..
Хадзіў дзед, туляўся ад крамы да крамы,
Гасцінец шукаў найпатрэбнейшы самы.
І чуе раптоўна з суседняга «шопа»:
— Заходзьце! Амерыка тут і Еўропа!
Хутчэй паспрабуйце прысмакі замежжа!
Сапраўдныя фірмы! Сапраўдная ежа!
Дзядок схамянуўся, аж хруснулі косці:
— Куплю для старой еўрапейскае штосьці!
Дачушка, скажы, што на ўвазе ты мела?
Чаго б мне купіць, што старая не ела?
Бо нас ужо верне ад бульбы і сала.

За што ўжо жыццё гэтак нас пакарала? —
Дзяўчынка ў адказ усміхнулася міла
І дзіўнае нешта з прылаўка схапіла.
Як мячык паўкруглы і рудавалося.
— Вось, дзед, што ядуць ва ўсім свеце — какосы!
— Какосы? Такога не чуў я. Цікава!
Вось гэта дык дзіва — заморская страва!
— А там усярэдзіне,— дзеўка ўхваляе,—
Пабоўтаце, вось: малако ў ім «гуляе»!
Дастала да сэрца дзявочае слова,
Успомніў стары, што зарвала карова.
І ён, пасля шчырых і цёплых падзякаў,
Да жонкі вярнуўся з заморскім прысмакам.
З парога гукнуў: — Сустракай, гаспадыня!
Зірні, што купіў я, падзяка дзяўчыне!
Зацірку вары — з малаком я прыехаў!
І як мы жылі без заморскіх арэхаў?!
Вазьмі, паспрабуй каля вуха патрэсці.—
Старая патрэсла...
— А як яго есці?
— Як есці? Як людзі ядуць усе — ротам!
Ты, жонка, ў мяне, на здзіўленне — бот ботам!
Глядзі! — і дзядок угрызнуў адным зубам.—
Ого!.. Гэты чорт параўнаецца з дубам!
Нічога! Няхай яго нож казытае!
Націснуў на нож ён — і... Матка святая!
Аж хруснуў той нож, дзед абломкі адкінуў...
Ускочыла баба: — Бадай ты з ім згінуў!
Якая была ў гэтай скуле патрэба?
Дурны ты, стары, нібы сала без хлеба!
Купіў нейкі камень руды, валасаты...
Нясі яго хутка з вачэй маіх, з хаты!
— Замоўкні, старая! Не будзь гэткай шэрай!
Я зараз гасцінец прылашчу сякерай.
Ты толькі трымай, каб убок не крутнуўся...
І трэсь абухом! Ды, відаць, прамахнуўся,
Бо баба падскочыла ледзь не да столі,

Крычыць, нібы ў рану насыпалі солі:
— Ой, палец мой бедны! Ой, лёс мой гаротны!
Во дурань стары! Во гніляк ты балотны! —
Дзядок разгубіўся, адкінуў сякеру.
— І што я купіў за такую халеру?
Няхай яны гарам гараць, тыя «шопы»!
Жылі ж без Амерыкі мы, без Еўропы.
Цяпер праз замежжа я гора гарую:
Купіў вось... і ледзь не скалечыў старую.
Ды лепей галодны хадзіць буду, босы,
Чым есці такое стварэнне — какосы!..
Дзед бабу абняў: — Кінь скуголіць, старая!
Ад збітага пальца ніхто не ўмірае.
Звары ты мне бульбы, падсмаж ты мне сала,
Бо гэта і смачна, і вельмі трывала...

## Каталіцкая муха

Ксёндз і поп — дзеці featuresрознае веры,
І да Бога ў іх розныя дзверы —
Праваслаўныя й каталіцкія,
Там — шляхецкія, тут — мужыцкія,
Там — касцёльныя, тут — царкоўныя,
А для Бога — мы ўсе дзеці роўныя.

Каб спыніць недарэку-разбурку,
Ксёндз папа запрасіў на гаворку,
Каб у згодзе шукаць разуменне —
Дзе яны, кожнай веры карэнні?
Мо не варта ўсё смеху курынага?
Мо галінкі мы дрэва адзінага?..

Працякала гаворка выдатна,
Ксёндз паводзіў сябе далікатна:
Як-ніяк гаспадар — прэч хаўтуру,
Ды і поп налягаў на культуру.

Але й чорт не праспаў свайго часу —
Муха села на ксёндзаву расу.

Поп рашыў: знішчу гадаўку енту,
Заадно дагаджу апаненту.
Плясь рукою па ксёндзавым целе:
— Разляталіся тут у касцеле,
Быццам гэта не храм, а балота...
І абцёр даланю:
— Во брыдота!

Ксёндз затросся, як лісце асіны,
Стаў чырвоны, як грэбень курыны:
— Ты забіў каталіцкую муху!
Прэч, пся крэў, каб не чуць твайго й духу!
Поп схапіў свае лахі пад пахі
І ад мух іншай веры — за дзверы.

## Пчаліны рэйс

Мэр нібыта важыў словы:
— Заўтра зрання прылятае
Весці з намі перамовы
Дэлегацыя Кітая.

Нам такія вось кантакты
Абяцаюць, як заўсёды,
Шматмільённыя кантракты
І ўсялякія выгоды.

Каб ніводнай міныноснай —
Скальце зубы ім у вочы!
Там, у іх, у Паднябёснай,
Скалазубяць днём і ўночы.

Кожнаму — у рукі скруткі:
Кветкі, пляшкі, сувеніры.
Хай музыкі дзьмуць у дудкі
На ўсе далі, на ўсе шыры.

Ды да сёмага аж пота
Кожнаму паклоны гніце,
Ды бліжэй да самалёта
Мерседэсы падганіце.

Мэр абвёў суровым вокам
Ўсіх удзельнікаў нарады:
— Каб ніводнага з папрокам
Не прыйшлося гнаць з пасады!

Ведайце, што ёсць прыкмета,
Заключыў ён менш сярдзіта,—
Уплыве сустрэча гэта
На далейшы лёс візіта.

* * *

Мэр пакуль тут верхаводзіў,
А ў другім баку дзяржавы
Да сканчэння падыходзіў
Важны злёт калгаснай славы.

Трактарысты і даяркі,
Пастухі і паляводы,
Множылі з трыбуны шпарка
І прыросты, і прыплоды.

А праз дзень дасціпнасць гэта,
Перамыўшы лічбы ротам,
Пасля шумнага банкета
Адлятала самалётам.

Той банкет быў у навінку
Тым, хто ў працы знемагліся —

Многія на дармавінку
«Цераз край» перапіліся.

І таму — крычаць не сорам
На ўсё горла ў самалёце.
І таму спявалі хорам
У завоблачным палёце.

Вышыня! Не бачна хатаў,
Ні людзей нідзе, ні дрэваў!
Раптам хтосьці з дэлегатаў
Крыкнуў зычна: — Хопіць спеваў!

Піць і есці на халяву —
Дужа розуму не трэба!
Я паспеў там зладзіць справу,
Вось! Трымайцеся за неба!

І бадзёра праз хвілінку
Развязаў свой клунак нейкі,
І дастаў з фанеры скрынку:
— Вось купіў што! Пчол сямейку!

Ды якіх! Пра іх пароду
Гаспадар мне патлумачыў:
«Нацягаюць столькі мёду,
Колькі свет яшчэ не бачыў!»

Што? Зайздросна? Не сумуйце!
Не ад сквапнасці хвалюся.
Дома бочкі падрыхтуйце —
З вамі мёдам падзялюся!

Раптам лайнер здрыгануўся
На паветраных ухабах,
Разам і пчаляр кульнуўся,
Ажно трэснула у скабах.

А кампаніі вясёлай
Жах на сэрцы лёг пудамі,
Бо раёк у скрынцы кволай
Пакаціўся між радамі.

І распаўся на кавалкі...
Нехта выдыхнуў: — Мой Божа!..
Хтосьці крыкнуў: — Ёлкі-палкі!
Ой! Ратуйцеся, хто можа!..

Мітусяцца пчолы з гудам,
Выхад адшукаць жадаюць.
Крык змяшаўся з перапудам:
— Памажыце! Заядаюць!

Да пілотаў, у кабіну,
Сцюардэса заляцела:
— Пчол сям'я ў адну хвіліну
Там зусім рассвірапела!

Як прызваць іх да парадку?
Як сабраць усіх нанова?
Аварыйную пасадку
Запрасіце тэрмінова!

Дактароў падняць на ногі
Трэба — як тут не круціся,
Бо без хуткай дапамогі
Нам ніяк не абысціся...

А тым часам у салоне,
У адсутнасць сцюардэсы,
Людзі бегалі, як коні,
Пераскоквалі праз крэслы,

Кожны быў — гарбуз і толькі,
Хоць хвілінкі не прыселі.

Іх агнём спякалі болькі
Ад укусаў па ўсім целе.

Тут пчаляр ад нейкай думкі
Закрычаў на ўсіх: — Прафаны!
Трыбушыце свае клункі,
Даставайце цэлафаны!

«Гарбузовыя абноўкі»
Хоць і позна, ахінулі —
З цэлафана упакоўкі
На галовы нацягнулі.

* * *

Толькі-толькі дзень зачаўся,
Ціхі, цёплы, як ніколі,
Мэр са світай прыімчаўся
У аэрапорт — на поле.

Да прылёту самалёта
Сама меней тры гадзіны.
Што ж, такая ўжо работа —
Шмат галоў, а мэр адзіны.

Ён адзін любое чынна
Падрыхтуе, прадугледзіць.
Вось і сёння ён няспынна
Інструктаж скрозь зубы цэдзіць.

Як дзяцей прывёў у школу,
Падначаленую світу:
— Каб ніводнага праколу,
Бо згнаю пасля візіту!..

Сонейка сваёй пяшчотай
Далягляды атуляе.

Вось ужо і час прылёту —
Кожны ў неба пазірае.

Ды дарэмна мэр таміўся,
Ён не ведаў той прычыны,
Што у графік ушчаміўся
Гарымотны рэйс пчаліны.

Мэр пакуль стаяў вясёлы,
Бо й не сніў, што беспардонна
Чхалі на кантракты пчолы
І на клімат міжнародны.

Але вось і час візіту!
Важна мэр пампуе шчокі —
Плаўна вынырнуў з блакіту
Спрытны лайнер срэбрабокі.

Пакаціўся па бетонцы,
Заліхвацкі раскруціўся,
Бліснуўшы хвастом на сонцы,
І — ля мэраўцаў спыніўся.

Падагналі, як з аўралу,
Трап да лайнерава цела,
Да яго медперсаналу
На машынах наляцела.

Пруць насілкі, цягнуць лекі.
Кіпяціцца мэр ад злосці:
— Хто дазволіў? Што за здзекі?
Прэч адсюль — тут нашы госці!

Мэр шырэй разявіў ляпу,
Што казаць: улада — сіла.
І з насілкамі ад трапу
Медыцына адступіла.

Сталі збоку паслухмяна,
Прагнуць хворых абяцаных.
А на трап ступілі п’яна
«Гарбузы у цэлафанах».

Дзіўным быў дэбют візіта,
Мэр сачыў за гэтым пільна.
Зашаптала мэра світа:
— Гляньце, як жывуць стэрыльна!

Паднябёсная высокасць
Перакрыла чуткі значна —
Чулі мы пра касавокасць,
Тут зусім вачэй не бачна...

Гаркнуў мэр: — А мы адсталі,
Нас кітайцы абмінулі!
Тут яму мяшок дасталі
І на вушы нацягнулі.

Мэр пачаў: — Сябры! Браточкі!
Хлеб і соль вам Беларусі!
А ў адказ: — Рыхтуйце бочкі,
З вамі мёдам падзялюся!

Хітры мэр змікіціў сходу,
Кажа свіце праз імгненне:
— Вось і на пастаўку мёду
Падпісалі пагадненне.

Запілікалі музыкі,
Кветкі ў ход пайшлі, дарункі,
Ўсе злілося: смех і крыхі,
І абдымкі, й пацалункі.

А пчаляр падкідваў жару,
Мітусіўся ўсё: — Браточкі!

Вы ж мне падрыхтуйце тару,
Не забудзьцеся пра бочкі!..

Толькі сеў у мерседэсы
Гэты гвалт мэра-калгасны,
Як спусціўся з паднябесся
Новы лайнер першакласны.

Іерогліфы кульгава
Фюзеляж аблюбавалі.
Дактары натоўпам жвавым
Да яго пашыбавалі.

Ды сілком гасцям гаротным
Ткнулі нейкія уколы...
А над паласой узлётнай
Весела кружылі пчолы.

## Нетрадыцыйнае лячэнне

Не ўстае старая,
Цэлы свет кляне —
Быццам, памірае,
Быццам бы і не.

Стогне: — Немач-стому
Не пераЖыву...
І яна старому
Дурыць галаву.

— Чула я адвеку,
Ад бацькоў сваіх:
Шмат дзівосных лекаў
Маладзяць старых

Лепш мікстур-патравак,
Лепей дактароў!
Чула я пра п’явак
Тых, што смокчуць кроў.

Тых, што кроў глытаюць,
Як гарэлку госць —
Вось яны вяртаюць
Людзям маладосць.

Дзеду стала млосна,
Хоць выскоквай вон.
Як ніколі, злосна
Запытаўся ён:

— Ці ж у нас зімуе
Чутае тваё?
Дзе табе вазьму я
Гэта гадаўё?

Штосьці як адмочыш
Здуру кожны раз!..
— Адшукай, дзе хочаш,
Вось і ўвесь мой сказ!

Дзе старому дзецца?
Здаўся клінам свет.
Тут яшчэ смяецца
Цераз плот сусед:

— Што? Старая труціць
Лёс, хоць не жыві?
Чорт ёй баламуціць
Вэрхал у крыві.

Розум бабскі ззаду,
Там ёй і свярбіць.

Дам табе параду,
Што і як зрабіць.

Клопат твой вялізны,
А на справе — не.
Чым, скажы, бялізну
Жонка прышчыкне?

Дзед заззяў: — Прышчэпкай!
Вось ён, Боскі спас! —
Так! Ты зброі гэткай
Набяры ў запас.

Не драўляных, гладкіх,
А жалезных — вось!
Кракадзілахваткіх,
Каб пяклі наскрозь!

Пакажы ёй шклянку
Поўную смаўжоў.
Баба на падманку
Клюне — будзь здароў!

Будзе век удзячна,
Калі хвор міне.
А старой не бачна,
Хто там, на спіне.

Клопаты пустыя —
Плюнь і прэч гані.
Ты прышчэпкі тыя
Ў скуру ушчыкні.

Упякуць, як шылам,
Будзеш енкі чуць.
Іх жа «кракадзілам»
Нездарма завуць.

Да крыві пракусяць
Ох і забаліць!
Жонка будзе мусіць
Літасці маліць.

Кроў пацягне з жылаў
Жончын «вой» ды «ай».
Толькі «кракадзілаў»
Не шкадуй, шчыкай!

* * *

Урачыста, звонка,
Дзед запеў струной:
— Павярніся, жонка,
Угару спіной.

Ёсць яшчэ шчасліўцы,
З іх і ты, відаць.
Будуць крывапіўцы
Немач твой смактаць!

— Ну? Няўжо? Рыгорка!
Ты ж адвёў бяду!
— Для цябе хоць зорку
Пад зямлёй знайду!

Баба аж згарае,
Енчыць: — Пакажы!
— На, глядзі, старая,
Гэта — з-за мяжы!

Матухны-прыроды
П'яўкі — першы клас.
Гэткае пароды
Не знайсці у нас.

Баба зірк падлобна,
Як над варажбой:

— На смаўжоў падобны
П’яўкі за мяжой...

— Выгляд хоць замежны,
Годзіцца стары,—
А грызуць драпежна,
Чорт іх пабяры!

Хопіць балабусіць,
Падстаўляй спіну.
Зараз як укусіць —
Скокнеш на сцяну...

Пэўна б, перасіліў
Буру бабін крык.
Дзед жа «кракадзіліў»,
Цешыў: — П’яўкі — шык!

Не дарэмна млееш,
Скінуўшы кафтан.
Ты ўжо маладзееш,
Бачу дзеўчын стан!

— Не шкадуй дабаўкі! —
Баба — у адказ.—
Замяжоўкі-п’яўкі,
Праўда, першы клас!

Ох і смокчуць хорам,
Бульбаціць ажно.
Ты глядзі, Рыгор, там,
Ці не бачна дно?

Не давай ім лішку,
Гэта ж кроў, не квас.
Мне пакіньце крышку
На далейшы час!

* * *

Дзед зажыў шчасліва,
Бо бяда прайшла.
Баба, як на дзіва,
Сілы набыла.

Лашчыць добрым вокам,
Не грызе штодня,
Гойсае з падскокам,
Нібы кацяня.

Зноў жыве актыўна,
«Асвяжыўшы» кроў.
І нетрадыцыйных
Хваліць дактароў.

## Узаемасповедзь

«Звер бяжыць на лаўца» —
Кожны гэта чытаў...
Я святога айца
Неўспадзеўкі спаткаў.

— Не спяшайся! Пастой! —
Чую ад святара.
— Век зжываеш, сын мой,
Спавядацца пара!

Раскажы, сын-агнец,
Ўсё мне шчыра, прашу.—
Я, як просіць айцец,
Раскрываю душу:

— Шмат грахоў у мяне.
— А ў каго іх няма?

— Я, амаль што «на дне»...
— Дно — яшчэ не турма.

— Я ахвочы да баб.
— Мы ахвочыя ўсе.
— Да гарэлкі я слаб.
— П’ю і я пакрысе.

— Я, бывае, краду
Ўсё, што дрэнна ляжыць.
— Сын! Знайшоў ты бяду!
Не сапрэш — як пражыць?!

— Мой брыдоча-язык
Мацюкамі аброс.
— Ты — сапраўдны мужык,
А не малакасос.

— Я, як вып’ю праз край,
Жонцы ўсяплю — ого!
— Ды ўбаіцца няхай
Жонка мужа свайго!

— Я наўмысна зманю
Не адзін раз на дні.
— Я цябе не віню —
Як пражыць без хлусні?

— Што з уладай рабіць?
Ёй якая цана?
— Трэба ўладу любіць,
Вышэй Бога яна.

— Я ж ні дня не пасціў,
Хоць кладзіся, ўмірай.
— Я грахі адпусціў,
Пападзеш ты у рай...

* * *

Я працягваю жыць,
Чысты, як немаўля.
Пачынаю грашыць
Я з пачатку, з нуля.

І не ўцям праз гады
Мне, хоць трэсні у лоб:
Спавядаўся тады
Грэшны я, альбо поп?

## Прымакова скарга

Век жыве прымак і плача,
Свой прымачы лёс кляне.
Вось і сёння ён тлумачыць
Пра бяду-гаркоту мне.

— Вам, сусед, не здагадацца,
Дзе вытокі мацюкоў...
Стала жонка заглядацца
На пузатых мужыкоў.

Любіць тлустых, ад трасецца,
А такіх, як я — кляне.
Там, дзе тонка, там і рвецца —
Жонка кінула мяне.

Працаваў я, жыў «у мыле»,
Торбы не скідаў з плячэй.
А цяпер — увесь у сіле:
Баба з воза — дык кабыле
Значна робіцца лягчэй...

— Дык чаму ж не сохнуць слёзы?
А прымак:
— Каханне — яд!
Баба злезці злезла з воза,
Але просіцца назад.

Я цікаўлюся: — А тлусты?
Чым жа ёй не дагадзіў?
— Гэта бочка з-пад капусты?
Ён яе за нос вадзіў!

— Ты мяне кармі,— ёй кажа,
Так, як кормяць на убой,
А як ноч навокал ляжа,
Разлічуся я з табой...

Тая аж змарнела ў целе,
Ён жа — як у масле сыр,
Нажарэцца, а ў пасцелі
Усю ноч храпе, як кныр.

Гора з бабскаю пародай —
Прызнае сваю віну
Кажа: — З тоўстым, як з калодай,
Ні «забаў» табе, ні сну.

...Час прайшоў — і мне не спіцца,
Уваччу прымак стаіць...
А ці варта мне жаніцца?
Бабскі ж густ — як бліскавіца,
Бабе ж — век не дагадзіць!



*Першым у нашай сям’і пачаў пісаць вершы мой старэйшы брат Косцік, які нарадзіўся ў 1938 годзе.*

*У свае 18—20 год «запоўніў» вершамі ад вокладкі да вокладкі каля дзесяці агульных сшыткаў. Гэта — сотні і сатні самых розных па тэме і паэтычнай вартасці твораў.*

*Зацікаўленасць да паэзіі паступова пераходзіла і да мяне ў выглядзе просценькага зарыфмоўвання слоў і вершаваных жартаў.*

*На жаль, Косцік раптоўна перастаў складаць вершы і самакрытычна заявіў: «Я — не пэат!»*

*Лічу, што гэтабыло памылкай.*

*Але самае сумнае ў тым, што ён знішчыў свае завершаваныя агульныя сшыткі.*

*І толькі адзін, які ў той час быў у мяне ў вёсцы, захаваўся.*

*«Выбранае» з таго сшытка я ўключаю ў гэты том, каб захаваць маленькую часцінку лірычнага узлёту паэтычнай душы маладога Кастуся.*

# Константин ДАВИДОВИЧ

Стихи

1956—1958

## Вступление к тетради № 4

В четвертый раз я с новым словом
Но с прежней болью и недугом,
К тебе, тетрадь, вернулся снова,
Чтоб сердце выплакать, как другу.

В четвертый раз, но не в последний —
Я буду много раз опять
Своей души больные бредни
Твоим страницам поверять.

## Безотрадность

Как хотелось бы взглядом проникнуть
Через это сплетенье ветвей.
Но придется смириться, привыкнуть
К безответности страсти моей.

Мне дано лишь одно — с косогора
Все смотреть и не видеть твой дом,
Как всегда, со скучающим взором
Уходить восвояси потом.

Расшумелись мохнатые ели,
За рекою пастух гонит стадо.
Нет, тебя мне не видно отселе,
Хоть и знаю, ты близко, ты рядом.

## Неразлучная пара

Монотонно бренчит гитара,
Снег совсем залепил окно.
Я и ночь — неразлучная пара,
На дворе, на душе темно.

Отраженье в окне абажура,
А в трубе ветер воет, как бес.
Безголовица, снежная буря,
Пелена от земли до небес.

## Снегопад

Все укатано снежною мглой,
Даже люди, как призраки, в белом.
И невольно спешу я домой
Отряхнуться душой и телом.

Я устал, ускоряю ходу,
Мне б скорее в постель, отлежаться.
Но пока я бреду, как в бреду,
А снежинки кружатся, кружатся.

## Я грущу

Не люблю я города суетность,
Не люблю я уличную пыль.
Я деревне предан беззаветно
И люблю лесную песню-быль.

Я люблю журчанье перекатов
Юную, пьянящую весну.
Я люблю еловых шишек злато
И хлебов, созревших желтизну.

Я люблю задумчивое поле,
Рыжих листьев пышную постель,
И луга, где с затаенной болью
По ночам рыдает коростель.

И под блеск холодного паркета,
Под трамвайный скрежет за окном,
Вспоминаю розовость рассвета
И грущу о шуме боровом.

## Растоплю я камин

Растоплю я камин, расшурую,
Пусть с трубы дым струится вдаль.
И в небесную высь голубую
Пусть уносит из сердца печаль.
И огонь, словно одушевленный,
Будет ярко гореть и греть
Даже Дева Мария с иконы
Веселее начнет смотреть.

И потрескивают поленья
В золоченой оправе огня.
О, блаженнейшие мгновенья
Для иконы и для меня.

## Мечта

В одном знакомом мне селенье
Ютится милый сердцу дом.
Грустя в полуденном томленьи,
Склонились вербы над прудом.

Хоть невеселое занятье
Смотреться в пруд — но видит Бог,

Им можно слышать шелест платья,
И звонкий смех, и тихий вздох.

Когда же ночью осторожно
Она к пруду придет мечтать,
Склонившись тихо, ивам можно
Витки волос поцеловать.

И я сейчас душой усталой
Мечтаю только об одном,
Чтоб мне хоть вербой захудалой
Стоять над розовым прудом.

## Летняя ночь

Ночь колышится черноокая,
Песня слышится одинокая.

Звук гармоники с перезвонами
Под шатрами да под зелеными.

Мысли тайные чередой плывут,
Над рекой — покой. Соловьи поют.

Расскажи мне песнь соловьиная,
Почему один, без девчины я?

Я б и сам запел, но не хочется,
В тишине ночной — одиночество.

На востоке ночь зарумянилась,
Речка сонная оттуманилась.

Зазвенел вокруг птичьих песен рой,
Вот и новый день!
Я иду домой!

## Безответное письмо

Ты его, наверное, порвала,
Даже не изволив прочитать.
Под рукой поклонников не мало,
Стоит ли о дальних горевать?

И тебе нет никакого дела,
Что писал, волнуясь и любя,
Что, лишь крылья, сердце б полетело
Чтобы быть с тобой, согреть тебя.

И мне часто кажется такое,
Что все клятвы — это только дым,
Что мужчины там красивей вдвое,
И что ты целуешься с другим.

И я здесь готов завыть от боли,
И ни солнцу, ни теплу не рад.
По ночам я плачу поневоле,
Похудел я даже, говорят.

Что же ты не пишешь? Позабыла?
Напиши, сомнения развей.
Ведь меня когда-то ты любила
И я был счастливей всех людей.

Или, может, почта затеряла
Дорогое сердцу письмецо?
Ведь со мной не раз и так бывало,
Что судьба смеялась мне в лицо.

Все бывает в жизни — так и этак,
На душе — безвестности вуаль.
На дворе тепло, в разгаре лето,
А на сердце холод и печаль.

## И обнять бы тебя

И обнять бы тебя, целовать бы тебя
От зари до зари до потери сознанья.
И, обнявши любя, дорогая, тебя,
С поцелуем сорвать с уст признанье.

И шептать бы одной, лишь тебе, дорогой
Про сердечные муки и тайны.
Никогда что б другой, как и я, молодой,
Не увлек тебя даже случайно.

Боли все, все мечты — это ты, это ты,
Повторяю опять и опять.
Все тебя бы ласкать, все дарить бы
цветы,
И тебя целовать, целовать.

## Портрет на стене

Смотришь ты со стены нежно-строго,
Без улыбки, молчанье храня.
Ты встречаешь меня у порога,
Провожаешь глазами меня.

Друг ты жизни моей одинокой
Кисти мастера юная дочь
С неподдельным вниманьем глубоким,
Словно хочешь мне чем-то помочь.

Красотой разгоняешь ты скуку,
И, как будто твой образ любя,
Часто, часто под пьяную руку
Я с восторгом целую тебя.

## Не обессудьте

Будьте добры, не обессудьте,
Не презирайте вы меня
За то, что я весной, в распутье,
Стихи безумные ронял.

За то, что я в разгаре спора
Порою очень вялым был,
И, словно камень с косогора,
Катился вниз, теряя пыл.

За то, что временами плакал,
За то, что иногда соврал,
Что предпочтение собаке
Пред человеком отдавал.

За то, за это, за другое,
И даже может... Кто мог знать?
Пред вами я виновен втрое
За то одно, что смел писать.

## Цыганка

Из-за тебя, моя цыганка,
Лишаюсь сна я и покоя.
Из-за тебя встаю спозаранку,
Чтоб только встретиться с тобою.

Лишь о тебе мои мечтанья,
На все готов я для тебя.
Приди, приди же на свиданье,
Истосковался я любя.

Но нет тебя... Ужель забыла?
Ужель понравился другой?

Нет, ты, конечно, не любила,
Лишь насмехалась надо мной.

Прощай, лукавое созданье,
Тебе отвечу тем же я —
Зовет другая на свиданье.
Уж не она ль судьба моя?

## Праздную весну

Вся природа в лунном свете
Тихо клонится ко сну.
Я один на белом свете
В сердце праздную весну.

И мне кажется, что шепчет
Под ногой опавший лист:
Ну ступай смелее, крепче,
Даже если путь тернист.

Почему ж иду, как пьяный,
Словно мне не двадцать лет?
Все кусты и все поляны
Освещает лунный свет.

И, как будто по заказу,
Тишина и воздух чист
Над рекою дремлют вязы,
Где-то бродит гармонист.

И навстречу мне березы,
Как девчата по весне.
На глазах от счастья слезы,
Но за них не стыдно мне.

Потому что в мире этом
Я ищу любовь — одну!
В честь ее под лунным светом
Нынче праздную весну.

## Одно лекарство – это ты

Хоть знаю, мы навек расстались
И вновь не встречусь я с тобой,
Твои глаза в душе остались,
В душе исколотой, больной.

Твои глаза — такая прелесть,
Как я любил их целовать.
И в этот день, в конце апреля
Готов заплакать я опять.

И мне хотелось бы поверить,
Что это только глупый сон,
Что в образ Пушкинской Венеры
Я не был никогда влюблен.

Сейчас весна, как в час разлуки,
Зачем мне вешние цветы?
От мук сердечных и от скуки
Одно лекарство — это ты.

## Все грустится мне

Заскучалося, загрустилося,
Бедному молодцу, ясну соколу —
Для меня навек солнце скрылося,
Нет давным-давно милой около.

Улетела вдаль птичка красная,
А в разлуке-то жизнь несчастная.
Не поется мне, не гуляется,
Все болит душа, все страдается,
А кругом звучат песни звонкие,
И друзья мои все с девчонками
И так больно мне, так обидно мне,
И я жалуюсь по ночам луне.
Обниму с тоской над рекою вяз
И польются вдруг горьки слезы с глаз
Молодежь в вечор с песней знается,
Одному лишь мне все страдается.

## Я хотел бы...

Ты судьбой предназначена мне,
О тебе мои мысли и сны.
Я хотел бы пропеть о весне,
Но ведь ты красивее весны.

Я послушать хотел соловья
Над рекою у сонных ракит.
На душе же ты, радость моя,
А в ушах твое имя звучит.

Я хотел бы собрать все цветы,
Что растут на обширных лугах,
Чтобы вечно, родимая ты,
Словно ангел, купалась в цветах.

Ты поспорить могла бы вполне
Со звездой, что горит в высоте.
Мне хотелось пропеть о весне,
А пою о твоей красоте.

## Провожанье

Ни то дым, ни то хлопья ваты
Испустил богатырь-паровоз,
Подцепивши вагоны-хаты,
Зашипел, загудел и увез.

Взгляд вослед — и колес перестук
Вскоре смолк. Я один на перроне.
Поцелуи, пожатие рук —
Все куда-то умчалось в вагоне.

Сердцем вдруг осознаешь — расстались,
Грусть-печаль — расставания суть.
И почувствуешь сразу усталость,
И поймешь — ничего не вернуть.

## Разрыдалась скрипка

За стеной разрыдалась скрипка,
Как живая, расплакалась сталь.
На устах моих бродит улыбка,
А в душе поселилась печаль.

В жизни встречи хорошие были,
Я сиянье тех глаз подзабыл.
Вспоминаю — меня любили,
Только я никого не любил.

Провожая девчонку с гулянки,
Я не смел, не спешил целовать.
А потом у бродячей цыганки
Все гадал, где бы счастье сыскать.

Все гадал-ворожил — ну и что же?
Ворожба ничего не дала.

Как вчера, одинокое ложе,
Да в душе непроглядная мгла.

И сегодня проклятая скрипка
До утра не давала мне спать.
Знаю, сделал я в жизни ошибку,
Да и надо ль ее исправлять?

## Весенняя зависть

На дворе опять весна
Что же небо хмурит брови?.
Жизнь безвкусна и пресна
Без волнений, без любови.

На душе опять печаль,
На дворе же песен звоны,
Розовеющая даль,
Зеленеющие склоны.

Я завидую тому,
Кто под птичий хор звенящий
Смело здравствует весну
Поцелуем губ пьянящим.

## Вспоминаешь ли ты...

Там за лесом, вдали за рекою
Вспоминаешь ли ты обо мне?
Вечерами, к взошедшей луне
Подымаешь ли очи с тоскою?

Шепчешь имя мое или нет,
Засыпая под утро одна

Или может тебе не до сна?
Дай мне, юность, правдивый ответ.

Не томи, заставляя грустить,
Отжалей мне хоть капельку света.
Если любишь во мне ты поэта,
Так напрасно — ведь я не поэт.

С кем о встрече сейчас ты мечтаешь?
От кого получаешь цветы?
Если так, то другой стала ты,
Значит, ты не меня вспоминаешь.

## Песня пастушки

Рунь-траву зеленую,
Ароматов струи
Скотинушка милая
Целый день целует.

Пасется рогатая
По росе искристой
И поют ей песенки
Соловьи-солисты.

А в жару полуденя
Кустики лозовые
Мошкару отгонят,
Льнущую назойливо.

Разойдется вечером
По хлевам по чистым,
Чтобы одарить нас
Молоком душистым.

## Чужое счастье

Тишь такая над рекою,
Даже рыба не плеснется.
Чу! Под пышною вербою
Кто-то весело смеется.

Ахи, вздохи, шелест платья,
Сладострастье поцелуя
Тихий возглас: «Свет мой!
Счастье!»
А в ответ: «Люблю! Люблю я!»

И под бледным лунным светом
Смог загадку разгадать я,
Рассмотрел два силуэта,
О!.. И жаркие объятья.

Мысль ударила, как током:
«Я в ночной тиши звенящей
Мимоходом, ненароком
Подсмотрел чужое счастье».

## Всего одно желанье

Люблю лесов зеленую прохладу,
Люблю полей свободу и простор
И ничего от жизни мне не надо,
Только б ласкать их вышитый ковер.

Только б бродить по межам и опушкам,
Только б внимать журчанию реки.
И, услыхавши пение кукушки,
Бросать в кусты на счастье медяки.

Ну, а когда последний час настанет
И не смогу я больше уже петь,
В моей душе всего одно желанье —
В лесной глуши под елью умереть.

## Говори всю правду

Желтые полоски спелой ржи
С детских лет мне дороги и близки.
Говори всю правду и не лги,
Не пиши лукавые записки.

Не мани в сиреневую тень,
Не тревожь улыбкою игривой.
Мне играться в прятки стало лень
Даже вот с такой, как ты, красивой.

Правду не топи в амурной лжи.
Бесполезно притворяться кроткой.
Все равно полоски желтой ржи
Мне милей за стройную походку.

## Смейся, но не очень

Смейся, смейся, но напрасно
Ты так думаешь про нас,
Что мы более прекрасных
Не видали губ и глаз.

Там, где весело играет
В белых лилиях вода,
Под весенним солнцем мая
Я хочу услышать: «Да!»

Ночь таинственная ляжет
В лоно светлых чувств маня,
Но другое сердце скажет
Это слово для меня.

## Сергею Есенину

Не рожден я, как ты, хулиганом
Средь рязанских раздольных полей.
Не воспеть мне стихами, профану,
Стан березок и стать тополей.

Не постичь твой лирический гений,
Непонятно мне издалека,
Где источник твоих вдохновений?
Как сроднились восторг и тоска?

Константиново, знаю, не близко.
И меня там, конечно, не ждут.
Но туда, где кричал ты в колыске,
Забегу хоть на пару минут.

Укрощая в груди волненье,
Расскажу про мои грехи —
Попрошу у тебя прощенья
За беспомощные стихи.

Я их больше писать не стану,
Жизнь замолит мой грех большой...
Не рожден я, как ты, хулиганом
С необъятной, как Русь, душой.

## Отцвела моя калина

Отцвела моя калина, отцвела,
На несчастие ты, мама, сына родила.
Лепестки на землю пали белые, как снег,
В жизни, мама, мы не знали, что такое смех.

Только ты сберечь сумела, только ты.
Нашу жизнь и рядом с нею белые цветы.
Не за тем ли, чтоб, живя, мы помнили всегда,
Как хрупки и быстротечны судьбы и года?

Нет ни мамы, ни калины, ни цветов,
Плач о прошлом журавлиный, предков вечный зов.
Те далекие мгновенья мне до слез близки...
Отвела моя калина, ягоды горьки.

## Вся природа нынче в новом

Вся природа нынче в новом,
Всё к весне принарядилось.
Не поэтому ли снова
Учащенно сердце билось?

Закипает зелень дружно,
Не смолкают птичьи трели.
До чего же сердцу нужно
Это всё после метели.

И уходят сами ноги
В эти сказочные дали.
И забыты все тревоги,
И растеряны печали.

## Нету любви без обмана

Целовал её нежные руки
И уста, что так мило нам врут.
На пороге грядущей разлуки
Отдавался блаженству минут.

Но минуты, стрекозы-минуты
Улетели, как сказка, как сон.
Я сегодня, «в коварство обутый»,
Как юнец, оказался влюблён.

А она (я подслушал) готова
Повторять, заикаясь слегка:
— Я нашла себе очередного,
Охмурённого мной простачка...

Видно, нету любви без обмана,
Нет блаженства без муки и слёз,
Так как осени нет без тумана,
И весны без зелёных берёз.

## Не ропщу

Душа моя в стихах излита —
И добродетель, и грехи.
И если буду я забытым,
Пускай живут мои стихи.

И пусть в них множество ошибок,
Пусть незаманчивая даль,
Не видно смеха и улыбок,
Лишь безграничная печаль.

Я не ропщу и не жалею,
Доволен главным — что живу.
В мечтах всё то я возлелею,
Что не сбылося на яву.

## Поздравление

В порыве творящего азарта
Я без оглядки буду рад
Сегодня, в день 8 Марта,
Поздравить женщин и девчат.

Вам пожелать хотелось много,
Но я скажу лишь пару слов:
Пока я жив, по воле Бога,
Я пью за женщин и любовь.

## Отчаянье

Что-то в этой жизни не понятно,
Раннее отчаянье в груди.
Прошлое уходит безвозвратно —
Ну а что там будет впереди?

Многого хотелось бы... так много.
От бессилья грустно и смешно.
На кого обидеться? На Бога?
Но опять же, говорят, грешно.

На земле всё создано так мило,
Что готов и на луну завыть.
Я молюсь, чтобы хватило силы
В будущем увереннее жить.

## В больнице

Уходил я, земля была смолью,
А сейчас побелела даль.
Я пришёл с головною болью,
Здесь добавилась в сердце печаль.

Во дворе же, плюя на морозы,
Видно, тоже с болезнью уха,
Вытирают от смеха слёзы,
Лет по сорок сидят «молодухи».

Хоть не слышу я их разговора,
Но уверен, что это бабьё
Говорит: — Вот нас выпишут скоро,
Мы тогда наверстаем своё.

А в палате всё кровью плюются
Те, кому удалили миндали.
Оттого-то, хоть снег, подаются
Окровавлено-красными дали.

Я лежу здесь пластом без дела,
Так зимы я хотел... Вот, изволь!
Не совсем голова отболела,
Как в душе появилась боль.

## Старость

Повсюду весной раствeтают цветы,
И гибнут к зиме, увядая.
Как жаль, что для всякой земной красоты,
Есть старость в морщинах седая.

У всех свой удел, для всего свой предел,
Прошли дни хорошей погоды.
И лист пожелтел,
птичий клин улетел,
И прожиты лучшие годы.

И наши следы заметет снеговей —
Ничто в этом мире не вечно.
И новой весною другой соловей
Напомнит, что жизнь быстротечна.

# Змест

## 1956–1958



## 1965–1980

## Песни

## Стихи для детей



## 1980—1990

## 1990–2000

## 2000—2007

## 2007–2016

## Гумарэскі

**Константин ДАВИДОВИЧ**
**1956–1958**

Літаратурна-мастацкае выданне

**ДАВІДОВІЧ** Сяргей Фёдаравіч

ЗБОР ТВОРАЎ
У пяці тамах

**Том 1**

*Вершы*
*Гумарэскі*

Адказны за выпуск *У. А. Мачульскі*

Малюнкі *С. Ф. Давідовіча*
Мастацкае афармленне серыі *С. Ф. Давідовіча*
Мастацкі рэдактар *В. М. Максімовіч*
Тэхнічныя рэдактары *Л. С. Зубец, Л. А. Талстухіна*

Падпісана да друку 2.11.2016. Фармат 84×108$^{1}/_{32}$. Папера афсетная.
Гарнітура Таймс. Друк лічбавы. Ум. друк. арк. 36,12.
Ул.-выд. арк. 31,72. Наклад 50 экз. Заказ 57.

Беларускі рэспубліканскі літаратурны фонд.
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца,
вырабніка і распаўсюджвальніка друкаваных выданняў
№ 1/463 ад 28.04.2015.
Вул. Фрунзэ, 5-209, 220034, Мінск.

Падрыхтоўка да друку і паліграфічнае выкананне:
Выдавец А.М. Вараксін.
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца,
вырабніка і распаўсюджвальніка друкаваных выданняў
№ 1/99 ад 02.12.2013.
E-mail: artmanager3@mail.ru